KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1924

№ 1 (7)

СТУДЗЕНЬ—САКАВІК

„YVIČ" mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomenės gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця.
Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОУСКАГА.
Год выданьня другі

1924 г. СТУДЗЕНЬ—САКАВІК № 1. (7)



В. ЛАСТОЎСКІ

## П і ш ы...

Пішы,
пра болесьці,
жыцьця пышы,
пра глум і зьдзек,—
ярэмнае мадзеньне,
пра трутны хлеб,
пра слоў каменьні...
Як брат няволіць брата,
як раб багоміць ката,
пра стогн душы
пішы!
Ня словамі,
ня чорнаю сьлязой
чарнільнаю,
а нэрвамі, крывёй;
узрыгамі душы
пішы!
Сябе распні
на крыжу мук,
надзеі спапялі,
ачысьці сэрца
ў агні
цярпеньня;
усіх багоў і стодаў,
кром міласьці к народу
ты пакрышы!
Й пішы:
журбой сіротнаю,
смагой гаротнаю,
самотай ўдоваю,
пакрыўдай братняю,
тульбой бязхатняю,
сардэчнаю тугой,
мілуючай душой;
зямлі апарамі,
і чарамі
мінуўшчыны,
свой твор вяршы;
сьлязмі душы
пішы!

# О Крыўская зямля...

Чаму зьняслаўлена,
свабоды любае
здавён пазбаўлена,
О, Крыўская зямля!
Чаму ты поішся
сьлязмі гаручымі?
чаму ты поўнішся.
бядой пякучаю?...
Бо Ты,
зямля-крыві,
не валадарная
і не магутная,
раба бяздомная,
раба пакутная...
Раба,
не валадарная!...
Дык, вось, чаму твой лік
загіджаны, красы пазбаўлены;
дык, вось, чаму Ты, ясная,
зьняслаўлена!
Зьняслаўлена, пакрыўджана,
ў Славян сямьі паніжана...

. . . . . . . . . . . . .

Крывёй сыноў Тваіх
купляялі славу гучную
на Грунавальду палёх.
Ад дзікае арды баронячы Заход
Тваіх байцоў касьцісты
вал палёг!
Безыменнаю, а ўсё-ж Тваей крывёй
паліты Хоціма даліны;
і панад Калкаю ракой
Маскальскія нізіны....
Арошаны крывёй Тваіх сыноў
Іпранскі край,
Само-Сьерра, Рэйн, Аара, По,
Сівы Дунай!...
О, так, гаротныя Крыўцы
ламалі косьці за чужую справу;
сваей крывёй і мазалём
ішлі купляць чужынцам славу!
Сабе-ж? Ды што сабе

жадаці мог правечны раб
чужое думкі!?
Найбольш, хіба,
прыгону лепшыя варункі...
Бо, што-ж, калі прывык
чужых багоў
ў чужацкай мове славіць,
з чужыны браць чужацкі полер
і чціць чужы на сьцягах колер!
Нясьці свае чужынцам думы
адзетыя ў чужацку шату
і верным быць сваёму кату...
Раба,
не валадарная!...
Дык вось чаму крывец
кару яловую у хлеб мяшаў!
Чужыя-ж каланісты
чысьцейшае зярно
стругамі гналі ў Рыгу...
А нам то што? Дармо.
Паном іх панскі Бог спрыяе...
У нас свайго німа...—
А Дзедка-Дамавік,
той штось гуляе...

. . . . . . . . . . . . . .

О, Крыўская зямля!
О, волатаў нашчадкі!...

---

# Д а.....

І ў храме вылі псы і шакалы...
(З Асырыйска-Вавілонскіх паказак).

Заскорбласьцю мазгоў,
Кастырствам дум,
пышацца я няўмею...
І дэмагогічнасьцю тупой,
перад збантэжанай таўпой,
крыўляцца не пасьмею
шануючы ў таўпе людзей.
Пакіну гэта вам,
каты свабодных дум!
Агідзен мне
ваш цесны сьветагляд,

ваш ум чарвя зямнога...
Арла душы маей,
вам, карлікам сьляпым,
у цесну клетку не загнаць:
ён ўспоены маей сардэчнаю крывёй,
з ім буду я
агністаю купінаю пылаць
кідаючы сьвятло
і ў вашы цьвілыя закуткі,
торгоўнікі сьвятым,
шакалы, недалюдкі!

---

* *
*

Чала я не хіліў прад сілай
і не качаўся полазам у порсьці;
клумлівай і тупой таўпе
ня біў паклонаў я;
пратораны дарожкі
з пагардай абмінаў
ламаючы шчырэц навіны.
Вось гэта ўсё мае грахі,
вось гэта ўсё у чым я вінны!...

* *
*

---

В. Л.

# З мінуўшчыны.

## Старасельскі магільнік.

Пахоны бераг Дзісенкі здалёк жаўцее пясочкам, а па жоўтым пясочку паразкіданы капцы-валатоўкі. Бывала каваль Даніла кліча нас:—„Пойдзем у выкапкі, дзяцюкі!“ Называў нас блазноту „дзяцюкамі“, каб заахвоціць, але гэта было лішнім. Мы ўсе, як адзін, і ў дзень і ў ночы, гатовы былі ляцець „у выкапкі“. Бо і страшна і цікўна там!

Кавалю Даніле патрэбен мосяж да зварываньня лемяшоў, і, гэты мосяж, шукаў ён з намі на валатоўках, калі вецяр знасіў пясок і аткрываліся масяжожыя абручы кольцы і пражкі, пярсьцёнкі і ўсякае іншае рухмацьцё пахаваных тут ў прокавець волатаў. Гэта і былі „выкапкі“. Мы, дзеці, сабе на забаву гэных прыгожых рэчаў ня бралі, баяліся каб мярсьцень-волат не прыйшоў па іх. А волаты—мярсьні папраўдзе прыходзілі да тых, хто на выкапках спакусіўшыся прыгожасьцю якой рэчы затаіў сабе яе. Жывы прыклад гэтаму быў Сымон нямы. Хлапец захаваў сабе масяжовы абручок з галоўкамі зьмеяў. Вярнуўся дамоў і схаваў пад стрыжанямі на печы. Сумленьне ў хлапца было неспакойнае, кідаўся ў сьне. Відаць нешта мярэсьцілася яму. Таго-ж дня, позна у ночы, вярнуўся бацька з Лужок, с кірмашу, дзе купіў Адэльці новы куфар маляваны ў сінія, чырвоныя і белыя кветкі. Кірмашане вярнуўшыся загаманілі, затопалі ў хаце. Раскатурхаўся Сымонка і за сваей патрэбай зьлез з печы, адчыніў дзьверы ў сені. І, хто яго ведае

што такое яму здалося, але толькі крыкнуў нямым голасам і самлеў на парозе. Можа скрыні спужаўся, а можа і волат здаўся. Калі ачуняў, мову яму атабрала і слух залажыла, навекі нямым астаўся. Ведалі гэта ўсе мы, дзеці і бацькі нашы. Ведаў гэта і Даніла, а таму заўсёды перасьцярагаў нас:—„Дзеткі, не бярыце з сабой гэтых цацак! Забаўляцца імі няможна, іх бралі з сабой у магілу волаты, нашы пра-прашчуры, жоўтыя костачкі якіх тут збуцьвелі даўно ў пясочку, таму і пясочак гэты такі жоўценькі!“—І запраўды пясочак у гэтым мейсцы быў жаўцейшы нячым дзе ў другім мейсцы, прыкладам каля возера. Знаходзілі мы тут грудкі пяску саўсім чырвонага, а часам ясна сапарага, бытцам запёклая кроў колеру. І мы ведалі, што гэты камочкі папраўдзе пацямнелі ад крыві волатаў, што гэта была іх кроў пралітая тут у вялікіх войнах, калі яны біліся з чужакамі, баронячы гэтай зямелькі для нас. Натрапіўшы на гэткі грудок трэба было прамаўляць:—„Цур, пухам зямелька!“—і зараз-жа засыпаць тое месца. Набраўшы ў карзіначкі абручоў, пражак і ўсякіх масяжовыя прыладаў,—мы адносілі да Данілы ў кузьню і ссыпалі ў кутку за гарном. Гэтым мосяжам Даніла зварываў толькі ратайскія прылады: лемяшы, банькі да кос, перакладніцы і нічога больш. Калі трэба было каму зварыць якую зялезіну да брычкі, ці чаго іншага, то на гэта бралі старасьвецкі мядзяны траяк ці шастак.

На выкапках былі не адны валатоўкі, былі тут і іншыя магілы, іншых людзей і часаў. Гэты пазьнейшыя магілы азначаны былі чорнымі камяннымі крыжамі, большай часьцю запаўшымі ў зямлю. На рэдкіх крыжах відаць было нейкія знакі, чытаць якія ніхто няўмеў, нават стары Лакотка, вясковы грамацей, які ня толькі чытаў у цэркве часы, але, Богу на хвалу, перапісываў сам гусіным пяром, літарамі як лапці, псалтыр. Каля гэтых чорных крыжоў пясок бываў заўсёды чырвоны. Старая Пракцэся казала што крыжы гэты крывавымі сьлязамі плачуць, таму што ў іх пакутуюць душкі нашых прашчураў, якія волі нашай абараніці няўздолелі, а цяпер каюцца гледзячы як мы, нашчадкі іх, пакутуем. Раз аглядаў гэты крыжы пан Сабалеўскі і казаў, што пясок каля іх чырвоны таму, што камень зялезісты і іржу выпускае. Але паміж нас, блазноты, ніхто гэтаму не паверыў. Вэрсыя Пракцэсі была больш люба нашаму сэрцу і мы цалавалі гэны камянныя крыжы і гаварылі да душак прашчураў пацешаючыя і ласкавыя прамовы. Памятаю, Юлюк, касавокі і вечна сапліва хлапец, якога мы ўсе ня любілі за яго не ахайнасьць, зачне гаварыць і туліцца да гэных крыжоў чорных,—гладзіць іх рукамі дый сам наўзрыд плача, як бабёр, узрыгамі.

Акром таго, на групе валатовак, акружаных круглым накопам быў гаёк і ў гайку, пад бярозкамі і ліпамі, „Новы Магільнік“. Была гэтта адна камянная пліта, на якой славянскі надпіс апавядаў, што тут пахаваны мніх Астап Корсак.

Аб гэтым Корсаку хадзіла легенда-показка гэкага зьместу:

„Была вайна. Астап Корсак на абарону краю вырушыў, набраўшы пад харугаў 200 душ сваіх падданых. Біўся Астап з дружынаю харобра, не з панукі чужой, а з пачуцьця абавязку бараніць сваю зямельку родную ад чужацкай навалы. І ўславіўся Астап Корсак на вайне як ніхто, але супакою ён ня меў на душы, што многа крыві людзкой, хрысьціянскай крыві, праліў. І па вайне пайшоў ён у пушчу. А будучы ў пушчы раздумаў, што пушча—гэта ня пакута, што запраўды пакутуюць не манахі па манастырох, не пустэльнікі па пушчах, а той, прыгонны паднявольны народ, які працуе на паноў сваіх. І, вось, ён з пустыні пайшоў у адну з быўшых сваіх вёсак і прыстаў наймітам да аднаго з бяднейшых селян. Гаспадар нацешыцца нямог

з работніка: працавіты, пільны; шчыры, спакойны. Ні ён табе ў ежы пераборчывы, ні ў адзеньні вымогчывы. Раней за гаспадара да работы ўстане, апошні спаць ляжа і заслуг сваіх ня дапамінаецца. Пры такім найміту гаспадар у некалькі гадоў аправіўся: і канінку і каравёнку загадаваў, кажаронка і сьвітчонка ў хаце завялая, дый вяпрука на Коляды, пачаў, як і ўсе людзі, аткармліваць. І стаў гаспадар падумываць, як такога чалавека назаўсёды пры сабе ўтрымаць. Не стары быў яшчэ Астап, дык давай гаспадар сватаць яму сваю дачку. А божаму чалавеку ня тое на думцы. І ўцёк ён ад гаспадара, заслуг не пытаўшы ў яго. Зайшоў аж у гэты ваколіцы, і, тут, у бязьдзетных старыкоў, да сьмерці пражыў. Толькі перад скананьнем, на споведзі аткрыўся сьвятару хто ён такі і паперы на доказ даў. З вялікай чэсьцю, пахавалі тут яго костачкі. Пліту на магілу палажылі, а на ей выпісалі яго жыцьцё“.

І заўсёды жаласна было, калі мы прыходзілі да гэтай магілкі. Каб выказаць сваю прыхільнасьць да нябошчыка мы мох павыдзіраем з пліты, з раўчакоў параблены на ей літарамі. А раз прышло нам на мысьль вадзіцай абмыць камень і каля камяня пасыпаць пясочкам. Калі мы ўсё гэта зрабілі, на душы было неяк весела і нейкую роднасьць пачулі мы з гэтай магілкай.

Больш тут не было камянных нагробкаў, а толькі дамоўкі на магілках. Старэйшыя дамоўкі, ці як іншыя звалі „церамкі“ былі з дубовых калод у кшталт труны вычэсаныя, былі і ў зруб рубленыя і крытыя цёсам, а на найнавейшых стаялі васьміканечныя крыжы з крывой папярэчкай ў нізе, як гэта вымагаў цяперашні бацюшка.

Дык, вось ён наш Старасельскі магільнік. Калі я яго цяпер успамінаю, ён мне здаецца жывой гісторыяй краю, абнімаючай падзеі ад бронзавага, а мо, нават, каменнага веку, да нашых часаў.

Цур, пухам зямелька вам, мінуўшыя пакаленьні!

## Троцкі замак.

Стуга блакітнавокага возера; горка; ізноў возера; ізноў горка. І так ўвесь час чарадуецца зелень з блакітам. А, вось, сярод блакіту, круглы зялёны шмарагд—востраў. Там другі, трэйці,—меншыя. На галоўным вострове разваліны замку. Крушні каменьня, цэглы, кавалак сьцяны; і зноў крушні каменьня. Увесь востраў засыпалі разваліны і выгналі на заўсёды згэтуль жывое жыцьцё. Востраў дрэмле панураны ў сваю мінуўшчыну ды пасьміхаецца ў неба пакрышанымі старчымі зубамі сваіх развалін. Нешта, таёмнае прытаілася, прымоўкла, можа ізноў стрэпянецца, захвалюецца, загучыць, затопае, загалёкае, ажыве... Па крушнях, з пасьмешкі пакрышаных зубоў стырчачых ў неба, відаць што касьцістая рука сьмерці не змарозіла, а толькі прымарыла тут мінуўшчыну.

Ударыў віхор, і, са сьцен, з шэлестам, пакаціліся акрышкі цэглы... Старыя, друзлыя сьцены трасуцца ад ветру, хібаюцца, і, час ад часу, кархаюць абломкамі, мацуюцца з навалай. Многа гэтых навал, з усіх старон, год за годам і сталецьце за сталецьцем, пробуюць сьцены а яны усё яшчэ перамагаюць буры і навальніцы. Ў старых мурох мацуецца геній старадаўнасьці з маладымі павевамі. З абодвых старон ёсьць страты...

Вуглавая круглая башта, а ў ей круглыя вокны-стральніцы. Вецер дзьме ў круглае вакно як у флейту, а башта—гугнівым старэчым голасам—на старасьвецкую вайсковую нотку—бубніць вызаў камусьці ў прасторы:

Дай ў двубой, мы с табой
Сілай зьмерымся...

Пугач высунуў вушатую галаву з рашчэліны муру, павёў кругом чырвоным вокам і заліўся пакоцістым сьмехам:—Гу-гу-гу—га-а!

Нехта са старога замку на беразе клікнуў яму ў адповедзь:—Га-а—а!

Насупілася неба і секануў, бытцам тысячамі доўгіх, бліскучых дубцоў, крывы дождж.

Я схаваўся пад засьцень старых мураў і пачаў азірацца. На змочаным дажджом, шэрым ад часу, тынку ўнутраннай сьцяны готыцкага стылю замку, праступілі стараветныя сьценныя малятуры. Абрысаваліся контуры кастырных візантыцкіх сьвятых і іх срогія, глыбокія ў містычнай задуме вочы, ўпіліся ў мяне. Я стаяў абварожаны дзіўным зьявішчам, загадкаю мінуўшчыны, разгадку якой прашчуры назаўсёды забралі з сабой у магілу. Готыцкі дух захаду крыў ў сваіх нетрах генія ўсходу...

І блізкімі, і роднымі здаліся мне, насяляўшыя калісьці гэты замак пакаленьні.

Яны, як і мы жылі і мучыліся на ўзьмежжы двох светаў, двох культур, двох процілеглых сабе сьветаглядаў, ўяўленьняў. Яны не маглі прыклеіцца да ўсходу, ані прымірыцца з заходам. І ў сьвядомасьці прамігнула моднае ад нейкага часу слова „Еўразія“.

Мысьль стропнулася як спалошаны птах і стала біцца аб страніцы пажоўклых, забытых, нікому непатрэбных ў клуме рэальнасьці, краёвых летапісаў, шукаючы разгадкі.

І перад вачыма душы маей доўгім сьцягам паплылі волаты мінуўшчыны. Вялічэзныя абразы распачнага змаганьня з хіжацкім духам заходу, які прыходзіў сюды прыкрыты белым бурносам аздобленым эмблемай крыжа, сеяць морд і зьнішчэньне. Адкінутыя дзікім усходам пляцоўкі крыўскага і украіннага славянства туліліся да гэтых муроў нясучы свае сьцягі з шасьціканечнымі крыжамі, а разам з імі—магутнасьць.

— Га-га-га—гу-у! загагатаў пугач з круглае наро́жнае вежы.

Гу-га-га—га-а! азваўся яму ўадповедзь другі ў мяне над галавою.

Яшчэй ударыў віхор і друзлы старац сапнуў і крэкнуў. Ту-ж, каля ног маіх, зваліліся два някшталтных абломкі старой будоўлі, а за імі скаціўся знекуль камень і прыціснуў іх да зямлі.

Га-га-га—га-а! заліваўся пугач у башце.

А перадамной праплыў на хмары св. Мэркуры на белым кані з паднятым мячом. І па сьцяне прасунуліся цені...

Гедымін... Гедыманік... Дачка бортніка... Легенды, казкі, апавітыя хомарам вякоў. Пры іх летапісец Міхалён, патрыот, патрыот-романтык, які блудзіў ў лабірынтах басень.

Віхор закружыўся, засклочыўся ў закамарках руінаў, і, як вядром, пялёхнуў на другую сьцяну з якой, амыты вадой, вынырнуў чорны чатырохканечны крыж намаляваны паверх св. Мікалая, біскупа Мірлікійскага.

І агністымі знакамі запырхалі перадамной супярэчлівыя ацэны летапісцаў:

„... Жыгімонт-же Кестутевіч уподоблен бысть Антіоху сірійскому і Іроду Ерусалімскому“... граміць караючы голас летапісца.

„... А Жыгмонта першого, солодкая памяць его“... пярэчыць другі, паясьняючы: „бо ён Ляхоў як собак не любіў, Літву-ж і Русь нашу любіцельна мілаваў“...

А першы, паясьняючы сваё упадобленьне Жыгімонта да Антіоха і Ірада, дадае: „бо ён хацеў вынішчыці роджай шляхэцкі, а паднясьці рожай хлопскі, псю кроў“.

За гэты імкненьні: падняць рожай хлопскі, тут, ў гэтым замку, атрымаў Зыгмунт Кестутевіч, разплату з рук шляхты.

І з праразьлівай выразітасьцю уявілася народная показка аб утоленым князю ў гэтым возеры, які, пасьля сваей сьмерці ў падводных скляпох сабраў дружыну, павесіў звон і што год на Вербніцу, ў гадаўшчыну сваей сьмерці, ўдарае адзін раз у звон, даючы знаць, што ён не закінуў сваіх думак. Ведныя людзі чуюць гэты звон. Трыкротны удар у звон, і ігра ў вайсковую трубу, апавесьцяць яго выхад на сьвет. Гэты выхад паложыць канец самаволі, голаду і холаду ў хацінках з лапінкай няўжытку, з якога гаротнаму селяніну трэба ўтрымаць, накарміць, абуць і адзець ўвесь чужацкі дзяржаўны будынак, дом няволі.

Знача памяць народная не пазабыла свайго абаронцу.

Зыгмунт Кестутавіч—сялянскі герой на княжым пасадзе. Задушаны быў у Вербную нядзелю 1440 году, тут, у гэтым замку

Пазёмы вецер кінуў на бераг водны вал і шорхнуўшыся аб каменьні ён пакаціўся ў іх пенячыся і шэмручы.

Дождж падаў... Валы вады качаліся са стогнам па беразе. І ў гэтым глухім стогне здавалася чуваць быў надлом, прабалеўшай да нетраў, душы. Так плакаў стары Адам, калі ў яго за падаткі забралі апошню каравёшку. І як вывялі яе за вароты Адам паў ня зямлю стогнучы і называў яе, карову, маткаю. Гэта зразумее толькі той, у каго раз у тыдзень бывае на стале хлеб, а штодзень ў запечку блішчаць чатыры пары галодных дзіцячых вочак...

На пахілай вербе, над возерам, сеў крумкач і крыкнуў на ўвесь голас: „грай! грай! грай!...

Гу-гу-гу-гаа! захахатаў пугач.

## Брацкія кнігі.

Найлепшыя кнігі, найцікавейшыя дакуманты майго архіву вылаўлены мной у крамках дзе прадаецца старая папера да завіваньня селядцоў. У аднэй з гэткіх крамак раз я наткнуўся на дзьве тоўстыя, рукапісныя кнігі апраўленыя у чорную скуру, на дубовых дошках. Паперу купец мне разцаніў на вагу, а за аправу прышлося надкінуць асобна. Адна з гэтых кніг тоўпіла ў сабе рахунковасьць брацтва, другая пратаколы. Першыя запісі былі занесены ў самых пачатках XVII ст.

Статут брацтва, побач чыста арганізацыйных пунктаў, завіраў цікавыя бытавыя увагі.

З іх было відаць імкненьне зрэфармаваць старадаўныя клясовыя і прафэсыональныя брацтвы на чыста, рэлігійным грунце. Дзеля гэтага замест сьвецкіх інтэрасаў галоўнай мэтай брацтва было „працаваньне супольнае брацкае, дзеля душы збаўленьня“. На першым установчым сходзе брацтва, нябесным патронам яго быў выбран сьвяты Мікалай. З земскіх рэчаў брацтва ставіла сабе чатыры мэты: вядзеньне пахароннай кассы, утрыманьне шпіталю для калек і старцаў, дбаньне аб аздобленьні брацкай сьвятыні і аплаце свайго, брацкага духоўніка ды абслужываньне братчыкаў гожымі разрыўкамі.

Уздоймныя сабраньні брацтва адбываліся штогоду на веснавога Міколы.

Пасьля царкоўнай адправы і казаньня, спэціяльна нанятага на гэты дзень за тры гарцы пітнага мёду, казнадзеі, разстаўлялі ў цэркве кругам сталы і лавы, а на сталы зла̀жыўшы складковую закуску і выпіўку, брацтва приступала да гадавой справаздачы сваей дзейнасьці і выбараў новага ўраду. За брацкай бясёдай сьпявалі братчыкі духоўныя песьні пад акомпаньямэнт брацкай аркестры. Але бывалі адступленьні ад гэтага, аб чым сьведчыць некалькі пратакольных запісаў: часам, падхмяліўшыся, братчыкі заводзілі песьні сьвецкага зьместу. За гэткія адступленьні ад прынятага парадку на вінаватых накладалі духоўныя кары і кары грашавыя ў брацкі скарб. Акром гадавых, уздоймных сабраньняў адбываліся што месяц сабраньні старшын у аднэй з капліц цэркві. На гэтых сабраньнях абгаварываліся бягучыя захады брацтва ў якія ўходзілі гэткія заданьні: 1) утрыманьне брацкага хору і аркестры; 2) штонядзельныя і на кождае сьвята выступленьні брацтва з працэсіямі; 3) на прыпадак сьмерці каго з братчыкаў, ці жанідзьбы, устаноўленьне цэрэмоніялу і сьвяткаваньне гэтых важных момантаў ў жыцьці братчыкаў ў сваей цэркве складковым банкетам і парадак гэтага банкету; 4) арганізаваньне прынамні два разы ў год, летам, „перграымок" да провінцыянальных сьвятыняў. Захаваных некалькі сьпісаў разпадзелу мейсц за брацкім сталом, паказуюць, што тут прасьцярагаўся строгі парадак, паводле значэньня братчыка у грамадзянстве і заслуг яго перад брацтвам. Бывалі здарэньні перамяшчэньня братчыка мейсцам ніжэй, а то і саўсім ў канец стала, за правіны перад брацтвам, і, наадварот, раптоўныя павышэньні.

Брацкі хор і аркестра былі неплатныя; кожды братчык здольны да музыкі ці сьпеву павінен быў належаць да аркестру ці хору. Але на парадку дзенным тады было імкненьне увясьці ўсеагульныя сьпевы ў царквох, і, дзеля гэтага, пачынальнікі і разпарадчыкі гэтых сьпеваў, у ліку трох асоб, алачываліся за сьпяваньне; аплачываліся такжа дырыгент хору і аркестры.

У сьвяточных працэсіях павінны былі прыймаць удзел усе братчыкі. Працэсыйныя урады складаліся з крыжаносцаў, іконаносцаў, харужых і кіраўнічых. Кожды з гэтых урадаў меў свой, зацьверджаны брацтвам мундур і эмблемы. Брацтвы гораду многа старэньня клалі ў кірунку як найбольшай эфэктнасьці свайго выступленьня, каб не даццa закасаваць іншаму брацтву.

Жаніла і хавала, кождага братчыка брацтва, з коштаў агульнай касы, паводле заслуг братчыка перад брацтвам. У гэтым кірунку братчыкі дзяліліся на пяць катэгорый. Прычым брацтва змагалася і, здаецца, даволі няўдачна, з абычаям сьвяткаваць вясельлі новажэнцамі ў сябе дома са сьвецкімі песьнямі і танцамі. Гэта відаць з надзвычайных пахвал тым, якія абышліся выключна брацкімі урачыстасьцямі.

Да найбольш урочыстых выступаў належалі „перграымкі" ў сьвятыя мейсцы летам. Да іх прыгатаўляліся загадзя. Закуплялі двох трох ялавак, 6—10 баранаў, варылі піва і мёд, забіралы на вазы катлы і ўсякія кухонныя прыналежнасьці і провіянты—на чатыры-пяць дзен (калі выбіраліся ў суседні манастыр, які быў за 20 вёрст), і, з аркестрам і хорам, з крыжамі, абразамі і харугвямі, па чэцьвера ў рад, вырушалі за горад. Прайшоўшы 10 вёрст рабілі у лесе папас і начоўку, пры вогнішчах. Абычай пазваляў у гэтым здарэньні скромныя сьвецкія забавы і нават танцы. Назаўтрае ўходзілі ў манастыр, дзе іх урочыста сустрачалі манахі. Тут „перграымы" разкладаліся абозам, ўкруг манастыра на другі начлег і вечарам, пры агнях, ізноў бывалі забавы, але на гэты раз, са ўзгляду на сьвятасьць мейсца бяз танцаў. На трэйці дзень братчыкі вырушалі тым-жа парадкам назад.

Пры брацкіх банкетах ролю гаспадароў выпаўнялі выбіраныя што году тры асобы: стольнік, падчашы і маршалак. Маршалак разсаджаў братчы-

каў, дырагаваў цярэмоніялам і наагул глядзеў за падачай страў, падчашы абдзялаў напіткамі.

Пры статуце ў кнігу ўшыты клапцік паперы пад загалоўкам: „Наука о прыстойнасьці брацкай,“ у якім запісана 8 пунктаў, зацьверджаных агульным сходам і духоўнай ўладай, аб тым як мае заховывацца братчык за брацкім бясёдным сталом.

Пункт 1. Седзячы за сталом не класьці локцяў на стол, не адварачывацца задам да суседа.

2. Ня сморкацца на памост, са ўзгляду на сьвятое мейсца, і не калыпаць носу.

3. Не кідаць пад стол абгрызеных касьцей.

4. Не гаварыць голасна і не перабіваць субясёдніка пакуль ён ня кончыць гаварыць.

5. Садзячыся за стол, на сваё мейсца, пакланіцца галавой ў кірунку старшызны і пасьля суседзям з права, лева і насупраціў сідзячым.

6. Не гаварыць з напоўненай ядой губай.

7. Прыходзіць на банкет маючы за халявай лыжку і нож.

8. Не прыносіць з сабой на брацкі банкет напіткаў.

Найбольшы розквіт брацтва прыпадае на другую палавіну XVII ст. У гэтым часе брацтва здабылося на дзьве важныя фундаціі для сябе. Быў спраўлены сярэбраны брацкі кубак і сярэбраныя малыя кубкі для пачэсных гасьцей, і, акром таго, былі спраўлены рызы з чыстага серабра на ўсе іконы брацкай цэркві. Серабро сабрана было шляхам дабравольных даткаў братчыкаў. У сьпісе даткаў на аздобу цэркві фігуруюць манэты, кубкі, пярсьцёнкі, завушніцы, воты і шмат іншага. Усё гэта дабро было пераважна і здадзена майстром даператопленьня на мэталь. У пачатку XVIII ст. брацтва было сарганізаваўшы іконапісьню, але патрываўшы каля 10 гадоў яна закрылася.

У канцы XVIII ст. брацтва пачало разпрадавацца за нястачай грошы на утрыманьне брацкай цэркві і сьвятара пры ей.

Апошняя запісь у кнігах была занесена у 1812 гаду, гэта сьпісак рэкіраваных французамі брацкіх цэннасьцяў.

## Вясковыя архэолёгі.

Вёска Буды выцягнулася шнуром дрэўляных хат над возерам і заснула заварожаная, загледжаная згары ў дно возера. А там, на дне, стрэхамі ўніз, стаяла другая такая-ж самая вёска з усімі падробнсьцямі: з цёткай Агатай убрыўшай па калені ў сьцюдзёную ваду і заўзята паласкаўшай хусьцё, з дзедам Апанасам, які выпоўз на заваліньку пагрэць на сонцы старыя косьці, з буславым гняздом на клёне, каля хаты быўшага героя турэцкага паходу, сухарукага Мігуна.

Калі цётка Агата клала на камень хусьцё і пачынала выбіваць яго пральнікам,—з лазень, над возерам, перадражнівалі яе карштатыя, рудавалосыя Лазьнікі:—лоп! лоп! лоп!..

Замерла вёска, прыціснулася да ліпкай, гразкай зямлі ня з боязьні зрынуцца з гары ў возера, а з гора, з бядноты. Жыхары яе, згодна філёзофічнай сыстэме вялікага Фіхтэ, з пакаленьня ў пакаленьне сыцяць дух свой здаровым оптымізмам, надзеяй, што прыйдзе ўрэшце такі раджайны год, ў

які з умалоту хопіць хлеба ад жніва да жніва. Захопленыя гэтым оптымізмам, з году ў год, варушаць зямлю, не шкадуючы мазалёў і поту, засяваюць. Але пасьля абмалоту выясьняецца, што хлеба стане толькі да Каляд. Калі-ж дацягнуць яго да Мясаведа, то трэба дамешываць да мукі палавіну мякіны. Вялікі-ж пост пасьціць, так і так, Бог вялеў... А вясной... Ласьне ў гэту пару была вясна ў Будах. Адбываўся выган скацежы ў поле.

У панадворках сялянскіх сяліб тупалі мужчыны і кабеты. Падымалі запасьціўшыхся, па хрысьціянскаму обычаю, разам з людзьмі, каровак. Гэта былі, закачаныя ў навозе, двурогія шкілеты, якіх, гаспадар з гаспадыняй, падымалі на за хвост і рогі, каб паставіць іх нагамі на зямлю, а дзеці панукалі жывёлу, паганяючы дубцом. Сумнымі, закачываючыміся ў падлобьбя вачыма маўкліва тлумачылася каравёшка, што ад яе вымагаюць немагчымае. Змогшыся, змардаваўшыся гаспадары рашылі папаіць яе цёплай вадой з сольлю. Гэта памагло: пры помачы гаспадароў корова ўстала і здрантвеўшымі нагамі, сланяючыся, выпаўзла ў поле.

За каровай пагналі насторшаныя шкілеты сьвіньней, якія ўсё прадвесьне, за нястачай пошыру, жылі сваім промыслам.

За статкам высыпалі ў поле пастухі; дзеці ад 7 да 12 гадоў, босыя, хоць па рытвінах ляжаў яшчэ сьнег, а на дне канаваў лёд. Дзеці ў полі трасуючыся і пазваняючы зубамі зьбіралі трэскі і хвораст з блізкай амшарыны. Запылала вочнішча. Разагрэліся. Але з цяплом і пад уплывам руху на сьвежым паветры, голад балюча смактаў пад грудзьмі і вочы ад поўзімы ашклеўшыя, асалавелі. Моўча ўсе сядзелі кругом вогнішча.

З гары ў даліну, да амшарыны, што была за выганам, цягнуўся шнур валатовак паросшых верасам і гігялямі. Каровы жвалі леташнюю траву і верас, сьвіньні выкапывалі лычамі глыбокія ямы, шукаючы зямных арэхаў.

—„Пойдзем, хлопцы, паглядзім што гэта сьвіньні выкапываюць“—сказаў зызавокі Лявук.

Хлопцы безразрозьліна паглядзелі моўчкі на Лявука, ніхто не адазваўся.

Лявук устаў і падышоўшы да Сымонавай худой цешкі, якая да палавіны закапалася ў зямлю, уважна узіраўся што яна робіць. Відаць цешка натрапіла на багатае арэхамі месца; гэтым толькі і можна было вытлумачыць яе парыў да працавітасьці. І, запраўды, цешка выкапала лычом чорны арэх і ўжо хацела яго загарнуць у зубы, але Лявук, спрытна падхапіў яго рукой. Сьвіньня, заступаючыся за працавіта дабытую сваю ўласнасьць, рынулася на Лявука, але той пусьціўся наўцекі. Адбегшыся хлапец абцер чорны клубік аб сьвітку і палажыў арэх на зубы. Калі раскусіў, арэх здаўся яму нязвычайна смачным. Палавіну на мейсцы зьеў, другую панёс да вогнішча; ўсе падзяліліся і ўсе не маглі нахваціцца смачнасьцю арэха.

За некалькі хвілін хлапцы разсыпаліся каля сьвіньней пілнуючы моманту калі пакажацца арэх з зямлі. Пачалася бязжаласная эксплёатацiя чужой працы, абарона эксплёатаваных і адкрыты бунт супроць сваіх гаспадароў. У выніку цэладзеннай вайны быў цяжка пакусаны Грыгась удавы Пятрунэлі, на якога наваліўся Асташоў кнур.

На другі дзень, ідучы на паству, хлапцы узброіліся капагамі. Яны за папярэдні дзень добра дасьледавалі як пазнаць дзе растуць арэхі; што ў мейсцы дзе арэхі растуць, ёсьць зьверху бледны расточак чорнагаловага гігяля, які першы пасьпяшыў з пад сьнегу, на поклік сонца, выглянуць на сьвет. Далей, пад зямлёй, ішоў чорны вузлаваты, доўгі карэнь, які адкапываючы, можна дакапацца, на глыбіне аднэй—дзьвех пядзяў, да чорнага арэшка.

Ад самай раніцы на валатоўках закіпела згодная і дружная праца галодных: людзей і жывёлаў.

Многа ў той дзень было парушана прашчурных касьцей, даўно збуцьвеўшых ў прысок. Многа цікавых аздоб, закапаных разам з імі, выкінута ў старану, ў ямы і па-за ямы, як рэчаў да нічога непрыдатных.

Дзень быў пагодны, вясёлы, радасны.

Гасьцінцам, што ішоў ўздоўж валатовак, борзка імкнула павозка запрэжаная паркай коні.

Гэта пан пасрэднік ехаў ў далёкую, сваей кругаколіцы, воласьць, гадзіць сялян з памешчыкам, якія судзіліся за сэрвітуты.

Н—скі пасрэднік выдзяляўся, з паміж чыноўніцтва сваей рангі, шырокай гістарычнай ведай. Яго кватэра ў паветовым горадзе перапоўнена была стараветнымі асаблівасьцямі і выкапкамі з курганаў. Ен знаўся на старыне і любіў яе. Нічога дзіўнага, што ўбачыўшы як хлапцы капагамі рыюцца ў валатоўках, ўвесь ён спалыхнуў з гневу. Парывіста загадаў спыніць коні і вылезшы з павозкі, клікнуў да хлапцоў:

— „Што вы тут робіце?!“

Хлопцы перасталі капацца і моўчкі глядзелі на „пана“.

— „Я вас пытаю, што вы тут робіце?!! —крыкнуў ён ямчэй.

— „Маўчаньне.

— „Хадзі сюды!—кіўнуў ён пальцам на большага хлапца, Пятрука.

Той убачыўшы, што „пан“ зьвяртаецца да яго, кінуўся наўцекі ў імшару. За ім, пакідаўшы капагі, пагналі другія хлапцы. Зьбегшы на імшару хлапцы натрапілі на пляцок дзе чырванелі прошлагодныя журавіны па белым моху. Кінуліўя сквапна зьбіраць іх і забылі аб, толькі што, перапужыўшым іх здарэньні.

Астаўшыся пераможцам, на пакінутым хлапцамі пляцу. Пасрэднік прайшоўся па валатоўках, падняў мядзяны абручок і схаваў яго ў кішэнь, пасьля пазьбіраў капагі, і, палажыўшы іх у павозку, паехаў у вёску.

У вёсцы быў склікапы гвалтоўны, уздоймны сход. Пасрэднік доўга тлумачыў сялянам значэньне валатовак і патрэбу іх аберагаць, пагразіў штрафам на ўсю вёску за самавольную раскопку іх, і, ўрэшце, запрапанаваў не штрафаваць вёскі калі сяляне дабравольна самі, тут-жа пры ім, пакараюць сваіх дзяцей.

Сяляне ахвотна згодзіліся на гэткую замену. За поўгадзіны былі дастаўлены бледныя ад прадвесьня, пасінеўшыя і дрыжачыя ад сьцюжы, голаду і страху дзеці. Адбылася экзэкуція, якая зацягнулася да падвячорку.

Пасрэднік сказаўшы яшчэ вучоную расправу аб валатоўках, ветла разьвітаўся з сялянамі і паехаў.

Знаёмы ўжо нам Лявук, аціраючы сьлезы, жаліўся туліўшай яго меаці:

— Чаму-ж ня секлі Сымонавай цешкі, яна ў трая больш за мяне арэхаў накапала...

Ноччу прайшла вяснавая улева, абмыла ямы на валатоўках, і, на другі дзень, хлапцы ўжо не капалі арэхаў, а толькі абгрызалі ліповыя пучкі ды зьбіралі журавіны на амшарыне. Пасьля-ж зьбіралі масяжовыя „цацкі“ па пяску і імі забаўляліся.

М. НІКІФОРОЎКІ.

# Напоупрыслаукі, папаупрыказкі.*)

Ніхто, як Бог—адзін Бог паможа; як Бог воліць так і будзе; толькі на Бога надзея.

З Богам не сапрэшся, з Богам спрачацца ня будзеш, не паборашся; супроць яго волі ня пойдзеш.

Бог узвідзіць, хто каго пакрыўдзіць.— Ўсёвідучы Бог ведае пакрыўдніка і разьбярэ хто вінен.

Бог не целя увідзіць (убача) круцеля. — Бог адрожніць круцяля ад справлядліўца.

Ніхто ў Бога ня быў—з Богам не мяркаваўся: ніхто ня ведае Божых замыслаў, не ўмаўляўся з Богам.

Зжалься Божа маей працы — акром Бога ніхто не жалее, ня цэніць маей працы; уложана дарэмная праца.

А ён і рад таму Богу!—ён рад, што так здарылася.

На нітачцы бажок (абразок, крыжык на шыі)—да нельга беднае палажэньне, пры якім навет ікону ці крыж носяць не на стужцы, а на нітцы; — саўсім дрэнная справа.

З Богам па марозцу! іронічны высказ таму, хто чванліва і з пагрозамі пакідае мейсца, асобу.

Сьвіньня не нашага Бога! — па складу душы нязьмерна горшы за сьвіньню, як бытцам ня Бог сатварыў.

Цямцюр Цара Нябеснага („цямкаць“—чвякаць; кажуць: цямця - лямця“ аб павольным чалавеку. „Цямцюр“ — гультай, чалавек які ня робіць, а комкае работу „цямкае“). Гультай які толькі з Боскай ласкі жыве на сьвеце, а не са сваей працы.

Чэрці не нашага Бога.

Душа з Богам размаўляе—іронічная увага пры адрыжцы ў часе яды; сьвіньня кланялася, або: хоць на сьвінску ды здарова кажуць у тым-жа здарэньні.

Чыніць пацеры,—адмаўляць малітвы.

Адбухаць у званы,—адзваніць, дакончыць пустую гутарку.

Адзваніў — і са званніцы далоў— кончыў сваё і ідзі далей.

Даваць на пазвоннае—плаціць за званы па нябошчыку. Пагроза закупіць званы на крыўдніка, каб наклікаць кару Божу.

У Бога ўсяго многа, толькі у нас з табой німа нічога.

Бог дасьць Бог і возьме.

Не вялік Бог, а ўсё-ж Міколай завуць.

Задраць хохлікі — мець паднятыя ўверх завіткі валасоў; чваніцца, пышацца, задзіраць нос.

Пусьціць касмылі ў роспуску—растрапаныя, ці распушчаныя валасы.

Прыбраць касмылі, кудлікі, хохлікі—прычасацца.

Праняць рад—зрабіць разьдзел у валасах на галаве.

---

*) Ужываныя ў Вітабшчыне; парадрукаваны паводле рукапісу, друкаванага ў „Записках Сѣверо Западного отдѣла Имп. Руск. Геогр. Общ.“ Кніжка I 2 3 і 4. Вільня 1910—1911 г.

Даць падсяканку, падсячы; падчыкрыжыць — падцяць валасы.

Абчыкрыжыць галаву—каротка („на качан“) астрыгчы валасы.

Якая галава, такі і розум, калі добрыя мысьлёвыя здольнасці, то кождая справа здарова абдумаецца.

Галава як галава, ды падгалоўкі дрэнь — (двозначнік) зьверхнік нішто, але падручнікі благія.

Вышэй галавы не падымешся — вышэй сваіх здольнасьцяў ня пойдзеш.

Тлуміць галаву — абцяжаць яе непатрэбнымі думамі; выслухаць бязсэнсіцу; браць безпратрэбны клопат.

Міліць галаву, мазгаўню, мазгавешку — даваць доўгія і непрыемныя вымоўкі.

Ныіць, коліць, баліць у ямцы—чуецца боль пад ложачкай.

Апрастаць галаву — зьняць шапку, хустку з галавы; звольніцца ад абавязкаў.

Аткасацца ад галавы, перастаць даядаць.

Скуголіць над галавой—плакаць з прычытаньнямі, як над нябошчыкам.

Рыцца, капацца ў мазгавешцы; разгарнуць галавешку—ўспамінаць, раздумываць, абсудзіць што („раскинуть умом“).

Страціць галаву — зьбіцца з панталыку пры зблутаных варунках.

Глудзы адбіць— разьбіць галаву; зьбіцца з панталыку.

Узяць у глузды, заглуздзіць— запамятаць што.

З глуздоў вон— ня ўтрымала памяць, забыцца.

Уроіцца ў галаве— здасца, угнездзіцца ў галаве.

Вычаўрыць ў мазгаўні— са старасьці, з хваробы аслабець на розуме.

Узяць вокі ў рукі— глядзець уважна.

Выгаліць, вылупіць вочы— не бачыць праз няўвагу, праз адвалоку увагі на старану.

Лыпаць вачыма— бязспогадна глядзець; таіць духовы стан; пераносіць сорам.

Страляць варон— ня бачыць што дзеіцца кругом.

Не адзін сьляпы бачыць— дакор відучаму за недагляд.

Браць, ісьці на цямкі— мерыць што на вока, ісьці на памяць, без дарогі.

Сьляпоцьця спраўляць— (дакор) ня бачыць ўсімі бачанага.

Вухом не вядзе— не зьвяртае ўвагі, ня слухае.

Ані слыху, ані паслыху—нестача вестак, бязведамнае палажэньне.

Нічога ня чуць; нічога ня чутка— нічога не чуваць з выгаварыванага, німа ніякіх вестак.

Вухо на вухо— мяна без даплаты.

Вушы разьвесіць— уважна слухаць, да запамятаньня аб акружаючым; захватывацца няважніцай.

Вушы вянуць— робіцца стыдна ад няскромных гутарак або непраўдзівага апавяданьня.

Найстрыць вушы— прыгатавацца да слуханьня, асабліва уважна прыслухацца да чаго.

Павесіць нос на квінту— упасьць духам, апусьціцца.

Храпы розна, храпы разваліла—хвароба насавой падзі пры запаленьні.

Той (чорт) у чмыхах, у храпах, у носе сядзіць— ведаецца з нячыстай сілай, капрысіцца.

Нос не ўліпаець— німа ахвоты да якой ежы, работы.

Нос прыліп— адваротнае папярэдняму.

Уторнуць нос, уткнуць нос; падасьпець з носам, як з палосым; утранчаць нос— не дарэчы трапіць, мяшацца.

Трапіў (быў) дзе насы дзялілі— аб даўганосых, дакорліва.

Папіхацца носам—валіцца з апьяненьня або ад попіху.

Нос з носам— нячаканая сустрэча, блізасьць.

Фінтос пад нос— няўдзячнасьць.

Разквасіць, размязджуліць нос— разьбіць да крыві, абязкшталціць.

Падцер нос, храпы, чмыхі— сашкіліць з каго; зьнішчыць праціўніка словам, чынам; апярадзіць каго у прэдпрыемстве, ашукаць.

Соплі, возгры нос падперлі— дакор таму, хто не выцірае ў час носу.

Выціраць нос— апраўляцца матэрьяльна, паправіць варункі.

Портам нясець— чуецца пах гарэньня порту (льняннай пяньковай ці ватнай тканіны).

Смальлю воніць— чуецца пах гары ад воўны, касьцей, туку, пёраў і наагул ад рэчаў жывёлных.

Бубнець пад нос— вурчэць, вымаўляць не выразна, скрываць гутарку.

Нос бубнеіць— пухне, таўсьцее, пакрываецца чырвонасьцю як у пьяніцы.

Цягнуць за нос, за вушы— даваць матэрьяльную і маральную помач няўдачніку; вывадзіць у людзі.

Пасадзіць дзьябла ў нос— запышэць, аддацца тайнай сваей думе, зачарадзейнічаць.

Лізаць соплікі— апусьціцца да дзяціннага не разуменьня.

Нос булдавешкай, нос з булдаўню— з таўшчынёй на канцы.

Нос буцяновы— востры, доўгі.

Як чорт круканосы— з крывым носам.

Носам у столь упіраецца— аб чванлівым.

Лычаносы— сьвінаваты, які лезе ў рэчы дзе праз ветласьць пастароннаму нельга заглядаць.

Грыбы разьвесіў—разчыніў губу, сядзіць з адкрытай губай.

Грыбы распусьціць— гаварыць многа, непрыстойна.

Іграць на грыбах— пяяць, выігрываць губай, бяз слоў.

Грыбазвоніць— гаварыць пустое, але ў дакор другому.

Разяць мяліцу, ляпу, зяпу— разчыніць губу; голасна гаварыць, лаяцца; галіцца на чужое.

Вустанькі смягнуць, смага ў губе— запякліся вусны ад смагі, ад хваробы.

На, ў губці тва е ножкі! Жартлівы выкрык пры няўдалай спробе зрабіць якую справу. З практыкі малых дзяцей, якія свабодна заносяць у губу свае ножкі—што немаль немагчыма для сталага чалавека.

Зубы істрыць— галіцца на што, ладзіцца да нядобрага чыну.

Губы галіць, прадаваць, вышчыраць— асьмеіваць каго, дарэмна сьмяяцца, вышчыраць зубы.

Трапіць на зуб— быць мэтай напасьці, плётак, обмовы.

Лічыць зубы—біць па зубах.

Зубоў не падабраць— атрымаць крэпкі удар у зубы.

Праехацца па зубах— ударыць па зубах.

Зубкі саладзіць, бавіць— зьесьць штоколечы салодкае (гаворыцца пры запросінах гасьцей да салодкага, да „заедкаў“).

Разінькі прадаваць— трымаць губу разчыненай.

Падвязаць язык на почапку, на пачопачку— стрымлівацца, налажыць маўчаньне на вусны, перастаць судзіць другіх.

Язык аблізаць— смачна есьць, смакаваць вокам страву, цярпець голад.

Язык праглынуць— зьесьць штоколечы асабліва смачнае.

Хвастаць языком— гаварыць дарэмшчыну, дарэмна прасіць каго.

Язык у лапцёх— заікацца, картавіць; бяззьвязна гаварыць.

Ні расінкі ні каліўца ў губе— саўсім натшча.

Сьлінкі глытаць— смакаваць яду вокам; галадаць.

У губе сабакі начавалі— сморад з губы.

Ракі пячы— чырванець з сораму.

Сьцінаць дух— прытаіць аддыханьне; захватываць аддыханьне з хваробы.

Накласьць ў закаршэль— біць па карку.

Як рукой падаць— вельмі блізка.

Рукацца-- падаваць адзін аднаму рукі.

Разкапусьціць крыльлі— апусьціцца, асунуцца.

Дзіравыя рукі— мае той, хто няўмае утрымаць ўласнага дабра.

Уняць рукі— стаць мякчэйшым у жыцьці.

Распусьціць рукі— красьць, біцца, крыўдзіць другіх.

Распусьціць язык, горла— сварыцца, крычаць.

Смуродзіць, паскудзіць рукі—зарабляць драбніцамі, рабіць нікчэмную справу.

Міжы крыл—між лапатак (на плячах).

Сяродку ламаіць—баліць паясьніца.

Крымсаць па хрыбце—біць пугай, вяроўкай, але ня розгамі.

Даць пляцкі, даць лапуна, падсадзіць лапун, шлёпку, шляпака, шляпачка—ударыць далоньню па мяккой часьці цела.

Пад‘ехаць пад мікіткі, паддухі лічыць, рэбры лічыць—ударыць ў падгрудзьдзя, у рабравыя часьці грудзей.

Ісьці ў загрудкі—хапаць за грудзі кідаючыся біцца; не ўступаць ні фізычна, ні маральна.

Пелькі прадаваць—дакор таму ў каго не зашпілена кашуля, відаць голыя грудзі.

Вароты захутаць—зашпіліць кашулю.

Бàкі забіваць—крывадушыць, клюдзіць, зацямняць справу апраўдываючыся.

Жывоцікі надламаць, надарваць — сьмяяцца да сутаргаў у жываце.

Трыбухі, кішкі, вантробкі паласкаць, ужываць многа піты і мала ежы; асуджаць каго.

Выстаўляць валізу—выпінаць бруха, пышацца.

Набіць трабло—напхаць бруха, трыбухі.

Напхаць пехцер—тое-ж што і папярэдняе.

Падцягнуліся, падвяліся кішкі, трыбухі, жывоцікі аб'ехалі— атушчэў жывот.

Загаліць пуп— абнажыць бруха, абяднець; не перасьцярагаць прынятых звычаяў.

Навваліць, напоўніць гэткую міндру— многа зьесьць і выпіць (гаворыцца аб таўстунах). „Мендзер“—матрац, сяннік, мех да сянніка.

Крыльлі укараціць, урэзаць— зьняць пыхі.

Гбаць палазкі— прыгібаць ногі да грудзей, як гэта робяць дзеці і сталыя „ ў жартах“.

Падабраць ножкі дый сесьці— жартлівыя запросіны „сесьць там дзе стаіш“.

Сабакі ногі атажвалі— змучаньне да ўтраты чуцьця ў нагах.

Даць стрыкача— хутка ўцячы, схавацца.

Загаліць лыткі— абнажыць ікры; займацца распустай, вясьці сябе непрыстойна (аб жанках).

Кавёлы разставіць, раскярэчыць— разставіць ногі (аб мужчынах).

Лядзьвікі разкінуць, лядзьвікі разслабіць— тое-ж (аб жанках).

Браць, узяць нагамі— дасьцігнуць чаго хаднёй.

Дай рукамі, а бяры нагамі— аб спаганяньні доўгу.

Аж пяткі трашчаць— пасьпешныя уцекі.

Ходзіць віхлямі— ідучы ківаецца са стараны ў старану.

Вышэй пят скакаць— жыць вышэй магчымасьці.

З горла тарчыць— перасычаньне.

Натшасэрца— натшча, ня піўшы і ня еўшы.

Глымаць цалком—глытаць не жвучы, прагавіта.

Есьць ў сухамятку—есьць сухі хлеб; у прыхлёбку—з рэдкай стравай; у прыглядку—глядзець як другіе пьюць і ядуць.

Пхаць у абодвы канцы—абжырацца.

Як завязаць—зьеў што ўжо больш ня ўлезе.

Як пук, або: як куль саломы — тоўсты і непаваротлівы пасьля наедку.

Есьць як у прорву—аб абжорах.

Трусіць сольлю —пасыпаць хлеб сольлю.

Кроплічка хлеба, драбінка солі—таго і другога бытцам па троху.

Цюцька віхлікам хвасьціць—(сабака хвастом віхляе) аб тых што пераказуючы блутаюць факты.

Марыць рабакоў—перад ядой выпіць чарку „на замор рабакоў.“

Хапіць да сьлёз—абпарыцца гарачай стравай; нарвацца на няўдачу.

Ложкай мёд хлібаіць—жыве ў роскошы.

Капаць рылам—перабіраць, пры дастатку лічыць яго недастаткам.

Зьесьць цюцьку мазанага—нічога не атрымаць, або атрымаць вельмі мала.

Судзі. Божа спажыць у карысьці, у добрым здаровейку—сказ пры біцьці скацежы на мяса, пры робленьні еменных запасаў.

Жыць на кішку—працаваць толькі на хлеб.

Мнець, лупіць аж за вушамі трашчыць—есьць пасьпешна і многа.

Як блін сьпячы— хутка выпаўніць работу.

Прасватаная страва— пракісшая.

У сваты сабраўся— пракіс; аб страве.

Цялёпаець, аж нос гнецца— есьць лачна.

Смагу, смажку прагняць— зьесьць што на сухую губу; малы зыск у стасунку да хаценьня.

Бонду набіць— напоўніць жывот ядой і пітой.

Ад застольля на заўгольле— дакор неабычайліваму.

Зрабіць, паставіць разгародку— закусіць перад выпіўкай.

Атохся пьючы— піў за захвату духу.

Пусьціць пуцікі— капаць на стол, як малое дзяцё якое пускае з губы сьліну.

Наліць шуломейку— ці: запусьціць ў шуломейку—выпіць многа але не да апошняга апьяненьня.

Шклянному богу кланяцца— выпіваць.

С капыльля далоў— зруйнавацца, апьянець, памерці.

Каваць шыла— апахмеляцца ў чысты панядзелак, які дзеля гэта называецца „шыльным“.

Гаркушку паганяць, аржанаўку пасьцёбываць— піць ў меру.

Не прасыхае ў галаве— безупыннае пьянства.

Хлеба перапёк— праміжчасьсе між адным і другім печывам хлеба.

Адшастаць ладны кус— адрэзаць вялікі кавалак хлеба; выпаўніць значную часьць работы, прайсьці большую часьць задуманай дарогі.

Крапаць пірог, кішкі— напіхаць ў сярэдзіну пірага, кішок надзяваньне. („крыпаны пірог“, „з накрыпкай“).

Пражыць яечню— пячы яечню.

Пражыць скароміну— пячы што мясное.

Скварыць скваркі— пражыць на скварадзе пакрышанае сала.

Цыркаць карову— даіць.

Сачыць грыбы— шукаць іх; хоць касу закладай— так многа грыбоў, што хоць касі іх.

Наламаць кашалу грыбоў— набраць поўную карзіну.

Тухлікам аддае—чуваць гнільны пах; насьмешліва аб падстарэлых жанчынах.

Гарох, боб бубнеіць— набракае ад вады.

Калупаніны, пыканіны шмат—многа дробнай, маруднай работы.

Аддаць за гарэлы блін— нізка цаніць каго.

Перцу інберцу дадаць— дадаць пернасьці да стравы; зрабіць каму прыкрасьць.

Праць бялізну, лайно— выбіваць пральнікам бялізну (хусьцё) на аткрытай вадзе; выцягаць нечыя правіны перад людзьмі.

Смуніць вяроўку— зьвіўшы адгладжываць яе.

Забарсаць чаравікі— завязаць шнуркамі іх.

Бярдо снаваць— прапускаць праз бярдо аснову.

Жоранцамі церці— (ад жанках) бегаць аттапырываючы заднія часьці.

Правольны дзень, час— вольны ад работы, не ў сьвята.

Павеціць пражу, ніткі— зматываць з верацяна.

Захвараснуць, захвоснуць хату, двор, вулку— вымесьці.

Перья скусьці, скубаць— ачышчаць іх ад костак „борку“.

Сучыць ніткі— скручываць іх; трысьціць ніткі— зьвіваць надвойную нітку ня скручываючы.

Адужыць работаньку— закончыць, перамагчы яе.

Трасьці нараты, прутні, бучы, жакі— вытрасаць з іх рыбу.

Узяць на штых— страляць вачыма.

Груды складаць, паліць— класьць хворост у кучы і паліць яго як высахне.

Ісьці ў наспу— ісьці ў малады лясок зьбіраць грыбы.

Падлазіць, падразаць пшчол— выбіраць з вульля мёд.

Прыпарная пара або: прыпарніца— самая гарачая рабочая пара летам („страда“).

Сьцяна-сьцяной— аб густым, высокім збожжы; мядзьведзь-мядзьведзям— аб такойжа траве.

У стан чалавека— ў рост чалавека (аб высокім збожжы).

Грэць шылам ваду— да вялікай справы рабіць малы высілак.

Пустадоміну паганяць— перадчасна нішчыць гародніну і фрукты; красьці іх. У гэтым сэнсе дзеці часта называюцца „пустадомамі“.

Ісьці на сьцёр— дахадзіць да руіны.

Класьць, сыпаць коптырам— накладаць, насыпаць вышэй меркі каптур (шапку).

Каню хвост смуліць—дарэмна мучыць каня.

Хадзіць за статкам, прыбіраць стачынку— адбываць звыклы дагляд статку, скацежы.

Есьць трохі затонцу — ёсьць крыху капрысаў (аб жанках).

Сабакі скумацюць — рвуць каго, або што колечы.

Свойскай гадоулі — сваей гадоулі.

Забрытаць, замуздаць каня — надзець аброць; узалежніць каго

Мамонава каза — паводле пагудкі, каза якая выскачыла праз вакно з дому Мамонавых і пабегла па вуліцы, вырваўшыся з рук разьніка, мела напалавіну аблупленае цела.

Масьціць хату — насьцілаць „памост" у хаце; сталіць хату — насьцілаць „столь" у хаце.

Прысадзіць дзьверы, вокны — управіць дзьверы, вокны на іх мейсца.

Захутаць дзьверы, вокны, вароты, кватэрку (фортку) — зачыніць іх.

Лезьці на кон (на „канавы" стоўб пры рагу печы, які падтрымлівае столь; з гэтага мейсца гаворыць прамовы і даюць багаслауленьне ў часе вясельля); хаваць засаромленьне, не валадаць мовай.

Улезць у сваю вячнінку — атрымаць спадак па бацькох.

Скляпеньне звадзіць — рабіць паднябеньне ў печы.

Трупехлы — згніўшы.

Кіраваць хатай — кіраваць гаспадаркай.

Хату, хлеў, пуню перасыпаць — разабраць і зноў зложыць замяніўшы гнілыя бярвёны новымі.

Просім на голы банкет, просім у голыя госьцікі — запросіны ў лазьню.

Прудзіць адзежу — награваць у гарачай пары каб выгубіць „гадыў", „жымяру".

Цірабіцца венчыкам — хвастацца венікам.

Пусьціцца ў плынь — перабірацца праз глыбокі, няведамы брод; пачаць бязведамную справу; зрабіць што наўдачу.

Сьвет мерыць — выбірацца ў далёкую падарожу.

Нісусьветная даль — лішне далёка, на краю сьвету.

Стаўляць сталы — прыймаць гасьцей.

Рады-ўгады або: калі-некалі — вельмі рэдка.

Чапліваe месца — гасьцінны дом куды хочацца завярнуць.

Савосы госьцюць у самосых — роўны роўнага знае.

Іcьці на ўмізгі — ісьці на любоўнае пабачаньне.

Марцовая княгіня — старая дзева.

Паддзядзюліць кралю — узяць прыгожую дародную жонку.

Зачэрыць бабу, жонку, дзеўку — зрабіць цiжарнай.

Баба, жонка, дзеўка бубнеіць — зацiжарала.

Паехаць у рыгу — вамітаваць, варацаць.

Хадзіць у проведкі — адведываць, хадзіць да хворага; хадзіць на пярозвы, хадзіць з візытам.

Скалычкі шчаліць — бяззубае дзяцё усьміхаецца.

Трохі шупіць — дзяцё пачынае разумець.

Трох дзён маладзён — насьмешліва аб тым хто маладзіцца касмэтыкамі; хто выказуе няўместную скромнасьць.

Як гамолак— як кружок сыру тоўсьценькі, здаровенькі.

Ад зямлі не відаць—нізкі ростам; такжа,—пятуху да кален:

Глядзя на лес рос— аб высокарослым, аб неабычайлівым.

Набегчы з імпэту, з наскоку— зьнечаку наскочыць, пасьпець куды.

Прыскакам прыляцець— пасьпешна прыбыць на мейсца.

Жывакосту прыбаўляць— дакладаць да работы больш высілку.

Туравіць на работу— панукаць да работы.

Грош пітоманный— гаротныя, свае, грошы.

Вады не замуціць— па дабраце і спакойнасьці характару не зрабіць нікому шкоды („курыцы ня ўкрыўдзіць“).

Мець прыцін— мець роўнавагу (кажуць аб сонцы ў зэніце: „сонца у прыціне“; аб роўнасьці дня з ноччу кажуць: „ў прыцін году“.

З аднэй міскі есьці, на аднэй печы разувацца, у аднэй лазьні парыцца— роўнасьць палажэньня, аднадушнасьць.

Гасьціны спраўляць— быць ў гасьцях, прыймаць гасьцей.

Вырабляць дрыгі— пры танцах патрасаць нагамі; вырабляцца.

Бабскія разбрыкі— жаночае сьвята.

Дуда Кісялёўская (в. Кісялі каля Хвошны, Гарадокскага пав.)— упорысты але не благі чалавек.

Буракі малоць— рабіць непатрэбную работу.

Корхі сала нарасьлі— жартлівая увага на асыценьне („корх„— мера: шырыня далоні).

Шкелі строіць— кпіць.

У патырчаках стаяць, служыць— тырчэць, быць без патрэбы на вачах.

У сабакі вочы пазычаць— не стыдацца, не чырванець пасьля благога паступку.

Лезьць асвой у вочы— прыставаць да каго не адвязна.

Як утраплёны— як ачадзеўшы, як варьят.

Кліны забіваць, заганяць— рабіць перашкоды, перапоны ў справе.

Непер態ліўкі— звыж сіл, неўпраўка, не жарты.

Панская штыльта — („штыльты“, „штыльпы“— ботфорды) — жыцьцё на панскую нагу, па панску.

Брынды, лыні, лынды, слані біць — сланяцца без работы; унікаць работы.

Кашачы падарунак—даць і атабраць.

Адлынаць у прочкі — разхадзіцца розна (аб сямьі); уцякаць ад работы.

Нядотыкі сьвяткаваць — сьвяткаваць безрабоціцу; ушчыплівая увага гультаём.

Седні, лежні заелі, загрызлі — ушчыплівая увага тым-жа гультаём.

Жыць на лагодунках—жыць смачнымі кавалкамі („лагодункі“— ласункі: пернікі, цукеркі, арэхі і г. п.).

Шумаркаць грашмі — траціць дарэмна грошы, пьянстваваць („шумаркаць“ тое-ж што і „шастаць“).

Трубіць у кулак—згалець да апошняга, астацца ні прычым.

Ані чым чаго, ані чым чагусенькі — поўная пустка, абядненьне.

Лыкам шыты—наскора зроблены, бедны, праставаты. Аб маскалях кажуць: „Лыкам шыты, ў лыка адзеты, лыкам абуты, а хітры як варона“.

Ані прыступу! ані блізка — аб пышным чалавеку, аб дарагоўлі.

Лезьць на лес—пяцца вышэй свайго палажэньня.

Зьехаць пад лог—обяднець, апушчацца, уніжацца.

Ані ў піпачку!—апошняя беднасьць.

Біць, трасьці трантамі, шлындрыкамі — хадзіць ў лахманох.

Басіны спраўлць—хадзіць босым.

На сваіх лапцёх — насьмешка над абарванцам які толькі і мае, што лапці свае.

І сьпіткі і зьедкі—емінныя астаткі, аб акіх можна сказаць: вось і ўсё тут.

Ісьці ў абшарпанцы—стацца абарванцам.

Спáсьціць, згойшыць—украсьць.

Ад яйца адліе—скупы; спрытны злодзей.

І здаецца і прыдаеца — такі падозрывы, што ўсюды здаецца небасьпека.

І туркі і баркі прайшоў—прайдзісьвет, пройда.

Сагбацца ў тры пагібелі—карыцца, уніжацца.

Біць на атумекі—прытварацца дурням, няўмелым, ня ведаючым.

Прыкураты строіць—удаваць хворага, ад „прыкурнуць“ — прытаіцца.

Каломесу завадзіць—рабіць непарадак, „суматоху“.

Рабіць па нàсердзю—па злосьці, з помсты.

Брахаць на вецер—дарэмна лаяць, зьняважаць каго.

Задаць парынку—высеч розгамі.

Ляцець кумільлю, кумільгом — бегчы так хутка, што глядзячаму мігаць у вачу.

Лупіць у ва ўсе лапаткі—пасьпешна уцякаць ад каго.

Муціць сьвет—закрываць праўду, хто гэта робіць—„мутасьвет“.

Вархілы чыніць—паднімаць гоман, крык.

Пайсьці на штырхі—папіхаць адзін аднаго.

Падкамсіць пад сябе— падціснуць пад сябе боручыся ці бьючыся.

Гуляць у адзабылкі—выкідаць каму праўду ў вочы.

Сяродка на палавіну—ні тое, ні сёе.

Вінна, ды ня так-жа правінна — ёсьць віна, але не так ужо вялікая.

Калі-б перасьверыў—перацягнуў, перахаліў, перамог.

Хвасток задіраць, церці—(аб жанках) займацца распустай.

Мытуха мыіць—лякса ганяе.

Мітурусіцу зьбіраць—пляўзгаць, нісянеціцу вярзьці („Мітуркі“—кружкі ў вачах, якія здаюцца пры засыпаньні; згэтуль „мітурыцца“, „прымітурылася“—здалося).

З панталыку далоў—зьмяшаўся, зьбіўся з ладу, паў матэрыяльна і маральна.

Нечывілі разьбіраюць—непрытомнасьць як у варьяціі („як у нечывілях“). Нечывільны—варьят.

Мазгі вычаўрэлі—высахлі.

У шат відзець—хвараблівае кружэньне галавы („шат“, „шчуд“—чорт).

Пяруны ў пузе—вурчаньне ў жываце.

Паветрыкі бяруць—сьцісканьне газаў ў жываце.

Выхады вылязаюць—выпаданьне кішок.

Сашчапіць рукі, заплюснуць вочы, легчы на кут, лезьць у ямку—паміраць.

Белый жыд—маскаль, старавер.

Чорны жыд—цыган.

Нальля папоўская—папоўская сямья.

Стаяны адстаіваць—быць у госьцях дзе не запрашаюць сесьці.

---

ЮРЫ ВЕРАШЧАКА.

# Смаленская легенда аб. св Мэкурым *).

Смаленская легенда аб св. Мэркурым належыць да найвыдатнейшых твораў стара-крыўскай літэратуры. Гэта легенда злучае ў адно поэтычнае цэлае найстарадаўнейшыя пагудкі народнага эпосу з характэрыстыкай моральнага і рэлігійнага крывіцкага жыцьця да XIII ст. Твор гэты прыналежыць як пісанай літэратуры, так і народнай пазіі, і хоць дайшоў да нас на пісьме, але ва ўсей поўнасьці выяўляе сваё даўнейшае чыста народнае паходжаньне.

Смаленская легенда дайшла да нас у некалькіх розных рэдакціях: 1) народнай, якая істотна рожніцца большай свабодай фантазіі; 2) лірычнай, у царкоўных кантах і вершах, якія служаць пераходам да кніжнай пераробкі і 3) літэратурнай якая увайшла у Макарьеўскія Четьи-Мінэі і, ўрэшце 4) самая кароткая, мабыць народнага паходжаньня, але запісаная ўжо ў пазьнейшую эпоху ў „Книгѣ глаголемой о россійскіх святых“.

Трэба адзначыць, што і народная рэдакція, якая запісана кніжнікам, мае ў сабе літэратурную сказу; і, наадварот, літэратурная рэдакція, якая зложана на грунце вустных пераказаў, мае ў сабе цікаўныя рысы да гісторыі народных пагудак. Мы адрожнюем тут народную рэдакцію ад літэратурнай паводле удзелу, ў тэй і другой, элемэнтаў народных.

Народная рэдакція, па Сінадальнаму Цвѣтніку Жюлёва 1665 г. (№ 908, карта 218 і далейшыя), вызначаецца наступнымі падробнасьцямі.

---

*) Матэрьялы: Буслаев. „Смоленская легенда о св. Меркуріи и Ростовская о Петрѣ царевиче Ордынском“, „Древнеруская народная литература и искусство“ СПБ. 1861. „Энциклоп. слов. Брокгауза“. „Житіе преп. Меркурія Смоленского“, Смоленск 1887.

„У горадзе Смаленску жыў нехта малады чалавек—Мэркуры; быў ён богабойны і ў загадах Божых павучаўся дзень і ноч, разквітаў прыкладным жыцьцём, пастом і малітвай, і сьвяціў, як гвязда багаяўная, пасярод ўсяго сьвету. Быў кволы душой і сьлёзны, часта прыхадзіў да крыжа госпадавага маліцца за грамаду (мір), завомы Пятроўскага Ста. А ў той час злыдны цар Батый палоніў рускую зямлю і марыў хрысьціянаў, праліваючы бязвінную кроў, як сільную ваду. І прыйшоў той цар з вялікім войскам на богазбаўчы горад Смаленск, і стануў ад яго на 30 попрышч; многа сьвятых цэркваў папаліў і хрысьціянаў пабіў, і цьвёрда азброіўся на той горад. Людзі-ж былі ў вялікім смутку, бязвыходна прабывалі ў саборнай цэркве Прачыстай Багародзіцы і ўмільна галасілі з вялікам плачам і з многімі сьлязамі да Усемагутнага Бога і да Прасьвятой Богамаці і да ўсіх сьвятых, аб захаваньні гораду таго ад ўсякага зла.

„І была відзежа гараджанам. Недалёка ад гораду за Дняпро-ракой, у Пячэрскім манастыры, праслаўна явілася Прачыстая Богародзіца панамару і сказала: „о, чалавеча Божы! ідзі да таго крыжа, дзе моліцца выбранец мой Мэркуры, і скажы яму: кліча цябе Божая Маці! Панамар пайшоў; знайшоў яго молючыся каля крыжа, і назваў на імю: „Мэркуры!“—А той адказаў: „што табе гаспадзіне мой?“—І сказаў яму панамар: „ідзі борзка, браце! цябе кліча Божая Маці ў Пячэрскую цэркву!“ І пашоў богамудры Мэркуры ў сьвятую цэркву, і ўбачыў там Прачыстую Богародзіцу на залатым пасадзе з Хрыстом ў абоймах сваіх, акружаную анельскім войскам. І паў ён да ног яе з вялікай пакорай і страхам. Божая Маці падняла яго з зямлі і сказала яму: „Мэркуры, выбраньча мой! Пасылаю цябе! ідзі пасьпешна, ўчыні помсту крыві хрысьціянскай; ідзі, упакор злыднага цара Батыя і ўсё войска яго! Пасьля прыдзе да цябе чалавек, прыгожага аблічча: аддай яму ў рукі ўсю зброю сваю, і ён адсячэ табе галаву; ты-ж вазьмі яе ў руку сваю і ідзі ў свой горад; там прыймеш сьмерць, і паложана будзе цела тваё ў маей цэркве“. Мэркуры вельмі ўстужыў аб тым і заплакашы мовіў: „О Прачыстая Богародзіца, Маці Хрыста Бога нашага! Як-жа я, грэшны і худы, непатрэбны раб твой, магу быць сільны на гэткі чын! Хіба ж недастала Табе нябесных сіл, о Валадарыца, перамагчы злыднага цара?“ Пасьля ўзяў ён ад яе багаслаўленьне, і ўвесь узброены быў і адпушчаны, і, пакланіўшыся да зямлі, выйшаў з цэркві. І знайшоў там прахаробрага каня; сеў на яго і выехаў з гораду. Дасьцігшы палкоў злыднага цара, божай помаччу і Прасьвятой Богародзіцы, пабіваў ён ворагаў, забіраючы палонных хрысьціянаў і адпушчаючы іх у свой горад; і насіўся ён па палкох, як арол лётае па паветры. Злыдны-ж цар, бачучы перамогу над людзьмі сваімі, агорнуты быў страхам і жудасьцю, і хутка ўцёк ад горада таго бяз пажытку, з малой дружынай. І ўцёк ён у Угры, і там быў забіты царом Сьцяпанам.

„Тады зьявіўся Мэркурыю прыгожы ваяр. Мэркуры пакланіўся яму і адаў ўсю сваю зброю; пасьля нахіліў сваю галаву і быў сьцяты. І, благаслаўлены, узяўшы, галаву сваю ў адну руку, а другой вядучы каня пад вустцы, прышоў у свой горад, абезгалоўлены. Людзі-ж гледзячы на яго, дзівіліся Божаму устраеньню. І так дайшоў ён да Малогінскіх варот. Нейкая дзеўка, выйшоўшы па ваду, убачыла, як сьвяты ідзе без галавы і пачала яго непрыстойна лаяць. Ен-жа ў тых варотах лёг і чэсна аддаў душу сваю Госпаду і конь яго зьнік з вачэй.

І прышоў архібіскуп таго гораду з крыжамі і з множствам народу, каб узяць чэснае цела сьвятога. І ня даўся ім сьвяты. Вялікі плач быў тады ў людзях і прычытаньне, што не схацеў сьвяты падняцца; архібіскуп-жа быў вельмі зьдзіўлены, молючыся аб тым Госпаду. І быў да яго голас, мовячы:

„О, слуга Госпаду! не смуціся гэтым! Хто паслаў яго на перамогу, той і пахавае“. І тры дні ляжаў сьвяты не пахаваны. Архібіскуп усю ноч бяз сну прабываў, молючыся Богу, каб выявіў яму гэту тайну. І гледзячы ў аконца сваё, проста да саборнай цэркві, бачыць ён: ясна, ў вялікай сьветласьці, як у сонечнай зарэ, вышла з цэркві Прачыстая Багародзіца з Арханеламі госпадавымі, з Міхайлам і Гаўрыелям, і, дайшоўшы да таго мейсца, дзе ляжала цела сьвятога, ўзяла яго Прачыстая Багародзіца ў палу сваю, і прынясла ў сваю саборную цэркву, і палажыла на яго мейсца, дзе дагэтуль, бачаны ўсімі, творыць цуды ў славу Хрысту Богу нашаму, вохнучы як кіпарыс. Архібіскуп-жа, увайшоўшы раніцай у цэркву, ўбачыў праслаўнае дзіва: сьвяты ўжо ляжаў на сваім мейсцы, спачываючы. Зышоўся народ, і, бачучы тое дзіва, праслаўляў Господа Бога“.

Гэткая ёсьць рэдакцыя „народная“. Важнейшыя пункты на якія трэба зьвярнуць у ей увагу, ёсьць ніжэйпісаныя:

1. Мэркуры выступае тут чыста народным героям. Прынамні, ў гэтай рэдакцыі німа і сьляда аб рымскім ці нямецкім яго паходжаньні.

2. Усё акружаньне героя ідэальнае. Конь, чакае яго пры выхадзе з цэркві, зрэшта конь гэты нязвычайны. Абезгалоўлены Мэркуры прывёў яго з бітвы ў горад, дзе ён цудоўна зьнік, стаўся нябачным. Гэта цудоўная жывёла прыпамінае нам дахрысьціянскае багомленьне коней, якое мае адгалосак у міфе аб Сьлейпнару, каню Одына, аб каню Сьвятавіда заходных славянаў, аб вілаватым ці вешчым каню ў сэрбскім эпосе, аб Сіўцы—Бурцы—Вешчай Буланцы нашых казак і інш. Як-бы там не было а толькі цудоўны конь Смаленскай пагудкі паказуе на жывы зьвязак яе з народным эпосам.

3. Паводле гэтай рэдакцыі сьвяты герой змагаецца не с татарскім волатам, а з усім Батыявым войскам, і, што асабліва важна, — забівае Мэркурага ня сын волата, у помсту за забойства бацькі, а нехта „чалавек прыгожага аблічча“, або як сказана ў другім мейсцы „прыгожы ваяр“. Мэркуры павінен быў, па загаду Багародзіцы, пакорна аддаць яму сваю зброю і каб быць сьцятым—пахіліць перад ім галаву. Ясна, што не ад татарына, нават не ад звычайнага чалавека прыключылася яму сьмерць, але ад нейкай істоты прыгожай, ад прыгожага ваяра, якімі выабражаюцца ў старасьвецкай літэратуры анелы. Споўніўшы загад Богамаці, выпоўніўшы сваё назначэньне ў сьвеце, Мэркуры павінен быў ў квеце лет пазбыцца жыцьця. Сьмерць павінна была накінуць сваю таёмную павалоку на няведамыя, гэтак сама таемныя адносіны героя з сьветам цудоўнага, няземскага. Народнай фантазіі шкада было выставіць харобрага свайго магута ахвярай татарына. Ен заслужываў лепшай долі, і ўжо калі ня суджана было яму жыць, то хіхай лепей самахоць і ціха аддасьць ён сваю душу ў рукі няземскай, сьвятой істоты. Зрэшта пакінута было яму жыцьцё да таго часу, пакуль ён ня дойдзе да свайго гораду. Для гісторыі народнай паэзіі—як здаецца—ня трэба упускаць з пад увагі, што „прыгожы ваяр“, які сьцяў Мэркурага, ў тэксьце не названы янелам. Знача, гэта зьверхнатуральная істота, можа, ня што іншае, як слабы адсьвет старэйшага, дагістарычнага міфу, адгалосак якога колечы сьветлага бога паганскіх часаў.

4) Мяйсцовыя рысы відаць у тым, што Мэркуры да свайго геройскага выступу „часта хадзіў да крыжа Госпадава маліцца за грамаду (мір) завомую „Пятроўскага Ста,“ і што вярнуўшыся з бітвы, абязгалоўлены „дайшоўшы да варот Малогінскіх“,—быў сустрэчаны у гэтых варотах дзеўкай, якая ішла па ваду і ўбачыўшы сьвятога пачала непрыстойна лаяць,

—дзіўная і наіўная падробнасьць, відаць чыста народнага і мясцовага паходжаньня.

Урэшце 5), ўся пагудка, паводле „народнай“ рэдакціі, вызначаецца прастатой, незавіласьцю і кароткасьцю, наперакор завілай і велягорнай штучнай рэдакціі.

Зрэшта, як мы ўбачым далей і гэта апошняя рэдакція дае нам магчымасьць дагледзіць некаторыя новыя народныя асновы, якія часьцю увайшлі ў яе зьмест. Але каб ясьнейшым быў нам склад яе, спярша трэба пазнаёміцца з некаторымі рысамі смаленскай легенды-пагудкі з кантаў і хваласьпеваў. Да гэтага паслужыць нам рукапіс Бібл. гр. Уварава № 681, карта 404—420.

Гэты пахвалы вельмі істотна рожняцца сваім зьместам ад народнай рэдакціі, ва ўсіх галоўнейшых пунктах выяўляюць гэткае зыходжаньне з рэдакціяй літэратурнай, што прост сьведчаць аб ачавістым уплыве аднаго літэратурнага твору на другі. Мабыць не літэратурная рэдакція увайшла ў аснову пахвал і разьбілася на часьці, а наадварот—аўтор гэтай рэдакціі карыстаўся пахваламі, прыводзячы ў сыстэму ўсё тое, што было разсыпана ў пахвалах і малітвах з многімі паўтарэньнямі і разпашырэньнямі.

У карысьць гэтай домнеўкі гаворыць адна характэрыстычная падробнасьць у пахвалах, ужо выкінутая ў літэратурнай рэдакціі пагудкі, як анахронізм ці незразумелае збочаньне. Хоць і гаворыцца, што Мэркуры змагаўся з Агаранамі, с Татарамі, напр. на карце 409: „тут перамог многа войск татарскіх“; але шмат часьцей ворагамі Мэркурага і Смаленска называюцца не Татары, а П е ч а н е г і; напр. на адв. 404 к. пахваляецца Мэркуры: „яко злога богаборца цара Батыя набегшы ськінуў і волата перамог і злочынных Печанегаў крэпка паразіў“ 405 адв. „яко зьдзівілася анельскае войска, бачучы тваё крэпкае змаганьне супроць злых Печанегаў“ 412 і адв.— „калі злы богаборац цар Батый бачыў як волата забіў і многае множства печанегаў пабітых, і не важыўся гораду аблогу ўчыніці, і ўцёк пасаромлены ад Багародзіцы, дзіўнейшай заступніцы нашай“ 413 і адв.

Гэтае дзіўнае памяшаньне Татараў с Печанегамі адкінута ў літэратурнай рэдакціі пагудкі, якая, зрэшта, ва ўсіх іншых падробнасьцях выяўляе самае поўнае зыходжаньне з гістарычнымі мяйсцамі кантаў. З гэтага відаць, што ў легендзе ўжо папраўлена тое што было супярэчлівым у яе крыніцах.

Ведама, ў многіх здарэньнях ня трэба зьвяртаць сурьёзнай увагі на анахронізмы і памяшаньне гістарычных фактаў у старадаўных помніках пісьменнасьці, так сама як і ў народнай паэзіі. Але тут памяць аб Печанегах мае не малаважнае значэньне. Ужо неаднаразовае упамінаньне гэтага найменьня, і пры гэтым у хваласьпевах, адкідае ўсякае дапушчэньне аб прыпадковай памылцы або апісцы перапісчыка. Безумоўна так, а не йначы пеялася ў пахвалах Мэркурыю смаленскаму і Прачыстай Багародзіцы, заступніцы горада Смаленска супроць бязбожнага Батья. Калі-б гэтае памяшаньне Татараў з другім народам ня мела ніякага грунту, то, ведама, не с Печанегамі, а хутчэй с Полаўцамі трэбалаб чакаць гэтай прыпадковасьці, бязсэнсоўнага памяшаньня. Памяць аб Полаўцах была яшчэ сьвежай, калі ўкладаліся апавяданьні аб Татарах, тады як Печанегі даўно ужо зышлі са сцэны гістарычных падзей. Аткуль-жа маглі ўзяцца ў пахвалах Мэркураму гэткія упорныя, многаразовыя звароты да народу, здавалася-бы даўно ўжо забытага? Нашто змагаецца Мэркуры з волатам? Гісторыя народнай літэратуры дае нам многа зблізкэньняў рожных падзей і эпох, па сходзтву ідэй ці нават

некатарых падробнасьцяў у двох або некалькіх пагудках, аддзеленых адна ад аднэй стагодзьдзямі.

У кождым здарэньні у Пачанегах смаленскай легенды захаваўся сьлед старэйшай легенды, т о л ь к і н е г і с т а р ы ч н а й, а п о э т ы ч н а й.

Даўныя стасункі с Печанагамі, перадаваныя з вусн у вусны, у народных показках, жывы былі яшчэ тады, калі складалася легенда аб перамозе Мэркурым Батыя. Гэткім чынам у гэтай смаленскай легендзе-пагудцы, скрозь пазьнейшыя падзеі, даходзіць да нас голас народнай пагудкі з тэй раннай эпохі, да якой прыналежаць многіе баечныя апавяданьні Нэстара аб змаганьні Русі з Печанегамі.

Другая падробнасьць, унесеная у літэратурную рэдакцію аповесьці, мабыць, такжа належыць да старадаўных эпічных народных пагудак. Гэта сымволічнае уасобленьне зямлі, як асобы жывой, з самой Багародзіцай. Якбы там не было, толькі поэтычны плач М а ц і З я м л і, і пачынаецца і канчаецца малебным зваротам да Б о г а м а ц і. Гэта мейсца у пахвалах Мэркурыю заслужывае асаблівай увагі для гісторыі паэзіі ў зьвязку з народнай верай. Вось яно:

„Маці Цара і Госпада славы, Маці Бога Эмануіла, Маці, якая радзіла ўсяго жывога Стварыцеля, Маці, якая радзіла збавіцеля і спаса душ нашых, цябе істую Багародзіцу ўсе роды выслаўляем“. Зара за гэтым зваротам ідзе 6-я песьня гэткага зьместу: „Калі было злых Ізмаліцянаў вялікае паняволеньне, тады зямля ўсплакалася як якая дзеталюбівая маці, мы-ж тады ўзрадаваліся, і ўзвесяліліся, бачучы божае міласердзе і Прачыстай Багародзіцы абарону, і мукі ваяра хрыстовага пабожна хвалім. Калі было ад няверных прававерным стагнаньне, вялікая маркота і крык да Госпада Бога, тады наша маці зямля жарлом (г. зн. горлам, голасам) застагнала, клічучы: Дзеці мае! дзеці мае! угнявілі Госпада свайго, а майго Стварыцеля і Бога! Мы-ж тады да Госпада Бога і да Прачыстай Багародзіцы пакорна усклікнулі, кажучы: заступніца наша Гаспаджа Багародзіца! збаў нас ад барбарскай навалы і злога паняволеньня. Тагды зямля бачучы (гэта) заплакала, што ад пазухі яе прававерныя адрываны і пасяканы былі; тагды мы рукі ўзьняўшы са ўздыханьнем сьлёзы пралівалі, молючыся Хрысту Богу і Прачыстай яго Маці, клічучы і кажучы: Слава Табе Ісусе сыне Божы! Слава Табе, сьвятая Багародзіца, збаў нас ад агаранскага гвалту і горкага тамленьня! Калі-ж нам даравала стократнае і міласэрнае заступніцтва, Гаспаджа і Багародзіца, тады ўсклікнулі да Багародзіцы шчыра молючыся, сьлёзы пралiваючы і кажучы: Прасьвятая Гаспаджа і Багародзіца! Ты збавіла род хрысьціянскі ад пякельных мук, і цяпер нас збавіла ад паганскай навалы, і злога і агіднага паняволеньня і пасячэньня! Мы-ж цябе, Багародзіцу, сьпевамі славім і вялічаем і пакланяемся Прачыстаму Твайму абразу.“

Перш пакуль установім літэратурнае значэньне гэтага мейсца, трэба дзеля яснасьці, прыпомніць, што мастацкая форма уасобленьня зямлі, хоць і згаджаецца з народным мітолёгічным выабражэньнем аб М а ц і С ы р о й З я м л і, але ў нашу духоўную літэратуру увайшла праз Візанцію і падтрымлівалася старахрысьціянскай літэратурай (Зраўняй „Златаструй“ у 135 слове „Плач зямлі з морам“)

Поэтычнае уасобленьне зямлі ў вачах нашых пабожных прашчураў ня толькі ня мела ў сабе нічога паганскага, але нават прыпамінала сьвятарныя выабражэньні мастацтва і літэратуры. У гэтым здарэньні, як і ў шмат якіх другіх, народныя, сваяземныя вераньні знайшлі сабе пацьверджаньне у чу-

жазамнай штучнай літэратуры, здаўна прынесенай да нас у перакладах. Якія-бы не былі погляды пры уасобленьні зямлі ў смаленскай легендзе, мясцовыя, крыўскія, ці візантыцкія, у кождым здарэньні мяйсцовае і гістарычнае дапасаваньне іх, дае ім чыста народны характар. У данным здарэньні тут разумеецца толькі З я м л я К р ы ў с к а я. Яна жаліцца на навалу татарскую, як на няшчацьце робленае бытцам-бы жыхарамі не зямлі, а нейкай другой, бязбожнай краіны. Гэткае нелёгічнае звужаньне паняцьця аб зямлі, гэткае зацесьненьне гэтага паняцьця да вядомага краю, гэта самы звычайны сьветагляд у эпічнай паэзіі. Праўдзівая зямля—толькі тая на якой жыве крыўскі народ, гэта крыўская зямля; ўсё іншае, што акружае гэтае жыльлё праўдзівых людзей, праўдзівых хрысьціянаў—напоўнена воражымі, праклятымі сіламі, нягоднымі збаўленьня і засужданымі на вечную пагібель.

І так, уасобленьне у смаленскай легендзе, з паняцьем аб зямлі злучае выбражэньне зямлі крыўскай. Яна—дзеталюбівая маці ўсіх прававерных—бачучы як а д п а з у х і яе прававерныя вырываюцца і пасякаюцца, застагнала і клікнула: „О, дзеці мае! загнявілі вы Госпада свайго, а майго Стварыцеля і Бога. Але калі так смуцілася зямля—і прававерныя зьвярталіся з ўдзячнай малітвай да Багародзіцы і яе справядліўца Мэркурага аб ратаваньні- горада Смаленска і ўсей зямлі Крыўскай, то ў гэтым урочысным лірызме сьпеву, жыва чуецца, як М а ц і—С ы р а—З я м л я, гэта Маці ўсіх людзей, пакорна перадае сваё заступніцтва Маці Нябеснай.

Плач і тамленьне зямлі ад навалы татарскай, шчырасьцю і сьвежасцью лірызма, прымушае думаць, што гістарычныя асновы смаленскай легенды злажыліся ў эпоху змаганьня з татарамі. Калі народная рэдакція смаленскай легенды пераносіць нас у дагістарычныя часы народнага эпосу, і калі Печанегі, што ўпамінаюцца ўпахвалах, паказуюць на сляды яшчэ старэйшых пагудак; то плач Крыўскай зямлі аб гібелі прававерных ёсьць адзін з найдаражэйшых помнікаў нашай паэзіі.

Цяпер зьвернемся да другіх падробнасьцяў у пахвале Мэркураму. Усе яны, як вышэй заўважана, увайшлі у літэратурную рэдакцію легенды, выключаючы дзьве, аб якіх мова будзе ніжэй.

Народная рэдакція нічога няведае аб паходжаньні магута, ці прынамні не гаворучы аб гэтым—лічыць Мэркурага крывічом. Але ў пахвалах ён называецца ўжо Рымлянінам: „Рым пакінуўшы да нас прыйшоў ты; багацьце рымскае пакінуў і прыняў багацьце на нябёсах, і цяпер з анёлемі пасяліўся. „Рымскае княжэньне і славу марную за нішто палічыўшы, пакінуў княжэньне, і прыняў царства нябеснае і цяпер жывеш з асобамі анельскімі. Рымскіх бацькоў сваіх пагардзіў, адзіна зажадаўшы за веру хрыстову кроў сваю праліці і за прававерных, веручых ў Госпада і дзеля гэтага весялішся ў сёлах нябесных“.—„Рымлянін родам будучы, але верай праўдзівай аслонены, а не палуверьем хворы; хітрага ваяра застыдзіў, волата з сынам пабіў, і вянечнік хрыстоў явіўся і да славы радаснай далучыўся: дзеля гэтага сьвятарную яго памяць сьвяткуем цяпер“.

У пахвалах гаворыца аб узросьце героя :„малады целам, сьвяты душою, верою пабожны, па добрачэсьлівасьці паборнік, за прававерніцтва мучанік“

Подробнасьці самой легенды перадаюцца гэткім чынам: „ Пачнем датыкаці духоўнай бясёды, мукі успомнім справяддіўца і мучаніка Хрыстовага Мэркурага, калі агідны і богапраціўны цар Батый напаў на горад наш з многім множствам барбараў, хочучы горад наш апустошыць, а нас загубіць; але Богам і Прасьвятой яго Мацею і мукамі справядліўца ваяра хрыстовага,

уратаваны быў горад і людзі. Паводле зьеставаньня Сьвятой Багародзіцы, прыйшоў сьвяты у Багародзічную цэркву, і знайшоў сьвячу гарачую перад самой іконай Гаспаджы Багародзіцы, ад яе вышаў голас панамару, і паў сьвяты перад абразом цудоўным, пачаў маліцца: Гаспаджа Багародзіца! будзь памочніцай на супраціўных гэтых. І також голас быў ад іконы прасьвятой Багародзіцы і відзежа сьвятому, бязбожных знаходжаньне, і паслала перамагчы іх сіхай Хрыстовай. Ад цудоўнай іконы прачыстай Багародзіцы быў голас мовячый: слуга мой Мэркуры! ідзі злачыннага Батыя і ізмаіліцкіх людзей агразі; нявольных звольні дарам Хрыстовым; дом мой і горад і людзей бязбеднымі ўчыні. Ад прачыстага і цудоўнага абраза Прасвятой Багародзіцы быў голас прадобраму ваяру Хрыстоваму: Слуга мой Мэркуры! ідзі і забій сілнага волата, злачыннага цара Батыя і паганых Агаранаў пражані; божай прасьвядай людзі і горад ад іх уратуюцца. Прачыстая Гаспаджа і Багародзіцца! руплівая наша заступніца! крэпкая дзяржава, непераможны ваевода гораду нашага, маючы ў сваім горадзе гэткага ваяра і справядліўца свайго Мэркурыя, і так сьвятога пасылала агразіць і перамагчы зловерных і прагнаць ад аблічча нашага“.—“Калі прайшоў сьвяты гарадзкія вароты і сьцены безперашкодна (ў арыгінале: „бещука“, без ущука), і дайшоў злоіменнага цара Батыя ўжахнуўся, і немаччу абложанага сільнага волата перамог, а іншых ізмаіліцкіх людзей мячу аддаў, і астаўшыя кінуліся на ўцекі: іварнуўся сьвяты да сьветлага вянца радуючыся“.—„Прышоўшы сьвяты на месца, дзе сказала сьвятая Багародзіца і тут парамог многа войск татарскіх і астаўшыяся барбары разьярыліся сэрцамі і разгарэліся марнадумнымі душамі на богахоўны горад Смаленск. І бачылі жанку правялікую і прасьветлую сонцападобную с мноствам войск нябесных, і спужаўшыся, скора ўцяклі ад нас“. —Аб забіцьці сьвятога у адным мейсцы сказана глуха: “Калі злыя Агаране адсеклі галаву сьвятому Мэркурыю, і ўзяў яе сам сьвяты і прынёс у горад, перад усімі людзьмі гаварыла і пеяла галава, як адбывалася перамога і якое ад Багародзіцы заступніцтва і сьвятому ад яе дапамога“. Але ў другім мейсцы больш акрэсьлена: „Скончаўся, сьвяты, ад волата, Мэрыю, мячом усечана галаву“.

З пададзеных выпісак відаць, што песьні гэты былі уложаны ў Смаленску, які дзеля гэтага і называецца заўсёды: н а ш  г о р а д. Што датыча да часу калі складаліся гэты пахвалы у іх даканчальным выглядзе; то трэба аднясьці іх да першай палавіны XVI ст. У гэтым-жа часе была уложна і літэратурная рэдакцыя смаленскай легенды якая увайшла у Макарьеўскія Четьі-Мінэі. Аб гэтым сьведчаць гэткія мейсцы літэратурнай рэдакціі: ...„у с х о д н а й  с т а р а н е  б ы л о  в я л і к а е  р а д а в а н ь н е  у с е й  р а с і й с к а й  з я м л і  с а м а д з е р ж ц у  г а с у д а р у  н а ш а м у  ц а р у  вялікаму князю“.—„І цяпер савяты выпрасі ц а р у  і  г а с у д а р у  н а ш а м у вялікаму князю здароўе і на супастататаў перамогу“.

Што да зьместу літэратурная рэдакція рожніцца ад пахвальных вершаў ў трох пунктах:

1) прапушчана вестка аб Печанегах;

2) прапушчана апавяданьне аб уцеканьні Батыя у Угры;

3) дададзена аб забойстве Мэркурага сынам паваленага ім волата.

Зрэшта апошні пункт, які не ўвайшоў ні ў народную рэдакцію, ні ў хваласьпевы, здаецца ня цьвёрда быў яшчэ устаноўлены, калі смаленская легенда была ўнесена ў Макарьеўскую Чэтью-Мінэю: дзеля гэтага аб забойцы Мэркурага ў ей сказана глуха: „варварын лют или сын того исполина“. Але пасьля гэта неакрэсьленнасьць была заўважана і папраўлена; і па сьпіс-

ку XVII ст., разьдзяляючы злуч выкінуты, і забойства прыпісана „лютому варвару, сыну исполина“.

Разглеўдзіўшы галоўныя матывы смаленскай легенды аб Мэркурым, ў выніку спробуем даць вывады.

1) У аснове смаленскай легенды захаваўся найдаўнейшы народны міт аб маладым веснавым сонцу, якое ў постаці ярага грамавіка пабівае агіднага волата—духа цемры і холаду. Калі-ж пад ўплывам новай хрысьціянскай веры даўныя багі пачалі замяняцца ў людзей, то мясцовы міт прыбраў рысы нацыянальнага героя і яго дзеяньні былі зьвязаны з даўнымі, але яшчэ памятнымі народу змаганьнямі з Полаўцамі. Як ведама Смаленская зямля не была паярэмлена Татарамі і гэтае апошняе здарэньне само-сабой было народам прыпісана сьвятому Мэркураму. Згэтуль атрымалася памяшаньне ў хваласьпевах Полаўцаў і Татараў. Дамешка ў гэту гісторыю Ізмаіліцян і Агаран паказуе на тое, што сьпевы і нават т. з. народная легенда, прайшлі праз рукі кніжнікаў і былі перанесены духавенствам на грунт хрысьціянскі. Літэратурная рэдакція унесеная ў Чэты-Мінэі апрацавана была пасьля заваеваньня Смаленска Масквой, знача пасьля утраты Смаленскам сваей незалежнасьці. Нацыянальны міт заваеванай зямлі заваёўнікі зрабілі спробу анэктаваць, пераносячы яго цалком на грунт змаганьня паярэмлянай Русі з Татарамі. Гэткую, меней-болей, эволюцію прайшоў смаленскі міт,—аб ярым Пяруну пабіваючым Кашчу зімы і халадоў,—ў сваім гістарычным паходзе ад часоў глыбокай паганшчыны да хрысьціянства і, ўрэшце, да часаў утраты сваей незалежнасьці Смаленскам.

2) Смаленская легенда аб Мэркурым носіць глыбока нацыянальныя рысы; гэта герой выключна Крыўскай зямлі,які дбае выключна аб сваім горадзе і сваім народзе прававерным, ў стасунку да якога ўсе акружаючыя яго зьяўляюцца няверными, барбарскімі. Сьвяты Мэркуры, паводле легенды зьяўляецца няўсыпным стражам сваей зямлі. На яго гробе смаленцы пераховывалі яго зброю і копье, якія служылі нацыянальнымі рэгаліямі, бо іх надзевалі на вянчаных крыўскіх князёў, і ня толькі Смаленскіх але і Полацкіх; дзеля якой мэты ў важнейшых крыўскіх цэнтрях, ў мясцовых святынях, пераховываліся, як нацыянальныя рэліквіі, часьці зброі св. Мэркурага. Веручы у тое, што нацыянальны Крыўскі герой уставаў з гробу, узбраіваўся ў сваю зброю, садзіўся на вешчага каня і выступаў ў кождай вайсковай патрэбе краю, падсунула мысьль Крыўцам выабражаць св. Мэркурага на дзяржаўных пячатках і дзяржаўных сьцягах. І, запраўды, на ўсіх княжых пячацях, часоў дзяржаўнай самаістасьці крыўскіх земель, мы бачым два выабражэньні: Багародзіцу з аднэй стараны і св. Мэркурага на кані з другой стараны (пры абастаронных алавяных пячатках, прыкл. пры грамаце надрукаванай ў № 2 „Крывіча“, стр. 52).

Што датыча імя героя—Мэркуры—то яно праўдападобна падмененае ў хрысьціянскія часы, такжа як ў зах. славянаў дзе замест паганскага Сьвятавіда, атрымаўся—сьвяты Віт. Аснова *мр* ў імені Ільы Мурамца і Мэркурага дае падставу думаць, што абодвы гэты імёны маскуюць сабой з падобнай-жа асновай паганскае імя, ці эпітэт бога Грамавіка. Імя Мурамца—Ілья— дае просты на гэта паказ, бо ўсе атрыбуты Пяруна, як ведама, народ, пад уплывам духавенства перанёс на св. Ільлю. У Кіеўскім Пячэрскім манастыры, між іншымі грабніцамі сьвятых і слаўных людзей, як ведама, істнавала і грабніцы „блажэннага“ Мурамскага ваяра Ільлі. Раннае заваяваньне Кіева варагамі прычынілася да ператварэньня мітычнай постаці Украінскага героя Ільлі ў княжага слугу, і, наадварот, сэпэратыстычны, а пазьней, па доўгім змаганьні, цалком незалежны Смаленск з мітычнай постаці мясцовага магута, вы-

тварыў ідэальную постаць націянальнага героя, а пазьней, згодна з духам часу, націянальнага сьвятога.

Што датыча сьцяцьця Мэркурага сьветлай нябеснай постацьцю, то абясьненьне гэтага эпізоду знаходзім ў быліннай аповесьці аб тым як перавяліся магуты на Русі. Пры пераходзе ад стараславянскай міфалёгіі да хрысьціянскай, стярыя багі павінны былі замерці, бо мейсца іх заступалі новыя. І гэты пераход ад аднэй да другой эпохі, славянская быліна прадставіла, ў той спосаб, што не земная сіла перамагла старых магутаў, якую яны-ж самі выклікалі на бой. Супроць сямёх славянскіх магутаў зьявілася двое „сілы нетутэйшай" і што магуты перасякуць іх на двое, то становіцца іх ўдвое болей і ўсе жывы. Урэшце атрымалася з дваіх супроць магутаў сіла незлічоная:

Спужаліся магуты харобрыя
Пабеглі ў камянныя горы, ў цёмныя пячэры...
Як дабяжыць магут да гары, так і скамянее;
Як дабяжыць другі, так і скамянее;
Як дабяжыць трэцьці, так і скамянее...

З ліку старых магутаў не скамянеў адзіна св. Мэркуры, дзякуючы заступніцтву Багародзіцы і апякаваўшамуся гэтым мітам духавенству. Хоць і прыняў ён сьмерць, нараўне з іншымі старымі магутамі з рук „сілы нетутэйшай", але прыняў яе як прававерны хрысьціянін, за хрысьціянаў, і быў самой Багародзіцай перанесены ў цэркву і паложаны ў грабніцу.

Да цыклю легенд аб св. Мэркурым цесна прымыкае другая смаленская легенда з XI ст. „Аб дзевах смаленскіх яко ігры тварылі:

„Было ад горада Смаленска за 30 попрышч па Чарнігаўскай дарозе. Здарылася быць на вялікім полі бязстыднаму шалу. Многа дзеў і жон зышліся на бесаўскае зборышча, непрыстойнае і грэшнае, у ноч, ў якую радзіўся П е р а с ь в е т л а е  С о н ц а—вялікі Іоан Ксціцель, першы пакаяньню прапаведнік, дзеля яго нарадзін ўсякае стварэньне невымоўна ўсьцешылася. А гэты акаянныя, бесам навучаныя былі. І захацеў Госпад Бог пакараць іх ў навуку людзям, і паслаў да іх св. Вялікамучаніка Юрья. Сьвяты зьявіўся перад імі і гаварыў ім, каб яны перасталі такога шаленьня, але яны непрыстойна яму пярэчылі з вялікім сорамам. Тады ён пракляў іх, і ўсе яны той час-жа акамянелі, і цяпер у полі тым бачны, стаяць як людзі; у навуку нам грэшным, каб так не рабілі, і не былі з дзьяблам засуджаны на муку вечную".

Вышэй мы бачылі, ў апісаньні сьмерці Мэркурага, незразумелы эпізод, калі выйшоўшая па ваду дзеўка лаяла ўходзячага ў горад сьвятога. Тут так-жа, дзеўкі лаюць св. Юрья. Ў першым і другім здарэньні благое карае цудоўны вяяр (у першым здарэньні ворагаў, у другім дзячат якія справўлялі Купальле.) Пры гэтым цікаўна, што эпітэт П р а с ь в е т л а е  С о н ц а перанесена на св. Іоана. Дзякуючы ўсім гэтым азнакам, легенду „Аб смаленскіх дзевах" трэба лічыць варьянтам з цыклю легенд аб св. Мэркурым.

З усяго вышэйсказанага відаць, што смаленская легенда, як націянальна літэратурны помнік, ня толькі ня ўступіць вялікім нацыанальным эпічным творам заходняй Эўропы, але глыбокай злітнасьцю сваей з перажываньнямі народу, шмат якіх з іх перавышае.

Др. ЗЭНОН КУЗЕЛЯ.

# Навуковае Таварыства імені Шэвчэнкі у Львове.

У гэтым годзе мінецца 50 гадоў з таго часу, калі ў Львове было заложана цяперашняе вельмі заслужонае „Навуковае Таварыства імені Шэвчэнкі“ якое з малых зачаткаў разраслося ў дужа паважную установу, што можа раўняцца нават вялікім сьветавым Акадэміям Навук. З невялічкага кружка „літэратараў“ 70-х гадоў, „Таварыства ім. Шэвчэнкі“ сталася перад вайной вялікім асяродкам украінскай навукі і разьвіло вельмі багатую і рожнаякую дзейнасьць, каторая дабыла яму ня толькі ў сваіх, але і далёка паза межамі краю значэньне „Украінскай Акадэміі Навук“.

„Навуковае Таварыства ім. Шэвчэнкі“ належыць да найстарэйшых украінскіх таварыстваў ў Галічыне калі не лічыць „Стаўропігіяльнае брацтва“ (заложанае ў Львове яшчэ ў XVI ст.!) і „Народны Дом“ (заложаны ў Львове ў 1846 г.), якія хутка апынуліся ў маскаляфільскіх руках. „Таварыства ім. Шэвчэнкі“ было пасьля львоўскай „Прасьветы“ (заложанай ў 1868 г.) другім з чароду украінскім таварыствам у Галічыне. Яго залажылі з пачыну прыднепроўскіх Украінцаў, галоўна-ж працай няб. Алекс. Конiського і праф. Зьм. Пільчикова, якія ня маючы на Вялікай Украіне, пад цяжкім маскальскім ладам, змогі яўна працаваць на карысьць украінства, хацелі у Львове стварыць паважны асяродак украінскай літэратуры і навукі. З гэтай мэтай яны і сабралі вялікую на тыя часы суму 6000 зал. рублёў (каля 18.000 аўстрыяцкіх карон) і перадалі іх львоўскім народнікам (паміж якіх былі—Карніла Сушкевіч, Юльян Раманчук), яны за гэны грошы ў 1870 г. купілі друкарню і аддалі яе новазаложнаму таварыству, названаму ў пашану найбольшага украінскага паэты „Таварыствам ім. Шэвчэнкі“.

Новае Таварыства, зацьверджанае галіцкім намесьніцтвам 11 сьнежня 1873 г., паставіла сабе мэту „памагаць разьвіцьцю украінскай славеснасьці і дзеля гэтага выдаваць украінскія кніжкі, часопісі“; разьвівалася яно паволі, агранічаючы сваю чыннасьць сьпярша толькі да кіраўніцтва бездаходнай друкарняй, а ад 1885 г. прыступіла яшчэ да выдаваньня літэратурна-навуковага журналу для сямьі „Зорі“, які ў 1898 г. быў перамянаваны ў „Літэратурно-Науковий Вістнік“,

Жывейшае і шырэйшае жыцьцё ў „Таварыстве“ пачалося толькі ў 1892 г., калі за старшынства няб. д-ра Юльяна Пелевіча дацяперашняе „Літэратурнае“ Таварыства было перамянована ў „Навуковае“, якое паставіла сабе мэтай разьвіцьцё украінскай навукі.

Таварыства перэарганізаванае на спадобу заходна эўропэйскіх акадэмій, а ласьне аддзелены адміністрацыйныя Функціі ад навуковых, заведзен падзел „Таварыства“ на навуковыя сэкціі, якія выбралі так званых „дзейсных“ членаў за іх навуковую чыннасьць, ды прыступілі да выдаваньня ўласнага навуковага органу „Запісак“. За часаў пятага старшыні „Таварыства“ праф. Александра Барвінського (1895—97) навуковая чыннасьць „Н. Т. і Ш.“ пашырылася яшчэ больш, асабліва з момантам калі да актыўнай працы прыступіў новамянаваны прафэсар львоўскага унівэрсытэту, Міхайла Грушевський, і пераняў рэдакцію „Запісак“ і іншых навуковых публікацій. Тады „Таварыства“ узяло на сябе (1894) выдаваньне „Часописи Правнічої“ і „Історичної Бібліотеки“ і прыступіла да выдавецтва новых сэрый як „Жерела до історії України Руси“

і „Збірник Мафематично-природописно-лікарскої секції“ ды выпусьціла ў сьвет між іншым 4 томы Шэвчэнкавага „Кобзаря“ і зборнае выданьне твораў С. Руданьского. Але розквіт „Навук. Таварыства імені Шэвчэнкі“ прыпадае на часы доўгалетняга старшынства праф. М. Грушевського, які пры дапамозе і ўдзеле такіх стойкіх працаўнікоў, як нябошчык др. Ів. Франко, даўгалетні сэкрэтар Таварыства Вал. Гнатюк, заст. старшыні др. Томашивський, паставіў Н. Т. і Ш. на запраўды эўропэйскую ступень і зрабіў з яго запраўдны асяродак навуковага руху цэлае Украіны. За яго старшынства давेдзена была да канца рэарганізацыя Таварыства і далучэньне да Таварыства немаль усіх украінскіх вучоных ня толькі аўстрыяцкай, але і тагочаснай расійскай Украіны.

Н. Т. і Ш. з тых часаў дзеліцца на тры сэкціі, пры якіх істнуе 7 камісій. Гэты сэкціі:— 1) гістарычна-філёзафічная якая займаецца перш за ўсё украінскай гісторыяй, 2) філёлёгічная, якая досьледуе украінскую мову і літэратуру і 3) матэматычна-прыродапісная пасьвячоная досьледам матэматычных і прыродапісных навук. Камісіі займаюцца разборам паасобных галін навукі або навуковых пытаньняў і так: 1) археографічная—зьбіраньнем і досьледам матэрьялаў да украінскай гісторыі і літэратуры, 2) бібліографічная— сьпісываньнем і опісьсю украінскіх выданьняў, 3) этнографічная— зьбіраньнем і досьледам украінскай народнай творчасьці, песень, казак, прыказак, звычаяў і абрадаў, вырабаў і г. п., 4) гісторыі мастацтва— украінскім мастацтвам, 5) статыстычная— статыстыкай, 6) клясычнай філёлёгіі— лацінскай і грэцкай філёлёгіяй, 7) фізіографічная— апісаньнем украінскай тэрыторыі і 8) моваведчая— досьледамі над украінскай мовай.

У гэтых сэкцыях і камісіях згуртаваліся дзеля навуковай працы звыж 50 запраўдных членаў, між якімі былі і ёсьць вучоныя эўропэйскай славы (як прыкл. праф. Г. Пулюй, І. Горбачевський, І. Франко, М. Грушэвський, Хв. Вовк, В. Ягіч, О. Шахматов, Т. Корж, Бодуэн-дэ-Куртэнэ, Ю. Полівка, А. Ензен) ды ўсе выдатныя украінскія вучоныя (як прыкл. Барвінський Ол. і Богдан, Василенко М., Верхратський К., Возняк М., Гнатюк Вол., Дністрянський Ст., Житецький І., Крипякевич І., Кримський А., Левицький Ор., Лотоцький О , Раковський І., Рудницький Ст., Свенцицький І., Стебельский П., Стоцький Стефан, Студинський К., Томашівський С., Е. Тимченко, В. Щурат і інш.). Акром членаў у сэкціях і камісіях Н.Т і Ш. працаваў і працуе цэлы рад малодшых супрацоўнікаў, якім Таварыства давала магчымасьць навукова працаваць, даючы ім дапамогу на студзіі, падарожы і працы, узасоблюючы іх ў кнігі ды даючы ім спасобнасьць зьмяшчаць свае працы ў органах Таварыства.

Дзеля умагчымленьня навуковай працы сарганізавалі пры „Таварыстве“ бібліотэку, злучаную з навуковай працоўняй, і музэй дзеля аблягчэньня выдавецкай чыннасьці; пашырылі згодна патрэбам друкарню; аткрылі 1904 г. ўласную кнігаклейню з 25 работнікамі і аткрыта 1999 г. найбольшую сягоньня украінскую кнігарню у Львове (Книгарня Н.Т. і Ш.; (Ринок ч. 10).

Ведаючы з доўгалетняй практыкі, што безперашкодна можна працаваць толькі ва ўласнай хаце, прыступлена ў 1898 г. (галоўна грашмі праф. Пелехіна) да набыцьця сваей камяніцы пры вул. Чарнецскага ч. 26 (за 240.000 аўстр. карон , да якой ў 1912 г. дакуплена для музэю і бібліатэкі вялікую сумежную камяніцу пры вул. Чарнецкага ч. 24 (за 400.000 аўстр. карон). Кром таго Н.Т. і Ш. збудавала (пашкоджаны пасьля Маскалямі ў часе маскальскай окупаціі, і, прошлага году, Палякамі ў часе нападаў на будынкі

украінскіх культ. установ), так званы „Академічний дім“ пры вуліцы Супінскага ч. 21, у каторым сягоньня месьціцца гімназія С. С. Васільянак, а ў апошніх часах 1921 г. куплена коштам фонду ім. д-ра Т. Дембицького камяніцу пры вул, Панскай ч. 21 (за круглых 10 мільёнаў польскіх марак).

Навуковая чыннасьць Н. Т і Ш. вельмі багатая, так, што даўно ўжо зьвярнула на сябе ўвагу чужога навуковага сьвету. Таму што выдавецтвы Н. Т. і Ш., пры ўсей цікавасьці і цэннасьці, чыталіся і чытаюцца, на жаль, толькі вучонымі спэціялістамі, я пастараюся тут пералічыць іх і падаць найважнейшыя працы, якія там памешчана.

1. Органам Н. Т. і Ш. ёсьць „Записки Наук. Товариства ім. Шевченка“, якія пачалі выхадзіць 1892 г. і ад 1896 г. выходзілі рэгулярна што два месяцы. Дагэтуль вышла 133 вялікіх томы. У „Записках“, зьмест якіх апрацовуе цяпер д. В. Дорошенко, зьмешчана каля 1000 паважных разьведак з дзедзіны украінскай гісторыі, гісторыі літэратуры, этнографіі, гісторыі культуры і г. д. У „Записках“ прыняло дагэтуль удзел у адным толькі аддзеле разьведак каля 150 вучоных, між імі—, акром выш пералічаных— Бурачинський В., В Бирчак, І. Брик, С. Балей, В. Будзиновський, К. Грушевська, М. Галущинський, О. Грушевський, В. Герасимчук, Яр. Гродинський, Б Гринченко, В. Гребеняк, І. Джиджора, В. Доманицький, В. Дорошенко, С. Ефремов, Жаткович Ю , П. Зайців, І. Зілинський, М. Зубрицький, Я. Залізняк, І. Копач, З. Кузеля, Ю. Кміт, І. Кокорудз, Д. Коренець, О. Кониський, В. Копцовський, В. Модзалевський,—О. Маковей, О. Макарушка, О. Новицький, І. Огіэнко, В. Охримович, В. Перетц, М. Петров, М. Павлик, Ю. Романчук, О. Сушко, Г. Стрипський, гр. М. Тишкевич. В. Щербаківський і інш. Асабліва важныя былі да вайны агляды літэратуры і бібліографічны аддзел, у якім зьмяшчаліся крытычныя ацэны і рэфэраты на ўсе украінскія працы, стацьці і агулам публікацыі ды на ўсе чужаземныя друкі аб Украіне. „Записки“—гэта такая бяздонная крыніца ўселякага цэннага матэрьялу да пазнаньня Украіны, што бяз іх сягоньня ніхто ня можа абыйсьціся, хто займаецца украінаведаньнем.

Працай трох істнуючых сэкцій выходзяць невялікія абоймам зборнікі сэкцій, якія зьмяшчаюць большыя спэціяльныя працы або закругленыя зборнікі матэрьялаў.

2. І так „Збірник істор.-фільос. секції“ сарганізаваны ў 1899 г. месьціць у выданых дагэтуль 16 томах перш за ўсё 8 томаў вялікай „Історії України“ (ад найдаўнейшых часаў да палавіны XVII ст.) М. Грушевського, далей „Матеріяли до культурної історії Галичини“ (том V.) і монографію Ю. Новицького: „Т. Шевченко, як маляр“, Львоў-Масква, 1914 (том XVI).

3. Ад 1906 г. Сэкція пачала выдаваць „Українсько-Руський Архив“ і выдала дагэтуль 15 томаў, а ласьне бібліографічныя працы Д-ра І. Сьвенціцького (Т. І, VI і VII). „Матеріяли до історії селянства Галичини в XVIII—XIX ст. Франка (т. І.), „Матеріяли до історії національного відродження Українців у Галичини 1830—1840“ М. Тершаківця (Т. III), „Матеріяли до історії укр. шкільництва в Галичині в XVIII—XIX ст.“ — (Т. IV), „Фільольогічні праці Ів. Могильницького“ М. Возняка (Т. V.), „Боротьбу за науку в Галичині в 1859 р.“ І. Франка (Т. VIII), „Матеріяли до історії української поезії і віршів“ М. Возняка (2 т. IX і X), „Матеріяли до культурного життя в Галичині в 1795—1867. „Замітки і тексти д-ра К. Студинського“ Львоў 1920 (Т. XIII і XIV) і „Матеріяли до історії українсько-ческих взаїмин у 1 полов. XIX ст.“ (1921, т. XV) д-ра І. Брика.

4. „Збірник фільол. секції“ пачаў выхадзіць ад 1898 г. (дагэтуль выйшла 19 томаў) і месьціць між іншым вялікую двохтамовую біографію Т. Шэвчэнко, О. Конисьского, чатыры томы фольклёрных твораў М. Драгоманава, том писаньняў Дикарева, перапіску Головацького, д-ра Студинського і інш. За час вайны выйшлі томы: XVI, „До історії культурного і політичного життя в Галичині у 60-х рр. XIX ст.“ Яр. Гординського (1917) і т. XVII—XVIII „Львівська духовна семинарія в часах М. Студинського. (1916).

5. Філёлёгічная сэкція выдае ад 1902 г. „Українсько-руську бібліотеку“ і ў выданых дагэтуль вялікіх 8 томах месьціць крытычныя выданьні украінскіх клясыкаў, пакуль што „Кобзаря“ Шэвчэнкі у выданьні Франка і „Поўнае выданьне твораў Ю. Федьковича“.

6. Ад моманту перамены „Записок“ у агульны орган абыймаючый украінаведаньне, паўстаў у 1897 асобны „Збірник матем.-природописно-лікарської секції“, які сьпярша дзяліўся на дзьве часьці (лекарская асобна) і дагэтуль дайшоў 21 тому. Тут памешчаны між іншым вельмі цэнныя тэрмінолёгічныя працы Вехратського, В. Левицького, І. Горбачевського, С. Рудницького, а далей, цэлы рад паважных на спэціяльныя тэмы студзій.

Далейшыя публікації выходзяць працай камісій. І так археографічная камісія выдала ад 1895 г. дагэтуль 11 томаў „Жерел до історії України“, у якіх памешчана 4 томы „Описів королівщин в Галичині в XVI ст.“ М. Грушевського (т. т. I, II, III, VII), „Галицькі акти й хроніки з 1648—49“ С. Томашівського (т. VI) „Акти до історії українських козаків 1648—1657“ М. Кордуби (т. XII), „Літопись І. Марковича“ (т. XXII). У часе вайны вышаў том XIV: С. Томашівський „Ватиканські матеріяли до гісторії України т. І. вип. І.: донесення римських нунціїв про Україну в р. р. 1648—65 (Львів 1919).

8. Далей 7 томаў „Памяток української мови ї літератури“ пасьвячаных старой украінскай літэратуры. Тут паявілася між іншым цэнная некалькітомная праца Ів. Франка аб' стара і новазаконых апокрыфах і „Вірші Ер. Климентія, Зиновієва сина“ (Выдаў Перетц 1910 г.).

Працай тэй-жа Архэографічнай камісіі выданы яшчэ фотографічныя перадрукі першага выданьня „Енеїди“ Котляревського з 1798 г. і „Кобзаря“ Шэвчэнкі з 1840 г.

9—10. Найжывейшую выдавецкую дзейнасьць праявіла і праяўляе заснаваная ў 1898 г. Этнографічная камісія, якая выпусьціла дагэтуль (ад 1895 г.) 38 томаў „Етнографічного Збірника“ і 20 томаў „Матеріялів до української етнольогії“ (ад 1899 г.). Дзякуючы жывой дзейнасьці І. Франка, Хв. Вовка, а асабліва няўтомнага В. Гнатюка камісія патрапіла наўкол сябе згуртаваць шырокі круг супрацоўнікаў з цэлай украінскай тэрыторыі і сабраць аграмадную сколькасьць сьвежага матэрьялу з вусн народу, які збольшага і апавесьціла ў навукова апрацаванай, крытычнай форме з адпаведнымі ўступнымі разьведкамі, паясьненьнямі і паралелямі. Найбольш рэдакцыйнай працы палажыў тут В. Гнатюк і вельмі шкада, што пераважную часьць матэрьялаў камісіі (на найменш 20 томаў друку) панішчылі Маскалі падчас навалы на Галічыну (між іншым поўны збор украінскіх гістарычных песень, прыгатавіны галоўна на аснове не апавешчаных матэрьялаў М. Драгоманава). Гэтак паявіліся ў „Збірнику“ акром паасобных стацей (як т.т. I, II, III, IV, V і інш.) яшчэ зборнікі галіцка-руськіх анэкдотаў Гнатюка (Т. VI), галіцка-украінськіх народных казак О. Роздольського (Т. I і VII), вялікі шасьцітамовы зборнік „Матеріялів з Угорської України“ Гнатюка (т. т. III,

VI, IX, XXV, XXIX, XXX), збор украінскіх прыказак І. Франка (6 томаў— X, XVI, XXIII, XXIV. і XXVII—XXVIII), сабраньне Гнатюка галіцка-руськіх коломийок (3 томы—XVII—XIX), гаівік і риндзівок (т. XII), народных легенд (XII—XIII), народных апавяданьняў аб разбойніках (т. XXVI) і матэрьялаў да украінскай дэмоналёгіі (3 томы—XV, XXXIII—XXXIV), „Похоронні звичаї і обряди“ В. Гнатюка, З. Кузелі і Свенціцького (т. XXXI — XXXII), „Галицько-українські народні пісні Ів. Колеси (т. XI), „Галицько-руські народні мельодії зібрані на фонограф И. Роздольским, списаны й зредагованы С. Людкевичом“ (2 томы XXI—XXII) і „Оповіданьня М. Чмыхала“ выд. Лесевичам (т. XIV). За час вайны выйшлі томы XXXV—XXXIII, а ласьне 2 томы „Колядок і щедрівок“ Гнатюка (1914) і два томы яго-ж „Байок“ (зьвіринного епосу), (1917).

Калі „Етн. Збірник“ дае збольшага шэрыя матэрьялы з вусн народу, то „Матеріяли до укр. етнольогії“ (20 томаў) прыносяць або большыя манаграфіі, або шырэйшыя крытычныя працы з дзедзіны этнолёгіі, антрополёгіі і прагісторыі. Тут надрукавана між іншым, побач томаў са зборнымі разьведкамі (т. т. I, III, VI, X, XI, XVIII, XIX—XX), пяці тамовую працу Шухевича „Гуцульщина“ (т. II, IV, V, VII), пасьмертныя творы Дикарева, 2 томы „Матеріялів Мр. Грушевського про „Дитину в звичаях і віруваньнях укр. народу“ пад рэд. З. Кузелі (т. VIII і IX), „Мельодії українських народних дум“ Ф. Колеси (т. XIII і XIV) і зборнік вясельных звычаяў (X), зборнік „Гаївок“ Гнатюка і г. д.

За час вайны паявіліся томы 16—20 між іншым XVI: Ст. Людкевич „Мельодії укр. народних пісень з Поділля і Холмщини“ сабраныя Л. Плосикевичем і Я. Сенчиком, з прадмовай Ф. Колеси (1916): XVII. І. Раковський „Кости Черемисів з давних гробів у Топтоєві“ (1918).

11—12. Жывую дзейнасьць выказала также „Юродична комісія“, працай якой выйшла за 1900 г. 7 томаў „Часописи Правничої“, перанятай ў 1894 г. ад д-ра К. Левицького, 10 томаў „Часописи Правничої і економічної“ (1900—1912) з працамі С. Дністрянського і П. Стебельського з дзедзіны аўстрыяцкага права. Усе гэты апошнія выданьні пераняло ў 1913 г. „Тов. Правників“.

14. „Бібліографічна Комісія“ пачала з 1909 г. выдаваць „Матеріяли до української бібліографії“ (4 томы), у якіх памешчана прадоўжаньне „Галицько-української бібліографії“, Г. Левицького і т. IV В. Дорошенка „Спис творів І. Франка“ з дадатком стацьцей аб ім і рэляціі яго твораў ч. І в. 1—2044 (1918).

15. У 1919 г. паявіўся 1 том „Праці комісії клясичної фільольогії“.

16. Акром таго паза сэкціямі Н. Т і Ш. выдавала ад 1894—1904 г. далейшы цяг „Історичної Бібліотеки“, якую передтым выдаваў О. Барвінський (да 15 тому) і выдала 9 томаў яе, між гэтым некаторыя працы Кастамарава, працу Пелевича аб разбойніках, Шульгина аб Гайдамаках.

17. Ад 1898 да 1905 коштам Т-ва выходзіў першы паважны укр. літэратурна-навуковы журнал на эўропэйскую ступеню „Літ.-Навковий Вістник“, які пасьля быў перададзены Выдавецкай Супалцы пад рэдакціяй Грушевського, Франка, Маковея і Гнатюка. „Вістник“ які паўстаў замест „Зорі“, быў паважным журналам і гуртаваў каля сябе самых лепшых укр. пісьменьнікаў.

18—19. Для інформаціі аб сваей дзейнасьці Н. Т і Ш. выдавала ад 1900 г., што год на 4 выпускі „Хронікі“ па украінску, якой дагэтуль

выйшла 66 выпускаў, а для інформацііі чужынцаў па нямецку: „Chronik der ukr. Ges. d. Wissenschaften“, якой дагэтуль выпушчана 59 выпускаў.

З гэтага кароткага агляду бачым, якую жывую выдавецкую дзейнасьць разьвіло Н. Т і Ш. ў працягу свайго 50 гадовага існаваньня. Яно выдала акром лічэбных, няраз вельмі абоймістых адбітак (напр. 6 томаў „Історії укр. літератури“ О. Огоновського), каля 550 томаў вельмі паважнага зьместу. Ня менш заслуг мае Т-ва ў разьвіцьці бібліотэчнай і музейнай справы. Бібліотэка Н. Т і Ш. хоць ня можа раўняцца што да сколькасьці Кіеўскай Націянальнай Бібліотэцы, але цэнна тым, што мае камплекты рэдкіх выданьняў па украіна-веданьню як па украінску так і ў чужых мовах, чаму спрыяла тое, што „Товариство абменівалася выданьнямі немаль што ня з 250 навуковымі установамі (Акадэміямі Навук, Навук. Тав. і інш.) цэлага сьвету. Бібліотэка Н. Т і Ш. лічыла ў 1920 г. 25.443 тамоў і мае умелы пэрсонал, на чале якога стаяць цяпер п.п. В. Дорошенко і І. Кревецький. Бяз гэтай бібліотэкі навуковая праца для украінцаў блізка немагчыма. Пры бібліотэцы ёсьць цэнныя архівы, аддзел у якім пераховуюцца сабраньні лістоў і ўсякіх дакумантаў.

Тварыства сарганізавала такжа вельмі прыгожы музэй, які цяпер— ад 31. X. 1921 г.—агульнадаступны. У канцы 1920 г. музэй меў каля 20.000 рэчаў, з якога ліку прыпадала на археолігічны аддзел 6.285, этнографічны аддзел 9.748, прыродазнаўчы 1.039, архіў карт 450 нумароў. У музэю асабліва прыгожы і багаты сабраньні старарускіх стараветнасьцяў і пісанак.

Н. Т і Ш. праз свае жывыя зьвязі з навук. установамі і праз удзел у міжнародных зьездах вырабіла укр. навуцы права грамадзянства і між чужымі.

З прычыны свайго юбілею Н. Т і Ш. выдае асобны Навуковы Зборнік і робіць захады аб прыдбаньні фондаў на далейшую працу.

У гэтым кірунку трэба яму пажадаць як найлепшых вынікаў.

Бэрлін, восень 1923.

---

К. ЕЗОВІТАЎ.

# Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада.

25. XI. 1917. — 25. XI. 1924.

6 лістапада гэтага году спаўнядцца 7 гадоў з таго часу, як у Менску запачаткавана была Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада.

Створана яна была пастановай „Зьезду Беларусаў-Ваякаў Заходняга Фронту і прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў XII арміі, Балтыцкага флоту і Румынскага фронту“, які адбіўся ў Менску 18—25 кастрычніка 1917 г. па стараму стылю, або, пераводзячы на новы,—31 кастрычніка—6 лістапада.

Адмячаючы 7 гадаўшчыну утварэньня Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады пастараемся успомніць усё тое што ўлажыла яна сваей працай ў Скарбніцу Беларускага Руху.

## МЭТЫ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ.

Ужо з першых крокаў Беларускіх Націянальных Арганізацыяў, перад Часовым Урадам Расіі, ў 1917 гаду, выразна выявілася, што беларускія нацыя-

нальныя дамаганьні толькі тады будуць споўнены, калі кождае з іх будзе падпірацца не старэнна мотываванымі дэкляраціямі, а моцнай націянальна-беларускай сілай, найлепш-жа—сілай аружнай.

Зрабілася гэта ясным яшчэ ў красавіку месяцы. Але беларусы не сьпяшаліся з утварэньнем беларускага націянальнага войска, бо ўсё яшчэ чакалі, што справядлівыя іх дамаганьні, якія абмежываліся ў той час толькі культурна-прасьветнымі і адміністрацийна-тэрыторыяльнымі патрэбаваньнямі, будуць споўнены без аружнага дэмонстраваньня сваіх патрэб і правоў.

Беларусы яшчэ крэпка верылі ў большую моц права, што ня толькі лічылі беларускае войска не патрэбным, але зусім шчыра думалі, што яно будзе шкоднай абузай у Беларускім руху і замест дапамогі ў націянальнай справе прывядзе да якіх колечы непатрэбных вострых спрэчак і трэньняў паміж беларусамі і Цэнтральнай Уладай.

Аднак час—найлепшае лякарства.

І ўжо ў сярэдзіне лета 1917 г. ўсе беларусы зусім ясна сабе ўцямілі, што спрэчкі ў ж о ёсьць, што яны будуць і ў далейшым, што беларускія вымаганьні, як бы яны не былі малымі і як бы яны не былі праўдзівымі, павінны быць абаперты ня толькі на юрыдычна праўнай падставе, але яшчэ і на беларускі штык. І вось,—па прыкладу іншых націянальнасьцяў Расіі,—якія прыйшлі да гэтай думкі на цэлых поўгада раней за беларусаў і да восені 1917 г. здужалі ўжо стварыць свае вайсковыя націянальныя часткі, выдзяліўшы іх з агульных радоў Расійскага войска,—беларусы пераносяць націянальна арганізаціўную працу ў Расійскую Армію і гуртуюць беларусаў вайсковых раскіданых у ей па асобных частках, ставячы сваей мэтай выдзяленьне беларусаў ў асобныя палкі і перавод гэтых палкоў на заходні—беларускі фронт.

Страшна спозьніліся беларусы. Ужо па ўсіх фронтах разьвяваліся націянальныя сьцягі зусім закончаных украінскіх, татарскіх і іншых формаваньняў, ужо ў глыбокім тылу (бліжэй да штабаў і інтэндантстаў) заканчываў эквіпіроўку, ва ўсё новенькае і чысьценькае, сваіх лёгіёнаў польскі генерал Даўнар-Мусьніцкі, а беларусы, скончыўшы ўрэшце спрэчкі аб патрэбе, ці непатрэбнасьці беларускага войска, толькі-толькі яшчэ прыступілі да працы сярод сваіх вайсковых і да нацыянальнага усьвядомленьня і згуртаваньня іх.

З рэдкім адушаўленьнем і надзвычайнай радасьцю адазваліся беларусы вайсковыя на покліч сваей Бацькаўшчыны.

У працягу якіх колечы двох месяцаў, жніўня—верасьня, ўся Расійская армія пакрылася густой сеткай беларускіх вайсковых арганізацыяў.

У кастрычніку перад усімі імі паўстала пытаньне аб агульным аб'еднаньні беларусаў войсковых і аб утварэньні якогась Цэнтральнага Органу, які ўзяўбы ня сябе кіраўніцтва працай сярод вайсковых арганізацыяў Беларускага Войска.

## СТВАРЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ.

Працай і старэньнем асобных беларускіх вайсковых арганізацыяў, а также з дапамогай Беларускай Цэнтральнай Рады Нацыянальных Арганізацыяў,— 18—24 кастрычніка, па старому стылю, у Менску адбыўся Зьезд Беларусаў вайсковых Заходняга фронту і прадстаўнікаў беларускіх арганізацыяў XII арміі, Балтыцкага флоту і Румынскага фронту.

Зьезд гэты на сходзе сваім 20. X (па старому стылю) пастанавіў утварыць „Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду“ і перадаць ей агульнае кіраваньне беларускімі вайсковымі справамі.

Вайсковая Рада, па думцы зьезду павінна была злажыцца і потым злажылася гэткім чынам:

1) на кождым з істнуючых расійскіх фронтаў, а таксама і ў кождым з тылавых Вайсковых вокругаў, адбываецца фронтавы, або акружны, беларускі вайсковы зьезд;

2) кожды з гэтых зьездаў дэлегуе ў Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду 15 чалавек;

3) кожды зьезд на мейсцы утварае фронтавую (або Акружную належнага фронту і Вокругу), Беларускую Вайсковую Раду, якая павінна працаваць у падчыненьні Вайскавай Цэнтральнай Радзе, і ў поўным кантакце з мясцовымі Беларускімі грамадзкімі арганізацыямі;

4) ўсе дэлегаты ад фронтаў і Акругоў пэрыядычна зьбіраюцца ў Менск дзе працуюць у сэсіях Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады;

5) Першая Сэсія Вайсковай Рады выбірае для заўсёднай працы асобны спаўняючы орган— „Спаўняючы Камітэт Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады“;

6) Спаўняючы Камітэт Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады працуе ўвесь час у Менску і мае аддзелы:

а, Вайсковых формаваньняў,
б, агітацыйны,
в, палітычны,
г, культурна-прасьветны,
д, фінансавы і
е, гаспадарчы.

7) На чале Спаўняючага Камітэту стаіць прэзыдыум з пяці асоб:

а, Старшыні,
б, 1-га таварыша яго,
в, 2-га „ „
г, скарбніка,
д, сэкрэтара.

Зьезд Заходняга фронту зараз-жа выдзяліў сваіх прадстаўнікоў ў Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду, і яна, хоць і ня ў поўным пакуль што складзе, адразу-ж прыступіла да працы.

Першая сэсія Рады адбываецца яшчэ ў часе працы Зьезду Заходняга фронту, цягнецца ўсяго 2 дні: з 22 па 24 кастрычніка, і заканчываецца выбарамі Часовага Спаўнаючага Камітэту Беларускай Цэнтральнай Рады, на які ўскладаецца абавязак вясьці працу да поўнага сконструктаваньня яе.

Першымі дэлегатамі на папаўненьне Бел. Вайск. Цэнтр. Рады яўляюцца прадстаўнікі зьезду Беларусаў Вайсковых Паўночнага фронту, за імі—Паўдзённа Заходняга, пасьля Румынскага і т. д.

4 і 5 сьнежня адбываецца 2-я сэсія Бел. Вайск. Цэнтр. Рады.

Прэзыдзіум Спаўняючага Камітэту Бел. Вайск. Цэнт. Рады складаецца з гэтакіх асоб:

Старшыня—Сымон Рак-Міхайлоўскі,

Тав. Старшыні—Канстантын Езавітаў,

Тав. Старшыні—Тамаш Грыб,

Скарбнік—Васіль Захарка.

## ПРАЦА БЕЛ. ВАЙСК. ЦЭНТР. РАДЫ.

Як і трэба было чакаць, уся праца Вайсковай Рады, концэнтруецца, галоўным чынам, каля двох яе аддзелаў: Вайсковых фармаваньняў і Агітацыйнага.

Гэным аддзелам ахвяруецца і найбольш сіл, працаўнікоў, увагі і часу.

Але перад тым, як гутарыць аб іх працы, трэба сказаць некалькі слоў аб тым становішчы і аб тэй палітычнай сытуаціі, якая зложылася ў той момант, калі Бел. Вайск. Цэнтр. Рада прыступіла да сваей працы.

Трэба адзначыць адразу-ж, як бы гэта ня прыкра было казаць, што Беларусы вайсковыя, хоць і страшна сьпяшаліся, хоць і паклалі шмат працы ў сваю арганізацыю але ўсёж такі страшна спазьніліся.

Былі ўжо апошнія дні кастрычніка 1917 г.

На Расійскай Рэволюцыйнай вуліцы ў тылу ўжо шумна сьвяткавалі сваю перамогу разнузданыя тоўпы большавікоў - дэзэртыраў пад кіраўніцтвам свайго главковерха дэмагога—Крыленкі.

Фронт—быў саўсім разтрачаны.

Кожды вайсковы ламаў галаву над пытаньнем:

— „За кім ісьці“?

— „Хто праў“?

Вайсковае жыцьцё старых жаўнераў і каманднага складу моцна кіравала іх на шлях безумоўнага падтрыманьня стаўкі, на чале якой стаяў палкоўнік Духонін, бо ён адзін толькі мог яшчэ стрымліваць фронт і кіраваць парадкам агромнай вайсковай машыны.

Шэрая, змучаная, з разьбітымі нэрвамі і мазгамі салдацкая радавая маса, нейк бязвольна, як гіпнотызаваная, цягнулася—ня ў думках, якіх ужо не было,—а ў пачуцьцю,—да бальшавіцкага главкаверха, які абяцаў хуткае скончаньне вайны і салодкую салдацкаму сэрцу дэмобілізацыю.

У самы сурёзны і важны момант Беларускага Вайсковага руху, у момант, калі трэба было прыступаць, урэшце, да паўсемясцовага выдзяленьня беларусаў-вайсковых з частак расійскай арміі, і да зьліваньня і злучаньня іх у беларускія нацыянальныя палкі, толькі што утвораная і не наладзіўшая яшчэ свайго ўнутранага жыцьця, працы і разпарадку Бел. Вайск. Цэнтр. Рада апынулася перад поўным хаосам у Расійскай арміі і перад фактычным існаваньнем двох вайсковых цэнтраў, двох Расійскіх ставак і двох главкаверхаў. Адзін з іх сядзеў у Петраградзе, а другі ў Магілеве.

Кіраўніцтва беларускімі фармаваньнямі і належным аддзелам Вайсковай Рады, было Радай даручана генералу ад Інфантэрыі Кандратовічу.

Ен апрацаваў пляны выдзяленьня і фармаваньняў з некаторымі супрацоўнікамі Аддзелу Вайсковых Фармаваняў, у стаўку да палкоўніка Духоніна, каб дабіцца іх зацьверджаньня і найхутчэйшай аддачы разпараджэньняў і загадаў па арміі.

Палкоўнік Духонін знэрваваны апошнімі падзеямі,—сваей, пачаўшайся ўжо барацьбой з Крыленко,—не звярнуў на беларускіе дамаганьні і пляны патрэбнай увагі і, замест срочнага і рашучага разьвязаньня іх, ў агульным маштабе, агранічыўся тым, што дазволіў у Менску фармаваць 1-шы беларускі пешы полк.

У віну ген. Кандратовічу безмоўна трэба палічыць тое, што ён не зразумеў усей вялікай адпаведнасьці моманту і ня змог пераважаргнуць праз вайсковую традыцыю, патрабуючую ад падпарадкаванага безмоўнай паслухмянасьці распараджэньню старшага і не даказаў, з належным у гэтым выпадку упорствам і націскам, усю неадкладную патрэбнасьць зараз-жа, не трацячы ніводнай хвіліны часу, разьвязаць беларускую вайсковую справу ў поўным маштабе і хутка аддаць патрэбныя срочныя загады.

Вынікі гэтай першай памылкі ген. Кандратовіча хутка выявіліся.

На мяйсцох, у арміях, корпусах і дывізіях выдзеляньне беларусаў затрымалася.

У Менску праз некалькі дзён, ўлада—перайшла да бальшавіцкага Савету Камісараў Заходняга фронту.

Фармаваньне 1-шага Менскага Беларускага Палка якое пачалося з вялікай удачай ў Менску, было, па распараджэньню бальшавіцкага Галоўнакамандуючага Заходнім фронтам (Глаўкадома) прапаршчыка Мясьнікова — спынена.

Палкоўнік Духонін — быў па зьверску забіты матроскім канвоем Крыленкі.

З вялікім трудом, пасьля даволі бурнай рашучай гутаркі, з новым Глаўкаверхам - пераможцам, удаецца, групе членаў беларускага вайсковага зьезду Паўпочнага фронту, ў вагоне Крыленкі ў Вітабску, вырваць ад Крыленкі загад аб адмене распараджэньня Глаўкадома Мясьнікова і прымусіць яго падпісаць тэлеграму ў Менск, аб дазволе далейшага фармаваньня 1-га пешага Менскага Беларускага палка.

Беларуска большавіцкія адносіны ў Менску адразу прыймаюць характар варажы, але як адны так і другія пакуль-што ня чуюць яшчэ пад сабой пэўнага грунту і паўстрымліваюцца ад аружнага спатканьня.

Цэнтр места Менска з домам губэрнатара заняты Бел. Вайск. Цэнтр· Радай, ў адным будынку з якой і пад яе абаронай, працуе Вялікая Беларуская Рада.

Акраіны Менска, прадмесьці, казармы, штаб Заходняга фронту і вагзал—у руках Савету Камісараў Заходняга фронту.

З абодвых бакоў ідзе гарачная праца над згуртаваньнем і арганізацыяй сваіх сіл.

Вайсковая Рада вызывае усё новых і новых беларусоў з бліжэйшых да Менску частак у 1-шы Беларускі Менскі полк.

Савет Камісараў Заходняга фронту, фармуе 1-шы Менскі Рэволюцыйны полк, стараючыся сарганізаваць яго выключна з бальшавікоў.

Абедзьве стараны пакідаюць у баку і ў спакою змяшаны гарнізон м. Менска, добра ведаючы, што ён пяройдзе бяз стрэлу на той бок, дзе будзе ясная перамога.

Абедзьве стараны добра разумеюць, што гэтак доўга цягнуцца ня можа і што хутка павінна наступіць разьвязка.

У гэты рашучы момант, раптам, ясна выяўляецца вялікая памылка Зьезду Заходняга фронту і 1-шай сэсіі Вайсковай Рады, якія даручылі Беларускія Вайсковыя фармаваньні Ген. Кандратовічу, разьлічаючы на яго веданьне вайсковай справы.

Генерал ад Інфантэрыі Кандратовіч, бязумоўна меў практыку і ведаў вайсковыя справы, і, пры другіх варунках, магчыма, што аказаўся бы вельмі для беларусаў карысным, але ў пэрыёдзе рэволюцыйнай барадзьбы, ў

перыёдзе надзвычайнай сьпешкі і надзвычайных спосабаў фармаваньня барадзьбы, ён ня толькі не аказаўся карысным, але трэба проста і шчыра сказаць — быў, нават, шкодным.

Яго практыка і веданьне прынятых традыціяй і ўзаконеных сводам Вайсковых Пастанаўленьняў, крокаў і формаў ня толькі не давалі яму так патрэбнай у той момант ініціятівы, але наадварот зьвязывалі яе і ськіровывалі ў традыційнае ручво.

Генерал нічога ня мог і не прывык рабіць „сам"—на ўсё трэба было „дазваленьне", „прадпісаньне", „загад" і „палажэньне", каліж іх не было— ён быў мёртвы і нічога не рабіў. І нятолькі нічога не рабіў, але нічога не дазваляў рабіць і сваім падзагадным.

Ен ўсё чагосьці чакаў.

А час ішоў ішоў.

Практыка і веданьне старых праўных формаў—засьцілалі гарызонт, адбіралі ініцiятыву і рабілі з генерала падзагадны, а не кіраўнічы мозг.

Прыроджаная-ж маруднасьць руху і думкі—зусім ужо жвала ўсю справу.

Было некалькі здарэньняў ў Аддзеле Вайсковых Фармаваньняў, калі падпарадкаваныя генералу нецярплівыя, маладыя афіцэры, ясна бачучы складаўшуюся сытуацію, памятаючы, што „звалока—сьмерці падобна", бралі на сябе ініцiятыву некаторых адпаведных крокаў і толькі прасілі генерала падпісаць загад, ці упаўнаважаньне, але генерал ад Інфантэрыі Кандратовіч не адважаўся і на гэта і падпісаць адмаўляўся.

Ен усё яшчэ нечага чакаў і нічога не хацеў рабіць.

І гэта было другой яго, мякка кажучы,—памылкай.

Яго стары памочнік Палкоўнік Камарэўскі зусім згаджаўся з тактыкай ген. Кандратовіча, і, як мага, стрымліваў маладых ад „неабдуманых крокаў".

Выдзяленьне і фармаваньне беларускіх частак па-замежамі Менска— было цалком пакінута на волю лёсу і на прыватную ініцiятыву і энэргію асобных беларускіх арганізацыяў.

І толькі дзякуючы працы франтавых беларускіх камітэтаў, энэгічна праводзіўшых ў жыцьцё пастановы сваіх франтавых зьездаў, справа беларускага фармаваньня ня гіне і пры кождым з іх, а таксама і ў арміях на фронце, фармуюцца асобныя беларускія пешыя палкі і каманды.

У Воршы сарганізовуецца беларускі полк, на Румынскім фронце, дзе найбольш было беларусоў, Беларуская Вайсковая Рада Румынскага фронту дабіваецца і з посьпехам праводзіць ў жыцьцё беларусызацыю цэлага 4-га армейскага корпусу з артылерыяй, амуніціяй і тэхнічнымі войскамі.

Усе гэтыя фармаваньні робяць спробы увайсці ў кантакт з павадыром беларускіх фармацій, але не знаходзяць з яго боку ніводнага кроку на спатканьне. І толькі ад маладога афіцэрства Белвайск. Рады ды ад кіраўніка Палітычнага Аддзелу яе атрымліваюць беларускія часткі тэлеграфныя рады і інструкціі, а таксама і адказы на пытаньні ў бягучых справах.

Даведзеныя да роспачы маладыя афіцэры, урэшце не змаглі больш стрымацца і,—калі ген. Кандратовіч раздзер па палове запрапанаваную яму да падпісаньня паперу,—спавесьцілі аб справах Прэзыдыўм Вайсковай Рады, папераджаючы, што калі ген. Кандратовіч і надалей астанецца кіраўніком беларускіх фармаваньняў, дык яны змушаны будуць выйсьці з Вайсковага Аддзелу.

Прэзыдыум перанёс справу ў Спаўняючы Камітэт—гэта знача: „чырвоная адстаўка“. Ген. Кандратовічу было запрапанавана даць матывіроўку і тлумачэньне сваіх крокаў.

Тлумачэньні ген. Кандратовіча не здаволілі Спаўнячы Камітэт Белвайсковай Рады, пакінўшы генерала ў аддзеле як тэхнічную сілу, адсунуў яго ад кіраўніцтва Аддзелам і даручыў гэну справу,аднаму з яго памочнікаў, — К. Езавітаву.

Але было ўжо позна.

На другі, ці трэці дзень, пасьля адстаўкі ген. Кандратовіча, Глаўказап прапаршчык Мясьнікоў, часова, з прычыны ад'езду Крыленкі у Петраград, уступіў у абавязкі Глаўкаверха і першым чынам, —карыстаючы з новага свайго, хоць і часавага становішча і грунтуючыся, на выбухшай ў гэты момант, і страшна перапужаўшай бальшавікоў, вайне з Украінай, зноў выддаў катэгарычны тэлэграмны загад з Могілева аб забароне далейшага фармаваньня 1-га пешага Менскага беларускага палка і аб злучэньні яго з астаткамі 289-га пеш. Запаснога палка, які стаяў ў Менску.

Беларускі полк у той момант ня меў кулямётаў, ня ўсе салдаты мелі і стрэльбы, а гранатаў і набояў зусім не было.

Пры гэткіх варунках, пагоршаных у дадатку яшчэ і поўнай атсутнасьцю ў палку якіх колечы харчавых запасаў, *) усякіе думкі аб змаганьні і аб арганізацііі пераваротy трэба было часова адкінуць.

На нарадзе Вайсковага Аддзелу прадстаўнікамі 1-га пешага Менскага Беларускага палка было пастаноўлена, што:

1) Полк выпаўняе загад і зьліваецца з 289-м палком і ўжо потым—змацаваўшыся новымі беларусамі, штодзенна прыбываўшымі ў Менск, і забаспечыўшы сябе пераважнай большасьцю, абвяшчае сябе ізноў Беларускім Палком і пераходзіць пад загад Вайсковага Аддзелу Рады.

Тымчасам прапаршчык Мясьнікоў выкарыстуе сваё становішча і адкрывае паход на беларусаў па ўсяму фронту, сьпяшаючы расправіцца з імі да звароту у стаўку Глаўкаверха Крыленкі.

Усе бальшавіцкія часьці з фронту вызываюцца ў Менск. Сюды-ж, спэцыяльна для абароны штабу і Глаўказапу, бытцам Совдепу, пераводзіцца, сотня татараў ні слова не разумеючых ні па беларуску, па расійску. Усе караулы і варты ў Менску і пад Менскам, асабліва каля тэлефону і тэлеграфу, складаў зброі, амуніціі і інтэндантуры—патраіваюцца.

Дом губэрнатара займаецца пад Савет Камісараў Заходняга фронту і вобласьці.

Але крануць асабіста каго калечы з членаў Белвайск. Рады камісарьят Заходняга фронту ўсё яшчэ не адважаецца, бо факт уціску над Кангрэсам і над Белвайск. Радай, вызывае, сярод Менскага жыхарства і гарнізону страшнае абураньне, якое можа выліцца ў аружны выступ.

Каб націснуць на псыхолёгію грамадзянства, каб застрашыць сваей сілай і ўстрымаць ад протэстуюча-змагарскіх крокаў, Савет Камісараў Заходняга фронту і вобласьці прыймае цэлы рад новых крокаў асьцярогі.

У ноч з 17 на 18 сьнежня разганяецца па яго загаду, бяз ведама Петраграду, Усебеларускі Кангрэс.

У ноч з 19 на 20 сьнежня робіцца начны напад на інтэрнат і канцэ-

---

* Полк сваaей гаспадаркі ня вёў, а засобіўся пры менскім этапным пункце.

лярыю Белвайск. Рады і ўсе справы яе ноччу-ж, у некалькі аўтамабілях, перавозяцца з дому губэрнатара ў будынак Вучыцельскага Інстытуту.

Напад гэты на Белвайск Раду, як іна Ўсебеларускі Кангрэс, зроблены быў далёка за поўнач, калі ўвесь Менск ужо глыбока спаў. Але як і ў першым выпадку, так і тутака, бальшавікі зьявіліся з вялікім конным атрадам і з бронемашынамі, бо чулі сябе ня вельмі пэўна.

Німа чаго казаць ужо аб тым, што палова іх была пьянымі.

На 20 сьнежня ў Менску назначаецца парад і дэмонстрацыя рэволюцыйных сіл Заходняга Фронту.

А 10 гадзіне рана на ўсіх вуліцах пачынаюць зьбірацца палкі з аркестрамі і чырвонымі сьцягамі, за імі цягнецца некалькі эскадронаў конніцы і грузавых аўтамабіляў.

Увесь гарнізон і прыбыўшые часткі зганяюцца на пляц перад захопленым у начы домам губэрнатара, на ганку якога ўжо выкінуты чырвоны сьцяг і зьбіраецца Савет Камісараў.

Да трэйцяй гадзіны дня стаяць на пляцу салдаты, грае музыка, гаворуцца прамовы, пасылаюцца тэлеграмы, на ўсё спосабы лаецца беларуская справа, яе павадыры і прыхільнікі

У вечары адбываецца вялікі канцэрт мітынг. Але ўсё-ж няма ў балшавікоў пэўнасьці у сваей перамозе.

289-ты пешы запасны полк, пад уплывам беларусаў, ўлучаны ў яго рады з 1-га Менскага Беларускага палка,—катэгарычна адмовіўся прыняць удзел у гэтым сьвяце.

Не было ў часе маніфэстацыі сярод прамоўцаў ніводнага партыйнага прадстаўніка (апрача большавікаў і бундаўцаў), або прэдстаўніка гораду ці земства.

Зусім не відаць было ні на пляцы, ні ў коле маніфэстантаў ніводнага жыда, жыхара м. Менска і ніводнага беларуса.

Друкаваная абвестка Белвайск. Рады выданая ў некалькі тысячах экзэмпляраў, ня толькі расхватвалася і падтрымлівалася ўсім грамадзянствам Менска, але хціва была брана і чытана маніфэстваўшымі вайсковымі часткамі, добра ня ведаўшымі чаго іх пагналі парадаваць і слухаць прамоў проці Беларускай Рады.

Члены Белвайск. Рады—атрымаўшы некалькі асабістых папярэджаньняў і пагроз з прапазыціяй кінуць працу і зараз-жа выехаць з Менска,—працу аднак ня толькі не кідалі, але, наадварот, замест гэтага рэквізуюць сабе новае памешканьне на паліцэйскай вуліцы № 2, дзе зноў разварачываюць апарат Вайсковай Цэнтральнай Рады, куды пераводзяць Раду Усебеларускага Кангрэсу*).

Не адважываючыся на новыя рашучыя крокі супроць Вайсковай Рады, Савет Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронту (Совкомзап) спадцішка стараецца як мага больш шкодзіць яе працы і памагчымасьці прасьледаваць яе пашырэньне.

Пачтовая карэспандэнцыя Рады прэлюструецца. Тэлеграмы, калы яны падаюцца не па простаму проваду, а звычайным спосабам, затрымліваюцца.

*) Вялікая Беларуская Рада 5. XII. 17 здала справаздачу і свае паўпамоцтвы Усебеларускаму Кангрэсу, а ён, 17. XII. 17., даручыў спаўненьне сваіх павіннасьцяў і улады на Беларусі—Радзе Камісараў, якую выбраў са свайго складу.

Газэта Спаўняючага Камітэту Белвайск. Рады „Беларуская Рада„—не даходзіць да абонэнтаў, ўрэшце і зусім забараняецца.

Нумар яе, выпушчаны пасьля заб3роны, быў конфіскаваны і спалены. Тады, „Белвайск. Рада“ пераносіць рэдакцію і экспэдыцію газэты ў крэпасьць Бабруйск, скуль яна дастаўляецца ў Менск—коньмі, на Заходні фронт—ганцамі, а на другія фронты почтай з Полацку і Вітабску.

Праца Спраўняючага Камітэту Белвайск. Рады ня толькі не спыняецца але, нягледзячы на кепскія варункі, наадварот, пашыраецца і павялічаецца, а сам склад Белвайск—Рады і Саўкома яе папаўняюцца новымі прадстаўнікамі *), якія прывозяць з мейсц новую энэргію і бодрые весткі аб пашырэньні беларускага руху і фармаваньняў у іх арміях.

(Далей будзе)

---

Праф. В. ШЭБЕДЗЕЎ.

# Нацыя і свабода асобы.

Што такое нацыя і чаму яе свабоднае самаазначаньне ёсьць ў высшай меры цэнным дзеля паступовага руху чалавецтва?!

Над акрэсьленьнем паняцьця нацыі даўно працавала чалавечая мысьль. Да яго падыходзілі нашчупам—дзялілі яго на дзьве катэгорыі: „гістарычных“ і „негістарычных“ нацый, прыпісуючы толькі першым здольнасьць да разьвіцьця і вытварэньня культуры. Негістарычным жа нацыям г. зн. такім якія ня мелі сваей дзяржаўнасьці, якія былі затрыманы ў развіцьці тыміж „гістарычнымі“, сулілася загібель, дэнацыяналізацыя, і, ў лепшым прыпадку, абяцалася свабода з ласкавых рук гістарычных нацый—калі яны рэалізуюць соцыялістычны лад у сябе.

Гісторыя, жывая гісторыя негістарычных нацый разбурыла гэты тэорэтычныя будоўлі—выпрацаваныя шовіністычнай пыхай асоб якія належалі да нацый даўно свабодных, да нацый якія гнятлі і высысалі нацыі недзяржаўныя.

Мы ня будземо дзеля гэтага спыняцца над гісторыяй працы дзеля акрэсьленьня таго, што такое нацыя, і прапануем наша, нам здаецца, ўсёабыймаючае і найбольш сьціслае акрэсьленьне, якое адначасна адпавядае і на пытаньне „чаму вызваленьне і самаістае развіцьцё нацыі зьяўляюцца ў высшай меры цэннымі для паступовага руху чалавецтва“. — „Нацыя—гэта сабраньне, індывідумаў, якія на працягу многіх вякоў сумеснага жыцьця, падлягалі аднастайным ўплывам—вытварылі асобную ступеню лёгкасьці ўзаема адносін—свае арыгінальныя спосабы рашаць культурныя праблемы“.

Супольнасьць мовы, рэлігіі, супольнасьць тэрыторыі зьяўляюцца істотнымі, але не абавязковымі ў сваей агульнасьці азнакамі нацыі. Гэта агульнасьць ўзаемаразуменьня, гэты арыгінальныя спосабы разьвязываць куль-

---

* Мной ужо азначалася, першае ядро Белвайск. Рады ў ліку 15 чалавек, было выдзелена 20 кастрычніка 1917 г. зьездам вайскоўцаў Беларусаў Заходняга фронту. Першае папаўненьне Белвайск—Рады ў ліку таксама 15 чалавек было выдзелена зьездам Беларусаў вайсковых паўночнага фронту,—якія адбыўся 15—20 лістапада ў м. Вітабску. Другіе папаўнены ў ліку 15 чалавек ад зьезду вайсковых беларусаў Румынскага фронту, які адбыўся 3—7 сьнежня ў Адэсе, трэйцяе ў ліку 15 чалавек ад зьезду вайсковых Беларусаў Паўдзённага фронту, які адбыўся 15—20 сьнежня ў м. Кіеве.—Далейшыя папаўненьні былі ад беларускіх зьездаў ў вокругах і давалі меншы лік дэлегатаў.

турныя заданьні могуць істнаваць і бяз агульнасьці мовы, і без агульнай тэрыторыі або рэлігіі. Сумеснасьць ўсіх гэтых азнак толькі аблягчае работу ~~нацыі, робіць~~ жыцьцё яе больш жывым і націянальна больш карысным.

Але, паўтараю, гэты азнакі далёка не абавязковы. Яркім прыкладам служаць хоць-бы ірляндцы, якія гэтак упорыста і геройска змагаліся за сваё націянальнае вызваленьне супроць англійцаў—хоць $^5/_6$ ірляндзкай нацыі даўно забылася родную мову і гаворыць толькі па англіцку. Другі прыклад дае вельмі моцная жыдоўская нацыя, якая ня мае ні агульнай мовы, ні агульнай тэрыторыі—і што датыча рэлігіі, то для многіх жыдоў і аб ей можна гаварыць толькі cum grano salis.

Пры усім гэтым агульнасьць мовы—зьяўляецца вельмі важным момантам—і мы бачым, як націянальнасьці, выбіваючыся з няволі, вяртаюць да роднай мовы.

Але істотнай азнакай нацыі служыць сваё, арыгінальнае равязываньне культурных праблем. Акурат гэта і робіць нязвычайна цэнным як для чалавецтва, ў яго ўсеагульным цэлым, так і для складаючых нацыю індывідумаў—вызваленьне нацыі з пад чужога панаваньня, даньне ей магчымасьці самаазначыцца.

Робіць надзвычайна важным і цэнным для чалавецтва, таму што збагачуе агульную культурную скарбніцу, надае ей большую паўнату і многаграннасьць—і, ў свой чарод, шляхам узаемастасункаў і запазычаньняў збагачуе саму сябе—культуру паасобных нацый.

Вызваленьне нацый ёсьць важным і цэнным і для асоб—яе складаючых таму што—нішчучы уціск пана—панявольніка, чужаземца— значна зьмяншае паняволеньне асобы, дае большыя магчымасьці дзеля пашырэньня яе гарманічнай магутнасьці. Толькі ў свабодна-націянальным жыцьці, не патрэбуючы дапасовывацца да чужой культуры і чужой волі, і разьвіваючыся на грунце роднай, традыцыйна блізкай, з малаком маці выссанай культуры — кождая асоба, якая належыць да гэтай нацыі, можа шляхам вольнага, лёгкага задаволеньня сваей патрэбнасьці ва ўзаемаадносінах і супрацоўніцтве з сабе падобнымі—якія маюць аднастайныя з ім навыкі — дасьцігнуць нормальнага розквіту сваей індывідуальнасьці.

Ня трэба забываць і аб тым момансе, што здаровая рознаякасьць індывідуальнасьцяў магчыма толькі тады, калі яны заховуюць агульныя рысы, агульныя інтэрасы, агульную мову—калі яны разьвіваюцца ў народнай гушчы—якая павялічае альтруістычныя склоннасьці і затрымлівае імкненьне перайсьці ў стан bellum omnium contra omnes (вайны усіх—супроць усіх).

Толькі нацыя сьвядомая і перачуленая ў змаганьні за захаваньне і разьвіцьцё націянальнай індывідуальнасьці не пазваляе інтэрасам клясы або катэгорыі засланіць інтэрасы ўсей цэласьці,—неабходную ступеню дзеля усьвядомленьня і агульна чалавечых інтэрасаў.

І наадварот націянальнае прыгнечаньне вядзе перш за усёды да паніжэньня культурнага разьвіцьця і ў выніку да пазадніцтва (рэгрэсу), а гэта ў свой чарод непамысна адбіваецца і на нацыі якая паняволюе, бо рабства — перафразовуючы расійскага паэты Некрасава—бье адным канцом па пану, другім па мужыку.

Прыпомніце высокакультурнае жыцьцё Беларусі і Украіны да іх паняволеньня суседзямі, прабяжыце мысьлёва гісторыю высока-культурнага розквіту Грузіі і Армэніі, якія былі культурнымі пасярэднікамі паміж культур-

нымі Эўропай і Азіяй, і ўсім стане ясна—аграмадная, трудная да паправы тысячалецьцямі, шкода ад утраты гэтымі націямі іх свабоды — шкода для ўсяго чалавецтва.

І ў свой чарод нація панявольніца ў канечным выніку траціць праз сваю „перамогу". Ці-ж ня вытварыўся ў расійскай націі—якая ходам гістарычных падзей станула на шлях заваяваньня суседзяў, паняволеньня „под нози супостата", сычэньне сокамі, гэтых паняволеных націй—асобная вайскова-мілітарыстычная сыстэма дзяржаўнасьці, імкненьне да вечнага душэньня усіх перад абліччам дэспата—неабходнага элемэнту ў націі, якая будуецца паводле вайсковага тыпу. Ці ня гэта гісторыя выклікала пэрманэнты бунт народу супроць спроб окультаціі Расіі?! Успомнім Івана Грознага—якога падтымаў народ у змаганьні супроць баяроў, якія імкнуліся абмежыць ўладу самадзержцы, успомнім бунт стральцоў, царэўну Софію і Галіцына—зьнішчаных Пятром І пры спогадзе народным і. г. д. і. г. д.

І вы ўбачыце, як дорага заплаціла маскальская нація за тое, што яе валаданьні раскінуліся „от Алтая до Дуная—до большой рѣки".

Ці не ўтварыў спэцыфічную нездольнасьць да дзьяўніцтва ў польскай націі—адбываўшыйся пры іншых, чым у Расіі варунках—разрост яе, коштам паняволеных народнасьцяў?!

А што дало расійскай націі яе хіжацкае выцяганьне інтэлігентных сіл з паняволеных народнасьцяў?! Што атрымала яна ад беларуса Дастаеўскага, ад украінца Гоголя, ад сына цыганкі Герцэна, ад многіх другіх—імёны іх —ты, Госпадзі, ведаеш?!

Чужыя народу які іх захапіў, адарваныя ад адзіна здаровага фундаманту, народных мас—ня чуючы „ўлады зямлі" яны утварылі геніяльную, але хворую, ламаную, нездаровую літэратуру—ад уплыву якой „Божа ўхавай не расійцаў!„

З другой стараны чым абкармілі польскую націю рожныя захопленыя ей Беларусы, Літвіны, Украінцы—Крашэўскія Ожэшковыя Міцкевічы, Сырокомлі і інш. і інш. Імкненьнямі на Літву і Русь. Імкненьнямі нічога супольнага не маючымі ні с патрэбамі ні са здаровым разьвіцьцем польскай націі. І гэтай „сомаю" чужых багоў сыта і пьяна будзе Польшча-панявольніца—аж да сёмага пакаленьня... Калі, наагул, вытрымае гэты дэкокт.

І глянем у другую старану. Глянем на маленькія дзяржавы, якія утварыліся ў часе гэтай вайны—на Чэхію, Фінляндзію, Літву, Латвію, Эстонію. Прыкладам маленькая Літоўская Дзяржава, якая збудавана на абшары быўшай, заняпаўшай Ковенскай губэрні, мейсцу ссылкі расійскага чыноўніцтва; за некалькі гадоў свабоднага жыцьця, разьвіваючыся пры самых неспрыяйных варунках—б. ковенская губэрня стала дзяржавай якая заслужывае ўсялякай пашаны і прадстаўляе вялікую цікаўнасьць сваей інтэнсыўнасьцю націянальна—культурнага жыцьця. Закінутая ковенская губэрня абярнулася ў вогнішча арыгінальнай націянальнай культуры.

Панявольнік такі-ж самы раб раняволеных, як і яны яго рабы. Ен з імі становіць адзін арганізм—а таму яго індывідуальнасьць звужана і абяззсілена. Дзеля гэтага знішчаньне націянальнага уціску ёсьць натуральны шлях да замены арганізаціі, на абодвых полюсах каторай стаяць рабы, арганізаціяй пабудаванай на аднадушнай творчасьці свабодных асоб,—злучаных не ў таўпу, патрасаную бічом якога колечы Пятра І ці Франца-Іозафа,—а ў супалку і вольную сувязь, кіраваную перадавымі яго элемэнтамі—ня маючымі нічога супольнага з дэспотам-рабом.

Толькі тады асоба атрымае запраўдную сілу і зможа паўзьбежна з развіцьцём нацыі, ў безперарыўнай сувязі з ей— змагацца за сваё „я“, за ператварэньне сувязі-нацыі згодна сваім ідэалам развіцьця.

У Гармонічным аб'еднаньні нацыі і індывідуалізму—прызнаньні асобы найвышэйшым крытэрыям цэннасьці—і ў прызнаньні нацыянальна-свабоднага асяродку, як адзінай мэты гармонічнага развіцьця чалавецтва—і ляжыць і павінен ляжаць цэнтр цяжкасьці, праграма дзейнасьці—кождага—хто верыць у чалавека і ў твораны ім поступ чалавецтва.

---

# Номэнклятура беларускіх птушак.

Гэта номэнклятура апрацавана камісіяй у склад якой увайшлі: Праф. Т. Іваноўскі, В. Ластоўскі і К. Дуж-Душэўскі.

Ніжэй пададзена каля 200 назоў птушак, якія найчасьцей трапляюцца на Беларусі. Матэрьяламі для апрацоўкі назоваў паслужылі:

1) B. Jundziłł „Zoologia krótko zebrana“ Cz. II. Ptaki. Wilno 1807.

2) N. Kumelski i S. Gorski „Zoologia czyli historija naturalna źwierząt“. Wilno 1836.

3) K. Tyzenhauz „Ornitologia powszechna“. 1842.

4) Проф. Н. Холодковскій и А. Силантьевъ „Птицы Европы. Практическая орнитологія съ атласомъ европейскіхъ птицъ СПБ. 1899.

5) Janusz Dymaniewski „Spawozdanie z wycieczki ornitologicznej na Polesie w roku 1913“.

6) Jan Sztolcman „Próba uporządkowania nomenklatury ptaków krajowych“ Абедзьве апошнія працы гэта адбіткі з Pamiętnika fizjograficznego“ з. 1918. Варшава.

7) Носовіч „Словарь бѣлорусскаго нарѣчія“ СПБ.

8) Семеновъ „Россія. Западное Поднѣпровье и Бѣлоруссія СПБ.

9) Асабістыя вядомасьці учасьнікаў камісіі, асабліва праф. Т. Іваноўскага, які шмат гадоў працаваў на Беларусі ў кірунку пазнаньня беларускіх зьвяроў і птахаў.

Цікава тут адзначыць, што ў польскай і расійскай номэнклятуры птахаў, вельмі шмат уведзена жывых беларускіх назоваў. Гэта і ня дзіва. Лясістая і балоцістая Беларусь была асяродкам птушынага царства на захадзе быўш. Расійскай Імпэры. Суседзі нашы вельмі часта знаёміліся з „новымі“ экзэмплярамі птахаў якраз у нас і бралі тыя назовы іх, якія былі дадзены ім беларусамі. Апрача таго, першыя крокі у апрацаваньні польскай номэнклятуры былі зроблены і надрукаваны у пачатках XIX ст. людзьмі, якія паходзілі з Беларусі, прыкл., Б. Юндзіллам, Н. Кумэльскім, К. Тызэнгаўзам і інш. У сваіх досьледах яны, паміма іх волі, карысталіся „тутэйшымі“ г. зн. беларускімі назовамі. Гэткім чынам яны увялі у польскую номэнклятуру такія назовы як „Świstun, Świstunka, Puhacz, Zimorodek, Kraska, Kozodoj, Szczebiotka, Drozd, Podkamionka, Strzyżyk, Pliszka, Lyska, Strepet“ і шмат інш.

Аб расійскай номэнклятуры, з большага, можна сказаць тое-ж. Некаторыя назовы расійцамі на столькі перакручаны, што яны страцілі свой першапачаткова сэнс. Так, прыкл., „Hydrochelidon leucoptera“ па беларуску завецца

„Крычка“, бо яна вельмі крычыць, расійцы-ж, відаць неуцяміўшы добра назвалі яе—„Крачка“.

Трэба адзначыць што шмат птушак маюць панекалькі назоваў, нават у аднэй мяйсцовасьці, а такжа розныя птушкі часта маюць аднолькавыя назовы. Мы, каб не зацямняць зьместу, стараліся, памагчымасьці ўжываць найбольш распашыраныя найменьні, і ўнікалі паўтарэньняў.

Тыя птушкі, якія даволі часта трапляюцца на Беларусі, але мы назоваў ня ведалі і знайсьці не маглі, мы пакінулі пад знакам пытальніка (?).

## I. Хіжацкія птахі. Raptatores

### СЯМЬЯ САКАЛІНАЯ. FALCONIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Aguila nobilis | —Беркут | —Арол маркут |
| 2. | „ clanga | —Орел крикун | —Арол крыкун |
| 3. | „ naevia | —Малый подорлик | —Арлец |
| 4. | Haliaetos albicilla | —Орлан белохвост | —Арол белахвост |
| 5. | Circaetos gallicus | —Орел змееяд | —Арол вужаед |
| 6. | Pandion haliaetos | —Речная скопа | —Арол рыбаед |
| 7. | Archibuteo lagopus | —Канюк мохноногий | —Арол мышалоў |
| 8. | Buteo vulgaris | —Канюк большой | —Канюк |
| 9. | Milvus niger | —Шулика | —Шуляк |
| 10. | „ regalis | —Коршун красный | —Шуляк чырвоны, канюк |
| 11. | Pernis apivarus | | —Шуляк асвейнік |
| 12. | Circus aeruginosus | —Камышевый лунь | —Шуляк балотны |
| 13. | „ cyaneus | —Лунь полевой | —Шуляк палявы |
| 14. | Falco sacer | —Балобан | —Балабан |
| 15 | „ girfalco | —Кречет | —Крагуй, Белазор |
| 16. | „ peregrinus | —Сапсан | —Сакол падарожнік |
| 17. | „ aesalon | —Дербник | —Сакол альсец, Дрымлюк |
| 18. | „ tinnunkulus | —Пустельга | —Пустальга |
| 19. | „ subbuteo | —Чеглок | —Сакол белагорлік, Кабец. |
| 10. | Accipiter nisus | —Болотная сова | —Каршунчык (верабьіны), Крагуёк |
| 21. | Astur polumbarius | Ястреб тетеревятник | —Каршун курацап |

### СЯМЬЯ САВІНАЯ. STRIGIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 22. | Athene noctua | —Сыч | —Сычык, Сіпель |
| 23. | Surnia nisoria | —Ястребиная сова | —Ястраўка, Сава бярозаўка |
| 24. | Syrnium aluco - | —Неясыть серая | —Сава (дамовая), Кугакаўка |
| 25. | Asio otus | —Ушастая сова | —Сава (вушатая), Гугач |

| | | |
|---|---|---|
| 26. Strix flammea | —Сипуха | —Сава (званічная), Пушчык |
| 27. Glaucidium posserinum | —Сыч-воробей | —Соўка, Совачка |
| 28. Nyctea nivea | —Белая сова | —Сава белая |
| 29. Bubo maximus | —Филин | —Пугач |
| 30. Asio accipitrimus | —Болотная сова | —Сава балотная |

## II. Passeres. **Верабыіныя птахі.**

### СЯМЬЯ ВАРОНАВЫХ. CORVIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 31. Corvus corax | —Ворон | —Крумкач, Крук. |
| 32. „ cornix | —Серая ворона | —Варона |
| 33. „ frugilegns | —Грач | —Грак |
| 34. Monedula turrium | —Галка | —Каўка |
| 35. Pica caudata | —Сорока | —Сарока |
| 36. Garrulus glaudarius | —Сойка | —Сойка |
| 37. Nucifraga caryocatactes | —Кедровка | —Гарэхаўка, Рэшатня, Жалудаўка |

### СЯМЬЯ ШПАКОЎ. STURNIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 38. Sturnus vulgaris | —Скворец | —Шпак |

### СЯМЬЯ СІНІЦ. PARIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 39. Parus major | —Синица большая | —Сініца, Сінюк вялікі |
| 40. „ coeruleus | —Лазаревка | — „ „ сіні |
| 41. „ palustris | —Пухляк | — „ „ сівы |
| 42. „ borealis | —Гаичка | —Сініца, Сінічка |
| 43. „ ater | —Московка | —Сініца мохаўка, Сінюк сасновы |
| 44. Lophophanes cristatus | —Синица хохлатая | —Сініца чубатка, Сінюк чубаты |
| 45. Acredula caudata | | —Сініца, Сінюк апалоўнік |

### СЯМЬЯ КАРАЛЬКОЎ. REGULIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 46. Regulus flavicapillus | —Королек | —Каралёк |

### СЯМЬЯ ПЕРАСЬМЕШНІКАЎ. LANIIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 47. Lanius excubitor | —Сорокопут большой | —Яздрук вялікі, Яздраб (у Віленшчыне)—Перасьмешнік |
| 48. „ callurio | —Жулан | —Яздрук малы, Дзікі верабей |
| 49. „ minor | —Сорокопут чернол. | —Яздрук чорналобы |

### СЯМЬЯ ВІШНЕВАК. ORIOLIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 50. Oriolus galbula | —Иволга обыкновенная | —Вішнёўка, Калакухаўка, Авяльга |

## СЯМЬЯ МУХАЛОВАК. MUSCICAPIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 51. | Muscicapa grisola | Мухоловка серая | Мухалоўка |
| 52. | „ luctuosa | Мухоловка пестрая | „ рабая |
| 53. | „ parva | Мухолов малый | „ малая |

## СЯМЬЯ АМЯЛУШАК. AMPELIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 54. | Ampelis garrulus | Свиристель обыкн. | Амялушка |

## СЯМЬЯ ПЛІСАК. MOTACILLIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 55. | Motacilla alba | Трясогузка белая | Пліска, Плістаўка белая |
| 56. | Budytes flava | Желтая Трясогузка | Пліска, Плістаўка жоўтая |
| 57. | Anthus arboreus | Конек лесной | Сьвірстун лесавы |
| 58. | „ pratensis | „ луговой | „ лугавы |
| 59. | „ campestris | „ полевой | „ палявы |

## СЯМЬЯ СТРЫНАТАК. SYLVIIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 60. | Syllva cinerea | Славка серая | Стрынатка звычайная |
| 61. | „ curruca | „ завирушка | Стрынатка завірушка, Валасяначка |
| 62. | „ nisoria | „ ястрэбиная | Стрынатка перасьмешка |
| 63. | „ atricapilla | „ черноголовка | Стрынатка чорнагалоўка |
| 64. | „ hortensis | „ садовая | Стрынатка садавая |
| 65. | Phylloscopus trochillus | Пеночка весничка | Пячураўка |
| 66. | „ sibilatrix | „ желтобровка | ,, |
| 67. | Hypalais familiaris | „ | Раплюк, Раплючок |
| 68 | Acrocephalus turdoides | Камышевка | Чаротаўка, Чарачанка |
| 69. | „ „ | „ дроздовидн. | ,, ,, |
| 70. | „ palustris | „ болотная | ,, ,, |
| 71. | Calamoherpe phragmit. | „ | „ „ лазоўніца |

## СЯМЬЯ ШЫЛАХВОСЬЦІКАЎ ACCENTORIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 72. | Accentor modularis | Завирушка лесная | Шылахвосьцік |

## СЯМЬЯ КРАПІЎНІКАЎ. TROGLODYTIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 73. | Troglodytes parvulus | Крапивнік | Крапіўніца |

## СЯМЬЯ ДРАЗДОЎ. TURDIDAE

| | | | |
|---|---|---|---|
| 74. | Cinclus aquaticus | Оляпка | Вадзяны верабей |
| 75. | Turtus viscivorus | Деряба | Дрозд (амёлавы) |
| 76. | „ musicus | Певчий дрозд | Дрозд (пявунец) |
| 77. | „ iliacus | Дрозд белобровый | Дрозд (белабровы) |
| 78. | „ pilaris | Рябинник | Дрозд (піскун) |
| 79. | „ merula | Черный дрозд | Дрозд (чорны), Касук. |

## СЯМЬЯ ПАДКАМЕНАК SAXICOLINAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 80. | Saxicola aenanhthe | —Чекан-каменка | —Падкаменка палявая Ерчык (камяны) |
| 81. | Pratincola rubetra | —Чеканкчик луговой | —Падкаменка лугавая Ерчык (травяны) |
| 82. | Luscinia philomella | —Соловей обыкн. | —Салавей |
| 83. | „ luscinia | —Соловей западный | —Подсалавей |
| 84. | Cyanecna leucocyana | —Варакушка бело-пятнистая | —Кралька(?), Бохаўка |
| 85. | Frihacus rubecula | —Малиновка | —Малінаўка. |
| 86. | Ruticilla phaenicura | —Горихвостка обык. | —Рудахвостка |

## СЯМЬЯ ПАПАЎЗЬНЕЎ. SITTIDAEN.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 87. | Sitta europaea | —Поползень обыкн. | —Каваль, Дзятлік |

## СЯМЬЯ ЛАЗУНКѲЎ—CERTHIIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 88. | Certhia familiaris. | —Пішуха обыкнов. | —Паўзунок, Падкарышнік |

## СЯЬМЯ ЛАСТАВАК HIRUNDINIDAE

| | | | |
|---|---|---|---|
| 89. | Hirundo rustica | —Ласточка деревен. | —Ластаўка вокнаўка, вясковая |
| 90. | „ urbica | — „ городская | —Ластаўка гарадзкая |
| 91. | Catyle riparia | — „ береговая | — „ зямлянка |

## СЯМЬЯ ЖАЎРУКОЎ. ALAUDIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 92. | Alauda arvensis | —Жаворон. полевой | —Жаўранак, Жаўрук |
| 93. | „ arborea | — „ лесной | —Жаўранак баравы |
| 94. | „ cristata | — „ хохлатый | —Жаўранак сьмяцюх, Дзярлюк |

## СЯМЬЯ ПАДАРОЖНІКАЎ. EMBERIZIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 95. | Plectrophanes nivalis | —Подорожник снеж. | —Сьняжурка |
| 96. | Emberiza citrinella | —Овсянка обыкнов. | —Сьвірстушка |
| 97. | „ schoelniclus | — „ камышевая | — „ чаротаўка |
| 98. | „ milliaria | —Просянка | — „ гуменная |

## СЯМЬЯ ЮРКОЎ. FRINGILLIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 99. | Fringilla coelebs | —Зяблік | —Бярозаўка, Зябок |
| 100. | „ montifingilla | —Вьюрок обык. | —Юр, Юрок, Калістаўка |
| 101. | „ chloris | —Зеленушка | —Дубанос |
| 102. | „ cannabina | —Коноплянка | —Канаплянка |
| 103. | „ linaria | —Чечетка | —Чачотка |
| 104. | „ spinus | —Чиж | —Чыжык |
| 105. | „ caduelis | —Щегол | —Шчыгел |
| 106. | Passer montanus | —Воробей полевой | —Верабей (вербавы, Вярбель палявы |
| 107. | „ domesticus | —Воробей домашний | —Верабей, Гарабец, просты верабей |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 108. | Coccothraustes vulgar. | —Дубонос | —Дужак |
| 109. | Carpodacus erythrinus | —Чечевица | —Чaремашнік |
| 110. | Pyrrhula coccinea | —Снегірь северный | —Гіль |
| 111. | Penicola enucleator | —Щур | —Шчурок |
| 112. | Loxia curvirostra | —Клёст-еловик | —Брукун—ялавік |
| 113. | Loxia pityopsittacus | —Клёст-сосновик | — „ саснавік |

## III. Стрыжавыя птахі. Macrochires (Cypselomorphae).

### СЯМЬЯ СТРЫЖОЎ CYPSELIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 114. | Cypselus apus | —Стриж черный | —Сьвіргуль. Стрыж |

### СЯМЬЯ ЛЕЛЕКАЎ. CAPRIMULGIDAE

| | | | |
|---|---|---|---|
| 115. | Caprimulgus europaeus | —Козодой обыкнов. | —Лелек, Лялёк, Казадой |

## VI. Зязюлістыя птахі. Coccygomorphae.

### СЯМЬЯ ЗЯЗЮЛЬ. CUCULIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 116. | Cuculus caronus | —Кукушка обыкнов. | —Зязюля |

### СЯМЬЯ ЗІМАРОДКАЎ ALCEDINIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 117. | Alceda ispida | —Зимородок обыкн. | —Курцік, Зімародак |

### СЯМЬЯ УДОДАЎ. UPUPIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 118. | Upupa epops | —Удод обыкновен. | —Удод, Жыдоўская зязюля, Пататуй. |

### СЯМЬЯ СІВАВАРОНАК. CORACIADAE

| | | | |
|---|---|---|---|
| 119. | Coracias garrula | —Сизоворонка | —Сіваваронка, Краска |

## V Дзятлавыя птахі. Pici (Scansores).

### СЯМЬЯ ДЗЯТЛАЎ. PICIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 120. | Dendrocopus major | —Большой пестрый дятел | —Дзяцел рабы вялікі |
| 121. | „ medius | —Дятел вертлявый | —Дзяцел сярэдні, серадольшы. |
| 122. | „ minor | —Малый пестр. дятел | —Дзяцел рабы малы |
| 123. | Gecinus vizidis | —Зеленый дятел | —Жауна |
| 124. | „ canus | —Дятел седой | —Жаўна сівая |
| 125. | Dryocopus martius | —Желна | —Дзяцел чорны |
| 126. | Picoides tridactylus | —Дятел трехпалый | —Жоўтагаловы дзяцел |

### СЯМЬЯ КРУТАГАЛОВАК. JYNGIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 127. | Jynx torquilla | —Вертишейка абык. | —Крутагалоўка |

## VI. Галубіныя птахі. Columbinae.

### СЯМЬЯ ГАЛУБОЎ. COLUMBIDAE.

128. Columba oenas —Клинтух —Голуб дзікі, Вяхір малы
129. Columba palumbus —Витутень —Голуб дзікі, Вяхір вялікі

### СЯМЬЯ ТУРКОЎ. PERISTERIDAE.

130. Turtur auritus —Горлица обыков. —Туркаўка, Турок.

## VII. Курыныя птахі. Gallinacei s Rasores.

### СЯМЬЯ ЦЕЦЯРУКОЎ. TETRAONIDAE.

131. Tetrao urogallus —Глухарь —Глушэц
132. „ tetrix —Тетерев полевой —Цецярук
133. Bonasia betulina —Рябчик —Ярабак
134. Lagopus albus —Белая куропатка —Пардва? Белы ярабак

### СЯМЬЯ КУРАПАТАК. PERDICIDAE.

135. Perdix cinerea —Куропатка серая —Курапатка
136. Coturnix communis —Перепел —Перепёлка

### СЯМЬЯ БАЖАНОЎ. PHASIANIDAE.

137. Phasianus colchicus —Кавказскій фазан —Бажан

## VIII. Доуганогія птахі. Grallatores s Gralla.

### СЯМЬЯ ПАСТУШКОЎ. RALLIDAE.

138. Rallus aquaticus —Водяной пастушок— Шыланос
139. Ortygometra porzana —Погоныш —Вадзяная курачка
140. Crex pratensis —Коростель —Драч, Дзяргач, Руская зязюля
141. Gallinula chloropus —Водяная курица —Пастушок
142. Fulica atra —Лысуха —Лыска

### СЯМЬЯ ЖУРАВОЎ. GRUIDAE.

143. Grus cinerea —Обыкнов. Журавль— Журавель, Жораў

### СЯМЬЯ ДРОФАЎ OTIDAE.

144. Otis tetrax —Стрепет —Хахатва

### СЯМЬЯ КНІГАВАК. CHARADRIIDAE.

145. Oedicnemus crepitans—Авдотка —Галахвосьцік
146. Vanellus cristatus —Чибис —Кнігаўка
147. Charadirius pliuvialis —Ржанка —Сеўка, сіўка
148. Chiaticula minor — ? — ?

### СЯМЬЯ КУЛІКІЎ. SCOLOPACIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 149. Scolopax rusticola | —Вальдшнеп | —Сломка, Случа |
| 150. Scolopax gallinago | —Бекас | —Бакас |
| 151. „ major | —Дупель | —Дубэльт? Лежань |
| 152. „ gallinula | —Гаршнеп | —Стучок |
| 153. Tringa alpina | —Чернозобик | —Кіркун вялікі |
| 154. „ Temmincki | —Куличек-воробей | —Кіркун малы |
| 155. Limosa melanura | —Веретенник | —Грыцук (Пінск), Сукалень |
| 156. Machetes pugnax | —Турухтан | — ? |
| 157. Actitis hypoleucos | —Перевозчик | — ? |
| 158. Totanus ochropus | —Черныш | —Кулік лясавы |
| 159. „ fuscus | —Щеголь | — |
| 160. „ glareola | —Фифи | — „ балотны |
| 161. „ glottis | —Улит большой | — „ селянец |
| 162. „ calidris | —Травник | — |
| 163. Numenius arquatus | —Кроншеп больш. | —Катрусь |
| 164. Haematopus ostralegus | —Кулик-сорока | —Крывок |

## IX. Бацяновыя птахі. Ciconiae (Herodiones).

### СЯМЬЯ ЧАПЛІ. ARDEIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 165. Ardea alba | —Чепура белая | —Чапля белая |
| 166. „ cinerea | —Цапля серая | — „ сівая |
| 167. Botaurus stellaris | —Выпь обыкновен. | —Бухала, Бугай |
| 168. „ minutus | — „ малая | —Бугайчык |

### СЯМЬЯ БАЦЯНОЎ. CICONIIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 169. Ciconia alba | —Аист белый | —Бацян |
| 170. „ nigra | — „ черный | —Бусел |

## X. Лапаногія птахі. Lamellirostres.

### СЯМЬЯ КАЧАК. ANATIDAE.

| | | |
|---|---|---|
| 171. Anas boschas | —Кряква | —Дзікая качка, Крыжэнь, Краква |
| 172. „ crecca | —Чирок свистунок | —Дзікая качка, Крыжэнь, Цыранка |
| 173. „ circia | — „ трескунок | —Сьвіслук |
| 174. „ acuta | —Шилохвост | — ? |
| 175. „ penelope | —Свіязь | —Дзікая качка, Пасьвістач, Сьвіцьва |
| 176. „ clypeata | —Широконоска | —Дзікая качка, Лапаноска |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 177. | Fuligula marila | —Чернеть морская | —Нырок, Плёсаўка |
| 178. | „ cristata | — „ хохлатая | — „ чубацік |
| 179. | „ ferina | —Нырок красногол. | — „ чырвоны |
| 180. | „ nyroca | — „ белоглазый | — „ белавокі |
| 181. | Glangula glaucion | —Гоголь | —Гогаль |
| 182. | Mergus merganser | —Большой крохаль | —Савук |

СЯМЬЯ ГУСЕЙ. ANSERIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 183. | Anser cinereus | —Гусь серый | —Гуся дзікая |
| 184. | „ segetum | —Гуменник | — ? |

СЯМЬЯ ЛАБУДЗЕЎ. CYGNIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 185. | Cygnus musicus | —Лебедь кликун | —Лабудзь, Лабуць |

## XI. Доўгакрылыя птахі. Longipennes.

СЯМЬЯ КАНЯЎ. LARIDIAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 186. | Stercorarius crepidatus | —Поморник короткохвостый | —Клушэц |
| 187. | Larus fuscus | —Клуша | —Чорнакрылка |
| 188. | „ canus | —Чайка сизая | —Каня шэрая |
| 189. | „ ridibundus | — „ обыкновен. | — „ рыбачка |
| 190. | „ minutus | — „ малая | — „ малая |
| 191. | Hydrochelidon lencopt. | —Крачка светлокрыл | —Крычка (Пінск) |
| 192. | „ nigra | — „ черная | — „ чорная |
| 193. | Sterna fluvia tilis | — „ речная | — „ рачная |
| 194. | Sterna minuta | — „ малая | —Рыбалоў малы |

## XIII. Нырчакі. Urinatores (Impennes).

СЯМЬЯ ГАГАЧОЎ, COLYMBIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 195. | Colymbus arcticus | —Гагара чернозобая | —Гагач |
| 196. | „ septentrionalis | — „ краснозобая | — „ малы |

СЯМЬЯ КОЎРАЎ. PODICIPIDAE.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 197. | Podiceps cristatus | —Поганка большая | —Коўра вялікая |
| 198. | „ nigricollis | — „ ушастая | — „ чубатая |
| 199. | „ minor | — „ малая | — „ малая |

У 1913 годзе вядомы польскі орнітолёг Януш Доманеўскі адбыў экскурсію ў беларускае Палесьсе і ў „Pamiętniku Fizyograficznym Tom XXV—Zoologia“ дае справаздачу з гэтай экскурсіі пад загалоўкам: „Sprawozdanie z wycieczki ornitologicznej odbytej na Polesie w roku 1913“. Аўтор падае ў сваей справаздачы вельмі цэнныя матэрьялы, на вялікі жаль далёка ня вычэрнуючыя, аб распашырэньні і тасунковым ліку тэй ці іншай птушкі. Усе яго спасьцярогі можна зьвясьці да наступных 12 катэгорыяў.

1. Вельмі распашыраны і ў вялікім ліку.
2. Вельмі распашыраны.
3. Распашыраны.
4. Распашырнны, але лікам ня лішне значны.
5. Даволі распашыраны.
6. Распашыраны, але лік ня значны.
7. Нялішне распашыраны.
8. Лікам ня значны.
9. Ня рэдкія.
10. Даволі рэдкія.
11. Рэдкія.
12. Вельмі рэдкія.

Аказуецца, што птушкі у Піншчыне, у сэнсе распашыранасьці ідуць у наступным парадку.

1. Вельмі распашыраны і ў вялікім ліку.

Phylloscopus sibilatrix sibilatrix
Acrocephalus arundinaceus arundinaceus
Anas platyrhynchos platyrhynchos
Circus aeruginosus aeruginosus
Nyroca nyroca
Hydrochelidon nigra nigra
Hydrochelidon leucoptera.

2. Вельмі распашыраны.

Lophophanes cristaus cristaus
Poecile atricapillus borealis
Strix aluco aluco
Querquedula querquedula
Vanellus vanellus

3. Распашыраны.

Corvus cornix cornix
Trypanocorax frugilegus frugilegus
Pica pica pica
Garrulus glandarius glandarius
Oriolus oriolus oriolus
Acanthis cannabina cannabina
Carduelis carduelis carduelis
Fringilla coelebs coellebs
Passer domesticus domesticus
Passer montanus montanus
Emberiza citrinella erythrogenys
Emberiza schoeniclus canneti
Galerida cristata cristata
Lullula arborea arborea
Alauda arvensis arvensis
Anthus trivialis trivialis
Anthus pratensis
Motacilla alba alba
Budytes flava
Certhia familiaris familiaris
Sitta europoea sztolcmani
Parus major major
Cyanistes caeruleus caeruleus
Enneoctonus collurio collurio
Musciacapa ficedula ficedula
Acrocephalus streperus streperus
A rocephalus palustris
Acrocephalus schoenobaenus
Hypolais icterina
Turdus philomelos philomelos
Planesticus merula merula
Pratincola rubetra rubetra
Aëdon luscinia
Cyanecula svecica cyanecula
Erithacus rubecula rubecula
Troglodytes trodlodytes troglodytes
Hirundo rustica rustica
Caprimulgus europaeus europaeus
Upupa epops epops
Coracias garrulus garrulus
Cuculus canorus canorus
Dryobates major major
Bubo bubo bubo
Falco subbuteo subbuteo
Cerchneis tinnunculus tinnunculus
Aquila pomarina pomarina

Accipiter nisus nisus
Ciconio ciconio ciconio
Ardea cinerea cienrea
Ixobrychus minutus
Botaurus stellaris stellaris
Podiceps cristatus
Totanus glareola
Tringa ochrophus ochrophus
Gallinago gallinago gallinago
Crex crex
Porzana porzana
Gallinula chloropus chloropus
Streptopelia turtur turtur
Lyrurus tetrix tetrix

4. Распашыраны, але лікам ня лішне значны.

Sylvia hippolais hippolais
Sylvia atricapilla atricapilla
Sterna hirundo
Milvus migrans migrans
Bonasia bonasia bonasia

5. Даволі распашыраны.

Sturnus vulgaris sophiae
Coccothraustes coccothraustes coccothraustes
Poecile palustris stagnatilis
Phylloscopus collybita abielina
Phylloscopus trochilus trochilus
Locustella naevia naevia
Saxicola oenanthe oenanthe
Hecinus canus canus
Cerchneis vespertina vespertina
Buteo anceps ruficaudus
Circus cyaneus cyaneus
Nettion crecca crecca
Tachybaptus ruficollis ruficollis
Gallinago media
Porzana parva
Columba oenas oenas

6. Распашыраны, але лік ня значны.

Sylvia communis communis
Dryocopus martius martius
Actitis hypoleucos

7. Нялішне распашыраны.

Sylvia nisoria nisoria
Sylvia curruca curruca
Turdus viscivorus viscivorus
Dryobates medius medius
Lynx torquilla torquilla
Carine noctua noctua
Circaetus gallicus
Totanus totanus totanus
Lymnocryptes gallinula
Scolopax rusticola

8. Лікам ня значны.

Astur gentilis gentilis
Perdix perdix perdix
Coturnix coturnix coturnix

9. Ня рэдкія.

Asio otus otus
Haliaëtus albicilla

10. Даволі рэдкія.

Remiza pendulina pendulina
Delichon urbica urbcia
Dryobates minor minor
Apuila clanga
Spatula clypeata

11. Рэдкія.

Corvus corax corax
Nucifraga caryocatactes caryocatactes
Periparus ater ater
Lanius minor
Proctopus nigricollis
Limosa limosa limosa
Columba palumbus palumbus

12. Вельмі рэдкія.

Lanius excubitor exubitor
Alcedo atthis ispida
Apuila chrysaëtos chrysaëtos
Chaulelosmus steperus
Nyroca ferina ferina
Phalacrocorax carbo subcormoranus
Pedetaithya griseigena griseigena
Megalornis grus grus
Rallus aquaticus aquaticus
Tetrao urogallus urogallus

В—СТ.

# Паленьне кніг на Беларусі.

Ў кірунку дасьледаваньня нашай мінуўшчыны дагэтуль нязьмерна мала зроблена. Працы расійскіх вучоных, за даволі рэдкімі выняткамі, дасьледуючы гісторыю Крыўска-Беларускіх зямель, мелі заўсёды на мэце пераканаць чытача, хоцьбы сабе падтасоўкай фактаў, што гэта землі „ісконі рускія“. Згэтуль немаль ва ўсіх працах расійскіх вучоных тон полемічны. Працы польскіх вучоных яшчэ менш сумленна абходзіліся з нашай гісторыяй: паводле гэтых апошніх, тут да прыходу палякаў, было памяшаньне вод з зямлёй, дзіч, і толькі палякі унясьлі сюды эўропэйскую цывілізацію. Гэта характэрная азнака ўсіх дэмагогаў, якія маюць звычай цьвердзіць, што толькі ад іх „пачаўся сьвет“.

Да цікавых момантаў нашай гісторыі належыць вайна з кнігамі. Першая гістарычная вядомасьць аб гэтым захавалася з XVI ст., ў лісьце, які перадрукаваў Т. Нарбут (Teodora Narbuta pomniejsze pisma historyczne. Wilno 1856). Адбылося паленьне кніг у Вільні, 1581 г., перад самым Вялікаднямъ. Ачавідзец так апісуе гэту барбарскую апэрацію.

„Ад самай раніцы звазілі смалістыя дровы і аблітыя смалой кулі саломы на рынак, гэты матэрьялы акружала гарадзкая варта і нікога ў сярэдзіну не пушчала. Пазьней прышлі два драбіністыя вазы, кожды паркай коні запрэжаны, а на вазах навалена кніг друкаваных, рукапісных кніг, і рожных актаў. Замковыя галябарднікі сьціслa пільнавалі гэтыя вазы. Гаварылі ў народзе, што гэта кнігі не каталіцкія, выклятыя, зганеныя індэксамі св. офіціі і каталіцкімі рымскімі багасловамі, ды на зьнішчаньне агнём аддадзеныя; што, бытцам няб. Яго Мсьць Князь Біскуп Валерьян (Протасевіч) гэну пастанову пацьвердзіў, але на пісьме гэтага не асталося, бо і не было ніколі; толькі так паны Езуіты ўмовіць хацелі, і на памершага віну ськінуць. Дык выкапалі на рынку яму, на супроць вісельніцы, нет ведама якой глыбіні, бо ўсю гэту орхандрыю акружалі жаўнеры і служачая ратушовыя, нікога блізка не дапушчалі. Пачаўшы ад дна гэнай ямы, злажылі груду кніг, перакладаючы дравамі і саломай, вышыня якой груды, над роўняй рынковага пляцу, мела прыблізна да трох локцяў, а шырыня ў квадрат шмат большая. Пачалі зьбягацца людзі. Кожды пытае, што гэта? Як адны так і другія нешта шэмруць. Каля груды, кружаць невядомыя фігуры ў доўгіх чорных бурках, агромнымі капішонамі маючы аблічча і галовы закрытыя. Тут і кат

адміністратар юстыціі і некалькі пар манахаў, рожнай барвы. А гадзіне дзесятай прыбыў інстыгатар і ўраднікі. Загудзелі трубы і бубны што трывала даволі доўга. Пасьля гэтага стуку-грому Ягомасьць ксёндз Фердынандус Капэцкі S. J. узыйшоў на груд... аж тут бабы семярніцы (што прадаюць насеньне), перакупкі, перапечайкі, (што прадаюць печыва) і іх племя, як пачнуць крычаць, як пачнуць прычытаць: што ксяндза будуць паліць на грудзе: і толькі па доўгім акліканьню і пантомінах самога Reverendissima, даліся устатквацца. Пасьля ён сказаў прыгожае казаньне, тлумачучы аб што справа ідзе. Народ маўчаў, бо няведаў што рабіць, здзіўлены навіной здарэньня. Не відаць было ўсёж-такі вясёласьці, як гэта бывае, калі публічна што дзеецца паводле сардэчнага хаценьня публікі; шмат хто сьціскаў плячыма. Ня доўга pater гаварыў, знаць баючыся, каб не паляцеў на яго град каменьня, бо да гэтага было блізка ад рожнаверцаў якія тут стаялі. Illustrissimus у акружаньні вышэйшага клеру і старшых манахаў, глядзеў на гэты спэктакль з зялезнага ганку на паверсе камяніцы Новакуньскай. Воеводы не было ў Вільні: ксёндз Пётр Рэктар (Скарга) абложна хворы ляжыць ў палацыку на Рыбаках. І толькі калі прамоўца зышоў з шафоту, прынясьлі гаручую паходню, якую паблагаславіў нейкі экзорцыста, дамініканін. Паходню ўзяўшы у рукі пан майстар (кат) Ігнат з Сабачай вуліцы (цяпер вуліца Субач у Вільні), пасьля некатарых цэрамоній свайго мастацтва, падпаліў гэны нешчасныя bustum: полымя сьпярша крэпка шугнула, але нябаўна зьнізілася і пачаў выбівацца чорны, густы дым, выдаючы нясьцерпны сморад, які вецер гнаў ў адзін бок; народ што там стаяў, павінен быў адыйсьці, а што ганак, з якога клер прыглядаўся ласьне прасьцюсенька быў супроць ветру, дык рап там зьніклі spectatores; на іх шчасьце ў пару, бо незадоўга, як змоцніўся агонь на грудзе і прыбыло ветру, то і гэты ганак, і перакупніцкія будкі, што былі пад ім, агарнула полымя. Добра яшчэ, што начыньні з вадой былі пад рукой, іначай-бы пайшла і камяніца in flagorem, а за ей хто ведае што яшчэ. Тыя, што стаялі ex oposito а злашча што глядзелі з вокнаў на паверхах, бачылі нешна цудоўнае і паны нававерцы, што заўзяліся ў цуды няверыць, аб нейкім цудзе яўна гаварылі. Я замаўчу, бо нічога сам няўгледзіў, хоць маю пару здаровых вачэй; першыя-ж гамонкі часта бываюць плёткі. Аб чым Вашмасьці не рада-бы я пераказываў. Выйшаў і верш насьмешлівы: „Дзьябал з Лютрам і Кальвінам, паляцелі сабе з дымам“ і т. д. Пэўна яго ўжо маеце, бо паня Падчашніца Карсаковая павязла з сабой. Але гаворачы аб здарэньні: certistissima veritas etc. што кнігі забраныя per vim (сілай), або benevole (дабравольна) аддадзеныя, або якколечы іначы дабытыя, само сабой гэрэтыцкія, або гэрэтыкамі і гэрэзіярхамі пісаныя, а знача грэшныя, ці не прыемныя, агулам зложыліся на гэну гэтакомбу. Кажуць, што значная часьць бібліатэкі па няб. ксяндзу Суфрагану Юрым, якая ляжала ў Сьвятаянскай калегіі, асобна ў скрыні спакаваная, пашла на спаленьне. Бытцам стары ксёндз Рэктар не ахвотня пазволіў на гэта і каб не хварэў пэўне-бы не дайшло да гэтага. Пан Станіслаў мне гэта апавядаў, а ён добра ведае і ацэняе грамадную шкоду, якую гісторыя дазнала ў гэтай загубе рукапісаў, пільна і старэнна зьбіраных нябошчыкам суфраганам. Гэты mente captus (варьят) аб якім сказаў я на пачатку гэтай рэляціі, сабраў усе кнігі бяз выбару і даў спаліць. Груд доўга гарэў, а пад вечар просты народ, нет ведама як і кім падбураны, ударыў ў званы на спалох! грамадзіўся на рынку выкрыкаючы супроць рожнаверцаў жадаючы іх маемасьць і іх саміх падобным спосабам спаліць. Igne probatur aurum! шаўцы і дзягцяры выкрыкалі. Ужо пачалі груды дроў знасіць на рынак, каб паліць гэрэтыкаў, ужо паходні і лучніцы пылалі, якімі мелі падпаліць іх малельні і дамы. На шчасьце, каля захаду сонца, паліў густы дождж, а дзейнасьць местовай і замковай варты

рэшта таўпы разагнала. Назаўтрае забаронена было зьбірацца, пазачынялі местовыя брамы, загразілі шыбеніцай людзём выкрыкаючым гэны лацінскі сказ і гэтак мала памалу замятня уляглася, бо падсковуючых саміх pavor panicus агарнуў“.

Гэта было першае, здаецца, і даволі нясьмелае выступленьне каталікоў. Раней каталікоў нішчылі кнігі кальвіны, соціяне і ўсякія сэктанты сярэдзіны і канца XVI ст., а што гэта рабілася рожнаверцамі на шырокую нагу, паказуе лік перанятых імі сьвятынь. Век XVII, век калі большасьць нашых гістарычных магнацкіх фамілій прыймала новую веру, азначыўся добравольным паленьнем старых кніг, як знакам шчырасьці сваей да новага абрадку і выславам поўнага разбрату са старым. Але побач з гэтым ішло і арганізаванае зьбіраньне старых кірыліцкіх кніг і іх паленьне. Галоўна вызначаліся на гэтым полі Езуіты, Дамініканцы і часьцю Васільяне.

Сколькі, якіх кніг, якой гістарычнай цэннасьці было, за гэты дзьвесьце гадоў спалена, ніхто няведае.

Аднак паленьне кніг на Беларусі не спынілася на XVI, XVII і XVIII ст. Пасьля далучэньня Беларусі да Рассіі, пачаўся нанова паход супроць кнігі. Раней каталікі і уніяты шукалі кнігі праваслаўныя, кальвінскія і друг., у XIX ст. наадварот, праваслаўныя вышуківалі кнігі уніяцкія і іх палілі. Яшчэ у 1860 гаду ў біскупствах Віленскім, Менскім, Вітабскім, Валынскім і Падольскім выдаваліся указы, каб паліць уніяцкія кнігі выданьня уніяцкага, якія „дагэтуль гніюць у званніцах“ у некатарых месяцах краю.

Болей, у 1890 х гадах, ў часе абьезду біскупіі, віленскім праваслаўным біскупам, была спалена ў Шкунціках, Дзіс. пав. цэлая шафа старых кніг, якія прыпадкова выкрыў сам біскуп у цэркве. Акром кніг, палілі, праз ўвесь цяг, часу ад XVI ст, да канца XIX ст., абразы, царкоўныя вопраткі, харугві і інш. З аднэй стараны рабілі гэта каталікі, асабліва пасьля 1860-х гадоў, калі за знайдзены ў касьцеле абраз ці рэч якую з азнакамі усх. абраду адбіралі касьцел на царкву. З другой стараны праваслаўныя вынішчалі ўсякую мясцовую старыну, якая не была падбнай па стылю да прынятых ў Масковіі.

Каб ня быць галаслоўным прывяду некалькі фактаў. У м. Гарманавічах (Дзіс. п.) у 1880-х гадах быў кс. Плошчэўскі, які спаліў усе абразы, і рэчы зьвезеныя ў гэты касьцёл з суседніх уніяцкіх царквей, перад іх пераробкай на праваслаўныя. У 1890-х гадах у новым Пагосьце, было падобнае паленьне кніг і рэчаў пры кс. Урбановічу. Тое-ж самае адбылося ў 1860-х ў Дзісьне і Друі. Думаю, старыя людзі памятаюць падобныя факты з другіх аколіц краю.

Думаю, што гэткіх і падобных фактаў нішчаньня мясцовай культуры можна набраць сотні.

І, запраўды, трэба дзівіцца якім спосабам захавалася яшчэ тое, што захавалася з нашай старасьвеччыны, асабліва калі прыняць пад увагу, што нішчаньне кніг і дакумантаў мела на мэце не адно фанатычнае прававерства таго ці іншага абрадку, але яшчэ і мэты політычныя: зацерці, зьнішчыць мясцовую Крыўска-Беларускую гісторыю, а на яе мейсца прышчапіць сваю, новую. Гэта адзін са спосабаў практыкаваны ўсімі заваёўнікамі ва ўсе часы. Гэты спосаб у нас шырока практыкаваўся, асабліва ў XIX ст., палякамі і расійцамі.

Рабілася гэта—ў 99 здарэньнях на сто—ціха, скрытна. Аб гэтых злачы-

нах маўчаць кронікі нашых культуртрэгераў, але мы павінны, гэты абураючыя факты нішчаньня культуры, выцягнуць ня сьвет Божы, павінны выказаць перад сьветам „заслугі“ нашых няпрошаных апякуноў, якіх ўжо ў XVI ст. называлі ў нас: „Не прасьвяціцелямі а гасіцелямі“ культуры.

---

В—т.

# Урад цівуна

Паводле судоўніка Казіміра Ягайлавіча, зацьверджанага ў 1468 гаду, цівуны, нараўне з намесьнікамі, былі зьверхнікамі паветаў і поўнапраўнымі кіраўнікамі іх. Першапачаткова гэта быў урад земскі, які прыналежаў—з пакаленьня ў пакаленьне—старшаму роду ў павеце. Слова павет—выводнае ад „веязь“, сьцяг, харугаў. Цівун быў племянным князьком, ён пераховываў у сябе павятовую харугаў, пад якой ішоў даны род на вайну, ён-жа быў вайсковым зьверхнікам і загадчыкам свайго павету ў час вайны; судзьдзёй і адміністратарам ў часе міру.

Княжыя намесьнікі бывалі ў тых родаў (паветаў), ў якіх вымерлі радавыя старшыны, або якія былі „прымучаны“ цантральнай княжай ўладай. Рожніца паміж цівуном і намесьнікам, затым, была ў тым, што першы быў прадстаўніком зямлі, другі—адміністрацыі, які раней або пазьней уступаў мейсца народнаму прадстаўніку па радавому яго, або выбарнаму праву.

Княжая ўлада ўвесь час кіравалася да абмежаньня правоў жыхарства, да сцэнтралізаваньня ўлады ў сваіх руках,—іначай кажучы, да абсалютнага падпарадкаваньня мяйсцовай ўлады органам цэнтральным. Дзеля дасьціжэньня гэтай мэты трэба было агранічыць правы радавых старшын, адсунуць іх ад ўмешываньняся ў дзяржаўныя справы. Пры сцэнтралізаваньні ў руках цівуноў неабмежанай адміністратыўнай, цывільнай і вайсковай ўлады, над сваім родам (паветам), гэта заданьне было нялёгкім.

На помач князём прышла тагочасная грамадзкая рэволюцыя, ў духу заходна-эўропэйскага фэодалізму.

Дзякуючы бязупынным войнам ў старым нашым грамадзкім ладзе, мала-памалу пачала складацца каста ваяраў або баяраў, г. зн. людзей якія станавілі вайсковы кадр зямлі. У XIV с. гэта яшчэ не была замкнутся каста, але семьі, якія давалі вайскоўца, карысталіся некаторымі зямельнымі прывілеямі і падатковымі льготамі, супроць сямей „цяглых“. Пераход з цяглых ў баяры ня быў нічым агранічаны: кождая цяглая сямья, калі мела магчымасьць высылаць чалавека на вайну, магла перайсьці ў рад баяраў.

На заходзе Эўропы, чаму блізкім прыкладам была суседняя Польшча, дзе вайсковы стан, шляхта (ад нямецкага schlagen біць также, як і наша форма—„баярын“ ад біць), была сарганізавана ўжо ў цесную касту, каторая здолела прысвоіць сабе ўсе грамадзкія і дзяржаўныя правы, коштам пазбаўленьня правоў рэшты жыхарства, галоўным чанам сялянаў.

Рад княжых прывілеяў, выданых пасьля жанідзьбы Ягайлы з Ядвігай, надаваў прывілеі вайсковаму стану, паводле прыкладу польскага. І, вось, пачынаючы ад памятнага ў нашай гісторыі 1396 году, баярскі стан пачынае пераарганізовывацца ў асобную касту, бярэ дыктатуру над краем ў свае рукі.

Радавая арганізацыя, ня без апору, пачынае ўступаць новай шляхоцкай арганізацыі.

Вынікам гэтай грамадзкай рэформы было аддзяленьне ад ураду цівуна, ўлады вайсковай. Статут 1529 году, ня толькі пазбаўляе цівуноў даводзтва над аружнай сілай свайго павету, але адбірае ад іх права пазываць на суд баяраў і шляхту.

Паводле Даніловіча (Skarbiec dyplomatów) ў пачатках XVI ст. ўлада цівуноў агранічаецца цяглымі людзьмі, свайго павету. Пад кіраўніцтвам цівуна адбываюцца селянскія вечы і суды. Цівун становіцца ўрадам выборным дажывотным. Словам у XVI ст. цівун з поўнапраўнага кіраўніка свайго павету, так сказаць племяннога князя, перамяняецца ў сельскага старасту, выбіранага цяглымі людзьмі. Яго правы абмежуюцца судом над селянамі ў іх дробных справах (бо суд цівуна ў справах крымінальных быў такжа выняты з пад яго компэтэнціі), ды зборам з сялян падаткаў на гаспадара і яго намесьнікаў.

Утраціўшы сваё дзяржаўнае значэньне, цівуны да палавіны XVI ст. здолелі захаваць за сабой даўнае сваё высокае палажэньне ў службовай ерархіі. Гэтак, з устаўной граматы 1529 году відаць, што даходы цівуна заставаліся немаль роўнымі даходам намесьнікаў і дзяржаўцаў. Цівуну ад кождай цяглай службы давалася у год пяць грошы, з двох служб бочка аўса або два грошы, з двох-жа служб воз сена або адзін грош, па двое кур, або за іх адзін грош, з чатырох служб бочка піва або пяць грошы і з кождай аднэй службы бохан хлеба цаной паўгроша.

Высока аплачываючы цівуноў цэнтральная ўлада адначасова рупілася каб цівуны ня мелі лішне блізкіх стасункаў са сваей „воласьцю". У тэй жа грамаце 1529 г. гаворыцца аб аб'ездах цівуном сваей воласьці:

„Што да ўездаў цівунскіх ў воласьць для зьбіраньня падаткаў на гаспадара і сваіх цівунскіх даходаў, то цівуны не павінны часта езьдзіць у воласьць і падоўгу аставацца там і езьдзілібы толькі на два рокі (тэрміны) у год: на Коляды і на Спаса, і аставаліся там кожды раз ня больш трох тыдняў, і пры гэтым не павінны аб'езджаць сваю воласьць з вялікай сьвітай слуг, каб не ацягчаць народ, і ў паказаныя шэсьць тыдняў сабраць ўсе падаткі; і свае даходы, а такжа пакончыць усе свае справы і суды, і дальш шасьці тыдняў не пражываць у воласьці і не пакідаць там ні намесьнікаў, ні слуг сваіх і чаго з сабранага на сваё утрыманьне ня вытрацяць, таго не пакідаць у валасных людзей на пераховы, і не браць з валасных людзей падвод, а вязьці усё сабранае на сваіх конях і так-жа не маюць права пакідаць у воласьці сваіх коней і лоўчых сабак".

Цівун адсэпараваны ад сваіх валашчан павінен быў жыць ў адміністратыўным цэнтры, пад наглядам князеўскай і шляхоцкай адміністрацыі. Само-сабой, што шэсьць тыдняў у год на суды, збор падаткаў і кіраваньне справамі цяглых людзей было мала на даволі значныя тагочасныя паветы, якія паводле абшару, прыблізна, пакрываліся расійскімі пазьнейшымі „уездамі". Але гэта і было мэтай цэнтральнага ураду і шляхоцкай нарастаючай дыктатуры, зьвясьці урад цівуна да абсурду, што і было ўжо ў канцы XVI і пачатках XVII ст. даканана.

Суд над цяглымі, людзьмі зьбіраньне з іх падаткаў на гаспадара, ў пазьнейшыя часы, былі перададзены ў рукі шляхты, поўна і безкантрольна. Цяглыя людзі былі пераведзены ў палажэньне падданых гэтай шляхты, а цівунскі урад урэшце-рэшт ў XVIII ст. зышоў да палажэньня панскага эканома пры дварох.

Гэтак у працягу 400 гадоў нашы цівуны з племянных старшын зьведзены былі ў палажэньне панскіх папіхачоў, большай часьцю нашых уласных рэнагатаў, якія выракліся свайго народу за каставыя прывілеі і паводзіліся між сваіх як у заваяваным краю.

ЯН з-пад ЛАСОСНЫ.

# Горадзенскі Беларускі Гурток 1913 г.

## (Успаміны).

У 1913 гаду ў Горадні група вучнёў сярэдніх школ заложыла „Беларускі гурток", які ставіў сабе мэтай самаасьвету і самоўсьвядомленьне. Сабраліся ў гэтым гуртку выключна дзеці беларускіх селян, каталікі, якім чужа было ў падобных польскіх вучнёўскіх арганізацыях, як роўна і падобных праваслаўных ў якіх, ў тыя часы, панаваў дух самодзержавія і „общеруска-сьці". І нічога дзіўнага, бо ў польскіх арганізацыях гуртаваліся дзеці паноў і падпанкаў, бацькі і акружаньне якіх жыло жалямі утрачанага панаваньня над беларусамі, ў расійскіх-жа—дзеці расійскага чыноўніцтва і праваслаўнага духавенства, бацькі і акружаньне якіх трымалі, ў той час, ў сваіх руках уладу над беларускім народам.

Першыя спасобіліся ў сваіх імкненьнях быць ізноў панамі на Беларусі, другія—утрымаць панаваньне. А па істоце сваей абедзьве групоўкі былі роўна варожы беларускаму адраджэньню.

Фактычна-ж „польскасьць" і „рускасьць", адных і другіх, была чыста фіктыўная, бо і першы і другі абоз складаўся з тых-жа апалячаных і абмаскаленых беларусаў, складаўся з самага благога гатунку націянальных рэнэгатаў, выракшыхся свайго народу.

На тыя часы адзіным чалавекам у Горадні, які адважываўся часам гаварыць некалькі слоў па беларуску быў ксёндз Грынкевіч, гродзенчук, сын селяніна. Гэтых некалькі нясьмелых слоў кс. Грынкевіча былі магічнай прыцягаючай сілай для школьнай маладзежы, тым больш што яна мела з ім стычнасьць як з капэлянам. Бяз вялікага высілку са стараны кс. Грынкевіча, каля яго утварыўся „Беларускі Гурток", у аснову якога паложана была веравызнаўчая азнака. Гэта адпавядала характару самога кіраўніка гуртка, які вызначаўся рэлігійным фанатызмам.

Умяшаньнеся ў беларускае адраджэньне, на горадзенскім грунце, ксяндза і прыданьне яму тут конфэсіянальнай афарбоўкі, адразу ўмацавала за Беларускім Гуртком, ў вачах маладзежы праваслаўнай, пераконаньне, што рух гэты выходзіць з польска-каталіцкіх крыніц, а гэта ў свой чарод паставіла таму пашырэньня яго на маладзеж зрусыфікаваную. Зрэшта, трэба прызнаць, што ў гэтым была доля праўды. Кіраўнік горадзенскага „Беларускага Гуртка" кс. Грынкевіч не належаў да беларускіх адраджэнцаў якія бачылі ў беларускім народзе самамэту,—ён выхаваны быў сам на баламутных ідэях польскага пасланніцтва на беларускіх землях і беларускае адраджэньне трактаваў як провінціянальную польскую адмену. Стануўшы на шляху беларускага адраджэньня ён сваім прыраджоным фанатызмам парываючы за сабой маладзеж, адначасна ўходзіў ў лабірынт супярэчнасьцяў з самім сабой. Згэтуль ва ўсей яго рабоце з горадзенскай маладзежжу атрымлівалася крывая, ламаная лінія, бо збуджанае націянальнае пачуцьцё ў моладзі выходзіла часта з рамак беларускай парафіяльшчыны іх кіраўніка. Заяўляючы сябе белару-

сам, кс. Грынкевіч ня меў ў сваей душы беларускай ідэолёгіі. Увесь яго сьветагляд, культурны і палітычны, тоўпіўся ў рамках польшчыны, ў якой бабыльскі куточак адводзіўся, безумоўна блізкай і дарагой яму, беларушчыне.

Адзіным відомым дакумантам тагочаснай дзейнасьці „Беларускага Гуртка“ ў Горадні, пад духовым кіраўніцтвам кс. Грынкевіча, асталася аднаднёўка „Kołas našaj niwy, Hrodno 1913 h.“ Гэта ад рукі пісаны зборнічак вучнёўскай літэратуры, адбіты на шапірографе сіняй фарбай. Характар пісьма выказуе вучнёўскі мазоль.

Прадмова відаць пісана рукой кіраўніка гуртка. За тэму ўзята эвангельская прыповесьць „Выйшаў сейбіт сеяць“. Тут гаворыцца аб зярнятах паўшых на рознаякую глебу. Канчаецца перадавіца-прадмова жаданьнем, „каб і гэты горадзенскі „Kołas“ выдаў хоць маленькі, найменшы каласочак з параю зернятак: зярнятатак каханьня бацькаўшчыны і братоў родных“.

Шмат жывейшы і цікавейшы зьмест твораў вучнёўскай прадукцыі. Тут ужо чуваць закіпаючае жыцьцё, парушаюцца націянальнае і соцыяльнае пытаньні, не надумна, а пачуцёва і дзеля гэтага—няраз, неспадзявана для саміх аўтораў—глыбока. Праўда, ўсё гэта па большай часьці перапевы тых самых матываў, якія друкаваліся тады у віленскай часопісі „Наша Ніва“ г. зн.:— мы бедны, загнаны, край наш дарагі любы, а вынік—рвемся з нядолі. Гэтае апошняе слова было выгодным са ўзгляду на цэнзуру, бо нельга было тады пісаць „няволі“ за гэта каралі. Царскія чыноўнікі угрымлівалі што царская Расія самая вольная старана пад сонцам. Гэтым выкрутам перад ўладай скарыстаўся і горадзенскі „Беларускі Гурток“.

Усяго у сшытку, фармату пісомай паперы, 16 стр. і 16 заголоўкаў рожных твораў. Трэба прызнаць за заслугу рэдактарам, што мова ў іх часопісі чыстая, прыгожая з адценкам горадзенскага дыялекту ў якім гаворадь „панэ“, „валэ“, „мужыке“, „дзяўке“ і т. д. Пісана аднаднёўка лацінікай.

Парушаная кс. Грынкевічам у Горадні беларуская стыхія хутка перарасла самога іх сейбіта, асабліва калі маладзеж, кончыўшы гімназію, трапіла ў Петраградзкі ўнівэрсытэт, саткнулася з moладзьдзю з другіх беларускіх правінцій і гарадоў. Провінціянальны патрыотызм маладзежы тут хутка ўступіў месца шуканьням, як ў дзедзіне націянальнай так і соцыяльнай ідэолёгіі, і, мала-памалу, ў студэнцкіх кругах зараджаецца здаровае народніцтва. Гэты, ужо новыя ідэі, маладзеж узваротнай хваляй прывозіла ў сваю правінцыю. Рамкі конфэсіянальнасьці, заложаныя „Беларускім Гуртком“ разляцеліся як пыл, і пачынаецца збліжэньне—доўга, мазольна і плянова дзеленых ўсякімі нашымі ворагамі і шкоднікамі,—беларусаў праваслаўных з беларусамі каталікамі. Не далей як у год, пасьля выхаду ў сьвет горадзенскага „Kołasu“, былі ўжо ў горадзеншчыне гурткі беларускай моладзі ў якіх рэлігійнае пытаньне не станавіла падзелу. А гэта быў, як на тыя часы, вялікі крок наперад.

---

# Генерал Сікорскі аб Палесьсі.

Першая гэтагодная кніжка польскага вайсковага месячніка „Bellona“ тоўпіць цікавы артыкул генерала дывізіі В. Сікорскага аб стратэгічным значэньні Палесься *).

*) Gen. Dyw. W. Sikorski. Polesie jako węzeł strategiczny naszego wschodniego frontu. „Bellona“ 1924. Том І. Старонкі 9—32.

Трэба трохі затрымацца над думкамі і разважаньнямі аўтара, сучаснага міністра спраў вайсковых Польскай Рэчы Паспалітай.

Ен лічыць, што пераход (фарсаваньне) Палесься будзе вельмі цяжкім дзеля арміі ворага, калі ўсе сухія мейсцы і штучные праходы будуць ўзмацаваны самаістымі малымі фартэціямі. Палескія лясы, якім генерал суліць вялікую будучыну, як тавару ў польскім лясным промысьле, добра захоўваюць таемнасьць ўласных рухаў і адчыняюць шырокую магчымасьць выкарыстаньня іх дзеля нападаў знянацку.

Аб палесскіх дарогах лепей за ўсё сьведчыць гістарычны прыклад: Чырвоная Кадровая Дывізія ў 1920 г., працерабілася праз амшарыны, алёсы, дрыгвы і аршавіны, што цягнуцца аж на 80 кілёмэтраў між р. Уборцьцю і Горыням. Назова дывізіі кажа, што людзі ў ёй былі надзейныя, пэўныя кадры. Яна перайшла праз усе перашкоды, але гэтыя **80** кілёмэтраў дывізія прайшла ў **38** дзён. Другі гістарычны прыклад з XVIII стагодзьзя: Кароль XII, што йдучы наўздагон за ўцякаўшымі Маскалямі хацеў прайсьці з Горадні-Слоніма праз Палесьсе на Валынь, панёс цяжкія страты ў людзёх і конях, падчас пераходу на поўдзень, мусіў спыніць сваю армію ў Пінску (1706 год).

Што датыча рэк, то большасьць іх цячэ ўпоперак, ўмагчымым кірунку вайсковых падзей. Толькі Каралеўскі Канал, Піна і Прыпяць цякуць з заходу на ўсход і будуць галовнай восьсю арміі, якой прыдзецца абараняць Палесьсе.

Вернемся зноў да дарог. Бітыя шляхі ідуць на поўнач і на поўдзень ад Палесься; першы: Кобрын—Слуцак—Бабруйск—Магілёў, другі Ковель—Роўна—Карэц—Звягель—Жытомір—Кіеў. Галіны гэтых шляхаў уходзяць у Палесьсе, але не прарэзаюць яго наскрозь. Пэўне, нямецкія і маскальскія мапы, зьнятыя ў часе вайны 1915—1917 і першапачатковыя польскія мапы 1918—1920, паказуюць у Палесьсі хітра зложаную сець дарог, але—ужо яны больш ня істнуюць, бо іх ніхто пасьля 1918 году не папраўляў, а ў 1920 годзе іх дарэшты разбурылі расійскія і польскія войскі. Мапка падпалкоўніка інжынера Крагельскага, зложаная на падставе данных 1920 г., сабраных у штабе Палескай Групы, ясна паказуе поўную фантастычнасьць вышэйпамянёных мап. Нямецкія і рускія дарогі больш не істнуюць у Палесьсі.

Пяскі палескія не даюць выкарыстаць тутака ні цяжкіх самаходаў, ні, нават, цяжкіх павозак. Маскалі ў 1915 годзе рабілі лёгкія павозкі ў Гомелі, вагой ўсяго 200—250 кілёграмаў, коні браліся малыя сібірскія або валынскія, на двох канёў на павозку клалі ня больш 350 кілёграмаў. Гэткі абоз лёгка мог рушыць з сваімі батальёнамі і кампаніямі. Палякі ў 1920 г. ўжывалі імправізаваны абоз з павозак беларусаў-палешукоў, апошнія былі і павозчыкамі ў гэтых абозох.

Чыгунак зусім мала. З іх важнейшая дзеля палякаў Вільна—Ліда—Баранавічы—Лунінец—Роўна—Львоў, заблізка праходзіць ад дзаржаўнай мяжы і бяз належных фортэціяў і фартоў дзеля яе абароны ня можа быць брана пад увагу.

Рухі вайска ў Палесьсі зьвязаны;—тут ня можа быць нават думкі аб шырокіх манэўрах, шляхі пераезду ўсюды тут лёгка перарваць, але нялегка іх адбудаваць. Трэба так сама памятаць, што ня ўсе войскі могуць апэраваць ў Палесьсі: самалётам цяжка ўзьнімацца і садзіцца ў дрыгвы і крокаці, аб цяжкой гармаце можна думаць толькі на чыгуннай устаноўцы, танкі зусім ня годны, чыннасьць конніцы можа быць толькі разведчай, конніца будзе

тутка на другім мейсцы. Вялізнае значэньне будуць мець у Палесьсі кулямёты і самастрэлы *).

Аддзелы дзеючыя ў цяжкіх абставінах вайны, ў лясох і дрыгвах, павінны быць нязьмерна рухлівымі і мець жалезную вытрамаласьць. Лёгкая пяхота моцна ўзброеная кулямётамі і самастрэламі, з палявой і горнай гарматай ды малымі аддзельчыкамі коннікаў—ось нармальны склад вайсковога аддзелу. На чыгунках—цяжкая гармата і панцырныя цягнікі, на рэках могуць с памыснасьцю ваяваць рачныя флётыліі.

Дужа цяжка будзе утрымліваць сувязь між часткамі і камандай батальёнаў (палкоў і вышэй), малодшыя вайсковыя начальнікі павінны быць здольнымі да самаініцыятыўных, незалежных ад суседзяў боек, калі рэдка можна разлічаць на дапамогу з боку ці з заду. Нялёгкім будзе і загадніцтва.

Генерал Сікорскі пералічае ў канцы чатыры лініі, на якіх могуць, умацаваўшыся акопамі, бараніцца палякі:

1) Шацілкі—Васілевічы—Хойнікі—суток р. Прыпяці ў р. Дняпро;
2) р. р. Птыч—Уборць;
3) р. р. Лань—Горынь;
4) старыя нямецкія акопы 1915—1918 г.г.

На гэтых лініях будзе вясьціся м а л а я  в а й н а, як гэта было ў 1920 г., калі Палесьсе бараніла 9 дывізія пяхоты, а потым аддзелы Палескай групы.

Вайсковае значэньне Палесься для Польшчы вялікае: яно загараджае цэнтр Рэчы Паспалітай, яно дае польскаму галоўнаму камандаваньню поўную волю што да ўгрупаваньня войск.

Абарона польскай мяжы кардонам, расьцягнутым у нітачку, слабымі сіламі на фронце—ад Двінска да Днестру—ў 1920 г., было памылкай, якая ледзь не згубіла войска, а за ім і дзяржаву. Абарона павінна быць угрунтавана на заняцьці добра узброенымі (як мы казалі вышэй) аддзеламі праходаў між дрыгвамі і моцных рэзэрвах, кіданых, ў часе патрэбы, на небасьпечную дзялянку фронту.

Сучасныя межы Польшчы даюць ёй магчымасьць бараніцца на поўначы паза літоўскімі вазёрамі, засланяючымі Вільню, а на цэнтральным тэатры вайны—ў Палесьсі. Гэты тэатр будзе другарадным, бо з гісторыі відаць два адвечных шляхі з Польшчы да Маскоўчыны і наадварот: паўноўчны ад Оршы, Вітабска і Смаленска, выгодны для вялікіх армій, якім ішлі—Баторы, Наполеон, Пашкевіч, Троцкі і паўдзённы—для конніцы, дзе пераваліваі калісьці орды Джынгіс-Хана, пасьля Украінцы, ўрэшце Будзённы. Але ж і другараднае Палесьсе дапаможа польскім, паўночнай і паўдзённай, арміям, бо яно заслоніць, забасьпечыць нутрамныя скрыдлы абедзьвех армій.

Расія мае куды адвясьці свае войскі, калі яны будуць зьбіты з лініі Дзвіна-Дняпро, тамака у іх, ззаду, застаюцца яшчэ бяскрэсныя абшары, гэта практыкавала Расія ў войнах з палякамі, туркамі, Напольёнам, немцамі (1915), ізноў з палякамі. Польшча з абароннага свайго абшару павінна адразу перайсьці на Віслу, сюды адвясьці войскі, але ўсё гэта напамінае сумнай памяці даты: 1704, 1809, 1830/31, 1914 і крывавы жнівень 1920.

Параможцам у вайне будзе „naród - państwo tylko wówczas, gdy stanowi zwarty, granitowy blok, wytrzymujący ciężkie i długotrwałe uderzenia wojenne“. (Народ-дзяржава толькі тады пераможа, калі творыць сьціслую гранітную глыбу,

*) Самастрэлы—fusil automatipue.

якая можа вытрымаць цяжкія і доўга трываючыя удары). Каб захаваць і забасьпечыць магчымасьць мець тэатр вайны на землях ня чыста-польскіх (літоўскіх, беларускіх, украінскіх) „musimy jak najsilniej i jak najistotniej zcalić Kresy z Macierzą, asymilując je w panstwowo-istotnym, a nie mechanicznym tego słowa znaczeniu“. (Мы прымушаны як найкрапчэй і як мага грунтаўней зліць крэсы (наўзьмежжы) з цэнтрам, асымілюючы іх істотна, ў поўным значэньню слова, а ня толькі мэханічна).

Грознай перасьцярогай гучаць апошнія радкі твору генерала Сікорскага—„pogrążeni w poniżających autorytet państwa walkach partyjnych, nie możemy zdobyć się na jednolitny program na kresach, które, wydane na łup nieobliczalnych eksperymentów, łatwo zamiast osłaniać czasu pokoju i wojny Rzeczpospolitą—stac się mogą podstawą dla knowań, skierowanych przeciwko, jej bezpieczeństwu i całości“. (Пануранымя у паніжаючых дзяржаўны аўтарытэт партыйных змаганьнях, мы няможам здабыцца на адналітную праграму на ўзьмежнах, якія, будучы аб'ектам безпляновых экспэрымэнтаў, лёгка—замест асланяць ў часе міру і вайны Рэчыпаспалітую—могуць стацца астояй інтрыг ськіраваных супроць яе басьпечнасьці і цэласьці).

„Што пасееш, то і пажнеш“, кажа старая беларуская прыказка.

Александар Ружанец
Майор Вайск. Літоўскіх.

---

ВЛАСТ.

# Слуцкія паясы.

Пояс, з найдаўнейшых часаў станавіў у нас неадзоўную прыналежнасьць вопраткі.

Курганныя раскопкі паказуюць, што пры кождым нябошчыку меўся пояс.

Старадаўныя рысункі гэтак сама паказуюць на ўсеагульнае ўжываньне паясоў, як да вайсковай, так да хатняй і выходнай, сьвяточнай вопраткі.

Наша этнографія, на прыгожых, узорыстых паясох, перахавала нам найстарэйшыя арнаманты, сягаючыя сваімі пачаткамі ў дагістарычныя часы.

Калі мы паедзем сягоньня яшчэ, ў нашу вёску, то пераканаемся, што любоў прыгожых паясоў ў нашага народу дагэтуль не занікла. Яшчэ сягоньня вясковыя дзячаўткі ткуць дзіўныя узоры і орнаманты на вузкіх паясох ў дар сваім блізкім, і, на знак сваей прыхільнасьці, маладым хлапцом. Але калі мы вернемся на якіх 5—10 дзясяткаў гадоў назад, то з апісаньняў тых часаў, убачым, што пояс быў далёка больш пашыраны ў нашай вёсцы. Апісаньне вясельнага абраду, запісанае ў пачатках XIX ст. ў Барысаўскім павеце, Шыдлоўскім, паказуе, што „маладая“ абдарывала паясамі сваей работы ўсю вясельную дружыну, а знача павінна была кождая дзяўчына натыкаць іх дзясяткамі, дый не абыяк, бо-ж у ўрочысты момант свайго жыцьця яна павінна была прылюдна выказаць сваё умецтва, паказаць такое што колечы, каб пахвалілі і сказалі: „наша Тацянка і ткаха і праха“. Вялікая прадукцыя паясоў ў даўным нашым вясковым жыцьці вымагалася абычаям насіць да кождай вопраткі пояс, а часам на адным мужу бывала і па тры паясы за адзін раз: паверх кашулі, паверх жупана і ўрэшце па сьвіце.

Калі мы яшчэ далей пасунемся ў мінуўшчыну, мы пабачым, што нашэньне паясоў, не было нейкай сялянскай выключнасьцю: паясы насілі мяшчане, баяры, і князі. Пояс ў старадаўнасьці ў нас быў такой самай прыналежнасьцю вопраткі, як цяпер гальштук.

Бывалі паясы на штодзень, на сьвята, на вясельле і пахараны, да гульні і г. п. Старасьвецкія рэестры і сьпісы рэчаў баярскіх і князеўскіх, паказуюць між вопраткамі нязьмерны лік паясоў. Не дармо ў нас у XVI і XVII ст. паджартовывалі з тагочасных франтаў, што „ў яго ўся маетнасьць ў паясах“, праўдападобна што яно ў некатарых так і бывала.

Калі вёска, а сьцісьлей кажучы сяляне клалі многа старэньня на тое каб пояс быў аздобны, то станы багацейшыя ішлі ў гэтым кірунку вельмі далёка, з тэй толькі рожніцай, што вёска абывалася сваімі ўласнымі вырабамі з лёну і воўны, а станы багатыя ўжывалі на паясы матэрьялаў больш дарагіх: шоўк, серабро і золата.

Наша стараветная арыстакрацыя, баяры і князі, жылі тыміж абычаямі што і народ, дык з усей праўдападобнасьцю можна сказаць, што ў доўгія восенскія вечары, тканьне паясоў дзяўчатамі гэтых багатых станаў, так сама практыкавалася, як і дзяўчатамі вясковымі, толькі з даражэйшых матэрьялаў і больш завілымі узорамі. Сьветчаць аб гэтым некаторыя адрыўкі вясельных песень ў якіх апавядаецца як дзяўчына думаючы аб сваім мілым: „Шаўкоў пояс ткала, мысьлямі узор клала“.

Аб паясах XVI, XVII сталецьця, можам паўзяць толькі вельмі прыблізнае паняцьце з малятур: на абразах, партрэтах і ілюстрацыях, ды з рэестраў баярскіх і панскіх адзежань, ці—як тады казалі—шатняў.

З рысункаў відаць, што да сьвяточных вопратак паперазывалі шырокія узорыстыя паясы. З рэестраў відаць што паясы бывалі белыя, блакітныя, чорныя, чырвоныя; з шоўку і дарагой кашмірскай воўны, ня разператыканыя золатам.

Па цане паясы даходзілі, як натыя часы, баечных сум, прыкладам—да 500 дукатаў (дукат=даваеннай вартасьці 3 залатым рублям).

Акром паясоў мясцовай работы у рэестрах бываюць паметкі: „пояс турэцкі“ „пояс хінскі“, „пэрскі“, гэта паказуе, што паясы былі ў тыя часы аб‘ектам гандлю з далёкімі краямі Азіі.

Пры істнаваньні вялікага попыту на паясы і пры істнаваньні пакупцоў. якія маглі плаціць і плацілі высокія за іх цэны, хатні выраб паясоў на продаж, прынамні ў большых гарадох, істнаваў і меў адпаведных майстроў (ткачоў). Гэтак ў ліку рэмесьнікаў прыслухаўшых да замкаў, ткачы ва ўсіх рэестрах фігуруюць. Ведама, ня ўсе ткачы былі ткачамі паясоў, але многалічэбны цэх ткачоў меў ў сваіх радох мастакоў паясовага умецтва. Бо толькі гэты засаб мясцовых майстроў і даў магчымасьць, ў першай палавіне XVIII ст., князю Радзівілу*) заснаваць у Слуцку ўжо цэлую фабрыку паясоў.

Найдаражэй тады цаніліся шаўковыя паясы якія прывозіліся з Пэрсіі. Гэта былі ў поўным слова значэньні вырабы мастацкія. Гэту галіну ткацтва і пастанавіў выкарыстаць Радзівіл у сваім Слуцку, дзеля чаго выпісаў некалькі пэрсаў і туркаў у Слуцак. У гэтай, як яе называлі „пэрсіярні“ спярша ткалі толькі шаўковыя паясы, а пазьней паясы ператыканыя залаты

*) „Słownik geograficzny K. Pol.“ і „Encyklopedyja powszechna (t. 23. 1869) падаюць імя заснаўца: Геранім-Флёрьян Радзвівіл, а Голэмбёўскі і Жарновецкі называюць—Міхайлу—Казіміра Радзівіла.

мі і сярэбранымі ніткамі. Есьць традыцыя, што раней слуцкай істнавала фабрыка паясоў у Несьвіжы, аб чым гаворыць Аляксандар Ельскі ў сваей манаграфіі аб паясарнях у Слуцку (A. Jelski „Wiadomość historyczna o pasarni radziwiłłowskiej w Słucku“ Krakow 1896), але дакумантаў датыкаючых несьвіжскай фабрыкі паясоў дагэтуль ніхто не апублікаваў, дзеля гэтага слуцкая фабрыка лічыцца першай у краю.

Ад 1758 году дырэктарам Слуцкай фабрыкі быў Ян Маджарскі, армянін, родам са Стамбулу. 24-га студня гэтага году Маджарскі падпісаў з Радзівілам умову, па якой ён абавязаўся ткаць: „макаты“ (кілімы), „дывдыкі“ (каберцы або каверцы), паясы з кветкамі, асобамі, цыфрамі, золатам, шоўкам, паводле дадзенага рысунку“. Акром гэтага Мажарскі забавязываўся вывучыць хлапца гэтых работ. Работнікамі былі беларусы-сяляне з пад Слуцка і мяшчане са Слуцка.

Фабрыка мела 24 паставы, на якіх вытыкалі толькі залаталітых па 200 паясоў у год. Цэны паясоў былі ад 5 да 50 дукатаў кожды. Акром гэтага, паводле кантракту, Мажарскі меў права „рабіць са сваіх матэрьялаў і прадаваць работы свайго умецтва“, дзеля гэтага трэба думаць, што лік працаваўшых у Слуцку паставоў быў значна большы. Аб гэтым сьведчыць яшчэ і тое, што Маджарскі ў кароткім часе вельмі разбагацеў, так што Радзівілы сталіся яго даўжнікамі на значныя сумы. Каля 1773 году Маджарскі акром таго, за 30.000 залатых, узяў ад Радзівіла ў заставу двор Сельцы, каля Слуцка.

Каля 1778 году дырэктарства над слуцкай ткальняй пераходзіць да сына Маджарскага Лявона. Гэты так ужо разбагацеу, што ў 1792 г. становіцца шамбэлянам (камэргэрам) пры дварэ караля Станіслава Аўгуста. Хутка пасьля гэтага „усеагульная неспакойнасьць“ прымусіла Маджарскага зьменшыць на палавіну фабрыку, а пазьней перадаць дырэктарства ў рукі слуцкага мяшчаніна Каролькі.

Ад 1807 году дырэктарам слуцкай ткальні паясоў становіцца Язэп Барсук, быўшы майстар Маджарскага. Слуцкія ткальні істнавалі да 1844 г. Пасьля далучэньня Беларусі да Расіі забаронена было насіць кунтушы, прынятыя маскалямі чамусьці за націянальную польскую вопратку, якой яна ў істоце ніколі не была, бо кунтушы насілі баяры і мяшчане беларускія, украінскія, а раней ўся Нямеччына і Аўстрыя, сама-ж вопратка занесена была с Пэрсіі. З гэтага часу у Слуцку быў малы попыт на паясы, іх ткалі яшчэ для царкоўнага і касьцельнага ужытку; замест паясоў пачалі ткаць тканіны на царкоўныя вопраткі, макаты і інш.

Слуцкія паясы адзначаюцца выключна прыгожым блескам, што атрымлівалася дзякуючы масяжовай валкаўніцы, якую Маджарскі часьцямі, пакрыёму, прывёз з Турціі. Пазьней гэткія валкаўніцы рабілі, паводле модэлю на мейсцы ў Слуцку.

Слуцкія тканіны зазвычай бываюць значаны надпісамі вытыканымі на канцох. Першыя тканіны значыліся славянскімі літарамі ВЪ ГРАДѢ—СЛУЦКѢ і лацінскімі MADŽARSKI—SLUCK; JOANNES MADŽARSKI — ME FECIT SLUCIAE; ЛЕО МАДЖАРСКІ, або $\frac{\text{ЛЕОМА}}{\text{ДЖАРСКІЙ}}$; FECIT SLUCIE; F. S. Акром таго загадковы паясы з надпісамі: Ф. К. С. Р.—СЛУЦК. У кождым здарэньні яны паказуюць на істнаваньне нейкай другой у Слуцку фабрыкі паясоў, акром Радзівілаўскай, аб якой у нас цяпер німа дакумантальных данных.

Што датыча стылю узораў на слуцкіх паясах, то ў першых вырабах

слуцкіх узоры носяць ярка пэрскі стыль, гэта былі проста копіі пэрскіх узораў. Але ў хуткім часе да пэрскіх узораў пачынаюць уплятацца матывы саўсім нязнаныя пэрсам, пачэрпнутыя з чыста мясцовага грунту. У другім дзесяцілецьці істнаваньня слуцкай паясарні, узоры на паясох маюць саўсім асобны свой стыль, які чым далей тым больш унікае ламаных пэрскіх ліній і штораз болей вытыкае кветак краёвай флёры. Самымі улюбленымі кветкамі на слуцкіх паясох, гэта былі—васількі або валошкі і чырвоныя гвозьдзікі.

Даходнасьць слуцкай ткальні пабудзіла другіх краёвых магнатаў і прэдпрыемцаў хапіцца за вытыканьне „слуцкіх“ паясоў. Засновываюцца ткальні паясоў ў Гарадніцы і Ласосне каля Горадні, у Сакалове на Падляшы (кн. Огінскіх), у Ражаньне (Сапегаў), Несьвіжы, і, здаецца, ў некалькіх яшчэ іншых мясцох нашага краю.

Горадзенскія фабрыкі знаходзіліся у Ласосьне і Гарадніцы, каля Горадні. Кіраўнікоm гэтых фабрык быў Антон Тызэнгаўз, а тэхнічным дырэктарам француз Якуб Бэкю. Горадзенскія паясы бываюць з аднэй стараны чырвоныя, а з другой зялёныя.

Рожанская фабрыка істнавала вельмі нядоўга, ўсяго некалькі гадоў, ткала паясы без мэталічных нітак, ў чатыры колеры.

Акром гэтых фабрык, хапіліся імітаваць слуцкіе паясы і ў Польшчы, да значнейшай с паміж іх належыць фабрыка ў Кабылках і Ліпкове пад Варшавай, заложаная французам Солімондам, ткачом з Ліёну, пазьней перанятая Якубам Пасхалісам (армянінам), ўрэшце ведзеная С. Філіжанам (S. Filsjean). Фабрыка гэта трывала ад 1782 да 1794 г.

Кракоўская фабрыка „слуцкіх“ паясоў была заложана Ф. Маслоўскім ў 1787 г., трывала некалькі гадоў. Вырабы гэтай фабрыкі вызначаюцца плыгкай кампазыціяй і грубасьцю выкананьня.

Акром падваршаўскіх і падкракаўскіх падробак слуцкіх паясоў іх пробавалі яшчэ, вельмі няўдатна, падрабляць у Гданску і нейкі Якуб Пётровіч (канчатак „віч“ паказуе на беларуса) ў Канстантынопалі, акром гэтага была проба фабрыкаваць „слуцкія“ паясы ў Парыжы і Ліёне. Але ніводная з фабрык, па дабротнасьці вырабу і багацтву рысунку, не магла даць вырабаў роўных слуцкім.

Даўжыня і шырыня слуцкіх паясоў бывае самая align разнаякая. Знаны слуцкія паясы гэткай меры:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| даўжыня | 294 | цм. | шырыня | 29 ½ | цм. |
| „ | 234 | „ | „ | 29 | „ |
| „ | 335 | „ | „ | 36 | „ |
| „ | 491 | „ | „ | 41 | „ |

Колеры на слуцкіх паясах: чырвоны цёмны, малінавы, блакітны, зялёны, белы і чорны, ды серабро і золата.

Мастацкая слава слуцкіх паясоў спакусіла палякаў, прызнацца да гэтага вытвару беларускага промыслу і мастацтва ды рэклямавацца імі перад лёгкавернай заграніцай, дзе палякі звыклі выдававаць слуцкія паясы, як „Pasy polskie“. Амбіція палякаў, і прыродная склоннасьць перабівацца чужым дабром, спанукнула з іншага боку даволі паважных польскіх аўтараў лгаць, ня толькі што слуцкіе паясы—вытвор польскі, але да сьмешнай брахні, як: „Robotnikami byli sami polacy, ze Słucka przeważnie“ (Гл. „Historya tkanin jedwabnych“ Dr. Longin Zarnowiecki. Kijow 1915).

Высокая мастацкая вартасьць слуцкіх паясоў, прычынілася да таго, што немаль ва ўсіх большых эўропэйскіх музэях знаходзяцца яны ў музэальных вітрынах. Нажаль захавалася іх не шмат, бо золата і серабро паложанае ў іх, спрычінілася да таго, што іх палілі, вытапліваючы цэнны мэталь, якога ў больш дарагіх экзэмплярах бывала да 2 фунтаў.

Узоры слуцкіх паясоў дагэтуль нікім не сабраны, а яны маюць акром агульна мастацкай цэннасьці, для нас беларусаў асаблівую цэннасьць, як аснова да далейшай распрацоўкі вельмі характэрнага стылю. Гэта характэрнасьць стылю слуцкіх узораў рана зьвярнула увагу беларускіх адраджэнцаў і была спроба выкарыстываць іх як віньеткі і застаўкі ў кнігах, што быў ў свой час (1912—13 гг.), запачаткаваўшы праф. Вацлаў Іваноўскі ў выдаваных ім у Петраградзе зборніках „Маладая Беларусь". Перад самай вайной, у 1914 годзе, адзін з беларускіх патрыотаётаў ахвяровываў патрэбныя кошты каб сабраць узоры слуцкіх паясоў і выдаць ў колерных рэпродукціях асобным альбомам, але с прычыны вайны справа гэта разьвеялася і не дашла да скутку.

Прыложаныя да гэтага нумару „Крывіча" адбіткі паясоў, Рэдакція змагла памесьціць, дзякуючы ласкавай уважлівасьці Ковенскага местовага музэю, які даў іх Рэдакціі да сфотаграфаваньня. Восем экзэмпляраў памешчаных тут паясоў—дар княгіны Магдалены Радзівіл, Ковенскаму местоваму музэю.

---

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ.

## Слуцкія ткачыхі.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны бяздольныя узяты
Ткаць залатыя паясы.

І, цягам, доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.

А за сьцяной сьмяецца поле
Зіяе неба з-за вакна—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды дзе расьцвіла вясна,

Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьяюць—хвалі
Між гор ліючайся ракі.

Цямнее край зубчаты бору...

І тчэ, забыўшыся, рука
Замест пэрсідзкага узору
Цьвяток радзімы васілька.

---



1. Слуцкі пояс з подпісьсю ВЪ ГРАДѢ СЛУЦКѢ; асноведзь залатая на ей-контуры кветак чорным, лісьці зялёным, кветкі белыя і малінавыя.



2. Слуцкі пояс бяз подпісі; асноведзь ясным золатам, контуры чорным, кветкі чырвоным, блакітным і жоўтым колерамі.




3. Слуцкі пояс з подпісам LEO MADŽARSKI—SLUCK. Асноведзь залатая, контуры чорным, лісты зялёным, кветкі блакітным, чырвоным і малінавым.



4. Арнамант з тагож пояса № 3, сярэдняй яго часьці.



6. Сярэдзіна паяса № 9.



5. Слуцкі паяс з подпісам MEMFECIT SLUCIAE; аснведзь золатам, лісты—цёмная зелень, акружаючая кветку рамка—серабром, кветкі—чырвоныя і блакітныя.



7. Слуцкі паяс бяз подпісі, познай фабрыкацыі; асноведзь яснае золата, кветкі чырвоныя, блакітныя, бела-жоўтыя.



8. Сярэдняя часьць паяса горадзенскіх фабрык; асноведзь залатая, па ей — цёмна чырвоны арнамант, кветкі — цёмна-сінім, ценяваныя серабром.



9. Слуцкі паяс бяз подпісі; асноведзь ясна залатая, контуры чорным, лісты—цёмна зялёныя, кветкі—сінія і чырвоныя.



10. Паяс бяз подпісі невядомай фабрыкі; шаўковы, без мэталічных нітак; асноведзь бронзава-зялёная, узор чырвоным.



1. Слуцк. шаўковы пояс з подпісам F. S.; фабрыкацыі самай познай; асноведзь—цёмна жоўтая, залацістая, контуры чорным, кветкі белым і ясна-жоўтым, па краёх пялюсткоў пераходзячыя у чэрвень.



12. Пояс невядомай фабрыкі, шаўковы; па бронзавай „табачковай“ асноведзі,—цёмны, гэйта-жа барвы арнамант.



13. Пояс невядомай фабрыкі, праўдападобна некаторай з горадзенскіх; асноведзь—фіолетовая, па ей узор серабром.



14. Пояс тагож тыпу фабрыкацыі, што і № 13; асноведзь—фіолетавая, кветкі серабром.



15. Паяс з подпісам КОВУЎКІ; асноведзь—невыразнага „табачковага" адценку (можа высьвяўшая), па ей арнамант серабром.



16. Імітацыя слуцкага паяса францускай фабрыкацыі.

Д-р ОСКАР КАЛЛАС.

# Эстонскі фольклёр. *)

(Са спавешчаньня чытанага аўторам у Англійскім Т-ве Фольклёрыстаў у Лёндане 13. III. 1923 г. і зьмешчанага ў зборніку „Folklore“ з чэрвеня м-ца таго-ж 1923 году).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мы ведаем, што Эсты ў 500—700 гадах пасьля Н. Хр. жылі ўжо на тэрыторыі, якую агібае Балтыцкае мора і пераходзіць ў Фінскую затоку. Яны прышлі сюды з сярэдняй часьці Волгі, пакідаючы за сабой розныя народы Паўночнай Расіі і Сібіры. Апошнія з тэй пары былі часьцёва зрусыфікаваны, але цяпер паволі прабуджаецца ў іх пачуцьцё сваей ўласнай нацыянальнасьці.

З філёлёгічнага боку роднымі нам народамі зьяўляюцца Маджары (Угры), але найбліжэй стаяць Фіны, ў каторых мова старых песьняў для нас саўсім зразумела. Наша мова належыць да групы Фінска-Угорскай, а досьледы апошніх часаў паказуюць што яна даволі блізкая і да Арыйскай сямы моваў.

Цывілізацыя наша была, з большага, на тэй-самай вышыні, як і нашых найбліжэйшых суседзяў. Мы аралі зямлю і таргавалі з другімі народамі, асабліва скандынаўскімі. Гандаль ішоў ў моманты агульных замірэньняў, якіх было ня шмат, бо грабежствы, пірацтвы, разбоі і агульныя войны, ў свой час нарушалі спакой ўсей Эўропы, а тым больш пабярэжжы мора.

У XIII стагодзьдзі, Германскія Рыцары напалі на нас і з таго часу пачаўся наш упадак. Ня гледзячы на наш энэргічны адпор у працягу больш стагодзьдзя, мы былі кінуты ў рабства усё больш і больш. Рабства гэта паводле слоў тагочасных пісьменьнікаў было самым жострым у Эўропе. Безканечныя заборчыя рэволюціі давалі нам кароткія перадышкі. Намі папераменна валадалі Данія, Швэдзія, Расія, але ў апошнія стагодзьдзі мы былі фактычна нямецкай арыстакратычнай рэспублікай з эстонскім жыхарствам і пад панаваньнем Расіі. Апошняя вялікая вайна дала нам магчымасьць здабыць свабоду, якую мы так доўга чакалі і дабіліся.—5 гадоў таму назад—, пасьля жострых бітваў з аднаго боку з бальшавіцкай Расіяй, з другога боку з імпэрыялістычнай нямеччынай, мы сталі незалежнай рэспублікай.

Што датыча нашай рэлігіі, то асновы паганскай веры мы прынясьлі з мейсц, дзе мы раней жылі, г. зн. з сярэдняй Волгі, так сама як і нашу народную паэзію. У XIII ст. мы сталі каталікамі, а ў часы Лютара—протэстантамі. У сярэдзіне XIX ст. часьць нашага жыхарства (каля 10%) перайшла ў праваслаўе. Як гэта звычайна бывае ва ўсіх пераменах рэлігіі народнымі масамі, так і ў нас, гэта зьнешняя зьмена рэлігіі нашым народам ня мела ўплыву на яго ўнутраную, самаістую веру, бо афіцыяльная зьмена рэлігіі ў большасьці здарэньняў была вынікам палітычнага націску. Афіцыяльныя цэрквы

---

*) Гэты нарыс, вядомага эстонскага вучонага і выдатнага палітычнага дзеяча Оскара Коллас, прысланы аўторам у Рэдакцію „Крывіч“, з пасьвятай для Рэдакціі. Аўтор зьяўляецца шчырым прыхільнікам вызваленьня прыгнечаных націянальнасьцяў, а ў першы чарод- вялікім прыхільнікам беларуска-крыўскага адраджэньня. Рэдакцыя з прыемнасьцю памяшчае на сваіх страніцах яго цікавы нарыс, аб фольклёры эстонскага народу, хочучы гэтым прычыніцца да выкліканьня большай зацікаўленнасьці ў нашым грамадзянстве найбліжэйшымі нашымі суседзямі і нядаўнымі таварышамі па нядолі „ў вялікай турме народаў“.

доўгі час аставаліся саўсім чужымі для народных мас, тым больш што прадстаўнікі гэтых цэркваў паступалі з нашым жыхарствам па законах Старога Тэстаманту, а ня Новага. Вынікам гэтых халодных адносін, паміж пастырамі і стадам, была большая прыхільнасьць да старой паганскай веры, якая зьяўлялася вялікім канкурэнтам для хрысьціянскай веры. Другімі словамі, вера старых паганаў была больш жывой у Мітолёгіі, забабонах, загаворах і г. д.

У працягу доўгага часу ў Эстоніі былі толькі два станы—рабы-сяляне якія гаварылі па эстонску, і арыстакраты-фэодалы, якія гаварылі па нямецку. Сярод апошніх было шмат вышоўшых з народу, гэта тыя, хто хацеў мець вышэйшую цывілізацію. Расійская мова пачала распашырацца толькі ў апошнія часы, і то, як афіціяльная мова, каторая не ўвайшла ў народ.

Для прывілейных станаў дзьверы эўропэйскай культуры былі адчынены, як толькі яны гэтага жадалі. Рэшта-ж народу была адрэзана ад гэтай культуры. Кождая-ж нацыя патрабуе духовай стравы ня менш чым матэрьяльнай. Калі першая ня прыходзіць са зьне, ў выніку нормальных зносін з другімі нацыямі, то духовая страва вытвараецца ў нутры народу. І тутака мы маем адну з прычын, чаму наш фольклёр меў такую вялікую вагу ў нашым штодзенным жыцьці і закранаў блізка ўсе галіны гэтага жыцьця. Падобную ролю меў фольклёр ў жыцьці Латышоў і Літвіноў, з якімі мы жылі па суседзку ў прыблізна аднолькавых варунках.

Дзеля таго што кнігі з повесьцямі і апавяданьнямі былі недаступны народу, то іх замянялі пагудкі і казкі, якія расказываліся ў зімовыя вечары, загадкі, якія задаваліся у таварыстве, каб расшырыць кругазор і загастрыць розум слухачоў. Чым халадней была афіціяльная рэлігія, з яе пагрозамі пеклам пасьля сьмерці, тым бліжэйшымі і патульнейшымі здаваліся свае паганскія багі, жыхары старога неба, бо гэта ёсьць агульны закон, што народ сам сабе творыць неба. Нязначная часьць Эстонскага народу Сэты—праваслаўныя і жылі ў межах Расіі (як ведама Эстонію рэдка называлі Расіяй); мова гэтай царквы, была славянская і расійская, якая аставалася заўсёды чужой для іх, яны хіба-што больш нічога ня ведалі аб праваслаўі і праваслаўнай царкве, чым як аб мейсцы, дзе знаходзяцца прыгожыя абразы і што перад гэтымі абразамі трэба паліць сьвечкі. Гадоў 30 назад, адзін вядомы Сэт сказаў мне: —„Духоўнікі і мы гэта бараны і авечкі, духоўнікі бэкаюць, а мы бляем і ня можам зразумець адзін аднаго“. Але, дзякуючы гэтай духовай ізоляціі, яны перахавалі самыя прыгожыя старыя народныя песьні. Дзяўчына, якая не магла пяяць шмат вясельных песьняў, мела мала надзеі выйсьці замуж, бо лічылася дрэнна выхаванай і ня ўмелай, каб зрабіць шчасьлівым мужа-Сэта. З другога боку, старая жанчына Міно-Одэ, каторая ў 1903 годзе прасьпявала для фольклёрыста д-ра Гурта да 20.720 радкоў васьмівершавых песьняў, карысталася бязмежнай пашанай і любоўю ва ўсей сваей ваколіцы.

Яшчэ большай пашанай, сярод Сэтаў, карыстаюцца тыя жанчыны, якія маюць здольнасьць пяяць імпровізаціі (тварыць ў часе сьпеву). Прыемны довад гэтай здольнасьці быў дадзены на вялікім сьвяце песьні ў Гэльсінгфорсе, дзе прэзыдэнта Фінскай рэспублікі вітала пяюньня-сэтка магутнай імправізаванай-песьняй.

Значэньне, якое мелі фольклёр і народныя песьні калісьці, цяперака ўжо мінула, але ўсё-ж яшчэ утрымліваецца сярод Сэтаў, якія, жывучы пад расійскім панаваньнем і адарваныя ад другіх Эстаў, ня маюць магчымасьці сьлядзіць за скорым разьвіцьцём навейшай культуры свайго краю.

Блізка тры ўжо пакаленьні Эстонскага Народу зварухнуліся і імкнуцца

наперад. У 1819 годзе быў скасаваны прыгон. Эстонцы да тэй пары зацiснутыя і прымацаваныя да зямлі, на каторай жылі, атрымалі большую свабоду. Купля зямлі ім стала магчымай.

Пачатак перамены соціяльнага палажэньня цэлага краю распачаўся з гэтай рэформы. Імкненьне да культуры і навукі пашыраецца. У гарады усё больш цягнуцца сялянскія дзеці. Багацейшыя земляробы пасылаюць сваіх дзяцей у школы і ўсе сто працэнтаў жыхарства навучаецца чытаць, а чатыры на тысячу ўжо зьяўляюцца студэнтамі. І калі ў 1885 годзе пачалася сыстэматычная русыфікацыя школ, вынікам чаго было не замена нямецкай мовы рускай, у школах, як мовай культурных клясаў, але эстонскай. Матчына мова, мова дзевяноста трох працэнтаў жыхарства перажывала вялікі росквіт, і была даведзена да літэратурнай мовы. У 1918 годзе Эстонскі унівэрсытэт у Дорпаце, які быў заснаваны Швэдамі ў 1632 гаду, мог адчыніцца як саўсім Эстонская пляцоўка навукі. З чужых моваў найбольш распашырана ў школах англійская.

Якая сувязь маецца, паміж росквітам апошняга стагодьдзя і сягоньняшнім дакладам? Есьць вялікая. Множства тыпаў у націянальных касьцюмах або счэзлі, або счазаюць пад уплывам фабрычных тавараў, якія даходзяць аж да вёскі. Розныя дыялекты зьяўляюцца ўжо агульнымі ў гутарцы з тэй пары, як зносіны паміж паасобнымі мяйсцовасьцямі сталі лягчэйшымі, а такжа пад растучым ўпывам школы, кнігі, і газэт, якія цяпер чытае кождая сямья. Цяпер дзяцё навучаецца народных пагудак ня з вуснаў бабкі, але чытаючы ці слухаючы як чытаюць кнігі. Народная песьня жыве толькі ў пямяці старых людзей: маладзейшыя пакаленьні навучаюцца ў школах пяяць новыя песьні. У 1888 годзе, ваш цяперашні дакладчык, пры дапамозе другога студэнта, сабраў і запісаў у працягу шасьці тыдняў 16.000 радкоў народных песьняў, а цяпер, пасьля трыдцаці гадоў, у тэй жа мяйсцовасьці можна было сабраць толькі 2000 радкоў у працягу таго-ж часу. У райёне Сэтау, асяродку безграматнасьці, якая створана расійскім панаваньнем, народная песьня яшчэ жыве ў штодзенным жыцьці, але і тутака карані яе падгрызены школамі, якія там паадкрываліся за апошніх пяць гадоў. Усё, што я толькі-што казаў здаецца сумным з пункту гледжаньня скрайных і перакананых фольклёрыстаў, але для агульнага разьвіцьця нацi гэта ня можа быць шкодным.

Дзеля захаваньня абедзьвех карысьцей (і новай культуры і старой песьні), спадчына са старых часоў не загублена. Усё старэнна зьбіраецца і гэтым робіцца запас матэрьялаў для новых фазаў цывілізаціі. Старыя нацыянальныя касьцюмы і дэкоратыўныя матывы выкарыстовуюцца нашымі мастакамі для новага мастацтва; наша новая паэзія збагачуецца праз стычнасьць з народнымі песьнямі; і шмат нашых мэлёдзіяў народных песьняў і музыкі, былі чутны на Сьвяце Песьні, якое мела мейсца ў летку 1923 г. і на якім было ня менш як 16.000 музыкальных людзей.

Наш фольклёр добра пераховуецца ў музэях і архівах. У моманты, калі старыя бацькі маглі забыцца песьні, дасьпеўшыя дзеці зьбіралі іх. Энэргія разбуджанага пакаленьня шукала выхаду для жыцьця. Праўда, шмат дзьвярэй было для іх зачынена; наша мова пагарджалася ў школе і часта забаранялася ў публічных выступах. Але наш фольклёр мог паглынуць часьць нашай энэргіі, на полі зьбіраньня націянальных багацьцяў. Гэта праца была нечым такім, што мы маглі зрабіць самі, нечым, што магло ўмацаваць наша далейшае істнаваньне; нечым, ўрэшце, ў чым нам менш перашкаджала расійская паліцыя.

Піонэры па працы зьбіраньня зьявіліся ўжо ў XVII і XVIII ст. Пад уплы-

вам Гэрдэра, ў пачатках XIX ст., праца гэта усё больш узмацовуецца і ў 1857 годзе мы даходзім да найвышэйшага пункту ў сваім звароце да нацыянальнага эпосу Kalevipoeg (прыгоды аднаго вялікана-героя).

Галоўная праца, ўсёж-ткі, была зроблена ў восемдзесятых і дзевяцьдзесятых гадох прошлага стагодзьдзя, імёны Пастара д-ра Якуба Гурт і пазьней Пастара М. Эйзэн, неразрыўна зьвязаны з гэтым пэрыёдам.

Больш 1000 чалавек дапамагала д-ру Гурт у стварэньні яго зборнікаў. Памочнікамі яго былі найчасьцей сяляне, артысты, вучні, вучыцялі пачатковых школ і апроч таго студэнты. Усе яны працавалі дармо, бо д-р Гурт на ўсю работў меў толькі каля 1000 рублёў. Пастору Эйзэну дапамагалі зьбіраць людзі яго клясы. Толькі збор народных мэлёдзіяў, у першай часьці якога і мне пашчасьціла прыймаць удзел, патрэбаваў больш грашовых коштаў (5.500 рублёў), дзеля таго, што зьбіраньне мэлёдзіяў рэч больш трудная, патрэбуе частых паездак і падгатаваных работнікаў, а так сама вымагае каштоўных прыладаў, як фонографы і інш. Гэты грошы былі сабраны з дабравольных ахвяр прыватных людзей.

Усяго, з варьянтамі ўключна, наша калекція зьмяшчае-прыблізна—25.000 казак, 55.000 загадак, 60.000 загавораў,-прыметаў і г. п., 65.000 прыказак і прыславак, 70.000 эпічных, лірычных і вясельных песьняў і г. п. (якія маюцца ў ліку каля паўтара мільёнаў радкоў трохаічнага вершу з 15.000 мэлёдзіяў). У дадатку там маецца шмат рэдкіх і ўстарэўшых слоў, розных дыялектаў, провінціяналізмаў і г. д.

Якая цана цяпер гэтай калекціі? Д-р Гурт характэрызуе значэньне і ўнутранны зьмест яго калекціі ў наступных словах:

„У калекціі знаходзіцца поўная кроніка ўсяго жыцьця Эстонскага Народу, кроніка, якая напісана самім народам. Лік кніг, якія гавораць аб гісторыі Прыбалтыкі вельмі вялікі, але ўсе гэты творы або лішне вузкія, або няпоўны, а калі гэтага і няма, то яны апісуюць галоўным чынам зьнешнія староны жыцьця народу, такія як войны або пагрозы вайны. Унутранага-ж жыцьця, як праца, праяўленьні міру, а такжа духовай і этычнай стараны, кнігі гэны ледзь закранаюць і лішне каротка аб іх гавораць. Фольклёр-жа якраз уходзіць у гэты вылам і дапаўняе аповесьць аб жыцьці народу. Тутака гісторык уводзіцца ў хату і сямью народную, яму паказуюць усе народныя крывыя і простыя дарожкі, усе народныя добрыя і благія староны, перад ім раскрываюцца усе народныя радасьці і злыбеды, каханьне і ненавісьць, вера і надзеі“.

„Аблічча народу, асабліва характар, які істнаваў ў працягу сотак, мо тысяч гадоў народнага жыцьця, раскрываецца перад гісторыкам у песьнях і сагах, прыказках і прыповесьцях, звычаях і абычаях народных. Цудоўныя творы душы, множства таёмных рухаў сэрца, множства таёмных функцій чалавечага жыцьця адкрываюцца голымі і непрыкрытымі. Густоўнае і пазбаўленае густу, разумнае і неразумнае, паважнае і сьмешнае усё зьмешчана тутака. Усё сьведчыцца строга і бязінтэрэсоўна, без страху і падлізьлівасьці“.

„Самы сьмелы дасьледчык мае толькі двое вачэй, двое вушэй і дзьве рукі, у той час, як тутака будавалі гэту творчасьць і сьвядоцтвы тысячы вачэй, тысячы вушэй, тысячы рук. Вучоны дасьледчык заўсёды зьяўляецца на большай ці меншай адлегласьці ад народу. Зборшчыкі-ж, якія працавалі над зьбіраньнем матэрьялаў для гэтай калекціі жылі ў самай гушчы народу, былі самім народам“.

Найбольш поўная і найбольш цэнная часьць зборніка—старыя народныя песьні, большасьць якіх пабудавана васьмівершавым трохаічным памерам. Думкі, як у Псальмах ідуць побач; літэратурная форма мовы ёсьць добра вядомая форма фінна-эстонскіх песьняў, якія часта зьвязаны з мэлёдзіяй. Яны зьяўляюцца вокам ад панурых, даўных міфолёгічных часаў, да пачатку апошняга стогодзьдя. Апошняя часьць гэтых эпічных песьняў новых часоў ёсьць песьня аб паходзе Напольёна і вайне 1812 году.

Большасьць сабраных рунічных песьняў, апавядаюць нам аб здарэньнях з сялянскага жыцьця, аб праявах чалавечага сэрца. Яны вядуць слухача праз усё жыцьце Эста ад калыскі ажно да магілы. Асабліва шмат маецца вясельных песьняў; глыбока сэнтымэнтальных сірочых песьняў, як наагул усе песьні чулага характару. Песьні каханьня, звычайна найбольш распашыраны ў народнай паэзіі, але гарачыя і з прыгожымі нотамі даволі рэдкі. Не да такога каханьня імкнецца сэрца Эста, але да каханьня ў каторым няма лішняга рамантызму. Эст ціхі, разважлівы і ўдумчывы—такім ён ёсьць і ў каханьні: не апьяняецца ён ім, не зьяўляецца рыцарам рамантыкам, але ёсьць рэалістам і натуралістам. І як эстонскія песьні каханьня апавядаюць найчасьцей аб каханьні сямейным (мужа до жонкі), аб вернасьці, або фізычным эротызме.

Характэрным для Сэтаў, ёсьць тое, што на хаўтурах яны галосяць, чаго саўсім ня робяць рэшта Эстаў. У зьвязку з векам памершага, заняткам яго, палажэньнем у сямьі, ўрэшце з прычынай сьмерці, мяняецца мэлёдыя, памер верша і ўвесь характар галашэньня.

Казкі адкрываюць нам сьвет пачуцьцяў і выабражэньня. Некаторыя з іх зьмяшчаюць цэнныя мітолёгічныя данныя, ў іншых паказуецца сямейнае жыцьцё або адносіны паміж рознай раднёй і клясамі.

Сагі, асабліва мяйсцовага характару, часта зьмяшаюць гістарычныя ўспаміны, якія скрыты пад паэтычнай формай і фантазіяй, і якія кідаюць прамені сьвятла ў панурую мінуўшчыну. Легенды цесна зьвязаны з падобнымі хрысьціянскімі народнымі творамі другіх эуропэйскіх краёў. Асабліва цікавы прыслаўкі і прыказкі. Яны паказуюць жыцьцёвую сілу, здольнасьць і зваротлівасьць народнай дагадкі і розуму, і смелымі характэрыстыкамі ў жывых фарбах даюць цэлы статут народных звычаяў, сьветагляду, і народнага жыцьця.

Назовы мяйсцовасьцяў звычайна цяжка азначыць, але часта даюць вельмі карысны матэрьял пры гістарычных досьледах. Лексычная цэннасьць іх беспярэчна. Сабраны матэрьял аб звычаях і абычаях, дзяцінных і народных гульнях і спорце так выразісты, што усё жыцьцё Эстонскага народу можа быць выабражана ў абразох.

Яшчэ больш зразумелым ёсьць матэрьял аб веры і прыметах народных, а калі дадаць сюды яшчэ народныя мэтоды лячэньня, загавораў, загаворных лякарстваў і песьняў, то маса матэрьялу будзе папраўдзе аграмаднай.

Сыстэматычны разгляд усіх часьцей зборніка паказуе ня толькі праўдзівы характар яго зьместу, чыстасьць і натуральнасьць, але сваімі многалічэбнымі варьянтамі дыялекту і паўтарэньнямі, дае рэдкі і цэнны лінгвістычны матэрьял для больш глыбокіх студзяў над эстонскай мовай і яе дыялектамі, і беспярэчна узбагаціць яе слоўнік і граматыку.

Дадаўшы да гэтага эстонскага зборніка такія-ж фінскія*), (памерамі ня

*) Фіны маюць прыблізна: 30.000 апавяданьняў, 50.000 песьняў (эпічных, лірычных, чараўніцкіх), 70.000 новых песьняў (лірычных), 75.000 прыметаў, 150.000 прыказак, 70.000 загадак, 18.000 мэлёдзіяў, 5.000 гульняў.

менш нашых і так цесна зьвязаных з нашымі мовай і зьместам, што можна гаварыць аб іх як аб аднэй групе), мы маем фольклёрнага матэрьялу даволі, каб вучоныя мелі работы над ім на шмат гадоў у будучыне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Фінлядзія ўжо ў 1908 годзе адкрыла адну катэдру фольклёру пры сваім унівэрсытэце і дзьве катэдры ў 1918 і 1922 г. г. Наш унівэрсытэт у Тарту (Дорпаце) працаваў у лішне дрэнных варунках для разьвіцьця досьледаў нацыянальнага характару, і толькі, пасьля рэарганізацііі яго, ў 1918 годзе, ён мог пасьледаваць прыкладу фінскага і адкрыць дзьве падобных катэдры.

Навуковыя асновы для дасьледаваньня Фінска-Эстонскага фольклёрнага матэрьялу, былі заложаны Гэльсінгфорскім прафэсарам Ю. Кронам і разьвіты яго сынам і пасьледавацелям, К. Крон'ам.

Так званая географічна-гістарычная мэтода, ў якой асаблівую ўвагу зьвяртаюць на географічнае распашыраньне твораў, была даволі поўна прытасавана на фінскім грунце. Для гэтага адзіным варункам ёсьць зьбіраньне многіх варьянтаў, пунктуальна запісаных і перададзеных з абазначэньнем мейсца запісу, якія перадаюцца вустна з пакаленьня ў пакаленьне, ад суседа да суседа.

Варьянты раскладаюць паводле мяйсцовасьці, пасьля, пры помачы аналізу паасобных тэм, пачынаюць падбіраць падобныя да падобных. Гэта мэтода была выкарыстана, паміж іншым, ў студзіях песьняў і фантастычных казак, пасьля, яе паволі сталі ўжываць і ў другіх краёх, а ня толькі Эсты і Фінны.

Адным з найбольш цікавых аб'ектаў студзій быў Фінскі націянальны эпос *Kalevala*. Фінскія вучоныя (асабліва Праф. Крон'а) дасьледуючы яго і разьбіраючы, радок за радком, зьвялі яго да супольных і аднолькавых тэм, паказалі як ён тварыўся ў Зах. Фінляндзіі, ў Карэліі, і нават у Эстоніі. Паказалі яны, як паасобныя песьні падарожнічалі з вёскі ў вёску, як яны паволі зьмяняліся і разьвіваліся і даходзілі ажно да карэлькіх сьпявакоў, там зьмена і завіласьць іх рабілася яшчэ большай і там Эстонскія і Зах. Фінскія песьні зьліваліся ў адно. Д-р Ленрот склаў з гэтых твораў адзін вялікі эпос „*Kalevala*", як гэта у нас Д-р Крейцвальд зрабіў „*Kalevipoeg*". Разьвіцьцё было, відаць, такое-ж як Іліяды і Одысэі, каторыя расьлі сярод грэкаў пакуль, па загаду Пэзістрата, яны ня былі сьпісаны ў форме такой, у якой дайшлі да нашых часаў.

Думкі аб вялікім (адзіным) эпосе створаным цэлым народам, тутака былі адкінуты; такога народнага эпосу ня існуе. Падобную долю маюць і вельмі прыгожыя загаворы, аб якіх да гэтай пары думалі, што яны зьяўляюцца чыста самабытна-арыгінальнымі. Паважныя бліжэйшыя досьледы давялі, што яны зьяўляюцца творамі каталікоў сярэдніх вякоў, або каталіцкіх сьвятых. Творы гэты, трапіўшы на паганскі грунт, былі перароблены ператвораны ў паганскім духу.

Фінна-Эстонскі фольклёр цесна зьвязаны з Тэўтонскімі народамі: Скандынавамі, Германцамі і Саксамі. Зьвязь гэта прайшла праз паўночную Германію, Англію і Эстонію. Шмат старадаўных Тэўтонскіх ідэяў, яб якіх яны ўжо даўно забыліся, перахаваліся ў гэтым фольклёры, а знача ў іх яшчэ перахаваліся і асновы старой Тэўтонскай культуры.

Калі мы, якіх 12—14 стагодзьдзяў таму назад, прыйшлі ў цяперашнюю Прыбалтыку, то зараз-жа ўвайшлі ў стычнасьць з Тэўтонскімі народамі і бралі ад іх ня толькі вытвары вышэйшай культуры, але і творы чалавецкай душы: багі, загаворы, загадкі, прыказкі, вясельныя абычаі і г. д.

Поступ цывілізацыі Тэўтонскіх народаў быў большы чым наш. Вынікам гэтага было тое, што яны хутчэй забыліся большасьць спадчыны сваіх продкаў. Гістарычныя прычыны перашкаджалі нам ў поступе і мы перахавалі ня толькі спадчыну ўзятую намі яшчэ з Волгі, але і тое, што мы запазычалі у нашых Тэўтонскіх суседзяў.

З ангелійскага пераклаў

К. Душэўскі.

---

В. Л-скі.

# Новы падзел Беларусі.

За апошніх некалькі гадоў ўжо трэйці раз дзеляць Беларусь. Дзялілі Камуністы з Немцамі і Украінцамі ў Бярэсьці, ў 1918 гаду. Дзяліла Савецкая ўлада з Палякамі ў Рызе, а цяпер, ў Межах С. С. С. нанова падзялілі сьвятарныя рызы нашай многапакутнай Бацькаўшчыны. На гэты раз падзел зроблены рукамі Комуністычнага III інтэрнацыяналу! Падзел зроблены, як нівадзін дагэтуль, бо пад відам надзвычайнага „дабрадзейства“, пад крык захвату камуністычнай партыі аб небывалай, небачанай „справядлівасьці“ да беларускага працоўнага народу!...

Паводле пастановы Усерасійскага Цэнт. Выканаўчага Камітэту „Незалежнай“ Беларускай Соціялістычнай Савецкай Рэспубліцы перададзены:

1. Са складу Вітабскай губэрні па межах старога адміністрацыйнага падзелу паветы: Вітабскі, Гарадокскі, Дрысенскі, Лепэльскі, Аршанскі, Полацкі, Сенінскі, Суражскі.

2. Са складу Гомельскай губэрні паветы: Магілёўскі, Рагачэўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чэрыкаўскі і воласьці: Дзярновіцкая, Мухаедаўская, Нараўлянская, Дудзіцкая са ст. Калінковічы. Крукавіцкая, часьцю Савіцкая, Даманавіцкая, Карпавіцкая цалком; і часткі валасьцей: Аўцюцевіцкай і Якіма Слабодзкай па межак вёсак: Баравікі, Шапейкі, Какуёвічы, Аляксандраўка, Малыя Аўцюцевічы і вёска Домарка.

3. Са складу Смаленскай губэрні: Горацкі павет поўнасьцю і воласьці: Шамоўская, Старасельская, Казімірава-Слабодзкая і часткі Боханскай, Асьлянскай і Сосенскай Мсьціслаўскага павету з гор. Мсьціславам.

Пасьля далучэньня гэтых акраўкаў Беларусі да Меншчыны, ў Сав. Беларусі будзе цяпер 3.800.000 жыхарства. Іначай кажучы Маскоўшчына падзялілася з Менскам беларускімі землямі папалам: з палавіны зямель, што пад яе абладай, утворана „незалежная“ Беларусь, а другую палавіну загарнулі сабе, на русыфікацыю.

Са складу Вітабскай губэрні атварваны да Маскоўшчыны тры паветы з пераважаючым беларуска-крыўскім жыхарствам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Вяліжкі абшарам | . . . . . . . . . . . . . | 3.900, 0 кв. в. з жыхар. | 132,0 |
| Невельскі | „ . . . . . . . . . . . . | 3.997, 7 „ „ „ | 137,2 |
| Себежскі | „ . . . . . . . . . . . . | 3.184, 0 „ „ „ | 120,1 |
| Усяго абшару | . . . . . . . . . . | 11,081, 7 кв. в. жыхароў | 389,3 |

Са складу б. Магілеўскай губэрні *) атарвана да Маскоўшчыны 2 паветы:

*) Бярэм тут за падставу дзеля яснасьці, даваеннае адміністратыўнае дзяленьне, а не цяперашняе бальшавіцкае; і статыстыку—паводле данных Статыст. Камітэту з 1914 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гомельскі абшарам | 4.719, 4 | кв. в. з жыхарст. | 310, 3 |
| Гарадоцкі „ | 2.487, 0 | „ „ „ | 165, 7 |
| Усяга абшару | 7.206, 4 | жыхароў | 475, 0 |

З Чарнігаўшчыны далучана да Беларусі некалькі валасьцей суражскага павету, а рэшта, большая-ж часьць гэтага павету; і, цалком, 5 іншых паветаў адарваны ад Беларусі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мглінскі абшарам | 3.319, 5 | кв. в. з жыхарств. | 183, 8 |
| Старадубаўскі „ | 2.892, 0 | „ „ „ | 189, 3 |
| Новазыбкаўскі „ | 3.354, 9 | „ „ „ | 255, 7 |
| Ноўгарад-Северскі | 3.417, 5 | „ „ „ | 199, 5 |
| Гараднянскі „ | 3.528, 0 | „ „ „ | 201, 0 |
| Усяго абшару | 16.511, 9 | | 1.029, 3 |

З быўшай Смаленшчыны (паводле даваеннага адміністратыўнага дзяленьня) не далучана да Беларусі ні аднаго цантымэтра. Гутарка аб далучэньні часьці Смаленшчыны абаперта на тым, што па раскасаваньню Магілеўскай губэрні, бальшавікі дакінуўшы былі да Смаленшчыны часьць Магілеўшчыны (паветы Горацкі і Мсціслаўскі), цяпер гэту часьць (2 паветы), і тые не цалком, (б. часьць Мсьціслаўшчыны не ўвайшло) аддалі Беларусі. Гэткім чынам са Смаленшчыны анэктавана 7 паветаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Смаленскі абшарам | 2.824,2 | кв. в. з жыхарст. | 206,3 |
| Бельскі „ | 9.764,8 | „ „ „ | 201,8 |
| Дарагабужскі „ | 3.357,8 | „ „ „ | 129,1 |
| Ельненскі „ | 4.319,0 | „ „ „ | 183,8 |
| Красьнінскі „ | 2.403,8 | „ „ „ | 126,8 |
| Парэчаўскі „ | 5.096,8 | „ „ „ | 164,0 |
| Рослаўскі „ | 5.503,6 | „ „ „ | 239,2 |
| Усяго абшару | 33.180,1 | | 1.251,0 |

Акром таго яшчэ Рэчыцкі павет Меншчыны (бяз трох валасьцей—Дамавіцкай, Савіцкай і Нараўлянскай):

Абшарам 6.250 кв. в., з жыхарствам 180,5.

**Агулам анэктавана абшару—74.240,1. кв. вёрст.**
**З жыхарствам на гэтым абшары ў—3,326,1 душ.**

Гэта паводле самага скромнага, прыблізнага, падрахунку; а палічыўшы паветы Бранскай, Тверскай і адарваныя часьці паветаў тут не палічаных, будзе каля 90—100.000 кв. в., і звыж. 4.000.000 жыхарства. Гэта знача стольківж сколькі забрала і Польшча.

Паднявольная менская прэса аб гэтай крыўдзе маўчыць, наадворот кураць там кадзілы і пяюць гімны панскай ласкавасьці трэцьцяга інтэрнацыяналу. Мы аднак няможам далучыць свайго голасу, да гэных хваласьпеваў, бо жаль нам сьціскае душу і на вусны ціснуцца словы абураньня. Гэты ганебны, новы падзел нашай дарагой Бацькаўшчыны, на раўне з Рыжскім падзелам, выклікае ў нас пратэст, тым больш што ён падаецца нам ў форме нейкай вышэйшай чырвонай справядлівасьці.

Правечна беларуска-крыўскія землі могуць быць вырваны ў Беларускага Народу толькі разам з яго душой!

Ф. БАГУШЭВІЧ.

## Панская ласка.

Густой пушчай у марозе
Ехаў багаты пан,—
Аж разбойнік пры дарозе
Затрымаў рыдван;
Ўсё забраў з грашмі ў калеце,
Забраў ўсю прыладу,
Ў панскай сеў сабе карэце
А пан бяжыць ззаду!
Мароз пале пану ногі,
Цела прабірае,
А тут шмат яшчэ дарогі,
А тут дух займае.
Пан разбойніка благае
Ратаваць ад сьмерці
Літасьцівым абзывае
Абы не памерці.
І разбойнік зьлітаваўся:
Кажушок даў пану,
Пасталы што адбуваўся
Выкінуў з рыдвану.
Са сьлязамі пан бандыце
Цалаваў у бруха,—
Што ацаліў яму жыцьце
Кавалкам кажуха.
Абяцаўся і маліцца
За яго і дзетак,
Славіць добрасьць і дзівіцца,
Што ён зрабіў гэтак!
Ой, ня першы то бандыта
І пан не астатні,—
Што дабро усё здабыта
Толькі крыўдай братняй,
А тады ужо для славы
Кіне хоць аб'едкі,
Вось і стане пан ласкавы,
Літасьцівы, рэдкі!

## 25. III. 1918—25. III. 1924.

25 сакавіка 1918 году Рада Беларускай Народнай Рэспублікі апавесьціла Незалежнасьць Беларусі ў яе этнографічных межах. Сёлета споўнілася шостая гадаўшчына гэтага вялікага акту ў нашым нацiянальным жыцьці. Не глядзя на падзелы, на зьдзекі фізычныя і моральныя над нашым Народам рожных окупантаў, мы ўсё-ж такі—крок за крокам—паступаем наперад ў паходзе да рэалізацыі сваей незалежнасьці, да сарваньня з сябе пут фізычнай і духовай няволі. З цьвёрдай воляй ў душы злажыць ўсе свае сілы ў змаганьні за вызваленье Бацькаўшчыны Беларусі—клічам:

**Няхай жыве незалежная і непадзельная Беларусь!**

# Запіскі.

ТАЎТОЛЕГІЯ (выбрана з Романова, Шэйна, Безсонава, Крачкоўскага, і запісаў В. Л. з 1910—1914 г. г.

Баба-бабарыха; бубны барабаны; бел-бялявы; бьюць-выбіваюць; бераг-бережысты; брахна-браточак; бярно-калода; бірка-карбаванка; борам-баравінаю; бьець-пабівае; бажыцца-клянецца; бярэ-хапае; борзда-скоры; бой-вайна, бедны убогі.

Вее-павявае; вішанька-чарэшанька; воўк-сірамаха; вые-завывае; водзіць-паводзіць; відзець-бачыць; вялела-казала; вада-вадавіца; высі-высокія; верабей-гаробчык; верба-вербяніца; вар кіпень; віры амуты; воля-свабода; веткі-галіны.

Гойкнулі-крыкнулі; гуляе-пагулівае; грэе пагрэвае; гора-бядаваньне; гіда брыдота; гідзь-брыдзь; гарыць-палыняе; грызе-гложа; гырчыць-вурчыць; грыміць-пагрымоўвуе; грыміць-гучыць; грыміць-гудзе; гудзіць-гучыць; глядзіць-выглядае; глядзіць-узіраецца; гойдаўка-калыска; гойдае-калыхаецца; грае-выгрывае; гручыць стучыць; гарне-заграбае; гойкае-кліча; граза-страхота; гнеўны-сярдзіты; гроб-магіла; гірса-аржыца; глуміць-марнуе; глыбіна-глыбокая; гаварыць-казаці; горка-гарчыца; гоніць-туровіць.

Дыміць-курыцца; дамок-хацінка; дамоўка-труніца; дымна-хомарна; дымы-дымеюць; дзеўка-дзявіца; дуда-дудуха; доўжа даўжэзная; дзень-дзянёчак; дзын-дзылін; дрэнь-благая; дрыжыць-трасецца; дзірван мураўка; дзярмень-лахмыр; дзіч-дзікая; дзядзіна-цётка; дуб-дубавень; дзяржыць-трымае.

Журба-туга; журлівая-сварлівая; жыга-жыгучая; жумрыць-кусае; жыць-быць; жвякае-кусае; жарты-забаўкі.

Знае-ведае; зігціць-блішчыць; зелен-зелянюсенькі; заве-паклікае; зябіць-марозіць; злы-сярдзіты; зычны-галасісты; зюкае-гукае; зігціць-мігціць; зьмяя-гадзіна; звініць-дзыніць; зара-заранка; зяпаць-крычаць; заскаміць-закалоць; заскорбла-засохла.

Крыніца-вадзіца; край-краіна; кусты-купіны; ка́ра-чорны (вочы); карбы нарэзы; круг-кругом; карціць-рупіць, кідае-шпургае.

Любіць-кахаці; ліе-налівае; лень-лянько; ляцець-лынаці; лугі-даліны; лучыць-яднаці; ляпаць-стукаць; легма-палягусеньку; лягма-лёг; ляпа-пашчэнка; лаяць-сварыцца; лыка-луцень.

Мізраўка-плюгаўка; мураўка-траўка; мора-акіян, марыць-мучыці; марнее-нішчыцца; мармыль-дагрыза; мяжа-граніца; мурза-чарневіч; морыцца томіцца; мігціць-сьвігціць; мігі-мірглі; мука-цярпеньне; маніць-хлусіць; морак-цямрыца: маці-матуленька; мамка-мамухна; ма́раю-злудаю; магут-асілак; мерыцца-мяркавацца; мурчэць-вурчэць; помігам-мігцець; мерці-паміраці; Мара-начніца; мор-паморак;

Нажыліся-набыліся; нораў-натура; недзе-некуды; німа чаго-німа што; нейкі-неякі; нашынцы-нашы; ночка-начыстая; начлег-начаваць; начлежыца-ночная; нуда-жуда; ные-скаміць; немач-хвароба; нівы-загоны;

Плакаць-тужыці; плача-ўзрыгае; пасеяна-пасаджана; пье-лайдачыць; не прышоў-не прыехаў; пячы-пражыць; пячы-смажыць; пячэ-прыпякае; плачмя-плача; піхма-піхае; пекны-прыгожы; пукаты-букаты; пыліць-бяжыць; прудчэй-хутчэй; пропадам-прапаў; плыве-ручыцца; плынём-ручвом; поланка-прасека; бяз просыпу-без ачунку; прысмакі-ласункі; пугаю-паплі́скаю.

Род-радзіна; рубае-сячэ; рыба-рыбіца: руды-мышаты: рымар-хамутнік; рада-парада; радно-дзяруга; рэшацень-сявень; ручыць-шэнціць,

шанцуе; рана-раненька; румяны-чырвоны; рэмянь-скурат; рыдаль-капага; радзее-цешыцца.

Стара жонка-матка; стучыць-гручыць; стукун-грукун (на небе пярун); стукнуць-бразнуць; стукнуць-гракнуць; стукае-пастукае; сачыць-шукаці; сіпіць-сычыць; сумаваць-маркоціцца; сеяць-садзіць; сып-сыпучка; сьпіць-пасыпае; зо сну-с просну; сіверам - холадам; стары - старэнькі; сьмешкі-пасьмешкі; суды-вядзерцы.

Траўка-мураўка; торгаць-скубаці; трызніцца-мерсьціцца; трашчыць ламаецца;траціць-губіці; таргуе-купцуе; тукае-стукае; тужыць-бядуе.

Хлеб-соль; хвошча-палошча; хуткі-скоры; худа-нядобра; хомар туманы; хатыль-заплечнік; холад-марозы; холадна-зябка; хітры-мудры; хацець -жадаці: хворасьць-няўздольле; хінецца-клоніцца.

Часты-густы; чысты ясьненькі; чарот-стусіна; чорны-жукасты; чырліць-цілікае; кубкам-чараю; чорт -нячысьцік; чужы-нятутэйшы.

В. Л.

ЭПІТЭТЫ. З кнігі: Довнар-Запольскій „Пѣсни Пинчуковъ“, Кіевъ, 1895 (стр. 200).

Б і т ы шлях; біты гасьцінец.

Б у е н, буйны, буйнюсенькі вецер.

Б ы с т р а рэчка, рэчанька, вада, птаха, страла, думка.

Б е л а е ліцо, лічанька, цела; белы ручанькі, рукі, ногі, ножанькі, сьвет, дзень, абрусы, плечы, палотны; бела галованька, кашуля, кашуленька бельбялёвая; бела пасьцель, бела пухова пасьцель, бяроза белбелява бярозанька; бела лябёдка, сокал бяленькі, сьняжок.

В і д н а я чаша, яблачка; відна ночанька.

В і н н а е яблачка.

В і ш н ё в ы сад, садочак, вішнёвы бел квет.

В а р а н ы, вараненькі конь, вараное стада.

В ы с о к а гара, магіла, рабіна, высока, тонка бяроза; тонка высока, лістам шырока рабіна.

В е р н ы дружок, таварыш, конь, дружына, слугі верны, вярнюсенькі.

Г л у б о к і Дунай, дол; глыбокашырока рэчка.

Г н у т к а я ляшчына.

Г а р а ч а кроў, любоў, гарачы сьлёзанькі пякучыя.

Г о р к і сьлёзы, горкае жыцьцё, горькая няпраўда.

Г о с т р а каса, шабя, сякера, сякерка; гостры жаль.

Г у с т ы я лозанькі; лаза; сачыванька; чарот; густы-часты грабяшок.

Д р о б н ы сьлёзы, сьлёзанькі; дожджык; лісты (пісьмы).

Д з і ў н ы каравай, двор.

Ж а л а с н ы я песьні.

Ж а р к а я крапіўка; каліна.

Ж о ў т ы валасы, кудры; пясочак; ямка; цьвет.

З я л е з н ы мост.

З я л ё н а е, зеляненькае віно; вяночак; зялёна грушка; дубок зелянюсенькі; зялёна дуброва, зеляненька дуброванька; ель; жыта; зеляненька канапелька; зялёны кусточак; зеляненькі лён і зялёны луг, лужок; мак; авёс; рута; сад; хвойнічак; ябланька; явар.

З а л а т ы ножак; персьцень; падкова; капытцы; рамкі; скрыня, сёдлы; такі; крэслы.

К а л і н а в ы мост, калінаў цьвет.

К а л ю ч а я грушка, шыпшына.

К р а с н а дзеванька, дзеўка, панна; сарочка.

К р ы н і ч н а я вада, вадзіца.

Л і х і вораг.

М а л а д а я дзеванька; малада чорнаброва дзяўчына; малады паніч; молад маладзенькі казак, хлопец, жанішок.

М а р о з ь л і в а я зіма.

Н а ш ы в а н ы рукавец.

Новенька шапка, новае люстэрка; вядзерка; саха; камора; клець; новы дамочак; стайня; ганачак; вароты; двор; места; цэркаўка; карабельчык, вулькі (вульлі).

Палавыя, палавенькі валы.

Пухова падушка; пасьцель бела пухова.

Раба зязюля, зязюленька; вутанька.

Роўненькі лён.

Родная маці; родны бацюхна; брат.

Руса каса.

Рыж пясочак; вутаўка.

Сьветлыя вочы.

Слаўны гаспадар; казача.

Салодкая гарэлка; салодкі, саладзенькі мёд, мядочак.

Срэбныя ключы; срэбна талерачка.

Сухая лаза; чарот.

Сівы валы, сівы конь, конік; голуб, галубок; галубка; сівенькі селязень; сівы собаль; сокал; сівакрыл салавейка.

Сіне мора, возера.

Стары старычок.

Сырая зямля.

Тонкая кітаечка; тонкі кужаль, абрусы; бела, тонка, палатно; тонка прасьціradла; кітаечка; кужаль; рукавец; белы, тонкі кашулі; шырынка; хустанька; тоненькі хвартушок; бяленькіе, як папера раўненькія, падаркі; бела тонка высока бяроза; тонка, высока бяроза; рабінка тонка; такжа-таполя,—сосна.

Часты-густы грабяшок; гвёздачкі.

Чырвона сукно; нагруднічак, кітайка; каліна; рожа.

Чысьценька вада, вадзіца; чыста поле.

Чорны бровы; чорнаброванька; вочы, вочкі; чоран-чарнюсенькі воран; куна; саболь.

Цёмна ночка; цёмны, цямнюсенькі лес; цёмна хмара.

Цісовая клець; вароцечкі; стол.

Шэры вочы.

Шырокі ліст; дубочак шырокі лісточак; шырока вуліца; даліна;

Шаўковы трапкач; касьнічок; радзюжка; шырынка; сьвіта шоўкам шыта; кашуля; нашывана шоўкам хуста; трава, травіца; сеці.

Шчыры бор; серабро, срэбра.

Ясны зоры; месяц; сонца; сьвечка; ясны вочы.

Ярскія пташкі.

Яры воск, авёс.

А. С.

КУЗУЛЬКА. Была спроба зам. рас. слова „насѣкомое“, ўвясьці ў беларускую мову тэрмін кузулька („Закон паміж жывёлаў і расьцін“, пер. з рас. Г. Казячага). Спроба няўдатная, бо аўтор не задаў сабе працы спраўдзіць значэньне гэтага тэрміну ў беларускай мове. „Кузулькамі“ ў горадзеншчыне і меншчыне, паводле прац Яна Ваньковіча (меншчына) і Людвіка Обушынскага (Белавежская Пушча) гл. „Pamiętnik Fizjograficzny“ называюць сямью жукоў cerambycidae.

Гэта даволі значнага ўзросту жукі; з гэтай сямьі ў нашым краю здараюцца найдаўжэйшыя і найшырэйшыя жукі с паміж усіх сустрачаючыхся цьвёрдакрылых (Coleoptera). Сямья кузуляк наагул вельмі чысьленная і багата рознымі адменамі як што да ўзросту так і масьці. Дробныя ростам жучкі гэтай сямьі ўсёж такі становяць меншасьць. Наагул даўжыня цела кузулькаватых бывае ад 4 да 53 м.м.

Лацінская назова Cerambyx не існавала ў стараветнай лаціне. Гэта нэолёгізм утвораны Ліннеям. Зложана гэта назова з двох слоў: лацінска-грэцкага: „ceras“—што знача рог і лацінскага „bis“ („падвойна“). Згэтуль bisceramos і скарочанае „cera-

mbyx“ азначае двурогае стварэньне, а ласьне казла. Гэта найменьне дадзенаназваным жукам па аналёгіі, бо кузулькаватыя,—формай вельмі даўгіх шчупнёў сваіх (рожкаў) і спосабам нашэньня іх,—запраўды прыпамінаюць казінную сямью млекасытных жывёлаў.

Т. О.

БЕЛАРУСКІ ДРЭВАРЫТ ПАЧАТКУ XVI СТ. Каля 1515—1518 г. мясцовы мастак прыгатаваў цікавы дрэварытны абразок для Фёдара Іванавіча Яраславіча, апошняга незалежнага князя Пінскага, Клецкага і Рогачоўскага. Гэты абразок меў у руках і апісаў яго, далажыўшы да сваей працы зьнімак, француз Karol Cahier: monumenta slave religieux du moyen áge, ў першым томе des melanges d'archeologie. Дзеля вялікай цэннасьці гэтага дрэварыту для гісторыі нашай культуры, Рэдакція „Крывіч“ сьпісалася з бібліятэкамі ў Бэрліне, Лейпцыгу, Кенігсбэргу і Жэнэве, але ў ніводнай з гэтых бібліотэк азначанай кнігі не аказалася.

Дзеля гэтага Рэдакція зьвяртаецца да нашых культурных працаўнікоў і студэнтаў заграніцай с просьбай пашукаць гэтай кнігі ў бібліятэках тых гарадоў дзе яны працуюць. Мы хочам у нашай часопісі зьмесьціць клішэ з гэнага дрэварыту і бібліяграфічныя аб ім данныя. Вядомасьць аб дрэварыце князя Фёдара ўзята з кнігі: Joachim Lelewel „Cześć bałwochwalcza sławian i Polski“ Poznań 1857.

У. С.

ДАЛЬ АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ. Вядомы расійскі філалёг, Даль, у сваім слоўніку жывой Вялікарускай мовы у II т. (стр. 39) робіць гэткую увагу аб беларускай мове:

„Беларусы (Крывічы?), якія ахвочы да поўнагалосага *а*, аднак ня любяць ні *а* ні *я* на другім складзе перад націскам, а ставяць *и*, *ы*: пярун, пірунок; бярэч, бірагу; ня можэш, ні магу; як хочеш, ик хачу; кызакі, пыганяй, пыд гарэю і інш“.

Як відаць з гэтых прыкладаў Даль да сваіх вывадаў карыстаўся дыялектам вітабска-смаленскім, але аднак яго ўвага мае глыбокія падставы і для другіх дыялектаў, бо, запраўды, беларуская мова ня любіць у другім складзе перад націскам *а* і *я*.

Ня менш цікава, што Даль пішучы „Беларусы“ стаўляе ў скобках „(Крывічы)“ пад знакам пытаньня. Гэта паказуе, што ён не гадзіўся з афіціяльным расійскімназовам. „Беларусы“ і дзеля гэтага ставіў побач „(Крывічы?)“. Як ня дзіўна, а чужы чалавек, Даль, абруселы немец, перарос разуменьнем нашай номэнклятуры, некатарых сучаснікаў нашых.

К. І.

ЗБОРНІК БЕРШАДЗКАГА. У царскай Расіі практыкавалася, вучоныя працы, вялікай цэннасьці, калі яны былі чым невыгодны расійскаму імпэрьялізму, выдаваць у аграніčаным ліку экзэмпляраў, няраз ўсяго ў некалькі экзэмплярах. Да ліку такіх цэнных прац, выданых ў аграніčаным ліку экзэмпляраў і не дапушчаных ў прадажу, належыць „Зборник Бершадского“. Прафэсар Петраградзкага унівэрсытэту, Бершадзкі, пасьвяціў некалькі гадоў працы над Мэтрыкай Вял. Кн. Літоўскага, і, выбраўшы цікавейшыя для гісторыі акты, галоўна XV ст., выдаў іх асобнай кнігай. Адзінай прычынай недапушчэньня ў прадажу гэтага зборніка старых дакумантаў, магла быць боязьнь збудзіць, у землях былога В. Кн. Літ. мясцовы сэпэратызм. А дзеля гэтага названы зборнік для нашых гісторыкаў набірае падвойнай вартасьці.

Вядомасьць аб „Зборніку Бершадзкага“ падаў праф. Леонтовіч ў „Журн. Мін. Нар. Просв. 1895 г. чэрвень—ліпень.

Л. А.

РУХОМЫЯ ДРУКАРНІ НА БЕЛАРУСІ і УКРАІНЕ. Есьць старасьвецкія друкі, мейсца друкаваньня якіх трудна акрэсьліць. Да выхаду ў сьвет кнігі Тиховского: „Мнимая типографія Почаевського монастыря конца XVI і начала XVII ст.“ (Кіевская Старына 1895, VII-XIII стр. 1—35), гэткія друкі былі поўнай загадкай для бібліографаў. Тиховской устанавіў, радам дасьледаў кніг, прыпісываных Пачаеўскай друкарні XVI ст., што кнігі гэны былі друкаваны ў перавозных друкарнях „паходжых“ друкароў. Гэтак кніга вучонага манаха Кірылы Транквільёна Стаўравецкага „Зерцало Богословія (1618 г.) азначана, што выдана яна ў манастырскай, пачаеўскай друкарні, ў гэтым манастыры тады саўсім не было друкарні, але Стаўравецкі меў сваю „паходжую“ друкарню, у якой, будучы у Пачаеве і надрукаваў вышэй названую кнігу (власным коштом і накладом). Тымiж самымі літарамі, той-жа сам Стаўравецкі ў 1619 г друкуе іншую сваю працу ў Рахманаве, на Валыні, а ў 1646 г. ў Чарнігаве. Гэткія „паходжыя“ друкарні пратрывалі да XIX ст., асабліва якія друкавалі з дрэварытаў. У вучыцеля полацкага кадэцкага корпусу І. Іванова, быў цэлы рад аднаго і тагож дрэварыту св. Ефрасініі, памечаны рожнымі гарадамі і рожнай датай XVIII ст. С. Т.

КАЛЬВІНСКІЯ ЗБОРЫ НА БЕЛАРУСІ. Кальвінскія зборы на Беларусі былі ў гэткіх мясцох: у Быхаве, пабудаваны ў XVI ст.; ў Дарэўні, пабудаваны ў XVI ст. Сапегамі; ў Глыбокім, дзіс. пав.; ў Галоўчыне князёў Галоўчынскіх Аршанск. пав. пабудаваны князям Галоўчынскім у XVI ст. які даістнаваў да XVIII ст.; у Копысі, пабудаваны ў канцы XVI ст. коштам гэтмана В. К. Л. Крыштафа Радзівіла; у Кавальшчыне; Койданове, каля Менска; Полацку; у Вітабску; Лебедзеве, Лукомлі, Нелевічах, Воршы, Рагачове, Сямёнавічах, Сакольніках, Шацку, Шклове, пабудаваны у XVI ст. Хадкевічамі, але каля 1619 г. іх патомак, Аляксандр Хадкевіч, яго атабраў ад кальвінаў і аддаў дамінікам; у Таймаnаве, Уздзе, Заслаўлі, Смаргонях і ў шмат якіх другіх мясцох.

Сэньёры, г. зн. галоўныя духоўныя зьверхнікі над беларускімі кальвінскімі пастарамі, ад часу заснаваньня ў Беларусі кальвінізму былі гэткія: 1. Філіп Бохвіц—каля 1595 г., 2. Ян Тумаш Севіцкі, 3. Марцін Тэртуліян Белянскі, 4. Тодар Жданавецкі, 4. Фінэаш Гойскі, 6. Марцін Няверскі, 7. Ян Ранізеўскі, каля 1644 г., Крыштапор з Жарноўца, 9. Геранім з Жарноўца Касарскі, 10. Міхайла Таўбман Трабіцкі, 11. Флёрыян Сьвіда і 12. Даніель Рымговід ці Рывід каля 1732 г.

Мейсам аселасьці беларускіх сэньёраў было мэстечка Койданава. Асоба сэньёра была вышэйшай уладай у вядомай дыстрыкціі або правінціі, ён назначаў міністраў г. зн. пастараў, наглядаў за духавенствам, рэвізаваў зборы. У Беларусі і Літве было шэсьць сэньёраў, з іх на сынодах старшынстваваў Віленскі.

О. У.

ТЭРМОМЭТРЫЧНЫЯ СТАНЦЫІ НА БЕЛАРУСІ. У часе, ад 1886 г. да 1910 г., на Беларусі і Літве істнавалі і працавалі усяго 53 тэрмомэтрычныя станціі. Сколькі істнуе цяпер трудна сказаць, бо няма пэўных вестак, але хіба ня шмат ацалела гэтых вельмі важных для навукі і сельскай гаспадаркі установаў. Вось альфабэтны сьпіс станцій, якія істнавалі да 1910 г.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Асіповічы | | |
| 2. Бабічы | Магіл. | губ. |
| 3. Бабруйск | Менск. | „ |
| 4. Барысаў | „ | „ |
| 5. Баякішкі | Ковенск. | „ |

| | | |
|---|---|---|
| 6. Белавеж | Горадз. | „ |
| 7. Беласток | „ | „ |
| 8. Ст. Быхаў | Магілеўс. | „ |
| 9. Бярдовічы | Горадз. | „ |
| 10. Бярэсьце | „ | „ |
| 11. Васілевічы | Менск. | „ |
| 12. Вільня | | |
| 13. Вітабск | | |
| 14. Вяліж | Вітабск. | „ |
| 15. Вялікія Лукі | | |
| 16. Горадня | | |
| 17. Горкі | Магілеўск. | „ |
| 18. Глыбокае | Віленск. | „ |
| 19. Дзьвінск | Вітабск. | „ |
| 20. Друзгенікі | Горадз, | „ |
| 21. Ігналіна | Віленск. | „ |
| 22. Калінкавічы | Менск. | „ |
| 23. Клайпэда | | |
| 24. Клімавічы | Магіл. | „ |
| 25. Корсаўка | Пскоўск. | „ |
| 26. Коўна | | |
| 27. Лянкелі | Ковенск. | губ. |
| 28. Магілеў | | |
| 29. Мазыр | Менск. | „ |
| 30. Маладэчна | Віленск. | „ |
| 31. Марьіна Горка | Менск. | „ |
| 32. Межаў | Магіл. | „ |
| 33. Менск | | |
| 34. Міхужы | Ковенск. | „ |
| 35. Новазыбкаў | Чарніг. | „ |
| 36 Нов. Каралёў | Смал. | „ |
| 37. Падгаі | Ковенск. | „ |
| 38. Панявеж | Ковенск. | „ |
| 39. Пінск | Горадз. | „ |
| 40. Понемуні | Ковенск. | „ |
| 41. Пружаны | Горадз. | „ |
| 42. Радзівілішкі | Ковенск. | „ |
| 43. Слуцак | Менск. | „ |
| 44. Смаленск. | | |
| 45. Смаляны | Смаленск. | „ |
| 46. Старасельле | Менск. | „ |
| 47. Сувалкі | | |
| 48. Сьвіслач | Горадз. | „ |
| 49. Цяплава | Вітаб. | „ |
| 50. Чэрыкаў | Магілеў | „ |
| 51. Шукшнеў | Ковенск. | „ |
| 52. Шчорсы | Менск. | „ |
| 53. Яленава | Смал. | „ |

К. Душэўскі.

БЕЛАРУСКІЯ ДРУКІ ЧАСОЎ ДРУГОГА ПАЎСТАНЬНЯ. У нядаўна выйшаўшай „Bibliografji druków dotyczących powstania styczniowego 1863—1865,*)“ старэнна і ўважна апрацаванай і выданай вядомым польскім ваярскім кнігапісчыкам падпалкоўнікам Янушам Гансіороўскім, пададзена некалькі беларускіх друкаў тых часоў, досыць поўна ў кнігапісным сэнсе апісаных.

Правапіс Bibliјografji“ захоўуецца.

Ось гэтыя друкі:

435. Pismo od Jaśka Hospodara z pad Wilni do mużykow w ziemli Polskoj. Адозва, пачынаецца ад слоў: „Dziaciuki! Kaby Boh dau mnie rozum...“ Бяз м. і г. Drukarnia Rządu Narodowego стр. 1, 41 радок тэксту.—22½×14. (адмечана у A. Giller Polska w walce, I)—рэдагаваў Канстантын Каліноўскі).

533. Rząd Narodowy. Prykaz od Rądu Polskaha nad całym krajem litouskim i biełoruskim do Narodu ziemli Litouskoj i Biełoruskoj. Wilno, 11. listopada 1863 г. 1, 47 радкоў тэксту—22½×16.

632. Hutorka dwoch Sosiedou. Бяз м. і г. (Беласток, 1862—1863). Nr. 1, 2, 3 па 2 карціны—17×12. (Паасобныя брашуркі беларускія, друкаваныя ў тайнай друкарні, ў Беластоку Грыневецкім і Браніславам Шварцам.)

657. Mużyckaja prauda. (N N. 1-7.) Wilno, 1862—1863. Друкаваныя ў 1862—1863 г.г. у Вільні пад рэдакцыяй К. Каліноўскага і Ф. Ружаньцкага.

А. Ружанец-Ружанцоў.

*) Выдана у Варшаве, Вайсковым Навукова-Выдавецкім Інстытутам, 1923 г. 394+IV стр.

БАЦЬКА ПОЛЬСКАИ КАМЭДЫІ. Гэтак называе Францішка Багамольца вядомы польскі гісторык Люціян Маліноўскі (Lucian Malinowski „O języku komedyj Franciszka Bohomolca).“ Ф. Багамолец належыць да ліку тых крывічоў якія будавалі польскую культуру і збагачалі яе мову беларускім слоўнікам. Больш таго:

ён быў запраўдным бацькам г. зн. тварцом польскай сцэнічнай камэдыі. Пісаў ён пад вялікім ўплывам тагочасных (другая палавіна XVIII ст.) францускіх пісьменьнікаў, а галоўна Мольера. Да гэткіх належаць: „Pan do czasu“, „Rada skuteczna“, „Figlacki polityk terazniejszej mody“, „Nieroztropność“, „Natrętnicy“. Багамолец быў родам з Вітабшчыны, па прафэсіі сьвятар ордэну Езуітаў. Пісаў ён вітабскім польскім жаргонам, ў дадатку, сваім асобным правопісам і граматыкай. У яго польшчыне прабіваецца беларускі сынтаксіс, а сама польшчына перапоўнена беларускімі словамі, няраз так чужымі для палякаў, што вучоны гісторык польскай літэратуры р. Л. Маліноўскі і сягоньня, тлумачучы іх, выказуе сваё неразуменьне. Гэткіх слоў шмат, за недахватам месца падам такое як „рум“ z „Natrętników“. Л. Маліноўскі яго тлумачыць „sława“. Слова „рум“ у Багамольца ужыта ў значэньні вольнага пляцу. На падзьвіньню „румам“ пазываюць пляц над ракой на які звозяць лес ці тавары: „Умовіліся даставіць на рум бярвеньня“.

С. К.

АБ СЛОВЕ „КАБЕТА“. Слова „кабета“, якое, будучы польскім барбарызмам, даволі часта трапляецца ў нашай адраджэнчай літэратуры, саўскім добра можа быць заступлена сваім—„жанка“. Тым больш, што і ў польскай мове слова „кабета“ яшчэ ў XVI ст. лічылася лайчывым (Гл. Słownik języka polskiego. Linde). Яно паходзіць ад „kobić“—чараваць і першапачаткова азначала:—чараўніца, ведзьма. Па сваей этымолёгіі гэтае слова і сягоньня месьціць ў сабе гэтае паняньце, аб чым сьведчыць наша старая літэратура якой вядомы: „кобити“—чараваць, „кобии“—чараўнікі. „Что имя твое и что ти кобь? (Супрасльск. рук.). У жывой мове вядомы словы: „кабук“—род ці эпітэт чорта (говораць аб чорце „кабук“ ў такім значэньні як —„той“, „гэны“, „нячысьцік“) і „кабейніца“,—баба ў якой „благія вочы“, ад каторых бываюць „урокі“, „су-рокі“, слова „кабейніца“ азначае такжа балотную чорную вужаку, у адрожненьне ад „верацейніцы“ маючай больш сьветлую афарбоўку скуры (Вітабшчына). У Барысаўшчыне говораць ў лаянцы слова: „скобсьціўся“, што знача--скруціўся, зыйшоў з розуму, прапаў, здох. „А, каб ты скобсьціўся!“

І. Л.

КАЛІ БЕЛАРУСКА - КРЫЎСКАЕ СЛОВА „РАЗЬДЗЕЛ“ УВЕДЗЕНА Ў ПОЛЬСКУЮ МОВУ? Асабліва многа нашых слоў ўнясьлі ў польскую літэратурную мову т. зв. „рожнаверцы“ ў XVI ст. Галоўнымі с-паміж іх былі: Будны, браты Кавечынскія з Несьвіжа, Аляксей Родэцкі з Ракава, Чэховіч і іншыя. Усе гэты пісьменьнікі працавалі, пісалі і друкавалі свае кнігі, на Беларусі, абаруч чэрпаючы ў нас лексычны матэрьял, як з літэратурнай так і з жывой народнай мовы. Сам Будны ў прадмове да перакладзенай ім з грэцкай і гэбрайскай мовы, кальвінскай Бібліі (надрукаванай у Несьвіжу 1572 г.) кажа: „Polacy pospolicie onej krainy mowy używają w pisaniu, z której kto rodem. Głupstwo to jest mową jednej krainy gardzić, a drugiej słówka pod niebiosa wynosić. (Палякі зазвычай ў пісаньні ўжываюць мовы тэй краіны, скуль хто родам. Неразумна гэта каб мовай аднэй краіны пагарджаць, а слоўцы другой падымаць пад неба). Ў мысль гэтага свайго пагляду, ён першы ўводзіць у сваей Бібліі „з руска“ слова Rożdźiał, замест заўсёды да яго ўжыванага ў польшчыне, лацінскага слова—Kapitula. І, наагул, чытаючы Біблію Буднага відаць як ён умела правіць польшчыну, сваіх папярэднікаў, нашай мовай.

А. С.

# ЛІСТКІ У КАРОНУ БЕЛАРУСКАГА МУЧАНІЦТВА ПАД ПОЛЬШЧАЙ.

## НЕУМАЛІМЫЯ ФАКТЫ.

Перад намі нішто іншае як „Wniosek posła A. Kordowskiego i tow. z klubu P.S.L. „Wyzwolenie" w sprawie masowego znęcania się funkcjonarjuszów policji państwowej na Kresach Wschodnich"..

„Внёсак" гэты, з 1 лістапада 1923 году, найлейпей сьведчыць, што справа да таго ўжо даходзіць, што нават патрыятычна-польская народная партыя ня можа маўчаць аб тым, што далятае да яе слуху.

Перайдзём да справы і дамо слова аўтарам: „внёску", карыстаючы апісанымі ў імі фактамі

—„Уночы з 25 на 26 жніўня бягучага (1923 г. Рэд.) году, банда азброеных людзей, у ліку іх нібыло 50 асобаў, часткаю папераапранутых у мундзеры дзяржаўнае паліцыі, напала на асаду Тэляханы, Косаўскага пав. на Палесьсі. Пасьля стэрорызаваньня 2 прысутных на пасту паліцыянтаў і справаджаньні на пост войта Тэляханскай воласьці, аграблена некалькі крамаў і кватэраў цывільнага насяленьня, нарэшце, растраляўшы арыштаваных 2 паліцыянтаў, валаснога войта, жыхара Тэляханаў, купца-жыда і жыхарку Тэляханаў жыдоўку ў яе ўласнай кватэры—пасьля 6-гадзіннага бязкарнага паляндраваньня,—банда пакінула асаду"...

Так кажа афіцыяльны запрос у Сойме пасла польскай партыі Кардоўскага й яго таварышоў у прэлюдыі да таго, што дзеялася пасьля бандыцкага нападу. Матар'ял гэтак завялікі, што адбіцьцё ўсяго яго заняло-б надта шмат месца на шпальтах нашае часопісі. А дзеля гэтага падамо факты з большага, як яны ёсьць, трымаючыся строга афіцыяльнае мовы польскага запросу й верачы, што польская, хаця й народная, партыя хіба што нішто перасаліць не старалася.

А вось, што пачалося адразу пасьля бязкарнага бандыцкага нападу:

—„Разасланыя да ваколічных вёсак аддзелы паліцыі сваім павядзеньнем зрабілі на мясцовае насяленьне ўражаньне новых бандыцкіх нападаў, бо пераапранутыя ў адзежу жыдоў, купцоў і сялян — загрымаваныя паліцыянты—запраўды ўчынілі цэлы рад дзеяньняў, што прасьледуюцца карным кодэксам.

Недалёчка ад самае вёскі Тэляханаў прынялі іншую сыстэму сьледзтва, а ласьне: рабілі масавыя вобыскі бяз сьведкаў, арыштоўвалі па некалькі асобаў зараз, білі на месцы і адвозілі па пост у Тэляханах, дзе паддавалі іх катаваньням, што напамінаюць сярэднявечныя інквізыцыі, не зьвяртаючы ўвагі, а ні на век, а ні на пол... Білі бяз ніякіх азнак праступку з боку катаваных асоб, так толькі, абы біць—„а ну-ж што скажа", а, нарэшце дзеля таго, каб адамсьціць сьмерць забітых паліцыянтаў, як, паміж іншым, заявіў гэта падпісанаму паслу Кардоўскаму старшы пшодоўнік № 4, ў дзень 7. X. г.,—(1923) г.

У вёсцы Рэчкі, Тэляханскай воласьці, Косаўскага пав. Пётра Станіславаў Кот, 60 гадоў—5. IX. назначаны солтысам на фурманку, каб завязьці арыштаваных суседзяў да Тэляхан, затрыманы на пасту ў Тэляханах, спаў на возе; каля гадзіны 9 увечары ўстаў, каб зьняць коням торбу з аборкам і даць ім сена. Калі рабіў гэта, дык падыйшоў да яго тайны паліцыянт і са словамі: „Чаму ня сьпіш с..." ударыў яго тупой прыладаю (ложаю рэвольвэра) ў левую часьць галавы. Ранены Кот упаў бяз прытомнасьці пад воз. Залітага крывёй, няпрытомнага Ката два абмундзераваныя паліцыянты занясьлі ў памяшканьне паліцыі. Абмылі яму галаву гарэлкаю, залівалі ею раны на галаве. Абматалі ганучаю напаілі Ката вадою, змылі кроў з каўняра сьвіткі, затым, калі прыйшоў да прытомнасьці, выдалі яму звальненьне. Вышэйпаказаны факт сьведчыць, што на пасту ў Тэляханах зьдзекаваліся над арыштаваным ня толькі пасьля але й перад бандыцкім нападам.

Васіль Рыгораў Мялік 25 гадоў, арыштаваны 6. IX, біты ў той самы дзень а 2 гадзіне папалудні ў пакоіку каманданта. Экзэкуцыю рабілі—„малы", „палітычны" й паліцыянт 64 (далейшае цыфры не памятае). „Малы" пытаючыся: „Винтовки есть", загадаў яму распранацца: калі Мялік зьняў каптан, дык „малы" ахінуў яму ім галаву й пакаціў на зямлю,—пасьля чаго пасьцягаў з яго рэшту адзежы, распранаючы нагола, пры чым падраў яму порткі, нарэшце сеў яму на галаву, а паліцыянт 64 на ногі, і гэткім спосабам білі яго кіямі і спражкамі, пасьля падскаквалі ў яго на плячох, нарэшце, паўжывога „малы" біў кулакамі па твары і голага штурханцамі выкінулі за дзьверы...

Язэп Даніла ў Шлячка, 62 гад. Перабілі яму руку ў локці. Заяўляючы, нарэшце: „Будзем вас гэтак так доўга біць і прасьледаваць, аж усе зробіцеся бандытамі" — выпусьцілі яго са школы, зьмененай на катавальню.

Вёска Краі, Тэлях. вол. Зінові Антонаў Канановіч... арыштаваны 28. VIII. па дарозе з Тэляханаў да вёскі Краёў—білі яго тры разы. 30. VIII акруцілі яму галаву коўдраю, а рот запакавалі. Палажыўшы на плечы дошку, білі па дошцы малатком або гіраю, штурхалі яго і білі паленамі, а калі абмалеў—выкінулі яго ў стайню. Бачачы, што доўга не вяртаецца да прытомнасьці, паклікалі мясцовага фэльчара Багдановіча, які не хацеў аглядаць хворага на гнаі ў стайні—і да стайні ўвайсьці не хацеў, ці проста баяўся — тады сказалі яму, што гэта захварэў паліцыянт. Калі, нарэшце Канановіча вынесьлі, Багдановіч зьвярнуўся да паліцыянтаў са словамі: Panowie, panowie, co wy na Rany Boskie robicie" — Багдановіч

ачучываў Канановіча нейкімі кроплямі і націраў яму цела. Калі ачучанага ўнясьлі да пакою, дзе зьмяшчаецца арышт, дык Кананoвіч скардзіўся, што яму зламалі дзьве скабы, лежаў, ня могучы дыхаць, выдаваў толькі з сябе храплівы сьвіст, ня мог піць, дзякуючы чаму іншыя арыштаваныя ўлівалі яму ваду ў горла. Звольнены 31. VIII, г. зн. у чародны дзень па апошнім біцьці. Мае сінія сьляды на ўсім целе, апухшы ўвесь жывот. 3. IX нанова арыштаваны палітычным агентам і разам з іншымі пад закідам прыналежнасьці да мясцовага „Рэвкому“, ў які падчас бальшавіцкае ўлады быў выбраны насяленьнем. 3. IX забралі яго хворага дый яшчэ білі на пасту ў Тэляханах.

Мікалай Сьцяпанаў Арцюх. 16 гадоў, арыштаваны 3. IX на полі, дзе гараў; пыталіся ў яго, ці належыць да Камітэту (Гуртка) „Wyzwolenie“. Завёўшы на пост, кінулі яго на зямлю, адзін з быўшых сеў яму на галаву, другі на ногі і гэткім чынам білі яго кіямі і адрэзкамі ад дошчак, і білі яго нялюдзкім спосабам галавою аб сьцяну; калі яго хацелі біць голаю шабляй, хлапец прасіў каб забілі яго на месцы, тады яму будзе лягчэй. Тады паліцыянт усунуў шаблю назад ў пахву і біў кулакамі па галаве аж да глухаты. Сьверджана 6. IX — уся паверхнасьць заду крывава-сіняя.

Сяргей Максімльянаў Вашчыла, 37 г. сябра гуртка P. S. L. „Wyzwolenie“ забраны з хаты 3. IX. біты на пасту 3. IX і 4 IX блізу што безперарыўна (9 разоў)—пабіта ўся галава, правае вока—ачучвалі яго ўночы вадою—рукі (далоні) таксама спухшы, што ня мог утрымаць бутэлькі, вынесены з арыштанскае на руках да воза з мэтай адвязеньня ў Косава разам с пяцьма іншымі, як сябар мясцовага „Рэвкому“...

Вёска Гутна—Тэляханскае вол., Аляксей Ігнатаў Шабатна арыштаваны 28. VIII. Знайшлі ў яго двотыднёвік „Доля“ № 3, выдаваны ў Берасьці паслом з клюбу „Wyzwolenie“ Адольфам Бокам; экзэмпляр гэты забралі са словамі: „Ага! вам нужна доля—будет вам доля“. Затрыманы на посту 5 дзён, пакаціўшы на зямлю, білі лежачага паленамі па ўсім целе, штурхалі нагамі паднятага білі кулакамі па твары, 6. IX сьцверджаны сінякі на ўсім целе.

Вёска Горталь — Тэляханскай вол., месца, дзе пражываў забіты войт.

28. VIII. а гадз. 8 раніцай Максімільян Дзям'янаў Абрамчук, 31 году, хочучы паехаць у праверачную вайскавую камісію да Сьвятой -Волі, запрог коні, рыхтуючыся ў дарогу. У гэты момант прыбылі на панадворак 5 паліцыянтаў, пачалі лупіць яго па твары кулакамі, кажучы: „ты с.... сын бандыт“—таксама зьбілі бацьку Максімільяна, Дзям'яна іх разам закавалі ў кайданы, пасадзілі на воз, зрабіўшы вобыск, забралі ад Максімільяна легітымацыю P. S. L. „Wyzwolenie“, кажучы: „Мы тебе сейчас дадим комитет“, забралі таксама і 100.000 (сто тысяч) марак, а таксама й суконую белую хустку.

70-гадавы Дзям'ян Абрамчук (глухі) біты першы раз на пасту 29. VIII прыкладамі па бакох і па нагах. Хацелі, каб сказаў, дзе знаходзіца сын Янка (ад студзеня месяца няпрысутны дома), пасьля вывелі на двор і, трымаючы за валасы, білі „лапцем“ па твары і кулакамі па галаве.

30. VIII біты „moczonymi linkami“ па чым папала.

1. IX прыказана яму легчы : калі зрабіў гэта, селі яму на галаву й на ногі, б'ючы дошкамі па задзе—пасьля паставілі да сьцяны, ізноў дапытваючыся пра сыноў, нанова паклалі на зямлю, і б'ючы крычалі: „помни теперь польскую дисциплину, знай, что Польша и скажи, что это польская дисциплина“.

Скатаванага адвялі ў хлеў, заменены на арыштанскую—калі, лежачы на баку—енчыў, адводзіўшы паліцыянт спытаўся: „што зубы табе баляць—мо вады хочаш?—кажучы гэта, заліў яму вадою вочы—бутэлькаю біў па бакох. Нарэшце, зьвязалі яго, хочучы адвязьці ў Косава, калі паднялі дык упаў, што паўтарылася некалькі разоў—дзеля гэтага адаслалі яго дамоў.

14-гадовы Яўхім Дзям. Абрамчук, прывезены на пост 28. VIII, скуты кайданамі разам з Максімільянам. 29. VIII прыстаўляючы яму да галавы рэвольвар, загадвалі яму то лажыцца, то ўставаць, затым завялі да „інквізыторкі“ (правы пакой у канцы будынку), дзе загадалі легчы на лаўку; сам сабе спусьціў нагавіцы—білі яго па задзе рамянём—калі крычаў, сьціснулі яго за горла—адходзіўшаму загадана выцерці твар, каб ня відаць было сьлядоў плачу, пакінуў дзягу, якою падперазваў порткі—дзягу гэтую вярнуў яму, st. przod. № 4—7. IX ў прысутнасьці пасла Кардоўскага ў Тэляханах.

29. VIII, калі выходзіў з хлява на двор, білі яго галавою аб сьцяну.

30. VIII цягалі за сподную вусну—сьціскалі кончык носа — білі кулаком пад бараду.

10-гадовы Аляксей Дзям. Абамчук, 29. VIII біты кулакамі па твары, цягнены і шчыпаны за вушы,—сьціскалі яму кончык носа, шчыпалі яго і цягнулі за вусны, біты пад бараду кулаком і ў карак, штурханы, тройчы дапрошваны, гэтулькі-ж разоў біты, прыстаўлялі яму рэвольвар да віска і загадвалі лажыцца. Еў толькі хлеб, забраны з хаты, і піў мутную ваду, падаваную паліцыянтам.

Максімільян Дзям., Абрамчук, 30. VIII—бачыла яго на пасту жонка: прышла ў момант, калі яго білі: адразу выпусьцілі яго з памяшканьня паста, каб на дварэ прыйшоў да прытомнасьці, прычым палівалі яго вадою,

падалі хлеб, але-ж ня мог сам утрымаць у руках, ані есьці, уся галава спухшы. Білі яго гэткім спосабам, што галаву абкручвалі ганучаю, клалі на гэта дошку і білі малатком, або гіраю па дошчы, так-сама білі па грудзёх.

Казаў ў хляве 14-гадоваму брату Яўхіму, што й так яго заб'юць, што мусіць сказаць паліцыі, што пакажа, дзе ёсьць бандыты і па дарозе ўцячэ. Гэтак вось і зрабіў пад Разьдзяловічамі.

Тамаш Сяргееў Мякін, 30. VIII арыштаваны на вуліцы вёскі—ня меў пры сабе дакумантаў—біты кулакамі па твары й закуты ў кайданы. 31. VIII раніцай заведзены да малога пакойчыка (камэнданта),—інквізыцыю вёў „Złote Zęby" (Русс). тайны паліцыянт, крычаўшы: „Oddaj karabin", пасьля праведзены ў пакой „кашары" (koszary). Русс, б'ючы па твары й па карку кулакамі, пытаўся: „Дзе ляжаў войт?" Пасьля двойчы пакацілі яго на зямлю і білі цераз сьвітку кіямі й прыкладам. Калі ўстаў, загадалі яму распрануцца, пры чым ударалі яго кіём у левую далонь (сьцьверджана 7. IX паслом Кардоўскім: напухшая і пасінеўшая ўся далонь), нарэшце, сьцягнулі з яго сьвітку і білі яго паленамі, штэмпэлям. Сьцьверджана: левы азадак, левае купро й левая лытка крывава-сіня-жоўтыя. Далей загадалі яму разуцца; скінуў пасталы, дык адзін сеў на каленах, а другі на грудзёх і ляжаўшага ніцьма білі кіямі некалькі разоў у пяты й падошвы (сьцьверджана: абедзьве ступні спухшыя). Калі ўстаў, піхнулі яго колькі разоў у розныя бакі „w odbijanego", бо ня мог стаяць на пакалечаных нагах. Выходзіўшага білі ўсе разам чым і ў што папала. Вярнуўся, бо запомніў шапку. Тады нехта сказаў: „хадзі, я цябе яшчэ ня біў", дый зноў яго пакацілі ня зямлю. Нехта стаў яму нагою на горла, а другою штурхаў у грудзі і ў бакі. Выходзіўшага з пакою ізноў білі па плячох кіямі і кулакамі. Дзеля таго, што быў вынятkова скатаваны і меў скрываўленую руку—загадалі яму абцёрці кроў і ня выпусьцілі нармальным выхадам цераз вуліцу, але загадалі яму вяртацца домоў цераз плот і гароды...

Вёска Соміна, Тэляханскай вол.

Васіль Зьмітракоў Абрамчук—27 гадоў—утрымлівае дружыну—зложаную з 5 асобаў. Калі 28. VIII ўвайшлі ў хату, зьвярнуліся да маці са славамі: „ты сястра таго Абрамчука, што ў Гортлі—дзе твой сын?" Пры вобыску забралі стапу папіроснае паперы.

Арыштаванаму Васілью зьвязалі назад рукі вяроўкаю і пагналі на пост.

29. VIII паміж 8 і 9 гадз. ўвечары ўвялі ў пакой каманданта; калі Васіль увайшоў, за валасы пакацілі яго на зямлю і, трымаючы за горла й за рот, штурхалі яго нагамі ў бакі, грудзі і плечы; білі яго дубовымі кіямі па ўсім целе й па галаве, тройчы паўтараючы кіданьне на зямлю і біцьцё. Пасьля сьцягнулі з яго боты, білі кіём і стрэльбаю некалькі разоў па ступнёх. Паўпрытомны з болю ня мог ані падняцца, а ні хадзіць. Тады ачуцілі яго вадою і завялі ў хлеў. 1. IX., калі прывялі яго на інквізыцыю, дык заявілі яму: „мы теперь дадим ужо тебе звольненіе", пасьля пакацілі яго „хворага" на зямлю і некалькі чалавек разам білі яго чым мелі: прыкладамі, кіямі і, ўрэшце кулакамі. Дзеля таго, што сам ня меў сілы выйсьці, далі яму вады, змачылі ёю галаву і загадалі выходзічь кажучы: „положишь компрес і дома будешь лечиться". Скатаваны Абрамчук спытаўся: „за што білі"? —адказана яму: „тут без разбору". У канцы муселі яго адвязьці дамоў. 7. IX. пасол Кардоўскі сьцьвярдзіў, што Абрамчук мае ўсю галаву апухшую, гаворыць з трудом і робіць ўражаньне, як бытцам мае разьбітую галаву.

Дня таго-ж,ў поўдзень, солтыс в. Соміна атрымаў з паліцыі карту, клікаўшую Аляксандру Мікалаеву Абрамчук на чародны дзень у Тэляханы, а тая паехала адразу з солтысам. Мае 44 гады, радзіла 14 жывых дзяцей, апошнім часам на 4-м месяцы ўцяжку.

Калі прыбыла на пост, зьявілася да каманданта, у пакойчыку якога знаходзіўся найстражэйшы інквізытар „Złote zęby" (Русс—тайны агент з каманды паліцыі ў Пінску), які адразу прыступіў да дапросу: „Што ты ведаеш?"—і, не чакаючы адказу, са словамі: „Ага, ты нічога ня ведаеш" ударыў Аляксандру кулаком у твар,—калі тая схілілася на сьцяну—штурхануў яе паміж ног; пачуўшы вялікі боль унутры, захісталася і ўпала жыватом на ложак,—разбэшчаны паліцыянт паклікаў „Сышчыка, „дайте ей еще 25 плёток"—на покліч прыбыў абмундарованы паліцыянт (які знаходзіўся на пасту з жонкаю й дзіцём) і хацеў яе біць штэмпэлям—бачачы на поўабамлеўшую, стрымаўся, тады паліцыянт „Złote zęby" ўдарыў яе кулаком у пашчэмку, пасьля загадаў: „выбросить этого стараго чорта". Паволі, трымаючыся за сьцяну, пасоўлася да выхаду, але ў дзьвярох (ззаду дому ад кухні) пачала ванітаваць,—у той-жа мамант „dostała krwotoku", пасьля, поўзаючы, выбралася на двор, а стуль, па нейкім часе, дамоў. Назаўтра паехала да фэльчара Багдановіча ў Тэляханах, які скіраваў яе да акушэркі,—а тая сьцьвярдзіла „poronienie" і патрэбу „ачышчэньня". Гэты апошнія ведаюць бег выпадку з Абрамчуковай і безпамылкова могуць па гэтай справе быць „сьведкамі-экспэртамі".

„У ва ўсіх выпадках,—пішуць інтэрпэлянты—,біцьцё сялян вёскі Соміна паліцыянт „z krzyżem walecznych", прыступаючы да дэліквэнтаў, затуляў сабе твар плашчам, а тайны агент „Złoty zęby" (Русс) заўсёды паўтараў: „Помните польскую власть,—хоть мне самому сидеть в тюрьме, все равно, всех вас перебью".

Зусім давяраем аўтарам „wniosku", што:

„Гэта ўсяго нязначная часьць ведамасьцяў „o postępowaniu policji", ў Тэляханах і ў зьвязку з нападам бандытаў на Тэляханы, бо вышэйназваныя нялюдзкія пастукі зьдзічэлых (дасюль мы чулі толькі аб „dziczy wschodniej"

К. М.) і нікім не кантраляваных паліцыянтаў абнялі ўсе вёскі ў кругу 20—30 вёрст вакол Тэляханаў. Урэшце, падпісаныя цьвердзяць, на аснове шмат разоў паўтараных падобных фактаў, што гэтая сыстэма ўрадаваньня функцыянарыяў дзяржаўнае паліцыі, **нязвычайна шкодная для Польскай Дзяржавы** (курсіў наш—К. М.) зьяўляецца на Крэсах Усходніх усюды практыкаваным".

Далей ісьці няма куды.

К. М.

## АБ БІЦЬЦІ ЗААРЫШТАВАНЫХ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ.

Ў справе сьпешнай інтэрпэляцыі Беларускага Соймавага Клюбу аб біцьці і катаваньні палітічна-заарыштаваных праз паліцыю і вывядоўцаў на Kresach Wschodnich меў прамову ў Сойме на паседжаньні 12 лютага пасол Сымон Рак-Міхайлоўскі. Прамову яго с прычыны яе важнасьці—зьмяшчем у цэлым відзе, паводле стэнаграмы.

ПАСОЛ РАК-МІХАЙЛОЎСКІ. Высокі Сойм! Ня першы раз ў цяперашным Сейме складаем мы інтэрпэляцыі аб біцьці і катаваньні заарыштаванных праз паліцыю і вывядоўцаў. Ня так даўно былі інтэрпаляцыі і з боку другіх партыяў у гэткіх-жа справах. Але да гэтага часу біцьцё і катаваньне не зьмяньшаецца.

Да нашага Клюбу ўвесь час уплываюць скаргі беларускага насяленьня на дзікае катаваньне праз паліцыю арыштаваных. Не ўваходзячы ў сутнасьць справы арыштаваных—гэта мае вырашыць суд—на падставе пасольскіх даходжаньняў і данясеньняў з правінцыі ўдалося сьцьвердзіць, што палітычна-сьледчая паліцыя, каб вымусіць паказаньні ўжывае сярэднявекавых спосабаў катаваньня. Польская паліцыя ў абмундураваньні па ангельскай форме заховўецца—на жаль—не паангельску! Практыкуецца біцьцё па галве, вуснах, зубах, дратаваньне зьбітых нагамі... Мала таго: укладаюць алуўкі паміж пальцаў рук і бязлітасна сьціскаюць... Даволі, панове, папрабаваць самім на ўласных пальцах, каб пабачыць, як гэта соладка і прыемна. А штож-тады, калі гэта робіць на чужых руках раз'юшаны кат! Да гэткага сьціськаньня рук пальцця нават мае спэцыяльныя абручыкі.

Ад гэткіх мукаў арыштаваны сьцьвярджае ўсялякія віны, якія прыпісвае яму паліцыя, каб толькі спыніць нялюдзкія мукі. Далей, трымаюць скатаваных у вастрозе, каб зьніклі сьляды біцьця. Пасьля доўгага часу трыманьня ў вастрогах, Суд, а часам і сьледчая ўлада, звальняюць арыштаваных.

На Віленшчыне налічаецца да 660 штатных шпіёнаў. Апрача таго бадай у кождай вёсцы на Ўсходніх Крэсах утрымоўваюцца конфідэнты; шпіёнства да такой ступені распаўсюджана, што, каб заслужыцца перад начальствам і даказаць службовы спрыт, стасуецца прафэсыянальны зьдзек над безбаронным насяленьнем.

Беларускае насяленньне на Ўсходніх Крэсах стэрорызавана, паўсямеснае біцьцё паліцыяй падазроных сталася сыстэматычным. Насяленьне пранікаеца ненавісьцяй да катаў-паліцыянтаў і вывядоўцаў і да ўсяго, што польскае, ўключна да польскай мовы і польскага пісьма.

Ў пачатку сьнежня 1923 г. мы атрымалі заяву ад бацькоў арыштаваных вучняў Гімназіі ў Вялейцы-павятовай у Віленшчыне з просьбай ратаваць іхных дзяцей. Бацькі паведамляюць нас:

„У пачатку верасьня г. г. арыштавана нашых сыноў і братоў, а іменна: 1) Базыля Апанасавага сына Гердзея, вучня V клясы гімназіі у Стара-Вялейцы; 2) Базыля Янкавага сына Гердзея, вучня V кл. тэй-жа гімназіі; 3) Тодара Данілава сына Брацука, вучня IV кл. тэй-жа гімназіі; 4) Мікалая Базылёваго сына Сароку, вучня V кл. Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні; 5) Яна Семашкевіча, 6) Арсеня Сярэбранікава, 7) Уладзіміра Скабея, 8) Браніслава Арленковіча, 9) Мікалая Нарушэвіча, 10) Міхала Каралёнка, 11) Аляксандра Чарняўскага і інш. Пасьля арышту ўсе вышэй памянёныя былі пасаджаны ў вастрог у Стара-Вілейцы. дзе іх страшэнна скатавалі. Білі іх ня толькі па ўсяму целу, але па галаве, вушах і, нават, зубах. Паміж пальцаў укладалі алуўкі і сьціскалі рукі, каб прымусіць прызнацца да прыналежнасьці да нейкіх антыдзяржаўных арганізацыяў, а пасьля перавезьлі некаторых з іх у Вільню на Лукішкі. Ужо колькі мёсацаў абіваем парогі п. п. сьледчых судзьдзяў і пракурораў, просячы аб звальненьні дзяцей і братоў нашых, але ўсе нашыя просьбы не далі ніякіх вынікаў і дзеці нашыя і далей мучацца ў вастрогах у холадзе, голадзе і брудах.

Некаторым з нас адмовілі нават права бачыцца з імі ў вастрозе. Тодар Брацук з прычыны цяжкіх вастрожных варункаў ў Вільні моцна захварэў на плеўрыт".

У палове сьнежня мы ўнясьлі ў гэтай справе сьпешную прапазыцію і ў палове студзеня 6 з вышэй успомненных арыштаваных зволынены да суду нават бяз каўцыі (пасьля $3^1/_2$ месяцаў трыманьня ў вастрогах). А гэткіх падсьледственных у кождым вастрозе на Ўсходніх Крэсах сотні і тысячы. У канцы сьнежня 1923 г. у вастрозе на Лукішках у Вільні было 1600 з лішкам, з якіх значная частка пад сьледствам.

Біцьцё, катаваньне арыштаваных, трымань не нявінных у вастрогах у працягу даўжэйшага часу стварае на беларускіх землях атмосфэру бязпраўя і самаволі паліцыі. Падобнае павядзеньне дзяржаўнай паліцыі тым больш павінна быць асуджана, бо стасуецца нават да вучнёўскай моладзі.

Маці арыштаванага ў кастрычніку 1923 г. Арсеня Сярэбранікава паведамляе нас, што

сын быў біты не адзін раз у Вялейцы праз функцінар'юшаў тайнай паліцыі **гумовымі кіямі да паўсьмерці і ўрэшце бяз памяці быў аднесены ў вастрожную камару.** У працягу 3 месяцаў пасьля такіх катаваньняў не пазвалялі бачыцца з ім ягонай радні, пакуль не загаіліся знакі ад біцьця і катаваньня, —аднак у канцы сьнежня 1923 г. яшчэ былі відаць на твары Сярэбранікава сьляды біцьця.

Другі з арыштаваных Уладзімір Скабей быў зьбіты да таго, што твар апух так, што ня можна было пазнаць чалавека.

Ужо пяты месяц, як гэтыя заарыштаваныя сядзяць у вастрозе, а дасюль ім яшчэ ня ўручаны акт абвінавачаньня. Есьць такія, што знаходзяцца ў вастрозе па 25 месяцаў, як Уладзімір Булаўскі з гміны Мікалаеўскай, Дзісенскага павету, страшэнна зьбіты пры арыштаваньні, а суда дасуль яшчэ ня было.

Біцьцё і катаваньне пры арыштах сталася сыстэматычным і відавочна мае на мэце змушаньне нашай інтэлігенцыі да выязду з граніц Польскай Рэспублікі, як гэта было з п. Мілянкевічам з Горадні, беларускім вучыцелям які пасьля неаднаразовага біцьця пры арыштах, будучы звольненым з вастрогу, урэшце выехаў заграніцу.

Хачу прывясьці яшчэ адзін факт. Мікалай Сяргейчык 25 гадоў, які паходзіць з в. Бэрштаны, Горадзенскага павету, дзе служыў лясьніком. (В.-Маршалак звоніць, напамінаючы, што час кончыцъ). Ужо прайшло 20 месяцаў, як ён сядзіць ад таго часу ў Горадзенскім вастрозе і суда дасюль ня было.

Як расказывала мне ў памяшканьні Акружнага суда ў Горадне 19 студзеня г. г. яго цёшча Ганна Валентукевічыха ў прысутнасьці сьведкаў—пры арышце М. Сяргейчыка білі яго да няпрытомнасьці; раскрыжавалі пры сьцяне і білі па галаве, грудзёх; клалі на лаўку, прывязвалі і білі нагайкамі; ляжачаму зьвязвалі ногі, прасоўвалі кій, паднімалі ў гару і білі жалезнымі прутамі па падошвах; урэшце босага ставілі на гарачую бляху. Гэтыя пыткі рабіліся ў Горадне ў паліцэйска-сьледчым урадзе, які знаходзіцца на Кірхавай вуліцы. У працягу 5 месяцаў пасьля арышту недазвалялі бачыцца з раднёй, аж пакуль не загаіліся раны ад біцьця і катаваньня. Вінных гэтага катаваньня дасуль не пакаралі.

Бязсумлеўна, Міністар Унутр. Спраў на ўсе прыведзеныя факты можа даць многа зусім заспакойваючых адказаў з мясцоў ад начальнікаў тых катаў вывядоўцаў і паліцыянтаў, бо звычайна яны бяруць ад катаваных уласнаручныя пасьведчаньні, што паліцыя ў часе арышту і дапросаў абходзілася прызваіта і абяцанку, што нікому ня будзе расказваць аб зьдзеках і катаваньні пад пагрозай помсты з боку паліцыі.

Прыймаючы пад увагу прыведзеныя факты, а таксама чаргу іншых надужыцьцяў дзяржаўнай паліцыі, аб якіх была гутарка ў папярэдніх прапазыцыях, Высокі Сойм захоча ўхваліць:

Заклікаецца Урад:

1) да неадкладнага распачацьця адпаведных крокаў, каб скараціць самаволю паліцыі;

2) да удзяленьня Сойму выясьненьняў у справе біцьця праз Дзяржаўную паліцыю арыштаваных на Усходніх Крэсах.

Большасьцю галасоў правіцы і цэнтру Сойм адкінуў сьпешнасьць і ўхваліў адаслаць інтэрпэляцыю ў Соймавую адміністрацыйную камісію.

## ПРАМОВА

пасла кс. А. Станкевіча ў Соймавай Асьветнай Камісіі 12/II 1914 г. падчас разважаньня expose п. Міністра Асьветы.

Высокая Камісія!

Я дужа ўважна слухаў гутарку п. Міністра аб яго прасьветных плянах у Польшчы і не пачуў нічога чым мог-бы пахваліцца сваім беларускім выбаршчыкам. П. Міністар цалком памінуў справу школьніцтва: для народных меншасьцяў, а гэтым самым і справу беларускай прасьветы.

Беларускае пачатковае школьніцтва нязвычайна буйна і надзейна разьвівалася падчас, так званай, „Сярэдняй Літвы“. Тлумачыцца гэта тым, што тады былі, прынамсі, хоць больш-менш магчымыя варункі для разьвіцьця нашай народнай прасьветы і культуры. У меру аднак таго, як наш Край прымацовывалі да Польшчы, а ўладу ў рукі бралі польскія кругі нацыяналістычныя і чорнасоценныя—бёларуская прасьвета ўсё ад уціску гібела і сяньня стялася давелзенай блізу да нічога.

Сяньня, дзякуючы выразна варожым адносінам польскай ўлады да беларускай асьветы, паўсталі варункі, ў якіх няма ніякай магчымасьці стварыць беларускую пачатковую школу, як дзяржаўную, так і прыватную.

На агульнае сабраньне сялян, каб паразумеецца і падпісаць пастанову аб іх волі закласьці беларускую школу, павятовыя старасты часта не даюць дазволу. (Starostwo Dzisnieńskie. Do urzędu gm. w Łużkach, 4 listopada, 1922 г. Nr. 17192).

Школьныя Інспэктары не дазваляюць весьці беларускую школу вучыцялям затое, што яны падчас выбараў стаялі за сьпісак № 16. На гэтай падставе звольнены з вучыцельства беларускія вучыцялі: Сухадолец у беларускай школе ў сяле Дубіна, Ашмянскага пав., Астапчык і Люсьцібор гм. Шаркаўшчына, пав. Дзісенскага, вёска Казакі, Вініцкі і Дылеўскі, гм. Ланскай, пав. Несьвіж. вёска Малево.

Ад беларускіх вучыцялёў, якія жадаюць адчыніць сваю школу, школьныя інспэктары вымагаюць довадаў прыналежнасьці да Польшчы, ня гледзячы на тое, што гэтыя вучыцялі ў сваім Краі. У цяперашняй Польшчы, радзіліся і жылі. Дастаць-жа ад староства польскі пашпарт беларусу, як добра ведаем, не заўсёды магчыма.

Апрача таго, ад беларускіх вучыцялёў школьныя інспэктары вымагаюць пасьведчаньня ад староства аб тым, што такі ці іншы вучыцель добры польскі грамадзянін. (Inspektor Szkolny w Wołożynie, 18/I 1923 r. Nr. 2146. Do mieszkańców wsi Daubienie, gm. Wołożyńskiej. Inspektor Szkolny w Lidzie 1/II 1923 r. Nr. 227. Do pana Kuźmy Aleksandra w Olchówce, gm. Dokudowo).

Апрача гэтых штук, школьныя інспэктары робяць яшчэ многа іншых, абы толькі здушыць беларускую асьвету.

1922 г. Гмінная Рада ў Радашковічах пастанавіла адчыніць беларускую школу ў гмінным будынку. Са сваей гэтай пастановай Гмінная Рада зьвярнулася да Школьнага Інспэктара ў Вялейцы з просьбай дазволіць адчыніць беларускую школу ў Радашковічах. Інспэктар згадзіўся, але ўсё гэта скончылася тым, што будынак забрала школа польская, а інспэктар тады заявіў, што ён ня можа дазволіць адчыніць школу беларускую, дзе ўжо ёсьць школа польская.

Ад таго-ж школьнага інспэктара ў Вялейцы Гмінная Рада ў Гарадку дамагалася адчыніць 5 беларускіх пачатковых школ у районе гміны, а жаданьня Рады інспэктар і дагэтуль ня споўніў.

Школьны Інспэктар у Лідзе беларускім дэлегацыям,—просячым дазволу адчыніць сваю школу, ня то што не дазваляе, але нат' пагражае, кажучы, што ён караць такіх асоб будзе, бо той, хто хоча беларускай школы, гэтым самым ідзець проціў школы польскай. І так да гэтага дзікага інспэктара ад вёскі Альхоўка, гм. Дакудава, аб адчыненьні беларускай школы зварачваліся аж 11 разоў, і, ня гледзячы на тое, што беларусы спаўнялі ўсе праўныя фармальнасьці, інспэктар на школу дазволу не даваў.

Школьны інспэктар у Валожыне п. Страчынскі беларусам, у справе свайго роднага школьніцтва паклікаючымся на польскую Канстытуцыю, цынічна заяўляе, што Канстытуцыя яшчэ не зацьверджана. Такія словы сказаў Валожынскі інспэктар беларускаму вучыцелю Міхалу Станкевічу, вёска Гароднікі, гм. Забрэзкая.

Быўшы школьны інспэктар у Глыбокім на пав. Дзісенскі п. Поранскі, просячых беларускіх школ, адсылаў да нейкага ніколі няістнуючага Краёвага Камітэту у Вільні. (Inspektor Szkolny pow. Dziśnieńskiego w Głębokiem, 11/XII 1922 r. Nr. 109. Do p. Antona Czerepa w Małkowiczach. Той-жа інспэктар, 11/XI 1922 r. Nr. 2007. Do urzędu Gminnego w Łużkach).

Гаворачы аб гэтых страшных зьдзеках польскай школьнай улады над беларускай пачатковай прасьветай, не магу прайсьці маўчком каля беларускіх вучыцялёў, вывезеных некалі ў Кракаў і скончыўшых там польскія вучыцельскія курсы. Вучыцялёў гэтых польская ўлада празначыла быць вучыцялямі ў каранной Польшчы. Працаваць ім сярод роднага беларускага люду не дазваляецца. Да гэтай пары з гэтых вучыцялёў працуюць у Польшчы: Вішнеўскі, М. Езерскі, В. Езерскі, Райчонак, Паўлоўская, Малатоўнік, Катовіч і інш. Астальныя, ня могучы далей пераносіць такога гвалту, ня хочучы працаваць для чужынцаў, замест дастаць школу беларускую, асталіся зусім без пасады.

Пяройдзем да беларускай школы сярэдняй. І тут кідаецца нам у вочы страшэнны абраз, дзякуючы нягодным адносінам польскай школьнай улады.

Да апошняга часу было ў нас 5 гімназыяў: у Несьвіжы, Гарадку, Навагрудку, Радашковічах і Вільні. Гімназіі Гарадоцкая і Нясьвіская ўжо ня істнуюць. Есьць пагаворка: de mortuis aut bene, aut nihil (аб памёршых гаварыць або добра, або нічога). Гэтай пагаворкі трымаючыся, ня буду я аб гэтых гімназіях і аб прычынах іх сьмерці гаварыць. Скажу толькі адно: мусіць добрыя былі адносіны да гэтых гімназіяў польскіх ўладаў, калі Школьны Куратар на Палескі вокруг п. Вольбэк у аднэй паперы да Несьвіскай гімназіі асьмеліўся напісаць: „Гімназія гэта можа прымаць моладзь толькі праваслаўнай веры, народнасьці беларускай, ці расійскай“... (Kuratorjum Okręgu Szkolnego Poleskiego, Nr. 5906, 15—IX. 1922 r. Brześć nad Bugiem.

Знача, каталікоў-беларусаў, паводле гэтага Куратара, у беларускую гімназію прымаць ня можна, бо яны павінны быць спольшчаны.

Астаўшыяся пры жыцьці тры нашы гімназіі, ня маючы з боку ўлады падтрыманьня ані маральнага, ані матарыяльнага, пастаўлены ў дужа цяжкае палажэньне.

Затрымаемся крыху даўжэй на гімназіі ў Вільні, як настарэйшай і найлепш пастаўленай. Віленская Беларуская Гімназія істнуе ужо ад 1 студзеня 1919 г. Дзякучы нязвычайным натугам нашага грамадзянства, гімназія гэта пратрывала часы войнау і ўсьцяж разьвівалася і паляпшалася. Бачылі гэта польскія ўлады і затым давалі гімназіі грашавыя дапамогі за часаў „Ураду Усходніх Зямель“ і „Сярэдняй Літвы“. Ня інакш да нашай Віленскай гімназіі адносіўся сьпярша і цяперашні Куратар п. Гансяроўскі, які ў 1922—23 школьным годзе, аплачываў трох вучыцялёў гімназіі. Але, як кажуць, з другога боку павеіў вецер, дык у другі бок зьвярнуўся і Куратар Гансяроўскі. Ен верна пачаў выслужвацца польскай чорнай сотні. У 1923—4 школьным годзе, ня гледзячы на значнае разьвіцьцё гімназіі з боку навуковага, так што тагочасны дырэктар гімназіі п. Ант. Трэпка ў лютым 1923 г. прасіў п. Куратара аб вызначэньні экзамінацыйнай камісіі з мэтай атрыманьня для скончыўшай моладзі права паступаньня ў польскія ўнівэрсытэты, п. Куратар ня то, што просьбы ня споўніў, але, нат' і гэну аплату 3-х вучыцялёў спыніў. Такім чынам Віленская Беларуская Гімназія пазбаўлена дапамогі, а такжа і правоў. Матурысты нашы прымушаны прадаў-

жаць сваю навуку заграніцай: прадусім у Празе Чэскай, або ў Расіі, ці Савецкай Беларусі. І рэч дзіўная: моладзь наша, скончыўшая Віленскую Беларускую Гімназію навучаецца чэскай мовы і даець сабе раду ў навуцы, а паступаць у польскія вучэльні яна бытцам непрыгатаваная!

Мушу тут успомніць, што гэткая крыўда дзеецца ўсім народным меншасьцям у Польшчы. Аб іншых у гэтай Высокай Камісіі ўжо гаварылася. Я ўспомню аб адносінах польскай школьнай улады да народнай прасьветы нашых найбліжэйшых суседзяў Літвіноў. Яны такжа дазнаюць нязвычайна многа крыўды ад польскай улады ў справе сваей школы. Літоўская гімназія ў Сьвянцянах закрыта зусім няслушна бяз ніякай праўнай падставы. Я знаю гэту справу добра і сьцьвярджаю, што закрыцьце Літоўскай Сьвянцянскай Гімназіі ёсьць звычайным бязпраўем, выкліканым ненармальныі і варожнымі адносінамі польскай улады да ўсіх народных меншасьцяў.

Нялёгка такжа літоўцам спраўляцца пры такіх адносінах і са сваім школьніцтвам пачатковым. Прыходзіць мне на памяць суд, у Варнянах, Віленскай губ. які нядаўна адбыўся над кс. праф. Краўялісам—старшынёй Літоўскага Прасьветнага Т-ва „Рытас". Суд гэты, бытцам за неспаўненьне нейкіх дробных фармальнасьцяў, старшыню, вучыцялёў цэлага раду школ, а такжа і бацькоў дзяцей паштрафаваў па 100 мільёнаў марак, а школы пазакрываў. Такія адносіны польскай улады да асьветы прыпамінаюць цалком царскія часы і спосабы.

Для лепшага зразуменьня тых нягодных адносін польскай улады да Літоўскага школьніцтва прыпомню Высокай Камісіі яшчэ і тыя вымаганьні, якія цалком бязпраўна ставяцца літоўскай школе. Лідзкі Школьны Інспэктар у паперы да ўспомненага літоўскага Т-ва „Рытас" у справе закладаньня літоўскіх школ між іншым ставіць такія, на нічым не апёртыя вымаганьні: ... „польская мова, гісторыя і географія Польшчы" рахункі і прырода павінны выкладацца папольску" (Inspektor Szkolny w Lidzie, Nr. 3385, 16. IX. 1922 г.).

Усе гэтыя дзікія адносіны польскай улады да асьветы народных меншасьцяў мяне, праўду сказаць, ня дзівяць. Гэтак было некалькі гадоў і пры ўсіх урадах. Знача, такую-ж ўжо сыстэму адносін маець да нас Польшча.

Кончу, яшчэ раз сьцьвярджаючы, што Польша супроць сваей Канстытуцыі, супроць Трактату Вэрсальскага аб меншасьцях (арт. IX) і Трактату Рыскага (арт. VII), якія Польшча падпісала і якія яе абавязваюць, глуміць беларускую культуру.

## ЯК РОБІЦЦА СТАТЫСТЫКА.

Ізабэлін, Ваўкавыскага пав.).

Калі ў 1921 годзе быў агульны перапіс жыхароў польскае рэспублікі, зьявіўся і ў нашу вёску Казейкі, Ізабэлінскае гміны пісар. Сабраў сялян у адну хату і пачаў пісаць. Пісаў, пісаў, а калі дэйшло да пытаньня „jakiej narodowości", дык, нічога нікому ня кажучы, нічога ні ў кога не пытаючы, пачаў пісаць палякамі. Нашы сяляне убачыўшы гэта, запратэставалі, кажчучы: „Што, пан, робіш! Мы—беларусы, і сталі дамагацца, каб іх запісалі беларусамі. Тады гэты пісака прызнаўся, што калі ён быў на курсах у Ваўкавыску, дык пан староста прыказаў нікога ня пісаць беларусамі. А калі нашыя сяляне цьвёрда сталі на сваім, дык тады пан пісар пад „вялікім страхам" згадзіўся, але запісаў „народовасьць" алуўком і то цененька-цененька, каб потым можна было выцерці і выпаўніць „загад" пана старосты,

Зноў, калі ў 1922 годзе, ў пачатку чэрвеня ў Ваўкавыску меў адбыцца беларускі зьезд, („які добра ня ведаю, бо даведаўся аб ім вельмі позна), на які ўсе дэлегаты мусілі мець пасьведчаньні ад гміны, дык пан староста „poufnie" загадаў усім войтам такіх пасьведчаньняў не даваць.

Цяпер такое-ж „хожденіе по мукам" беларускай душы адбываецца пры атрымліваньні з староства пашпартоў. Тут дык цэлая бяда. Можа з сотні беларусаў аднаму як-колечы і ўдасца астацца беларусам, а так усіх бяз спросу і праваслаўных, і каталікоў, і сьвядомых, і несьвядомых гвалтам цягнуць да „narodowości polskiej". А калі хто з сьвядомых беларусаў моцна трымаўся свайго, дык пачынаюцца пагрозы, адмаўляюцца запаўняць, блянкі а калі каму і ўдасца, дык ніводзін „referent" ні ў водным ваненцы ня прыйме гэтага з „беларусам" блянкету, а адашле яго на папраўку. Усё гэта адчуў на сваёй уласнай скуры і я, але ў канцы усё-ж такі запісалі ў „палякі".

Сьцяпан Баярскі. „Змаганьне" № 5)

**Грабёж і пабоі.** Танцавічы, Лунінецкага пав. У пачатку лютага г. г. у вёску Хатынічы Лунінецкага пав. лясьнічы графа Патоцкага справадзіў 40 чалавек паліцыі, каб пры іх дапомозе адабраць у сялян палову сена, якое яны рабілі і за якое, згодна з уставаю платы, унесьлі грошы ў скарбовую касу. Калі аб гэтым яму сказалі, дык ён адказаў, што, калі вы заплацілі грошы ў скарбовую касу, то няхай вам каса і сена дасьць, і тут жа пачалі сілком адбіраць сена. Многіх сялян затое, што спрачаліся, пабілі прыкладамі. Аднаго-ж селяніна затое, што адмовіўся ехаць для паліцыі на балота не за сваім, а чужым сенам, зьбілі да паўсьмерці, а потым адзін з паліцэйскі падбег і пракалоў яго і каня штыком. Другі прыклад. 27 таго лютага ў веску Боркі Хатыніцкае гміны другі лясьнічы таго-ж гр. Патоцкага так сама справадзіў паліцыю, папрыкладу свайго калегі і па такой жа самай справе. І тут справа ня абышлася бяз бойкі і крыві. Насамперш адну сям'ю білі паліцэйскія прыкладамі, а калі гэта біцьцё не памагло, тады лясьнічы з двума гаёвымі, Каленікам і Адамам Віннікамі пачалі ім памагаць:

лясьнічы біў рэвольварам па галаве: а гаёвыя калолі жалезнымі віламі, пры чым пракалолі аднэй дзяўчыне бок. Але гэтым нічога не дабіліся, паехалі да хаты бяз сена.

Пакрыўджаны. (Голас Бел. № 7. 6. III. 24).

### БЕЗПРАУСТВА ПА ВЕСКАХ.

В. Гарадзея, Нясьвіскага павету.

Каб апісаць усе тыя гвалты, што робяцца ў нас, ня хопіць усяе нашае газэты; для гэтага патрэбны цэлыя томы. Прывяду толькі некалькі прыкладаў.

У лістападзе (1923), з в. Ябланаўшчыны прыехаў адзін селянін накірмаш. Чалавек прыехаў залатвіць свае справы, але паліцыянтам патрэбны былі падводы вязьці сена на адлегласьць 15 вёрст, і дзеля гэтага пачалі зганяцьхто толькі падвярнуўся пад руку і ў тым ліку і нашага дзядзьку. Конік у яго быў слабы, дык ён пачаў прасіць, каб яго звольнілі, але просьба не памагла, тады ён сам адмовіўся ехаць. За гэта яго, як добрага пад рукі завялі на пастарунак і там яго адлупцавалі, прылажыўшы дошку да грудзёў, і бьючы па ёй гірамі, што ён ужо ня толькі не павёз сена, але яго самога павязьлі.

Цяпер другі прыклад. У кастрычніку лет. г. паліцыянты праз увесь месяц рабілі ў нашай вёсцы вобыскі, ў часе якіх канфіскавалі гэткія рэчы: у гр. Піліпа Швака 5 пар падковаў, у гр. Рака—сьценны гадзіннік, у Антося Касмовіча—дзьве пары бялізны і ручнік, які паліцыянты прызналі за панскі. Алё-ж гэты ручнік быў уласнага вырабу, бо нашыя кабеты ўмеюць вельмі добра і прыгожа ткаць.

Штрафуюць нашых сялян на 400.000 м. п. у дзень за тое, што не пасылаюць дзяцей у польскую школу. А як іх пасылаць, калі яны нічога там ня могуць зразумець?

Мікалай Пераносік.

(„Галас Беларуса“ № 2, 17. II.—24).

# Агляд культурнага жыцьця Беларусі.

### АБ НАВЕЙШЫХ АРХЭОЛЕГІЧНЫХ АДШУКАНЬНЯХ У ВОЛАСЬЦІ ГНЕЗДАВА І У ВАКОЛІЦАХ СМАЛЕНСКА.

8 сьнежня прошлага году на 28 чарговым вым паседжаньні Менскага таварыства гісторыі і старасьвеччыны быў заслухан і абгавораны даклад вядомай вучонай Кацярыны Мікалаевай Клятновай на азначаную ў загалоўку тэму.

—„Мэта майго дакладу—паведаміць аб тых архэолёгічных дасяганьнях, якія зроблены ў ваколіцах Смаленска і Вялікага Гнёздаўскага Магільніка—кажа дакладчыца Клятнова. „Вялікім“ называем яго ня толькі мы, але і ўся Эўропа і тады, калі яшчэ і палавіны ў дасьледаваньні гэтага Магільніка зроблена ня было. Гнёздаўскі Магільнік ляжыць у 12 вярстох ад Смаленска, ўніз на Дняпру і зьяўляецца вялізарным кураганным полям, больш 4 дзес., якое, дзякуючы дасьледаваньням павялічываецца. Да 16 веку аб ім гавораць як аб вядомым, а ў 16 веку гэта мейсца было рэзыдэнцыяй уніяцкіх біскапаў, аб якой потым таксама забываюцца. Зноў Магільнік становіцца вядомым у мінулым веку, калі пры пракладцы цяперашняе беларускае чыгункі зацікавіліся, асабліва інжынер Сяргееў, знойдзеным там скарбам. Потым робяцца цэлыя экспэдыцыі Уваравым, Сізавым і інш. і робяцца апісаньні Магільніку. Сізаў адносіць Магільнік да 9 веку, а з некаторымі магчымасьцямі да 7 і нават 6 веку. Будучыя дасьледаваньні, дзякуючы новым матар'ялам, змушаны будуць аднесьці яго за 10-15 вякоў да нашае эры. Раней на Магільніку налічалі тысячы курганоў, трэцяя частка якіх згінула пры пракладцы чыгункі і працы 2 ваенных заводаў, якія тут бралі матар'ял. Цяпер-жа іх пры падліку аказалася 5987.

Сізаву, Кусьцінскаму і інш. былі вядомы на Магільніку толькі два гарадзішчы. Нашы досьледы пачаліся з Альшанскага гарадзішча, якое па дасьледаваньнях абсыпаў і рытвін можна аднесьці да зялезнае эпохі—ў верхняй частцы і ніз—да камяннага веку. Наш гурток думаў, што тут быў шлях з Заходняй Дзьвіны ў Дняпро. Далей, студэнты па р. Альшанцы знайшлі другое гарадзішча і вялізарнае кураганнае поле ўдоўж правага берагу Дняпра аж да Р. Гарадзішча. Значыць, цяпер у ваколіцах Гнёздаўскага Магільніку маецца 5 гарадзішчаў: 1) Новыя Батэкі, 2) каля вёскі Бурай, 3) на рэчцы Палажанцы, 4) каля в. Булахі і 5) каля в. Дзямідаўкі на р. Русанаўцы.

Што тычыцца тэрміну „гарадзішча“, то адны архэолёгі кажуць, што гэта—цэнтры былых пасяленьняў, але-ж аднаму, двум дваром немагчыма было збудаваць гарадзішча, а другія кажуць, што гэта—мейсцы, якія служылі дзеля захову ад ворагаў. Нам здаецца, што гэта—культавы і гандлёвы цэнтр. Гэта сьведчаць знаходкі такога характару, дый цяпер мы маем перажытак гэтага,—сучасныя кірмашы пры царквох.

Усе гарадзішчы акружаны рэчкамі—адзінымі магчымымі шляхамі ў той час. Усё Гнёздава належыць да нэолітычнае эпохі- зьяўляючыся найстарэйшым крывічанскім гняздом: напр., у Альшанскіх Батэках мы апрача каменнага веку нічога не знайшлі. Але раней тут жыло літоўскае племя голядзі, што даказуецца і назовамі тутэйшых сёл: Голяшы, Голяндавы, Голендзюхі, ёсьць 2 вёскі з асобнымі па выгляду жыхарамі, па прозьвішчу Голендэны і інш., а таксама мы тут знаходзілі дны чашак, якія знаходзіў праф. Гарадцоў на мяйсцох, дзе жыло племя голядзь. У славянскіх жа курганох можна знайсьці толькі ур-

ны. На падставе гэтых данных нам удаецца прасачыць рух голядзі па Смаленшчыне.

Апрача вышэйсказанага, ў Смаленску знойдзены 2 гарадзішчы, невядомыя раней і, такім чынам, мы маем на адлегласьці 12 вёрст 7 гарадзішчаў. Некаторыя кажуць, што Гнёздава—гэта Стары Смаленск, але гэта ня так. У Вялікім Гнёздаве проста была нарманская застава на вузлавым шляху: 1) з Варагаў у Хазары, 2) з Варагаў да Баўгары і 3) з Варагаў у Грэкі, прычым першыя два шляхі многа старэйшыя за трэці, хоць і меней вядомы.

## НОВЫЯ ПРАЦЫ ПРАФ. А. П. САПУНОВА.

Вітабская губэрня больш за ўсе другія краіны Беларусі высьледавана з усіх бакоў. Сярод высьледчай літэратуры па Вітабшчыне асаблівае мейсца займаюць гісторыяграфічныя гістарычныя і архэолёгічныя працы праф. А. П. Сапунова досьледы якога высока цэнены і эўрапейскімі вучонымі.

У цяперашні час А. П. Сапуновым прыгатаваны новыя навуковыя працы:

1. „История Витебска" ч. 1. (каля 10—12 друкаваных аркушаў). Да рукапісу прыложаны пляны, віды, партрэты і археографічныя здымкі са старадаўных граматаў.

2. „Герсике і Куконос (Кокенгузэн)—Полоцкие удельные княжества на берегах Зап. Двины" (каля 2 друк. аркушаў). Да рукапісу дадаены тры пляны Кокенгузэну, якія здабыты А. Сапуновым са Швэцкага дзяржаўнага архіву ў Стакгольме, а гетаксама прыложана некалькі відаў Кокенгузэна.

3. „Краткая характеристика белорусса". Была ў першпачатковым сваім відзе зьмешчана ў літаграфаваным журнале „Белорусский Этнограф" № 2, 1922 г. Вітабск.

4. „Что такое Белоруссия?" Тут А. Сапуноў, у працівавес польскім пратэнрэнтам на Беларусь, прывёў вельмі шмат дакументальных данных, якія даводзяць што беларус заўсёды захоўваў сваю беларускую самабытнасьць, ня гледзячы нават на польскае панаваньне ў краю.

5. „Очерк Витебской губернии в естественно-историческом отношении". Гэта праца А. Сапунова набыта Вітабскім Губано для выданьня.

6. „Писцовые книги XVII в., касающиеся разных мест нын. Витебской губ., а именно: Велижа, Невеля, Себежа, Усвята і Озерища" (Вітабска і Полацка ўжо надрукаваны ў IV т. „Вит. Старины"). Кнігі гэтыя А. Сапуновым адшуканы і апрацованы ў Маскоўскіх архівах б. Мін. Ін. Д. і Мін. Юст. Матар'ял абхоплівае каля 200 пісаных аркушаў.

7. „Инвентарь Вітебской экономіі 1670 г.)" Па дакумантах Віленскага Цэнтральнага Архіву. Усе дакуманты праверааны. Рукапісы маюцца на расійскай (?Рэд.) і польскай мовах. Уся праца займае 20 пісаных аркушаў.

8. „Памятники старины Вітебской губ.". Гэты нарыс быў напісан А. Сапуновым па просьбе Губано ў 1921 г., калі меласяна ўвазе адзначыць 900 годзьдзе м. Вітабска.

9. „Витебская губерния и ея место в Белорусии".

У цяперашні час А. П. Сапуноў працуе над другой і трэцяй часткай „Истории Вітебска", але як удасца давясьці да канца гэту вельмі цікавую працу, цяжка сказаць. А. П. Сапуноў вельмі дрэнна відзіць з прычыны хваробы вачэй, пішыць пад лупай і на бойкіх вуліцах ня можа хадзіць без павадыра. Да ўсяго гэтага А. П. Сапуноў апынуўся ў страшэннай беднасьці. Страціўшы, па старасьці, магчымасьць служыць, ён ня мае цяпер абсалютна ніякіх сродкаў да жыцьця. З прысланай у інспэкцыю навуковых устаноў яго заявы вее цяжкім жахам. У сваіх прыватных лістох А. П. апісывае нечалавечыя пакуты, якія яму даводзіцца пераживаць пад старасьць, аддаўшы лепшыя гады свайго жыцьця для беларускай навукі. І чакае часу, калі сьмерць збавіць яго ад гэтай нядолі.

Неабходна гэтаму старому вучонаму грамадзянская дапамога. Трэба даць магчымасьць беларускім вучоным пад старасьць гадоў спакойна працаваць і ня думаць, што заўтра прыдзецца ісьці на вуліцу з працягнутай рукой...

М. Мялешка. „С. Б.".

**Бюро краязнаўства пры Інстытуце Беларускай культуры.** Інстытут Бел. Культ. на паседжаньні, ў сьнежні 1923 г. зрабіў пастанову аб пільнай патрэбнасьці утварыць Бюро краязнаўства пры ім і выдзяліў трох асоб—праф. Пічэту, Смоліча і Васілевіча для арганізацііі Бюро. 29. XII. 1923 адбыўся арганізацыйны сход, на якім выбрана прэзыдыум у складзе трох асоб: старшыні, заступніка яго і вучонага сэкратара: Старшынёй выбран—Смоліч, заступнікам—Сянкеніч, сэкратаром-Васілевіч.

**Праца II-ой беларускай трупы ў 1923 гаду.** Ў мінулым 1923 годзе трупа сыграла 158 пастановак. Ставіліся творы гэткіх аўтараў:

Коласа—„Антось Лата" 5 разоў.

Купалы—„Паўлінка„ 2 разы.

Аляхновіча—„Страхі" 5 р., „Манька" 10 р., „Чорт і баба" 2 разы.

Марцінкевіча—„Пінская шляхта" 5 разоў.

Кудзелькі—„Мікітаў лапаць" 1 р., „Слуцкая варона" 1 раз.

Родзевіча—„Саука" 3 р. „У кавалёвай хаце" 1 р.

Кропивницького—„Пашыліся ў дурні" 3 р.

Каганца—„Модны шляхцюк" 5 разоў.

Ожэшко—„Рысь" 2 разы.

Цьвяткевіча—„Верная жонка" 2 разы.

Далеекіх—„Міхалка" 8 разоў.

Галубка—„Апошняя сустрэча“ 5 р., „Падкідыш“ 6 р., „Залёты дзяка“ 7 р., „За мураванай сьцяной“ 3 р. „Бяздродны“ 6 р., „Князь Качаргін“ 5 р., „Блуд“ 6 р., „Бязвінная кроў“ 8 р., „Былое“ 3 р., „Дзіця вуліцы“ 4 р., „Плытагон“ 5 р., Ганка“ 6 р., „Суд“ 9 р., „Ліхадзеі“ 10 р„ „Ветрагоны“ 7 р., „Беглы катаржнік“ 2 р., „Культурная цешча“ 10 р., „Залаты бог“ 5 р., „Залатая рыбка“ 3 р., „Фанатык“ 4 р., „Акрываўлены падатак“ 3 р., „Душагубы“ 4 р., „Пан. Сурынта“ 1 р., „Мужыцкае шчасьця“ 1 раз.

**Вітабскі с-гаспадарчы тэхнікум.** Тэхнікум перабудаваны ў гэтым гаду з быўшага практычнага інстытуту. У тэхнікуме два аддзяленьні с-гаспадарчае і землябудаўнічае. Слухачоў 300 чалавек. Есьць добра абстаўленыя хімічная ляборатырыя і габінэты—батанічны, жывёлаводзтва і земляробства. Акром таго ёсьць прыродазнаўчы музэй.

**Слуцкі сельска-гаспадарчы тэхнікум.** Слуцкі сельска-гаспадарчы тэхнікум мае сваім за а ьнем падгатоўку ня толькі агранамічных працаўнікоў, але таксама і падгатоўку настаўнікаў па сельска-гаспадарчых дысцыплінах для сямёхлетак з сельска-гаспадарчым ухілам, для сельска-гаспадарчых школаў-прымітываў і для школаў пры савецкіх гаспадарках.

Аб гэтым выразна гаворыць пастанова калегіі Наркамзему Беларусі аб наданьні Слуцкаму сельска-гаспадарчаму тэхнікуму пэдагагічнага ўхілу. Гэтая пастанова падтрымана і V-м агранамічным зьездам Беларусі.

У зьвязку з гэтым на старэйшых курсах тэхнікуму будуць выкладацца гэткія навукі: 1) агульная пэдагогіка і дыдактыка з агульнымі ведамі з псыхалёгіі і лёгікі; 2) дапаўніцельны курс фізыкі і хіміі з мэтодыкай выкладаньня; 3) дапаўніцельны курс батанікі і расьцінаводзтва з мэтодыкай выкладаньня; 4) дапаўніцельны курс зоалёгіі і гадоўлі жывёлаў з мэтодыкай выкладаньня; 5) дапаўніцельны курс сельска-гаспадарчай экономікі (і рахунковасьці) з мэтодыкай выкладаньня; 6) фізыолёгія і школьная гігіена; 7) арганізацыя ніжэйшых сельска-гаспадарчых школаў; 8) краязнаўства са спэцыяльным ухілам у бок пазнаньня натуральна-гістарычных асаблівасьцяў краю.

Думка стварэньня гэтага адзінага на Беларусі тэхнікуму належыць яго сучаснаму дырэктару, аграному-пэдагогу З. Сабалеўскаму.

**Новыя набыткі Беларускай Дзяржаўнай бібліатэкі.** Паводле атрыманых з Масквы весткак гр. Сіманоўскі (загадчык бібліатэкі) атрымаў да 4500 томаў кніг былой жыдоўскай бібліатэкі м. Міра. Другая частка кніг дастанецца бібліатэцы ад Румянцаўскага музэю. Куплена таксама бібліатэка б. сэнатара Случэўскага з 4000 тамоў пераважна з вельмі цэннымі юрыдычнымі кнігамі.

Да 400 тамоў атрымана яшчэ ў Петраградзе, дзякуючы клопатам толькі што вярнуўшагася стуль рэктара унівэрсытэту. Праф. Пічэты дадзена згода цэлага шэрагу навуковых установаў Петраграду, якія даюць Беларускай Дзярж. Бібліатэцы цэлыя камплекты сваіх выданьняў.

**Новыя кніжкі А. Сержпутоўскага.** Вядомы і вельмі здольны беларускі этнограф, А. Сержпутоўскі гатуе да друку кнігу „Культурны быт Беларусі“. Акром гэтага ён-жа апрацаваў тэрміналёгію да этнографіі і археолёгіі, а такжа злажыў новы зборнік народных беларускіх казак. Сержпутоўскі гэта першы этнограф расійскай школы які не фальшаваў беларускай мовы на маскальскі лад, а наадварот ён першы ў сваіх запісях даў ўсю прыгожасьць жывой народнай крыўска-беларускай мовы.

**Горацкі Інстытут і міжнародны зьезд грунтазнаўцаў.** Прафэсар грунтазнаўства Горацкага с.-гасп. Інстытуту Я. Н. Афанасьёў атрымаў запрашэньне на міжнародны зьезд грунтазнаўцаў, які адбудзецца у Рыме ў траўні м. гэтага году.

**Беларуская лекцыя ў Вітабску.** 2 сакавіка гэтага году лектар вышэйшага пэдагагічнага інстытуту ў Вітабску Максім Гарэцкі прачытаў публічную лекцыю аб „беларускай літэратуры“.

**Новыя краязнаўчыя арганізацыі.** утварыліся ў Гомелі, Вітабску, Невелі, Оршы, Слуцку.

**Гарманізацыя беларускіх песьняў.** Інбелкульт атрымаў з Масквы новую партыю гармнізаваных беларускіх песьняў.

За ўвесь час камісія па гарманізацыі беларускіх песьняў згарманізавала іх больш 250.

Усе яны знаходзяцца ў Інбелькульце, і кожды жадаючы можа імі карыстацца.

**Нарада рэктараў вышэйшых школаў пашыранай БССР.** 1-га сакавіка ў Менску адбылася нарада рэктароў вышэйшых школаў пашыранай БССР з удзелям сяброў калегіі Народнага Камісарыяту Асьветы, дзе рэктарамі былі зроблены кароткія інфармацыйныя даклады аб становішчы ўсіх вышэйшых школ.

Нарада прызнала пажаданым, каб у самы бліжэйшы час усе вышэйшыя школы на тэрыторыі БССР былі перададзены ад Галоўпрафасьветы РСФСР пад кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

У зьвязку з гэтым у Маскву выяжджаюць прадстаўнікі НКА Беларусі—С. Некрашэвіч і рэкраты: ад БДУ—праф. Пічэта 1 ад Горацкага С-Г. Інстытуту—праф. Кіркар.

**Музэй у Вітабску.** Музэй у Вітабску мае досыць вялікае багацьце, але яшчэ не ўпарадкаваны. Між іншым у музэі ёсьць некалькі добра захаваных сьцягаў (харугваў) даўнейшых вітабскіх цэхаў (прафэсыянальных аб'яднаньняў) з надпісамі ў беларускай

мове і уніяцкіх царкоўных вопратках з вышываньнямі ў беларускім стылю кшталтам дарагіх слуцкіх паясоў, добрая беларуская разьба даўнага часу на разных рэчах, багаты аддзел нумізматыкі і інш. Парадкуе аддзелам грам. Красьнянскі, аўтар вядомых прац аб Барысаве, Мсьціслаўлі і інш.

**Закрыцьце беларускай гімназіі ў Нясьвіжы.** Беларуская гімназія ў Нясьвіжы пасьля доўгага змаганьня за сваё права на жыцьцё зачынена па загаду школьнага куратара (папячыцеля) Палескага ваяводзтва. Спачатку пан куратар, лічучы Беларускую гімназію непатрэбнай, ня даў канцэсіі (дазволу на яе працу), але посьле шматлічных заяваў, ад бацькоў вучняў канцэсію выдаў, высоўваючы шмат розных дамаганьняў. У меру таго, як гэтыя дамаганьні выпаўняліся, пан куратар выдумляў новыя, асабліва наконт памяшканьня. Той будынак, які раней займала Беларуская гімназія, разам з усей маемасьцю быў забраны пад казённую польскую гімназію. Той будынак, які гімназія займала ў леташнім годзе, куратар прызнаў нягодным да зьмяшчэньня ў ім гімназіі і загадаў знайсьці іншы, больш падхадзячы. Знайсьці лепшы будынак аказалася немагчымым, бо ўсе лепшыя будынкі заняты польскімі ўстановамі, і Беларуская Гімназія вымушана была зачыніцца.

# Агляд прэсы.

**„Савецкая Беларусь“.** Штодзенны Менскі афіціоз перапоўнены абгаворам справы далучэньня да Менска часьцей Вітабшчыны і Магілеўшчыны. З усіх артыкулаў, справаздач і карэспандэнцій можна адно сьцвердзіць, што факт частковага павароту беларуска-крыўскіх зямель да завязку дзяржаўнага цэнтру ў Менску выклікаў, як у цэнтры так і ў далучаных землях і гарадох, агульную радасьць, а такжа прыдбаў камуністам, асабліва камуністычнай Партіі Беларусі, шмат новых прыхільнікаў сярод націянальна настроеных кругоў і асоб, хоць, з другой стараны, скозь радкі офіціозу прабіваецца лёгкі тон разчараваньня з прычыны адарваньня Гомеля, Смаленска і Чарнігаўшчыны, але гэта справа заглушаецца выкрыкамі трыумфатараў, якімі, ў ў данным здарэньні, зьяўляецца Б. К. П. І, запраўды, мяркуючы са справаздач, каля справы далучэньня прышлося цяжка папрацаваць. У ліку асоб, якія палажылі ў гэтым кірунку шмат працы, і якім слушна належыцца загэта пашана, называюць Чарвякова, Багуцкага, Мароза, Ігнатоўскага, Цішку Гартнага (Жылуновіча) і інш. Агулам трэба сказаць, што за некалькі апошніх гадоў палітычная думка сярод беларусаў на Ўсход ад Рыжскай разоры, зрабіла вялікі поступ. Мы бачым з карэспандэнцій як сквапна і рада ўзяліся за будаўнічую працу ў далучаных землях ня толькі маладыя сілы, але і такія старыя дзеячы як Сапуноў, заслужаны гісторык Вітабшчыны, Спрогіс, Сержпутоўскі і інш. Праўда, не абылася гэта справа бяз зьмяінага посыку, старых і новых русыфікатараў, асабліва ў Вітабску. Як і трэба было чакаць, ворагаў нашых найбольш пужае пытаньне мовы:—„ці цяпер мы павінны вучыцца беларускай мовы?“,-вось першае пытаньне было апанэнтаў далучэньня. Як гэтае пытаньне будзе разьвязана ў Савецкай Беларускай Рэспубліцы, мы гэтага яшчэ няведаем, але мяркуючы з таго як стаіць справа з мовай ў самым Менску, насуваюцца нам многія і невясёлыя пытаньні.

Гэтак, прыкладам, вышэйшыя вучомныя установы Сав. Беларусі дагэтуль былі і ёсьць магутнымі цэнтрамі русыфікаціі. Год, ці два таму мы бачылі „Записки“ Дзяржаўнага Беларускага Унівэрсытэту друкаваныя па расійску. Думалі тады, што гэта пачатак... час вылечыць... Але сёлета паявіліся „Записки“ другога вышэйшага навуковага Менскага цэнтру—Сельска-Гаспадарчага Інстытуту—і...ні слова ў мове дзяржаўнай: ўся кніга надрукавана (калі не лічыць загалоўку, які надрукаваны па расійску, польску, жыдоўску і па беларуску) ў мове „Саюзнай“. Словам з гэтым „саюзам“ паўтараецца тая-ж самая гісторыя што і з „уніяй“ з Польшчай, трыста гадоў таму назад. З тэй толькі рожніцай, што мы тады былі мацнейшымі матэрьяльна і культуральна, а цяпер знаходзімся ў палажэньні Ятвягаў, якіх нішчылі з усходу і заходу. Пражытая гісторыя нас вучыць, што творы пісаныя беларусамі, аб беларускай справе і для беларусаў, але ў чужой мове, самым фактам выкладу не сваей мовай, належыць да чужой літэратуры. Гэтак было з нашымі пісьменьнікамі XVI-XVII-XVIII ст., гэтак сталася і з навейшымі XIX ст. Маем мы нашы выдатныя імёны ў польскай і расійскай літэратуры, але ўся іх творчасьць, паміма іх волі, сьведчыць супроць нас, зьяўляецца зброяй ў руках чужынцаў на нішчаньне нас.

Пакуль у Беларускай школе німа беларускай мовы, школа гэта не беларуская. І пакуль ў Менскіх сярэдніх і вышэйшых школах німа выкладу па беларуску, то нельга гаварыць аб тым, што школы гэны беларускія. Як не былі беларускімі школы езуіцкія за часоў рэчыпаспалітай ў XVI—XVIII ст., і царскія, русыфікатарскія, XIX ст. Факт істнаваньня школы на беларускай тэрыторыі, ня можа служыць асновай да называньня яе беларускай.

І, дзеля гэтага, мы,—на аснове таго, што ў вышэйшых школах, якія знаходзяцца на Беларусі—німа выкладу ў мове беларускай, с сумам павінны сьцьвердзіць, што дагэтуль вышэйшыя школы Савецкай Беларусі ёсьць гнёздамі русыфікаціі і што дагэтуль вышэйшай беларускай школы няма. Профэсура

Менскага Дзяржаўнага Беларускага Унівэрсысытэту нічога супольнага з народам і краям ня мае і адыгрывае на Беларусі паганую ролю дэнацiяналізатараў, якія спыняюць беларускае адраджэньне. Гэта такія-ж самыя высланцы расійскай каланізацыі на Беларусь, як і віленскі унівэрсытэт, які ёсьць пляцоўкай польскай каланізацыі на ўсход. У віленскім унівэрсытэце польскія шовіністы полёнізуюць, у Менску,—расійскія шовіністы --русыфікуюць. Якая-ж рожніца:—кіям ці палкай? Мы няведаем, але вельмі цікавы ведаць, ці гэткая безцэрамонная русыфікацыя уходзіць у пляны Р. К. П. і ўжо прост дзівімся нязьмернай пакорнасьці Б. К. П., што яна ў гэтай справе маўчыць. Калі-ж гэта ёсьць праграмны пераход да „інтэрнацыяналізацыі“ то было-бы саўсім лёгічна заснаваць у Менску Унівэрсытэт на нэўтральным эспэранто. А калі Беларуская Савецкая Рэспубліка абавязкова ўжо хоча мець унівэрсытэт на чужаземнай мове, то лепей было-бы выбраць нэўтральную ангельскую мову, а не расійскую, якая імкнецца да дэнацыяналізацыі ўсяго народу.

**Выбарная „мудрасьць“.** Як ведама, сучасная Польшча лічыцца рэспублікаю і мае канстытуцыю, якая існуе толькі дзеля паказу чужаземным госьцям, але зусім не ажыцяўляецца ў межах самае польскае дзяржавы. Як і ў іншых „дэмакратычных“ краёх, польская канстытуцыя ўстанаўляе агульнае, роўнае, простае, тайнае і прапарцыянальнае выбарнае права. У сучасны момант польскі ўрад апрацаваў праект выбарнага закону да мяйсцовых самаўрадавых установаў (валасных і гарадзкіх), І вось, аказваецца, што ў гэтым праекце прынцып роўнасьці грамадзян пры выбарах адкінуты зусім. Праект гаворыць, што „выбары да гмінных радаў адбываюцца на падставе агульнага, тайнага і простага галасаваньня і і прапарцыянальнага падзелу мандатаў“.

Мала таго, ў другім артыкуле гаворыцца:

„Кожды выбаршчык мае ў прынцыпе права падаць адзін голас“.

Але далей ідзе ўжо „дадатак“ да канстытуцыі:

„Але, апроч таго выбаршчык мае права яшчэ на дадатковы голас, калі адпавядае наступным варункам:

1) калі мае ня менш 4 законных дзяцей...

2) калі зьяўляецца дзяржаўным ці самаўрадавым урадоўцам;

3) калі служыў ў часе вайны ў польскім войску, або зьяўляецца старым польскім ваяром (вэтэранам) у часы паўстаньня, або страціў у польскім-жа войску сужанца (мужа ці жонку) сына ці дачку...

4) калі ўмее пісаць і чытаць па польску...

Кожды гэты пункт дае права на адзін лішні дадатковы голас пры выбарах. Толькі адзін выбаршчык ня можа мець разам больш... як 4 галасы...

І так дэмакратычная „роўнасьць“ грамадзян у самаўрадах рэспубліканскай Польшчы зьмяшчаецца ў тым, што адзін грамадзянін можа быць „роўны“ чатыром іншым...

Што-ж азначае гэткая „роўнасьць“ у адносінах да беларускіх тэрыторыяў да так званых Крэсаў? На чыю карысьць гвалціцца роўнасьць выбаршчыкаў-грамадзян на беларускіх Крэсах, дзе, як ведама, адвечны жыхар беларус 1) ня прымаецца нікуды на службу, 2) не ваяваў у часе расійска-польскай вайны, хаця-ж бы дзеля таго, што тады яшчэ Антанта забараняла Польшчы набіраць тутака жаўнераў. 3) не залічаны да вэтэранаў і 4) як агульнае правіла, ня ўмее ані чытаць, ані тым болей —пісаць папольску...

І вось, калі ня лічыць зусім незразумеладзікага гумарыстычна-недарэчнага „галіцызму“ (бо нешта падобнае ўвёў у беднай дзяцьмі —выраджаючайся Францыі п. Пуанкарэ ў сваім новым выбарным законе да парляманту) —пункту аб прэміі-ж залішне пладліваму славяніну за многасямейнасьць, дык зусім ясна, што ўсе другія „пункты“ гвалцяць грамадзянскую роўнасьць выбаршчыка-беларуса на карысьць мясцовага крэсавага паляка, пасыланага з Польшчы чужынца-ўрадоўца і польскага асадніка..

Вось каго польская ўлада лічыць на Беларусь ў чатыры разы даражэй для сябе і карысней для мясцовай гаспадаркі, чым тутэйшага адвечнага жыхара на сваей адвечнай зямлі—беларускага селяніна-хлебароба..

Ці пройдуць, ці ня пройдуць гэтыя праекты праз Сойм яшчэ невядома.. Але вывады з самай толькі спробы, страшэнна забойчыя перад усім для самой Польшчы.—Бо ці-ж можа быць лепшы довад лічбовае ніштожнасьці польскага элемэнту на „польскіх“ Крэсах,—чым той, які дала сама польская ўлада, прымушаная цынічна штучна павялічаць тутака існуючых, нават нагнаных з Польшчы, палякоў.

З гэтага відаць, як мала верацъ самі польскія палітікі ў тую польскую статыстыку насяленьня Крэсаў, якую яны гэтак шумна і шырока прапагавалі ў Эўропе, даводзячы „чыста польскі характар Крэсаў“...

На пасяджаньні адміністрацыйнай камісіі Сойму даклад аб гэтым праекце на пленуме большасьцю аднаго голасу даручаны прадстаўніком лявіцы. Праект гэты на разгляд пленуму Сойму яшчэ ня ўнесены, але польская эндэцыя ўжо моцна занепакоілася, асабліва на Крэсах. Галоўныя пункты закону аб самаўрадах, якія асабліва моцна цікавяць і непакояць польскую эндэцыю,—гэта: мова самаўраду, абхват яго дзейнасьці, нагляд за ім з боку дзяржаўнае ўлады. Польская эндэцыя, як сава сонца, баіцца самамалейшай „демакратычнасьці“. Яе жаданьне вельмі простае: польская мова ў самаўрадах, выключэньне школьнай справы з абхвату іх дзейнасьці і падпарадкаваньне самаўрадаў дзяржаўнай уладзе. Польская эндэцыя ведае аж надта добра, што пры

скольні- небудзь зносным выбарным законе, на (чыста-польскіх) Крэсах яе прадстаўнікі ў самаўрадах будуць вялікаю-рэдкасьцю. Перадача такім самаўрадам школьнае справы можа давясьці да таго, што польская школа на (чыста-польскіх!) Крэсах зробіцца яшчэ большай рэдкасьцю. І вось падымаюць змаганьне за такі выбарны закон, які адразу аддаў бы ўсе самаўрады ў іх рукі, а калі гэта дзе-небудзь ня ўдасца, дык каб самаўрады ня мелі дачыненьня да самых важных спраў мясцовага жыцьця і ў дадатак цалком залежалі б ад польскае дзяржаўнае ўлады.

Іначай, як піша (Dzennik Wileński) ў нумары за 21-е лютага,—у працягу некалькік гадоў можна будзе дачакацца зьнішчаньня векавых здабычаў нашай нацыянальнай культуры на ўсходзе, зьнішчаньня нашых школаў. Наша становішча на ўсходніх землях будзе пад пагрозаю. Будзе зьнішчана (польская інтэлігенцыя, польская прамысловасьць і гандаль).

Ня дзіва, што пры такім становішчы прыходзіцца чхаць на канстытуцыю і ўсімі праўдамі і няпраўдамі ваяваць процiў самай элемантарнейшай „дэмакратычнасьці“.

**Калі агледзіліся!** 31-га студзеня ў грамадзянска-палітычным клюбе ў Варшаве адбыўся дыскусійны сход на тэму аб сучасным становішчы на Усходніх крэсах. У спрэчках прыймалі ўдзел князь Януш Радзівіл, быўшы генеральны камісар Усходніх Земляў (падчас акупацыі 1919-1920 г. Меншчыны) Асмалоўскі, сэнатар Крыжаноўскі, генерал Бабянскі і б. міністр Л. Васілеўскі.

Побач з агульна-вядомымі фактамі гвалтаў і зьдзекаў польскай крэсовай адміністрацыі і агульнай урадовай палітыкай, якая імкнецца да дэнацыяналізацыі беларусаў і украінцаў,—прамоўцы адзначалі шмат іншых спраў, маючых уплыў на крэсовыя ўзаемаадносіны.

На Палесьсі істнуе 43.000 малазямельных гаспадарак і адчуваецца вялікі зямельны голад. Тымчачам 75 проц. зямельнага запасу перададзена асаднікам з Польшчы. Усе пасады ва усіх установах, не выключаючы нават старажоў ды фурманоў, заняты палякамі. Такая нязначная справа, як атрыманьне польскага пашпарту, спатыкае неператожныя цяжкасьці. 90 проц. беларускага жыхарства ня мае пасьведчаньняў асобы, дзеля чаго ня можа езьдзіць па чыгунках.

Беларускія школы бязупынна прасьледуюцца. У аднэй толькі Віленшчыне, дзе ў часе Сярэдняй Літвы іх было 180, цяпер ёсьць толькі 23.

Вельмі абвостранае становішча, якое стварылася на Усходніх Крэсах (гэта значыць на Беларусі і Украіне), можа лёгка прывесьці да катастрофы. Гэта пачынаюць разумець нават палякі якія жадаюць прымірэньня паміж беларускім жыхарствам і польскай дзяржаўнасьцю. Вышэй адзначаны сход зьяўляецца выразам гэтых настрояў. Але прыхільнікаў прымірэньня вельмі няшмат, агітацыя іх застаецца бяз выніку, палітыка гвалтаў і ўціску цягнецца далей і разьвіцьцё падзей на Крэсах ідзе ўжо вызначаным шляхам.

## Пэпээсауская рэзалюцыя аб нацыянальным пытаньні.

(Прынятая на XIX зьезьдзе П.П.С)

„XIX зьезд П. П. С. сцьвярджае, што нацыянальнае пытаньне сталася адным з тых заданьняў у дзяржаўным і грамадзянскім жыцьці Польшчы, якія патрабуюць якнайхутчэйшага разьвязаньня. З момантам устаноўленьня граніцаў рэспублікі гэтае разьвязаньне залежыць ад самадзейных стараньняў польскай палітыкі. Дзейнасьць розных урадаў да гэтага часу знайходзілася пад уплывам нацыяналізму; канстытуцыя не праведзена ў жыцьцё; наадварот, практыкуецца сыстэма рэпрэсіяў і прасьледаваньняў адносна да працы і арганізацыі нацыянальных меншасьцяў, асабліва на Усходніх землях, дзе ўкраінцы і беларусы засяляюць суцэльныя абшары. Урад-жа Вітаса і Карфантага, які ўрадова прадстаўляў ідэалёгію польскага нацыяналізму, давёў адносіны да яшчэ большага абвострэньня.

Гэткае становішча рэчаў робіць з Польскай рэспублікі арэну няўпыннага нацыянальнага змаганьня, затрымлівае разьвіцьцё рабочага руху, становіцца ўпоперак імкненьняў, да дэмакратызацыі дзяржавы, узмацняе рэакцыйныя сілы ў польскім грамадзянстве, а з другога боку ўзмацоўвае нацыяналістычныя цячэньні ў грамадзянствах нацыянальных меншасьцяў, даючы перавагу нацыяналістычна клёрыкальным кірункам сярод украінцаў і беларусаў, гакатыстычна-юнкерскім сярод немцаў, сіяністычным сярод жыдоў.

У гэткіх абставінах П. П. С. павінна ўзяць на сябе ініцыятыву зрушыць справу з мёртвага пункту. Заканчэньне нацыянальнага змаганьня, стварэньне адносінаў, у якіх нацыянальныя меншасьці знойдуць поўную свабоду нацыянальна-культурнага разьвіцьця, у якіх можа быць магчымым мірнае і брацкае іх сужыцьцё з польскім народам—зьяўляецца абавязкам польскага сацыялізму, ляжыць у інтэрэсах дэмакратыі і гістарычнай будучыны дзяржавы.

Выходзячы з вышэйсказаных палажэньняў зьезд заклікае кіруючую партыйную ўладу, а асабліва соймавы клюб П. П. С. пачаць рашучую і энэргічную дзейнасьць у кірунку.

1) дасягненьня поўнай і запраўднай роўнапраўнасьці грамадзян рэспублікі бяз розніцы веры і нацыянальнасьці;

2) неадкладнага ўвядзеньня ў жыцьцё артыкалаў канстытуцыі, запэўняючых нацыянальным меншасьцям правы іх культуры, мовы і школы; наглядаць, каб пры падзеле запамогаў і школьных стыпэндыяў прыймаліся пад увагу толькі ўзровень гэтай школы, сьвецкі, неклерыкальны характар навучаньня і г. д., а як тое, якая мова зьяўляецца выкладо-

ваю, якой нацыянальнасьці і рэлігіі школа; заснаваньне ўкраінскага ўнівэрсытэту ў Львове;

3) поўнага спыненьня палітыкі адміністратыўных прасьледаваньняў і заслугоўваючых найвышэйшага закляйменьня рэлігійных і нацыянальных прасьледаваньняў; рэарганізацыі і папраўленьня адміністрацыі на Усходніх Землях;

4) увядзеньня на так званых Усходніх Крэсах самаўраду ў гарадох і вёсках, павятовага і ваяводзкага; дапушчэньне грамадзян рэспублікі з нацыянальных меншасьцяў да дзяржаўнай адміністрацыі ўва ўсіх галінах:

5) правядзеньня зямельнай рэформы згодна з патрабаваньнямі П. П. С.;

тэрыторыяльнай аўтаноміі для меншасьцяў, якія засяляюць суцэльныя абшары на Усходзе рэспублікі з захаваньнем правоў польскай люднасьці.

Зьезд прыймае да зацьвярджаючага ведама крокі Ц. В. К. да ўстанаўленьня сталага кантакту з сацыялістычнымі арганізацыямі і групамі нацыянальных меншасьцяў. Адначасна з гэтым зьезд падкрэсьлівае, што як абавязкам польскага сацыялізму зьяўляецца змаганьне з польскім нацыяналізмам,—такі самы абавязак ляжыць на дэмакратыях: украінскай, беларускай, нямецкай і жыдоўскай адносна нацыяналістычных і клерыкальна-рэакцыйных цячэньняў у іхніх грамадзянствах.

Зьезд даручае кіруючай партыйнай уладзе вясьці далейшую працу ў гэтым кірунку.

Самае цікавае мейсца ўсяе рэзалюцыі— гэта пункт аб тэрыторыяльнай аўтаноміі нац. меншасьцяў „на Усходзе рэспублікі“. Хоць аўтарам рэзалюцыі добра ведама, якія такія нац. меншасьці жывуць шчытнаю масаю на Усходзе сучаснай Польскай дзяржавы, аднак гэтыя меншасьці ў рэзалюцыі не названы. Ключ да разуменьня гэтага пункту пэпэсаўскай рэзалюцыі дае даклад зьезду вядомага сацыял-эндэка Недзялкоўскага, які лічыцца ў пэпэсаў спэцам па нацыянальнаму пытаньню. Як відаць з гэтай рэзалюцыі, права на тэрыторыяльную аўтаномію пэпэсы прызнаюць толькі за ўкраінцамі ва Усходняй Галіцыі і на Валыні. Аб беларусах пан Недзялкоўскі заяўляе, што „беларускае грамадзянства павінна перайсьці да аўтаноміі праз самаўрадовую аўтаномію“, тлумачучы гэта тым, што беларусы слаба арганізаваны. Гэтая заява адразу закасоўвае нават тое, што прызнана ў рэзалюцыі, і сьведчыць, што ўціск і зьдзек які цяпер пануе ў Заходняй Беларусі, застанецца там паранейшаму. Невядома, як доўга прыдзецца заходня-беларускаму сялянству чакаць, пакуль пан Недзялкоўскі зьлітуецца і міласьціва выдасьць яму атэстат палітычнай дасьпеласьці. Трэба спадзявацца, што хутка гэты атэстат будзе непатрэбны.

**Цяперашняя праца украінскай эміграціі.** „Діло“ ад 8. II г. г. падае ліст з Англіі, гэткага зьместу:

Утраціўшы палітычнае значэньне закардонам Украіна пачынае здабываць у сьвеце сваё культурнае мейсца. Вялікую вагу з гэтага боку мае Украінскі Унівэрсытэт у Празе. Крытычна прааналізаваўшы цяперашні стан, ў якім апынулася украінская культура, пражскі унівэрсытэт пераняў культурнае прадстаўніцтва Украінскага народу перад сьветам.

Каб утрымаць спахітнуўшаеся сучасным ліхалецьцям становішча украінскай нації ў вачах цэлага культурнага сьвету, Украінскі Унівэрсытэт высылае сваіх прадстаўнікоў чытаць лекціі на украінска-славянскія тэмы на унівэрсытэты эўрапэйскіх навуковых і культурных цэнтраў—з мэтай азнаёміць прафэсарскія і студэнцкія кругі заграгічыны з цэннасьцямі украінскай навукі ды навязаць навуковыя стасункі і супрацоўніцтва.

Прыкладам, цяпер, Украінскі Унівэрсытэт у Празе выслаў праф. д-ра Смаль-Стоцького у Славянскі Інстытут Лёнданскага Унівэрсытэту, дзе канцэнтруецца цяпер усё славяназнаўства цэлага англё-амэрыканскага сьвету. 17 студзеня г. г. на Лёнданскім Унівэрсытэце адбылася ўступная лекція украінскага прафэсара аб гісторыі Украіны. Пачалася яна ўступной прамовай дырэктара Славянскай Сэмінарыі Sir Persa, вядомага гісторыка Расіі, які, вітаючы прадстаўніка украінскай навукі у англійскім Унівэрсытэце, зьвярнуў увагу слухачоў на вялікае значэньне Украіны—экономічнае і палітычнае, ды на вялікую ролю, якую будзе Украіна адыгрываць у сямьі славянскіх народаў. Пасьля узяў слова др. Смаль-Стоцькій і выпаўніў сваё спавешчаньне ў англійскай мове дэмонструючы стараветныя украінскія карты Брытанскага музэю. Апасьля спавешчаньня прамаўляў выдатны англійскі вучоны—гісторык, прафэсар Лёнданскага Унівэрсытэту Seton Watson, які зьвярнуў увагу слухачоў, што Украіна зьяўляецца ня вырашанай праблемай і што яна ёсьць адным з галоўнейшых пытаньняў Усходу. Ен шчыра вітаў прыезд праф. дра Смаль-Стоцькага дзеля азнаёмленьня англійскага народу з цэннасьцямі украінскай навукі і выказаў надзею, што гэтым змоцніцца цяпер кантакт з англійскай навукай.

Праф. др. Смаль-Стоцькій прадаўжае рад сваіх публічных выкладаў на унівэрсытэце. 18. I. выкладаў аб Украіне ў часе вайны, 20. I аб яе экономічным палажэньні, а далей, у лютым, будзе чытаць аб літэратуры і мове. На канец лютага ён запрошаны на выклады ў Cabridge, Oxford, Liverpool. Акром гэтага пры Славянскім Інстытуце у Лёндане, старэньнем украінскага Унівэрсытэту сарганізавана спэціяльную украінскую бібліатэку. Ужо цяпер можна заўважыць зьмену на лепшае у стасунку англійскіх прафэсароў і студэнтаў да Украінцаў і украінскай Нації. Пасьля украін-

скіх паслоў астаўся тут малы сьлед, а культурныі сфэры Англіі саўсім не былі закрануты іх працай. Пасьля другога выкладу праф. Стоцького дыскусію адкрыў бібліатэкар Брытанскага Музэю Mr. D. Wharton і—навязуючы да інфарматыўнай працы Д-ра Міхайла Рудницького, даў агульны агляд скромнай англійскай літэратуры аб украіне. Праз нястачу інформацііі Украіна была для Англіі нейкай ваеннай выдумкай і аб ей тут нідзе не ўспаміналася. Але цяпер, працай Украінскага Унівэрсытэту ў Празе зноў украінскае пытаньне вынырнула з цемры палітычнай прапаганды і стала на праўдзівы шлях навуковага досьледу.

З Украінскіх часопісаў відаць аб падобнай працы украінскай эміграції ў Рыме, Парыжы, Бэрліне і інш цэнтрах Эўропы.

А наша палітычная эміграція чым займаецца, якія яе здабыткі ў націянальную нашу скарбніцу?!... Болесна гаварыць...

# С-пад Расіі.

**Дэклярація быўшых беларускіх с-р.** У № 50 „Сав. Беларусі" надрукавана характэрная для нашых часаў дэкляраціа б. беларускіх с-р.

У доўгай, даволі цёмнага зьместу, цэдуле яны перад некім каюцца:

Што ў свой час, разам з іншымі, дамагаліся утварэньня незалежнай Беларускай Рэспублікі. На сваё апраўданьне дадаюць, што яны ўсё-ж такі ўчас агледзіліся і пераканаліся „у нікчэмнасьці парлямэнтарных формаў дзяржаўнага кіраваньня" ды „здолелі аслабаніцца ад апуртуністычных поглядаў". Ведама: „невыразнасьць думкі і тактыка Беларускай партыі с-р" аткрыла вочы бедаком на сонца праўды—Компартыю, і яны, ў захваце, ўсе грамадою, кураць кадзілы і бьюць ей паклоны, запэўняючы, што „далейшае істнаваньне с-р. зьяўляецца бязгрунтоўным" ды заяўляюць „што гатовы надалей змагацца с капіталізмам пад сьцягам Компартыі". Урэшце дэкляраціа зазывае: „клічам усіх сяброў быўшых, ці то яшчэ лічачых сябе партыйнымі С-Р., як тут, так і за межамі—ў якіх моцна трымаецца дух рэволюцыйнага пачуцьця—пайсьці тым-жа шляхам".

На гэты заклік можам адказаць, што яшчэ маецца хаўрузія людзей—„з моцным рэволюцыйным пачуцьцём", якія гатовы пасьледаваць за вамі, але яны чакаюць весткі—як вы „устроіліся". Усё ад гэтага залежыць!

Славэтную дэклярацію падпісалі:

Асьвяцімскі, Аніхоўскі, А. Бараноўскі, Е. Бялевіч, П. Берднік, В. Грушэўскі, А. Дзямідовіч, І. Дубіна, М. Дубіна, В. Залуцкі, А. Калпак, Г, Казячы, А. Карач, А. Карабач, П. П. Касмовіч, М. Каспяровіч, К. Рэўка, Мамчыц, М. Маркевіч, П. Міськевіч, М. Пашковіч, Я. Пашковіч, К. Пуроўскі, Сінякевіч, А. Трафімаў, В. Тышкевіч, Л. Федараў, Цяцерскі, К. Шчыгельскі.

Мы яшчэ можам зразумець людзей якія змучаліся прасьледаваньнямі і бяздзейнасьцю седзячы на мяйсцох, і што яны, ў той час, калі аткрываецца шырэйшая магчымасьць працы, ня вытрымалі і здаліся, тым больш што па пераконаньню свайму многія з названых тут асоб былі заўсёды нам ведамы як 2 і 7/8 інтэрнаціянала, але не зразумеем тых спаміж іх, якія ў Літве падтрымліваюць манархістаў, а ў С.С.С.Р.—Камуністаў!..

**Прыезд першага польскага генеральнага консула у Б. С. С. Р.** У Менск прыбыў польскі генеральны консул, Ян Крэчэўскі.

**Гурток беларусазнаўства ў Магілеве.** Нідаўна зложыўся ў Магілеве Гурток беларусазнаўства. У прэзыдыум увайшлі: Жураўскі, Даўгяло, Пігулеўскі, Даўкша, Савініч. Гурток пастанавіў сарганізаваць бібліатэку па беларусазнаўству і прачытаць рад лекцій.

**Агульна-беларускі зьезд у Менску.** 16. III Агульна-Беларускі зьезд (Усходняй Беларусі) закончыў свае нарады. На зьезде было 240 дэлегатаў з пастанаўляючым голасам, 156 з дарадчым і 289 запрошаных гасьцей. Беларусаў было 45%, маскалёў 20%, жыдоў 23%, палякаў 3%; у гэтым ліку—работнікаў 28% і сялянаў 27%.

Нарады вяліся па расійску, акром трох асоб якія сказалі свае прамовы па беларуску, двох прамоў па польску і аднэй па жыдоўску. Усе рэзалюціі падаваныя Камуністычнай партыяй прыймалісяаднагалосна. Многія прамовы мелі праціпольскі характар, падкрэсьлялася патрэба аб'яднаньня заходняй часьці Беларусі з Менскам. У гэтым духу прамаўлялі Тухачэвскій і Дыбенко. Чарвякоў вострасьці прамоў стараўся лагодзіць. Калінін гаварыў аб Польшчы цёпла і сардэчна.

З прамоў Чарвякова і дэлегатаў селян вырысавалася безнадзейнае гаспадарчае палажэньне Савецкай Беларусі. Леташні ураджай быў у сярэднім 35 пудоў з дзесяціны. Ужо каля 1 сакавіка дзьве трэціх сялян павінны былі купляць збожжа. Дэклярація сялянаў жалілася на высокія цэны прамысловых прадуктаў. За пуд солі павінны сяляне плаціць 8 пудоў жыта. Высокія цэны на зялеза давялі да таго, што сяляне прымушаны араць драўлянымі плугамі, езьдзіць на драўляных абадох у калёсах. Жаліліся сяляне на рабунковае нішчаньне лясоў, якое даводзіць да недахвату апалу і будынковага матарьялу; на высокі продналог, нявыплата якога пацягае за сабой цяганьне сялянаў па турмах. Сьцьвердзілі поўны упадак школьнага навучаньня, недахват

вучыцялёў і нізкую аплату вучыцельскай працы. Вучыцялі атрымліваюць 8—20 руб. у месяц. Дарогі саўсім панішчаны. Помачы лекарскай няма. Зьезд прыняў рэзалюцію ў якой даручае новаму ураду паправіць эканамічны стан Беларусі, а так-жа аткрыць с-гасп. банк. У прадоўжаньні поўгадзіны была зьменена зьездам канстытуція Б С. С. Р., стасуючыся да новай канстытуціі С. С. С. Р. і ў прадоўжаньні 20 мінут выбралі 120 новых дэлегатаў у цэнтральны камітэт новай, пашыранай Беларусі. Констытуційнае паседжаньне новаабранага Ц. К., па закрыцьцю зьезду, зараз-жа ад былося.

**Новы Урад Савецкай Беларусі.** Старшынёй Ц. И. К-ту Беларусі астаўся Чарвякоў, сэкратар Сташэўскі (паляк), старшынёй Рады Нар. Камісараў Беларусі—Адамовіч, камісар асьветы—Ігнатоўскі, камісар ратайства Гэльтман (паляк), камісар ўнутраных спраў—Чарнушэвіч (паляк), камісар юстыціі—Гэтуч (жыд), камісар здароўнасьці — Стонковскі (паляк).

# С-пад Польшчы.

**Распад у беларускай соймавай фракцыі.** У працягу 27-гэ і 28-га лютага адбываліся спрэчкі ў беларускай соймавай фракцыі аб праграмных і тактычных пытаньнях. Урэшце клюб пастанавіў:

1) прыняць да ведама стварэньне ў клюбе сацыялістычнай групы;

2) пасьля спрэчак па пытаньню аб арганізацыі польска-беларускага таварыства і падпісаньня дэпутатам Тарашкевічам і сэнатарам Уласавым і заслуханьня іх заявы, што памянёнае таварыства ставіць сабе мэтаю прапаганду думкі тэрыторыяльнай аўтаноміі адыйшоўшай да Польшчы часткі Беларусі, беларускі соймавы клюб прышоў да вывадаў: а) што ўсё гэта зроблена Тарашкевічам і Уласавым пад іх асабістаю адказнасьцю без упаўнаважаньняў клюбу. Такім чынам, гэта не зьмяняе грунтоўнай палітыкі клюбу, які стаіць, як і раней, на пляцформе самаазначаньня народаў, незалежнасьці і аб'яданьня усіх беларускіх земляў. У межах сучаснай Польшчы клюб імкнецца да тэрыторыяльнай аўтаноміі для беларускіх земляў; б) што памянёнае таварыства па сваей пабудове зьяўляецца аднабокім і ня выказвае аўтанаміцкай думкі ў яе чыстым выглядзе; в) што сябры фракцыі Тарашкевіч і Уласаў заявілі аб сваей салідарнасьці з грунтоўнаю пляцформаю фракцыі ў пытаньні незалежнасьці і аўтаноміі і

3) што фракцыя ў цэлым ня будучы згоднай з тактыкай памянёных дэпутатаў, прыймае адстаўку старшыні яе Тарашкевіча і пастанаўляе выбраць новы прэзыдыум. Выбары новага прэзыдыуму будуць праведзены ў наступным тыдні, а да гэтага часовым старшынёю фракцыі зьяўляецца быўшы таварыш старшыні Рак Міхайлоўскі.

**Польска-Беларускае Таварыства.** У Вільні злажылася Польска-Беларускае Таварыства, заснаўцамі якога зьяўляюцца: сэнатары Крыжаноўскі і Уласаў; паслы—Вэндзягольскі і Тарашкевіч, быўшы камісар сярэдняй Літвы Вітальд Абрамовіч і дырэктар беларускай гімназіі у Вільні Астроўскі. Таварыства мае на мэце: „ўзаемнае збліжэньне і супрацоўніцтва беларускага і польскага грамадзянства на грунце навукі, культуры, гісторыі, літэратуры, мастацтва і інш.“ Таварыства чамусьці закладалася ў вялікім сэкрэце, так што у Вільні даведаліся з варшаўскіх газэт.

Цікава гэта Польска-Беларуская ідыльля на грунце „навукі і культуры“ пад стогны катаваных старцаў і дзяцей беларускіх, пад енкі роспачы грабленага і душанага селяніна, пад паходны марш польскай колёнізацыі...

**Лік арыштаваных беларусаў у Польшчы.** Паводле афіціяльных польскіх данных лік заарэштаваных беларусаў у марцы месяцы выносіў 1.600 чалавек. Лік гэты значна паменшаны: з прамовы кс. Станкевіча у соймавай камісіі, друкаванай у газэтах, відаць, што 1.600 чалавек знаходзіліся у аднэй Вільні, акром гэтага сідзяць беларусы у Горадні, Беластоку і ў цэнтральных турмах варшаўскага, кракаўскага і пазнанскага абводаў.

# З Літвы.

**Сьвяткаваньне гадаўшчыны незалежнасьці.** 25 сакавіка, ў дзень гадаўшчыны апавешчаньня незалежнасьці Беларускай Демократычнай Рэспублікі, біскуп Еліфэры адслужыў ў цэркві малебен. Протоіерэй Корчынскі пры гэтай нагодзе сказаў прадуманую і гарачую прамову. Прадстаўнік Міністэрства Замежных Спраў Літоўскай Рэспублікі а такжа прадстаўнікі Украінцаў, злажылі павіншаваньне з гэтай гадаўшчынай беларускаму грамадзянству ў асобах В. Ластоўскага і К. Дуж-Душэўскага. Акром таго надасланы былі ў Рэд. „Крывіч“ лістоўныя павіншаваньні з Латвіі, Эстоніі, Нямеччыны, Чэхіі, Жэнэвы і Амэрыкі.

У распараджэньні Рэдакціі „Крывіч“, на культурна-націянальныя беларускія патрэбы ў Віленшчыне, літоўскія грамадзкія арганізаціі, з прычыны сьвяткаванай гадаўшчыны апавешчацьня нашай незалежнасьці, злажылі не-

каторыя суммы грошы, якія Рэдакціяй будуць перасланы ў край.

**Батаніка.** Грам. К. Дуж-Душэўскі закончыў апрацовываць да друку ботаніку для сярэдніх школ. Кніга будзе абыймаць 10 аркушаў друку са звыш 150 клішамі. Неўзабаве ботаніка будзе здадзена ў друк. Тэрміналёгія апрацавана вельмі старэнна, на аснове сумленнага досьледу маючыхся ў навуковай літэратуры данных, а такжа на аснове запісаў робленых В. Ластоўскім ў працягу некалькіх гадоў ў Віленшчыне, Вітабшчыне і Горадзеншчыне.

**Гісторыя беларускай кнігі.** Пры Рэдакціі „Крывіча" апрацовуецца да друку „Гісторыя беларускай кнігі". Спроба беларускай бібліяграфіі ў зьвязку з гісторыяй беларускага друкарства, друкароў і друкарань, а такжа разьвіцьцем пісьменнасьці і культуры. Гэта будзе юбілейнае выданьне с прычыны 400 лецьця беларускага друку (Біблія Скарыны 1517—1525 г.). Выдавецтва запрашае ў склад Рэдакційнай Камісіі спэціялістаў прафэсараў Літоўскага унівэрсытэту. Намечана гэткая праграма кнігі:

1) Бібліяграфія беларускіх рукапісных кніг, аўторы і перапісчыкі іх, а такжа выцягі з тэкстаў пісаных па беларуску.

2) Бібліяграфія друкаў старaславянскіх друкаваных на Беларусі і беларусамі на чужыне, а такжа новачасная беларуская літэратура. (Гэты аддзел абойме друкі 1491—1925).

3) Біаграфіі пісьменьнікаў старой і новай Беларусі, друкароў і гісторыя друкарань.

4) Эволюція філёзофічнай думкі ад XV да 20 ст. і адбіцьце яе ў беларускай пісьменнасьці.

5) Тэхніка старасьвецкага друкарства.

6) Эволюція беларускай мовы ад XV да XX ст.

7) Беларусы-эмігранты і працаўнікі ў чужых літэратурах, галоўна расійскай, польскай, украінскай, а такжа ў заходна-эўропэйскіх.

8) Беларусы рытаўнікі і рысаўнікі.

Каб выпаўніць намечаную праграму юбілейнага выдавецтва, заклікаюцца ўсе беларускія культурныя сілы прыняць удзел у разпрацоўцы намечаных аддзелаў. Рэдакція „Крывіч" просіць аўтараў паведаміць яе, хоцьбы аткрыткай, хто бярэ якую тэму да распрацоўкі.

Да аддзелу бібліяграфіі рукапісаў і старадрукаў здадзена ўжо ў цынкаграфію да 100 кліш. Усяго у кнізе памячаецца 200 кліш.

Беларускія навуковыя установы просім надсылаць у Рэдакцію фотографічныя зьнімкі з беларускіх рукапісаў, старадрукаў, партрэты старасьвецкіх пісьменьнікаў і фотографіі новажытных пісьменьнікаў.

Рэдакція просіць беларускія часопісі, а такжа часопісі прыхільныя беларускаму адраджэньню перадрукаваць гэты праект выдавецтва.

# Кнігопісь.

**„Заходняя Беларусь."** Зборнік грамадзкае мысьлі, навукі, літэратуры, мастацтва Зах. Беларусі. Вільня Друкарня Віленскага вытворчага коопэратыву 1924 г. Кн. 1. Выданьне Беларускага Выдавецкага Таварыства. 17+23½ стр. 156. Зьмест: Ад Выдавецтва. Антон Навіна.—Крызыс ідэі, ці крызыс грамядзянства? Л. Родзевіч *** (верш). І. Канчэўскі—мы разам! Суліма.—Гэтым пераможаш (Нарысы крытычнага оптымізму). Каз. Сваяк—Сонцу узгорнаму. Айчыны мілай. Спавіў мне сэрца жаль (вершы). М. Гарэцкі—Хомчын канец (апавяданьне). Т. Вароніч—Народ і дзяржава. Г. Леўчык—Беларусь, мой край (верш). Л. Родзевіч—Кавалі (драматычны абразок). У. Жылка—На могілках. Антон Навіна—Новае ў беларускай паэзіі. Яськара і М. Богдановіча—Нязнаныя вершы. Н. Арсеньева—Лятавіца. Ў вечары (вершы). Раман Суніца—Націянальнасьць у Вінцука Дукін-Марцінкевіча. І. Канчэўскі—З мінуўшчыны коопэраціі у віленшчыне. Матэрьялы 1-га зьезду беларускіх пэдагогаў сярэдніх школ Заходняе Беларусі.

Паміж даволі шэрага матэрьялу кніжкі выдзяляюцца ў яе зьмесьце тры рэчы: філёзофічны нарыс Сулімы. І. Канчэўскага—Мы разам, ды досьлед Р. Суніцы. Асабліва цэнным зьяўляюцца „Нарысы крытычнага оптымізму пяра Сулімы. Цэнны, як новы, пакульшто першы, нарыс філёзофічны ў нашай літэратуры, ў дадатку нарыс, які ўзмацовуе дух адзінкі і народу, які паказуе высокія, сьветлыя ідэалы, выводзіць душу з амарокі пануючага наўкол нас здзічэньня і бэстыяльства. Сьвятлом думкі, любоўю да абяздоленага нашага краю, красой душы і верай ў чалавека вее з гэтых радкоў дзіўна прадуманых і ўмела зьвязаных з акружаючым жыцьцём. Адзіны і вялікі недастатак у Сулімы, гэта мова, якая то перапоўнена барбарызмамі і жаргонізмамі, то зноў, не чакана ў мейсцы, дзе трэба моцнага выразу пачуцьця ці акрэсьленьня, выслаўляецца наіўнымі зваротамі прыдатнымі да пародзій беларускай вяскоўшчыны, але не да філёзофіі. Некаторыя новатворы выказуюць поўнае нязнаньне мовы. Прыкладам: „нашэльнікам" у беларускай мове называюць часьць упражы, прымацаваную да „шлеяў", (згэтуль прылада да падтрыманьня ніжняй адзежыны называецца „шэлькі"), але ніякім спосабам раменная часьць гэта конскай упражы няможа служыць да абазначаньня чалавека які што колечы носіць, а тым болей носьбіта якой колечы ідэі.

**„Полымя“ № 7—8** выйшаў з друку. Зьмест такі:

1. М. Чарот—“Чырвонакрылы вяшчун“. Паэма фантазія.

2. Тарас Гушча—„Крывавы вір“. Апавяданьне.

3. Цішка Гартны—„Праца“, „Зьлітнасьць, беларуская“ Вершы.

4. Я. Неманскі—„Дэзэртыр“. Апавяданьне.

5. У. Дубоўка—„Ой, туга“. Вершы.

6. А. Гурло—„Пры рабоце“, „Гімн барацьбіцкі“. Вершы.

7. Аркадзь Моркаўка—„Наша сьцежачка“, „Працуй“. Вершы.

8. Хмарка—„Закутаму“. Верш.

9. Ясакар—„Чырвоны календар“. Вершы.

10. Л. Аксэльрод (Ортодокс)—„Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме“. пер. У. Чаржынскі.

11. У. Ігнатоўскі—„З гісторыі асьветы на Беларусі ў пачатку 19 сталецьця“.

12. Аглядальнік—„Некаторыя ўвагі на беларускую літэратурную тэрміналёгію“.

13. Ж. Х. З.—„Уступамі да Акцябра“. (Матар'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі“).

14. М. Пятуховіч—„Максім Багдановіч, як паэта імпрэсыяністы“.

15. Міхась Баравы—Старчма галавою ў бязданьне“.

16. З. Жылуновіч—„Эпізод з жыцьця беларускай часопісі“.

17. М. Мялешка—„Цэнтраархіў Беларусі“.

18. Кнігапіс.

19. Хроніка Беларускае культуры.

Кніга мае 137 стр. Выданьне—„Бел. Каап. Выдавецкага Т-ва „Савецкая Беларусь“.

**„Труды Белорусского Государственного Университета в Минске“. Les Annales de l' Université de Minsk.** 1922 г. № 2—3. Стр. 270; 27×18. Государственное Издательство Бѣлоруссии. г. Минск. 1922 г. Зьмест: От редакции; В. В. Лепешкин —О свертывании белка; М. П. Соколовский—К вопросу об элиминации бактерий из брюшной полости (Продолжение следует); В. Н. Перцев — Социально-политическое мировоззрение Платона (окончание); Д. А. Жаринов—Шляхетское представительство в конституционных проектах 1730 г.; Н. В. Шаров—Стихотворения Г. Гейне в переводах Ф. И. Тютчева (окончание); М. Г. Сыркин—Донателло и раннее возрождение (продолжение); А. А. Савич — Западно-русския униятския школы XVII-XVIII веков (продолжение); Н. М. Николаевский Керубы по данным библии и восточной археологии; В. И. Пичета—Наказ старостам и державцам и волочная устава; В. Н. Ивановский —Асоционизм у А. Бєна (оконч. сл.); В. Н. Шаров—† Н. А. Янчук; С. Я. Вольфсон —Маркс и Лассаль в переписке с Гейне; И. Ю. Маркон — Страна „Шабатє в хождении за три моря Афанасия Никитина 1466 —1472 г.; С. З. Каценельбоген—Белоруск. Госуд. Унив. в 1921—1922 акад. го Универ. Хроника.

Са справаздачы грам. С. З. Канценельбогена даведываемся, што Менскі Унівэрсытэт мае чатыры роўналеглыя сэкціі: „Польскую, Русскую, Белорусскую, Еврейскую“. Профэсура складалася з 14 прафэсароў, 40 „преподавателей“, 10 асысгэнтаў, 10 лектароў „по иностранным языкам“ (цікава ці ў гэты лік не палічана і беларуская мова, бо ў самім унівэрсытэце нават беларусаведаньне выкладаецца на „государственном языке“ г. зн. на па маскальску), 9 кіраўнікоў кабінэтаў і 5 -лябарыторыямі, 3 прапаратараў. Усяго 81 чалавек. Склад студэнтаў паводле націянальнасьцяў: беларусаў—398, жыдоў—926, вялікарусаў—43, палякаў—8, іншых націянальнасьцяў—15.

**Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту у Менску** (Гэты самы загаловак паўтораны яшчэ: па расійску, па жыдоўску, па польску („Prace naukowe Uniwersytetu Państwowego na Białorusi“, тут ужо Унівэрсытэт не беларускі, а толькі „на Беларусі“ што саўсім згодна з праўдай). і па францускy). 1923 г. № 4—5. 27×18. Стр. 307. „Белтрэстдрук“ Менск, 1923 г. Зьмест: От редакции. И. И. Замотин—Некрасов—художник; Н. М. Никольский—Следы магической литературы в книге псалмов; В. Н. Ивановский--Асоцианионизм у А. Бена (оконч.); В. Н. Перцев—К вопросу об общинной собственности у древних германцев; В. И. Пичета—Состав населения в господарских дворах и волостях западной части Белоруссии в пореформенную эпоху (прод. след.); М. П. Соколовский—К вопросу об элиминации бактерий из брюшной полости (продолжение); М. Г. Сыркин—Донателло и раннее Возрождение (окончание); Н. Н. Щекатихин —Иллюстрации Даниэля Ходовецкого к „Буре“ Шекспира; Л. П. Розанов — Действие крови как пищевого материала, на деятельность пепсиновых желез; Е. Е. Сиротин Интегрирование уравнения Riccati вида $y^2 + y^2 + a/x$ 0; А. В. Федюшин — К вопросу о фаунистическом исследовании Белоруссии; П. А. Мавродиади—„Косое“ деление у инфузорий; И. И. Замотин—Накануне Островского, С. Я. Вольфсон—Г. В. Плеханов-народник; Е. И. Боричевский—О природе эстетического суждения; И. Ю. Мар-

кон—Город Янболи; С. Я. Вольфсон—
—Г. М. Маркова (некролог); С. З. Канценельбоген—Госуд. Белорусский Университет (Итоги и перспективы); С. З. Канценельбоген—Спорные вопросы генеономии; Его-же—Сложная форма брака в Абиссинии.

У 1922-1923 году студэнтаў лічылася 2907, а з залічэньнямі ў канцы году налічалася 4036 чалавек; Націянальны склад у гэтым гаду не паказаны. Прафэсараў было 87 чалавек, з гэтага ліку ў агульным сьпісе прафэсуры толькі некалькі чалавек маюць беларускія прозьвішчы, рэшта—маскальскія, жыдоўскія і некалькі польскіх.

Словам мыльны пузыр савецкай рэклямы аб істнаваньні у Менску беларускага унівэрсытэту разьбіты: яго німа. Есьць у Менску Маскальска - Жыдоўска - Польская учэльня, якая чамусьці падшываецца пад найменьне „Беларускага Унівэрсытэту". Мы думаем гэта робіцца ўсё ж такі з сораму перад культурным сьветам, што бытцам-то ў СССР заваяваныя націянальнасьці не русыфікуюцца, бытцам могуць адраджацца, бытцам спосабы і парадак русыфікацыі царскіх часоў-не істнуюць. Гэты і ўсе „бытцам" толькі рэкляма, а запраўды, ў поцемках чыста азіяцкага абсолютызму ідзе оргія русыфікацыі, дэнаціоналізацыі. Як Лінен казаў у адным са сваіх лістоў „безобразия великорусского держимордовства".

З апавяданьняў прыбыўшых з Менску, нас паражае яшчэ адна асаблівасьць ў Сав. Соц. Беларускай Рэспубліцы. Гэта нязвычайны розквіт там польскіх школ ніжейшых, сярэдніх і, як бачым, закончаных унівэрсытэтам. Кажуць, як сьвет на сьвет нарадзіўся, ніколі не было гэтулькі польскіх школ у Беларусі, што цяпер ў Савецкія часы. Што гэта? Скуль гэтулькі завялося ва ўсходняй Беларусі палякаў? Мы не праціўнікі нічыйго націянальнага разьвіцьця, але калі з губы выдзіраюць у нашага селяніна і аддаюць яго дабро чужынцам, на тое каб яны з нашага-ж дабра буцелі і паношыліся, то гэта нас абурывае. І пакуль беларускі селянін не дабьецца магчымасьці дыктаваць сваё права, абсеўшым нашу зямлю чужынцам, датуль ён будзе, ад раніцы да ночы працаваць, не на сваю карысьць, а накарысьць рожных прыблудаў.

**„Записки Белорусского Государственного Института Сельского хозяйства." Минск, 1923 стр. 253. X.**

Заглаўны ліст на беларускай, расейскай і францускай мове.

Зьмест такі:

1. Проф. А. Т. Кирсанов—Земледелие и будущее человечества.

2. Проф. Д. Ф. Синицын—Проблема анабиоза у млекопитающих (с прил. диогр.)

3. Проф. И. И. Калугин—Порода молочного скота, наиболее подходящая для хозяйств Крыма.

4. Проф. Б. И. Переход—Политическая экономия и лесоводство.

5. Проф. Е. Е. Сиротин—А. теории адаптации глаза.

6. Проф. В. Г. Касаткин—К. вопросу о почвенных исследованиях Белоруссии.

7. Проф. И. И. Калугин—Однокопытные и многокопытные свиньи в Белоруссии (Предварительное сообщение).

8. Проф. Е. Яцентковский—К борьбе с поелвыми трызубами.

9. Проф. А. Кирсанов—К вопросу о действии дождя на почьу.

10. Проф. В. К. Терлецкий—Заметка о месторождении белых кварцевых песков у села Кличева, Должанской вол., Игуменского у.

11. Его-же—Об'яснительная записка к смете на производство геологических исследований в 1923 г. в БССС и.

12. Отчет о движении сумм полученных на содержание Беларус. Госуд. Инста С. Х.

Афіцыяльная частка:

1. Белорусский Государственный Инст. Сельск. Хозяйства в память Великой Октябрской Рэволюции.

2. Жорновский Лесотехникум и

3. Совещание Комиссии по организации Лесного, Опытного и учебного дела в Белоруссии.

Протоколы:

1. Заседание Сов. Белор. Госуд. Ин-та С. Х. от 25 янв. 1923 г., 2) Выписка из протокола заседания ЦИК ССРБ; 3) Заседание Зоотехнической Комиссии при Белорус. Ин-те

С. Х. от 3 апр. 1923 г.; 4) Заседание Почв.-Геологической Комиссии от 7 апр. 1923 г.; 5) Засед. Совета Института от 29 апр. 1923г.

Протоколы и заседания учебно о совета: 3 февр.; 6 апр. и 16 июня У канцы дадзены: Академический состав Института, -

Усе артыкулы напісаны па расійску, рэзюмэ да прац прафэсароў дадзены ў нямецкай мове і ані слова па Беларуску!

Мы прост не разумеем чаму гэты кніжкі названы „Запіскі Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту" а не якога колечы Ніжегородского ці Яраслаўскага? Пачым пазнаць? Дык жа аб Беларусі пішуць і па польску і па нямецку! Урэшце рэшт мы ня дзівімся маўчаньню менскіх беларусаў якія сідзяць ў аковах маскальшчыны, як у турме, але дзівімся ўжо запраўды безграмічнаму хамству шаноўных „беларускіх" прафасароў, якія лакнучаму жывога слова беларускаму студэнцтву і народу, запіхаюць глотку маскальскім камянем! І якая-ж рожніца паміж царскай і савецкай русыфікацыяй?

„**Перавясла**". Часопісь беларускага паступовага студэнцтва. № 1, Лістапад 1923 г. у Празе. На правох рукапісу. 17×23; стр. 64. Друкавана на шапірографе.

„**Беларускі студэнт**". Месячнік № 7. Лістапад—Сьнежань 1923 г. 23×31 стр. 32. Друкавана на шапірографе.

**Выпісы з беларускае літэратуры.** Часьць другая. Новы і найноўшы кругабегі. Выданьне Каапэрацыйна Выдавецкага Т-ва „Савецкая Беларусь". Менск, 1923 году. Стар. 284. Выпісы з:

1. Яна Баршчэўскага, 2. Аляксандра Рыпінскага, 3. Яна Чачота, 4. Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, 5. Ф. Багушэвіча, 6. Яна Няслухоўскага-Лучыны, 7. Цёткі, 8. Каруся Каганца, 9. Ядвігіна Ш., 10. Алеся Гаруна, 11. Максіма Багдановіча, 12. Якуба Коласа, 13. Янкі Купалы, 14. З. Бядулі-Ясакара, 15. Цішкі Гартнага, 16. Міхася Чарота-Кудзелькі, 17. Максіма Гарэцкага, 18. Альбэрта Паўловіча, 19. Канстанцыі Буйла, 20. М. Грамыкі, 21. Язэпа Лёсіка, 22. А. Гурло, 23. Я. Журбы, 24. Ф. Чарнушэвіча, 25. Ф. Аляхновіча, 26. Ул. Галубка, 27. Ф. Шантыра, 28. Л. Родзевіча, 29. Н. Арсеньевай.

**Беларускі работніцка-сялянскі каляндар на 1924 год.** Выданьне Беларускага Каапэрацыйна-Выдавецкага Т-ва „Савецкая Беларусь" Менск, 1924 г. Стар. 104.

**Беларуская вёска.** Сялянская газэта часовага беларускага Бюро ЦКСКП № 1 (170). Вышаў першы нумар газэты „Беларуская вёска". Газэта друкуецца напалову пабеларуску, напалову—парасійску. Гззэта зьмяшчае ў сабе аддзелы: інфармацыі, сельска-гаспадарчых парад, карэспандэнцыі з вёскі і г. д.

**Юны Пахарь—Малады Араты.** Орган Белбюро ЦК РКСМ № 59-60. Газэта, спэцыяльна празначаная для вясковай моладзі, „Юный Пахарь" пачынае пераходзіць на беларускую мову, У № 59—60 ,а маль ня увесь аснаўны матар'ял зьмеш-чаны па беларуску.

У гэтым жа нумары пачынае друкавацца раман „Ваўчанята".

Абедзьве апошнія часопісі дагэтуль друкаваліся толькі па расійску. Цікава ведаць якая мэта і нашто беларускаму селяніну друкаваць газэты ў чужой і малазразумелай яму мове; гэта знача пакідаць селяніна без духовай стравы? Царскі урад, нашто быў ненавісьнік ўсякага адраджэньня, але, аднак, палтаўскаму земству не перашкаджаў выдаваць добрую с-г. часопісь „Хлібороб" па украінску. Выглядае так, што комуністычная „незалежнасьць" паняволеных націй не шмат лепшая ад царскага земства.

Вышла з друку і прадаецца ў Беларускай кнігарні кніжка **Сулімы „Прафэсар Зьдзяхоўскі аб беларускай душы"**, выданьне газэты „Змаганьне".

Брашура Сулімы, належыць запраўды да раду кніжак пісаных ў стылю эўропэйскіх вучоных. У кніжцы аўтор гаворыць аб паэце Сыракомлі (Кандратовічу), які пісаў, згодна з духам часу ў якім жыў, па польску, але ўсе яго тэмы з беларускага жыцьця і прыроды. Кніжка гэта дае многа і цікавых мысьляў, пісана з пачуцьцем і прадуманасьцю.

# Кнігі надасланыя у рэдакцію.

УЛ. ТЭРАЎСКІ. „БЕЛАРУСКІ ЛІРНІК“ Сьпеўнік на чатыры галасы. Выданьне Навуково-Літарацкага Аддзелу Народнага Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Бэрлін. 16×23. Стр. 92.

Я. ПАЧОПКА. „ЯК УЗГАДАВАЦЬ І ДАГЛЯДАЦЬ САД.“ Выдаў Народны Камісарыят Земляробства Б. С. С. Р. Друк Беларускага Коопэрацыйна-Выдавецкага Таварыства „Савецкая Беларусь“. Менск. 15×22. стр. 72.

Н. ШАПАШНІКАЎ і Н. ВАЛЬЦАЎ. „АРЫТМЭТЫЧНЫ ЗАДАЧНІК“. (пачатковая навука аб дробязях і агульныя правілы). Пераклад з расійскага. Выданьне Камісарыяту Народнае Асьветы Беларусі. Друк Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Менск. 17×22½. стр. 196.

ЯЗЭП ЛЕСІК. „ПРАКТЫЧНАЯ ГРАМАТЫКА“ ЧАСЬЦЬ І. Выданьне другое, перароблenae. Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства „Адраджэньне“. Менск. 15×22. стр. 100.

„НОВА УКРАЇНА“. Місячник письменства, мистецтва, навукі громадського життя.
Під рэдакціею В. Винниченка й М. Шаповала. Рік виданьня другий. Студзень 1924 г.

„ЛІТОПІС“ політики, письменства і мистецьтва. Тижневий огляд під рэдакціею С. Томашівского. Накладом видавництва „Украінске Слово“ в Берліні зшиток № 2—5-го січня, № 5—2-го лютого, № 7—16-го лютого 1924 г. 23×31. од 16 да 20 страніц кожды сшыток.

„**NARODNA STARINA**“ Uredio D-r Josip Matasović Nepovremeni časopis za povijest kulture i etnografiju južnih Slovjena.
Zagreb, Poštanski pretinac 309. 1 25. стр. 144. Багата ілюстраваны.

„ВОЛЯ РОССИИ“. Журнал политики и культуры. Выходит 2 раза в мѣсяц под рэдакціей: В. И. Лебедева, М. Л. Слонима и В. В. Сухомлина—Издатель Е. Лазерев. III год изд. № 1—2, Января № 3, Февраль № 4, Март 1924 г. Прага 15×23. № 1—2 стр. 216, № 3 стр. 98, № 4 стр. 97.

„MŪSŲ ŽINYNAS“ Karo mokslo ir istorijos žurnalas: XV tomas. Red. Kapitonos V. Steponaitis. № 15. III metai lapkričio—gruodžio 1923 m. Kaunas. 18×27½ стр. 572.

ACADEMIA ROMANA BULLETIN DE LA SECTION SCIENTIFIQUE. VIII-eme Annee 1922/23. Bucarest № ½, ¾, ⅚, ⅞ і 9. 16×22 ½. Усяго страніц 236.

ACADDMIE ROUMAINE BULLETIN DE LA SECTION HISTORIQUE. Tome X. Cultura Nationala Bucarest. 1923. 17×24½. стр. 195.

SLABIKÁŽ Vydani A. Složili Adolf Trumar a Jan Jursa. V Praze nakladem Statniho Školniho knihoskladu. 13½×20. стр. 130.

У гэтым лемантары першая навука адбываецца на пісаных літарах, а знача, што спярша вучацца пісаць і напісанае чытаць, так аж да 64 стр. Далей ўжо ідзе нувука на літарах друкаваных. Тры галосные склады пачынаюцца на 21 стр. і то адна сугалосная, а дзве галосныя, дзьве сугалосныя сустрэчаюцца аж на 25 стр., але затое зусім няма дзяленьня на склады, Кароценькіе расказы пачынаюцца яшчэ пісанымі літарамі.

K. BUGA „LIETUVIŲ KALBOS ŽODINAS“. Išleido Švietimo Ministerija. Kaunas, Valstybės spaustuve 1924. 1 sąsiuvinis. 20×29 стр. 80. Слоўнік прафэсара Бугі закроены на шырокую ступеню: мае абыймаць да 100 падобных сшыткоў. Апрацаваны паводле найнавейшых вымогаў навукі.

ПРОФ. ДР. МИХАЙЛО ЛОЗИНСКИЙ. „З НОВЫМ РОКОМ 1924“. Теперішні стан будові Украінскоі Державы і задачі західноукраінских земель. Женева 1924. Наклад автора. 15×21½. стр. 75.

THE COMMONWEAL. A. Monthly Magazine of Enlightenment and Progress. Edited by The Honble Norah Hevitt. February 1924.

## ДАПАЎНЕНЬНІ І ПАПРАЎКІ ДА НОМЭНКЛЯТУРЫ ПТУШАК.

Па недагляду карэктара і няўчаснай пасьпешнасьці друкарні, номэнклятура надрукавана без карэктуры, дзеля гэтага даем тут папраўкі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| № | 1 | надрукавана | Aguila; | папрaвіць | Aquila |
| № | 7 | „ | Арол мышалоў | „ | Мышалоў касманогі. |
| № | 11 | „ | Pernis apivarus | „ | Pernis apivorus-Осоедъ |
| № | 18 | „ | tinnunkulus | „ | tinnunculus |
| № | 20 | „ | Болотная сова | „ | Перепелятникъ. |
| № | 33 | „ | frugilegns | „ | frugilegus |
| № | 36 | „ | glandarius | „ | glandarius, дадаць: Карэза |
| № | 48 | „ | callurio | „ | collurio |
| № | 67 | „ | Kypalais | „ | Kypolais |
| № | 68 | дадаць назову:— Чарацянка. | | | |
| № | 78 | „ „ Лепік | | | |
| № | 82 | надрукавана | —philomella; | паправіць | —philomea |
| № | 84 | „ | Cyanecna | „ | Cyanecнlla |
| № | 85 | „ | Frihacus | „ | Erithacus |
| № | 86 | „ | phaenicura | „ | phoenicura |
| № | 88 | „ | Пишуха | „ | Пищуха |
| № | 91 | „ | Catyle | „ | Cotyle |
| № | 111 | „ | Penicola | „ | Pinicola |
| № | 115 | дадаць беларускую назову—Лежань | | | |
| № | 119 | „ „ „ —Сіваграк | | | |
| № | 123 | надрукавана | vizidis | паправіць | viridis |
| № | 147 | „ | Charadirius pliuvialis | „ | Charadrius pluvialis |
| № | 153 | выкінуць слова—вялікі. | | | |
| № | 156 | дадаць беларускую назову:—Кяптух | | | |
| № | 160 | дадаць беларускую назову—Цякун (з Гродз ) | | | |
| № | 168 | „ „ „ —Кваква (Палесьсе). | | | |
| № | 176 | а, Anas strepero, Тызэнгауз падае назову: Неразнаст. | | | |
| № | 177 | а, Fulligula fusca—Турпак—Галаўня (з Тызэнгаўза). | | | |

Сямья Каняў павінна быць: сямья Марскіх варон або Кірляў (Дзіс. пав.)

№ № 188, 189, 190, замаст Каня:—Кірля шэрая, рыба́чка, малая. Каля возера Нароча называюць гэтых птушак—Грачуны.

№ 169, дадаць—Буцян. Падзел на: Бацян і Бусел унесены Ластоўскім на аснове яго запісі зробленай ў Быхаве ў 1913 г. Праф. Івaноўскі кажа што павінна быць адно і другое—Бусел (Белы Бусел і Чорны Бусел).

№ № 96, 97, 98 замест: Сьвірстушка звычайная, чаротаўка, гуменная павінна быць: Стрынатка (Сьвірстушка) звычайная, чаротаўка, гуменная.

№ № 60, 61, 62, 63, 64. Надрукавана Сямья стрынатак; павінна быць: Сямья лесак, і ўсюды слова Стрынатка (ў вышпаказаных нумарох) павінна быць заменена назовам Леска, а да № 61 дададзена назова: Шпырлюк.

Аддзел 2. Вельмі распашыраны.

Lopophanes cristaus павінна быць: Lophophanus cristatus.

Аддзел 3. Распашыраны.

| | | |
|---|---|---|
| Sitta europoea | павінна быць: | Sitta europea |
| Musciacapa | „ „ | Muscicapa |
| Ciconio, ciconio, ciconio | „ „ | Ciconia, ciconia, ciconia |
| Tringa ochrophus | „ „ | Tringa ochropus |

Аддзел 5. Даволі распашыраны.

Hecinus canus, павінна быць Gecinus canus

Аддзел 7. Нялішне распашыраны.

Lynx torgvilla павінна быць Yyx torgvilla

Аддзел 12. Вельмі рэдкія.

Chaulelosmus steperus павінна быць: Chaulelasmus streperus.

Дапоўніць :Oedemia fusca рас. Нырок, беларуск. Сьвірка.

# Зьмест.



Redaktorius-leidejas K. DUŽ-DUŠIAUSKAS. Рэдактар-выдавец К. ДУЖ-ДУШЭЎСКІ